ЯЎГЕН
КУРТО

# А ЖЫЦЦЁ-АДНО

АПОВЕСЦІ,
АПАВЯДАННЕ

МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1994

# А ЖЫЦЦЁ — АДНО

Аповесць

## На пачатку

Сцёпу разбудзіла выццё сірэны. Працяглае, надрыўнае, трывожнае, яно бадай ужо месяц не дае спакою ні днём, ні ўначы, бударажыць не толькі іх маленькі студэнцкі пакой на чацвёртым паверсе інтэрната, але і ўвесь гэты невялікі ўтульны прыдняпроўскі горад, куды леташняй восенню прыехаў Сцёпа вучыцца. Звычайна пасля таго, як сірэна змаўкала і шчыльная, мутная, падобная цяжкаму смогу плёнка трывогі над горадам паступова рассейвалася, дынамікі ў кватэрах і на слупах аб'яўлялі адбой. І тады нябачныя абцугі, што ў час выцця сірэны сціскалі сэрца, расслабляліся, і зноў можна было свабодна дыхаць.

Сцёпа пацягнуўся да вілкі рэпрадуктара, уткнуў яе ў разетку. Вялікая чорная талерка шыпела і нічога не гаварыла. Потым як бы чхнула і залілася марзянкай. Сцёпа яшчэ ў школе захапляўся радыёсправай і, натуральна, вывучаў азбуку Морзе. Цяпер бы вось разабраць, што перадаюць. І для чаго? У выхадны дзень. Замест звычайнага канцэрта ў гэты час.

З усіх знакаў, што выдавала чорная талерка, нельга было скласці ніводнага слова. Недзе там, далёка, тэлеграфны ключ выбіваў адны лічбы. Слупкі лічбаў у самых разнастайных варыяцыях.

Шыфр, здагадаўся Сцёпа, і ў яго незразумела чаму нядобра засмактала пад лыжачкай, як бывае з працяглай галадухі. Дарэчы, так яно і было. Як паабедаў учора ў студэнцкай сталоўцы, так больш і не парушыны ў роце. Замест вячэры паўпачка «Звездочки» і... кнігі, кнігі, кнігі, падрыхтоўка да здачы экзамену па педагогіцы, апошняга за першы курс. Песталоцы, Ушынскі, Макаранка... Ледзь не да раніцы прасядзеў у інстытуцкай чыталцы. Балазе ў час сесіі там дазвалялася сядзець колькі хочаш, хоць круглыя суткі. Здаць гэты экзамен трэба толькі на «выдатна», інакш застанешся без стыпендыі. Раней стыпендыю плацілі ўсім сту-

дэнтам, абы толькі паспяваў. А з восені бягучага навучальнага года троечнікам стыпендыі адмянілі зусім, і многія пакінулі інстытут. Сцяпану пашанцавала здаць уступныя экзамены і першую сесію на «выдатна», і ён штомесяц атрымліваў свае сто дзесяць рублёў.

Грошы, канечне, мізэрненькія — кіло хлеба (праўда, больш за кілаграм у адны рукі і не даюць) каштуе рубель, але так-сяк перабіцца можна. Асабліва калі не жлукціць піва, як Пецька Басэвіч. Піва каштуе рубель дзесяць капеек, даражэй за хлеб, а ён, не адыходзячы ад стойкі, аж па шэсць куфляў выпівае. Грошай не шкадуе. Бацька яго ў Бялынічах нейкім там нарыхтоўшчыкам працуе. Пеця выхваляецца, што грошы ў іх доме не лічаць.

Сцёпа так-сяк заправіў ложак, спаласнуў твар і паспяшаўся ў сталоўку. Хлопцы, мабыць, ужо там. Ім лацвей. Дрыжаць за адзнаку не трэба. Абы здаць, абы дыплом атрымаць. А матэрыяльны бок іх не цікавіць — бацькі памагаюць і грашыма, і салам, і каўбасамі. Узяць хоць бы Абрашу Кыр'ясіна. Таму аж па 250 у месяц адвальвае татулечка — толькі вучыся, сынок... Яму б, Сцёпу, такая лафа...

Сцёпа тузануў дзверы сталовай. Закрыта. Няўжо няма дванаццаці? У каго б даведацца? Ага, вунь, ідзе ваенны, капітан. Папрасіў прабачэння, спытаў, колькі часу.

Той спыніўся, дастаў кішэнны гадзіннік і, як старшаму, адрапартаваў:

— Восемь часов тридцать четыре минуты, как идет война! — і неяк крыва, хваравіта ўсміхнуўся.— Вот так, молодой человек. А точнее, сейчас двенадцать часов тридцать четыре минуты.

Капітан пайшоў, а Сцёпа застаўся стаяць на месцы. Ён раптам успомніў, што ў іхнім пакоі, калі збіраўся бегчы ў сталоўку, як быццам нешта было не так. Што ж іменна? Ага. Ля ложка Басэвіча не чарнеў ёмісты чамадан, на ложку Кыр'ясіна не было дарагой коўдры, у Тамаша, чалавека ва ўсім да смешнага акуратнага, зеўрала пустым нутром расчыненая тумбачка.

Вайна. Значыць, усё-такі вайна. Нездарма пра яе столькі апошні час гаварылі. Не, не па радыё, а ў народзе. Шапталіся. Баяліся гаварыць услых. Скажаш і тут жа станеш панікёрам. А з панікёрамі не цацкаліся. Гаворка з імі была кароткая: да сценкі. Без суда і следства.

Вайна. Калі ж яно пачалося, гэта страшэннае? Як гэта капітан сказаў? Восем гадзін трыццаць чатыры мінуты ідзе вайна. На яго гадзінніку было тады дванаццаць трыццаць

чатыры. Усё ясна. Вайна пачалася ў чатыры гадзіны, калі ён, Сцяпан, яшчэ спаў.

Чаму хлопцы не разбудзілі, не сказалі? Разбегліся, як рудыя мышы. Спужаліся? Кыр'ясін і Басэвіч, канечне ж, шуснулі дадому, пакуль што якое. Тым больш што абодвум недалёка. Кыр'ясіну ў Стары Быхаў, Басэвічу — у Бялынічы — па сорак кіламетраў. Паспяшаліся пад цёплае бацькоўскае крыло. На фронт іх пакуль што не возьмуць. Пятру Басэвічу няма яшчэ васемнаццаці, хоць з выгляду можа пацягнуць на ўсе дваццаць пяць, а то і болей — камплекцыя задужа нехлапечая, ды і твар яго, мабыць, ад выпівак стаў азызлы. А ў Абрашы ёсць абаронная браня — невялічкая кіла́. Казаў, яшчэ ў раннім маленстве падняў нешта непамерна цяжкае — вось і выскачыла. Цяпер ні фізкультурай займацца, ні ў армію прызывацца. Хітруе? Безумоўна. Кілу яму нагналі спецыяльна, як некаторым хлопцам у яго, Сцёпавых, родных Бушавічах. Каб у армію не ўзялі.

Ну а Тамаш, гэты ціхмяны куркуль з пудовым замком на тумбачцы, чаму не разбудзіў? Ён жа неяк у парыве адкрытасці прызнаваўся Сцяпану, што любіць яго за «няўрэднасць». Сцяпан, адзіны ў пакоі, ні разу не паквапіўся на яго сала ці каўбасу...

Ды, зрэшты, якая розніца, разбудзілі б яны Сцёпу крыху раней і сказалі пра вайну, ці даведаўся б ён аб гэтай страшэннай навале з некаторым спазненнем, як гэта здарылася? Што ад гэтага змянілася б?

Цяпер галоўнае вырашыць, што рабіць іменна зараз, у гэты момант? Збіраць свой фанерны чамаданчык і тупаць дадому, у Бушавічы, ісці ў інстытут да камсамольскага сакратара Ганжына? Што ён параіць?

Апошняя думка здалася самай слушнай, самай прывабнай. Сцяпан, па самую завязку нашпігаваны лозунгамі-прапаведзямі, што мы ні пядзі чужой зямлі не хочам, але і сваёй вяршка не аддадзім, што мы будзем біць ворага на той тэрыторыі, адкуль ён прыйдзе, што мы лятаем хутчэй за ўсіх, далей за ўсіх і вышэй за ўсіх, што нашы танкі, артылерыя — лепшыя ў свеце,— неяк адразу апраўіўся ад першага шоку і бадзёра, ледзь не подбегам пакіраваў на Пажарны завулак.

Значыць, так. Зараз ён зойдзе да самога ваенкома, дастане з кішэні камсамольскі білет і скажа: «Я камсамолец, варашылаўскі стралок. Валодаю аўтаматычнай зброяй. Умею вадзіць аўтамабіль. І хаця да прызыву мне яшчэ больш за год, прашу адправіць мяне туды, дзе зараз цяжэй

за ўсё. Хачу біць ворага, які замахнуўся на свабоду маёй роднай зямлі. Біць бязлітасна, не шкадуючы ўласнай крыві і нават жыцця... Так дыктуе мне маё камсамольскае сумленне!»

Ідучы, Сцёпа ўсё падбіраў у галаве, нанізваў слова на слова, складаў іх у кароткія ўсхваляваныя сказы. Выходзіла важка, пераканаўча.

Павярнуў ля паштамта з Ленінскай вуліцы на Пажарны завулак і адразу запаволіў хаду, а неўзабаве, упёршыся ў шчыльную чалавечую сцяну, спыніўся зусім. Уся брукаванка насупраць ваенкамата была густа запруджана людзьмі. Пілікалі гармонікі, шматгалосна гудзелі, зліваючыся ў суцэльны тлум, людскія перагаворкі, зрэдку глухі гул галасоў праціналі кароткія ўсплёскі жаночага галашэння.

Пра тое, каб прабіцца да запаветных дзвярэй, не было чаго і думаць. Сцёпа пацягнуў за рукаў хлопца ў фарсістай кепцы-васьміклінцы набакір:

— Дабравольна?

Той павярнуўся да Сцёпы ўсім тулавам, акінуў яго няўцямным позіркам і, раптам зразумеўшы, пра што пытаецца гэты бледнатвары хлюпік, зняважліва цыркнуў праз зубы:

— На мясакамбінат нават скаціна сама не ідзе. Дабравольна не ідуць. Запомні гэта, салага,— і паказаў скамечаную паперку.— Позва. Першачарговы я. Бачыш, колькі народу. Да раніцы будзеш кантавацца. А ты што, салага, сапраўды дабравольна?..

— Ды не, ну словам...— збянтэжыўся Сцёпа.— Паглядзець хацеў...

— Кіно знайшоў. Інцярэснае кіно...— Хлопец у кепцы адвярнуўся.

Сцёпа не стаў больш нічога гаварыць і, рашуча крутнуўшыся, пайшоў назад, у бок інстытута.

Ганжына, сакратара камітэта камсамола, на месцы не было. Сказалі, што выклікалі ў абком. Падумалася: а можа, і самому махнуць у абком або гарком камсамола. Ён жа, Сцяпан, не проста радавы камсамолец, а як-ніяк камсорг літаратурнага факультэта.

Моцна заныла пад лыжачкай. Зноў успомніў, што з учарашняга абеду яшчэ нічога не еў. Зазірнуў у магазін. Хлеба, як і заўсёды ў гэты паўдзённы час, ужо не было. Яго, па кілаграму ў адны рукі, разбіралі адразу ж пасля адкрыцця магазіна. Чаргу займалі гадзін з трох-чатырох. Так было ўвесь навучальны год. Спачатку, пасля вясковага жыцця,

Сцёпа злаваўся на такія «часовыя цяжкасці», потым прывык. А што зробіш? Не кідаць жа вучобу.

Хлеба, канечне, і зараз не было ні грама. Але затое на адной паліцы горкай ляжалі вэнджаныя каўбасы. Дух ад іх ішоў такі, што аж галава закружылася. Сцёпа адчуў, што ногі ў яго робяцца ватныя, і, каб не ўпасці, аберуч абапёрся на прылавак. Прадаўшчыца зірнула на яго твар і, не гаворачы ні слова, наліла з графіна вады, падсунула шклянку. Ён з удзячнасцю пракаўтнуў асвяжальны глыток і вінавата ўсміхнуўся:

— Перавучыўся...

Прадаўшчыца зняла з паліцы два колцы каўбасы, загарнула ў паперу і паклала яму ў рукі. Потым крыху падумала і дастала з-пад прылаўка паўбуханкі фармавога хлеба.

Сцёпа сунуў руку ў кішэню дастаць апошнюю дзесятку. Прадаўшчыца папераджальна сказала:

— Не трэба. Я цябе ведаю. Аддасі са стыпендыі.

Так, прадаўшчыца, яе звалі Валерыя Пятроўна, ведала Сцёпу амаль з самага верасня мінулага года. Ён, з дапамогай сяброў-аднакурснікаў, рэгулярна раз у месяц афармляў магазіну насценную газету.

— Дзякую,— адказаў Сцёпа, хацеў яшчэ дадаць: «Валерыя Пятроўна», але адчуў, што горла здушыла спазма і выгаварыць гэтыя два такія харошыя і такія зараз патрэбныя словы, не здолее, выскачыў з магазіна. Пакуль дайшоў да інтэрната, метраў пяцьдзесят якіх, аднаго колца каўбасы і палавіны хлеба не стала. Не заўважыў, як з'еў. Папракнуў сябе, што так нельга, што і заўтра будзе дзень і заўтра захочацца есці, і... адламаў ладны кавалак каўбасы ад другога колца. Еў, не ачышчаючы ад скуркі.

На прыступках інтэрната стаяў Алёша Бабіновіч. Худы, з абветраным тварам даўгаваты хлапчына ў картовым, некалі сінім, а цяпер вынашаным да белізны касцюме, ён трымаў у левай руцэ пузатую торбачку. Правую паднёс да скроні:

— Так што з гадзіну чакаю, вашскабродзь!

Алёша, харошы, слаўны Алёша з яго вечнымі няхітрымі жартачкамі. Яны разам прыехалі ў Магілёў пасля дзевяці класаў Бушавіцкай школы. Прыехалі ў настаўніцкі інстытут. Сцяпану пашанцавала тады на ўступных, Алёша ж атрымаў адно «пасрэдна», значыць, стыпендыю не бачыць як сваіх вушэй. Каб не вяртацца «выгнаннікам» дамоў, уладкаваўся паштальёнам, а заадно паступіў у мясцовы аэраклуб. Начытаўшыся пра мірныя подзвігі савецкіх лётчыкаў, ён не пераставаў блюзніць небам. І вось тут, у горадзе, мара яго

нарэшце здзейснілася. Недзе месяц назад. Алёша забег быў да Сцёпы ў інтэрнат і, ззяючы ад шчасця, далажыў: «Курсант Бабіновіч зрабіў сёння першы самастойны палёт. Ацэнка «здавальняюча»!»

Яны спусціліся з прыступак, селі на лаўку. Свяціла сонца, яркае, ужо гарачае. Чырыкалі-пераклікаліся ў засені клёнаў птушкі. Над галавой, на даху інтэрната, раўнула і змоўкла сірэна.

— Вось вазьмі,— Алёша паклаў на калені Сцёпу сваю пузатую торбачку.— Тут сала, харошае, з дому. Хай табе будзе.

— А ты?

— Праз дзве гадзіны палучаю паёк і еду ў Ейск. Увесь аэраклуб едзе.

— А што такое Ейск?

— Гэта горад. Недзе далёка, на поўдні. Там ваеннае лётнае вучылішча. Буду вучыцца на штурмавіка або знішчальніка...

— Доўга будзеш вучыцца?

— Не ведаю. Вайна. Відаць, па скарочанай праграме. Авіяцыі кадры патрэбны.

Пасядзелі. Памаўчалі. Сцёпа дастаў з паперыны рэшткі каўбасы, агрызак хлеба.

— Давай з'ядзім...

— Давай.

Калі ўсталі, Сцёпа глухім голасам папрасіў:

— Ты ж пішы. Добра?

— Абавязкова.

На тым і рассталіся. Рассталіся назаўсёды. Восенню сорак чацвёртага, калі цяжкапаранены Сцёпа вярнуўся з партызан дадому і зайшоў адзначыцца ў райваенкамат, на вочы яму трапіўся спіс афіцэраў ураджэнцаў раёна, якія загінулі або прапалі без вестак. Пасля літары «А» па алфавіце адразу ішоў Бабіновіч Аляксей Аляксеевіч, лейтэнант, 1923 года нараджэння.

* * *

У падвале інстытута побач з ваенным кабінетам знаходзіўся за абітымі тоўстымі бранелістамі дзвярмі пакойарсенал. У ім захоўвалася баявая і вучэбная зброя — станкавыя і ручныя кулямёты, вінтоўкі, карабіны, гранаты, скрынкі з патронамі. Было некалькі пісталетаў ТТ, рэвальверы і нават адзін аўтамат. У асобнай скрынцы валяліся тут

і ўжо адслужыўшыя сваё вінтоўкі, рэвальверы. Сцёпа ў інстытуце лічыўся ледзь не самым лепшым стралком і знаўцам баявой зброі. На заклад ён мог з завязанымі вачыма сабраць і разабраць «максіма» або «дзегцяра». Не гаворачы ўжо пра вінтоўку ці пісталет. Страляў з любога віду зброі так, што ніжэй дзевяткі ні адна куля не трапляла.

Фадзей Лукіч, загадчык кабінета і гаспадар арсенала, бязмежна давяраў Сцёпу ва ўсім. Бывалі выпадкі, калі Лукіч нават аддаваў хлопцу ключы ад «святая святых» — арсенала і прасіў прынесці на стрэльбішча або ў вучэбную аўдыторыю тую ці іншую рэч.

Развітаўшыся з Алёшам, Сцёпа падумаў, а ці не зайсці яму да Фадзея Лукіча і папрасіць які-небудзь спісаны рэвальвер або пістоль. Ён жа як-ніяк пляменнік каваля, яшчэ ў пятым класе майстраваў адменныя складанчыкі, а ўпотайку — самыя лепшыя на ўсю вёску самапалы. Дык няўжо, добра пакапаўшыся ў гэтым чароўным ламаччы, не збярэ з двух-трох непрыгодных рэвальвераў адзін такі, што будзе паліць як новенькі?..

У падвале гарэла святло. Каля дзвярэй ваеннага кабінета тапталіся студэнты, канечне ж, тыя, што яшчэ не ўзняліся да прызыўной адзнакі. У некаторых на рукавах чырванелі павязкі. Сцёпа спытаў знаёмага хлопца з геафака, што тут адбываецца. Той сказаў, што па распараджэнні гаркома камсамола Ганжын стварае ў інстытуце атрад «ястрабкоў». Задача — сачыць за парадкам на адпаведным участку, садзейнічаць міліцыі ў выкрыцці злачынных элементаў, магчыма, нават шпіёнаў, ну і... Словам, Фадзей Лукіч складае спісак, потым выдасць зброю і...

Сцёпа не стаў даслухваць, а рвануўся да дзвярэй кабінета. Фадзей Лукіч быў не адзін. Насупраць яго сядзеў ваенны. На ім была форма работніка НКУС. У пятліцы адна «шпала». Капітан.

Сцёпа сумеўся, спыніўся ля парога і нават забыўся павітацца. Фадзей Лукіч падняў вочы і, усё зразумеўшы, сказаў:

— Схадзі спачатку да Ганжына. Ён у сябе.

Сцёпа птушкай узляцеў на другі паверх. Ганжына ўпрошваць не трэба было: напісаў на паперцы колькі слоў, дастаў з шуфлядкі стала чырвоную нарукаўную павязку і кіўнуў на дзверы:

— Давай, камсорг.

Фадзей Лукіч выдаў хлопцам зусім не рэвальверы і пісталеты, як ім усім страшэнна таго хацелася, і нават не

баявыя вінтоўкі, а самыя што ні на ёсць дзіцячыя забаўкі — малакаліберкі і па дзесятку патронаў да іх. Капітан сказаў, што кантралюемы імі ўчастак будзе па Ленінскай вуліцы ад паштамта да кінатэатра «Родина». Ім неабходна разбіцца на тройкі і прыступаць да патрулявання. Падняўся, мімаходзь кінуў, што ім трэба наладзіць сувязь з гарадскім штабам самаабароны. На гэтым, не развітаўшыся, пайшоў.

Хлопцы стаялі разгубленыя. З мінутнага інструктажу яны не пачэрпнулі для сябе нічога пэўнага. Не ведалі, якія іх правы і абавязкі, што іменна трэба рабіць на сваім участку, якім чынам правяраць падазроных — абшукваць ці толькі пытаць дакументы, куды весці, калі дакументаў не акажацца? Дзе знаходзіцца гарадскі штаб самаабароны? І ўрэшце. Хаця яны, «ястрабкі», і энтузіясты і дабравольцы і да таго падобнае, але ж яны адначасова і жывыя людзі — павінны як мінімум хоць адзін раз у суткі паесці і адпачыць. А дзе і за якія шышы можна будзе паабедаць? Як наладзіць адпачынак?..

Пытанні, пытанні, пытанні. Іх паўстае безліч, калі табе няма яшчэ семнаццаці і ты ўпершыню выходзіш на суровую дарогу вайны, калі за плячыма ў цябе амаль ніякага жыццёвага вопыту...

На дапамогу прыйшоў Фадзей Лукіч. Ён сказаў, каб хлопцы трымалі сувязь непасрэдна з ім самім і не кідаліся па горадзе ў пошуках штаба, бо штаб гэты пакуль што існуе на паперы. Як толькі будзе створаны, Фадзею Лукічу дадуць знаць, і ён сам установіць з ім сувязь. «Ястрабкам» жа трэба рабіць не што іншае, як весці звычайную патрульную службу, сачыць за парадкам на адведзеным ім участку вуліцы. Ну, и ўначы давядзецца разбіцца на тройкі (іх жа дзевяць чалавек) і патруляваць па чарзе: адна тройка патрулюе, другая адпачывае, трэцяя спіць.

— Сталоўка будзе працаваць? — нецярпліва спытаў Жэня Сабалеўскі — студэнт з геаграфічнага.

— Абавязкова! — сказаў як адрэзаў Фадзей Лукіч.— І стыпендыю вам выдадзім. Ужо дадзена каманда.

Першыя двое сутак патруляванне праходзіла без якіх-небудзь значных прыгод. Усе на першы погляд падазроныя аказваліся магілёўчанамі, і іх тут жа адпускалі. На трэція суткі абстаноўка ўскладнілася. З захаду нахлынула шмат бежанцаў, асабліва з Беластока, Брэста, Гродні, Мінска. Спачатку яны табарыліся ў раёне вакзала і станцыі Магілёў-2, а потым сталі расцякацца па ўсім горадзе ў пошуках яды. Сярод бежанцаў маглі быць і дыверсанты, лазутчыкі —

а яны ўжо праніклі ў горад, аб гэтым стала вядома з паведамленняў мясцовага радыё. Апрануты яны былі ў форму міліцыі, у форму байцоў і камандзіраў пагранічных войск. Усе, вядома ж, узброеныя. Тут ужо, як той кажа, трэба было не здымаць палец са спускавога кручка.

У ноч з 24-га на 25-е тройка Сцяпана вярталася ад паштамта ў бок кінатэатра. Ішлі павольна, Жэня Сабалеўскі і Васіль Цялегін па тратуары абапал вуліцы, а Сцёпа па самым цэнтры брукаванкі. Сцёпа, пстрыкнуўшы кішэнным ліхтарыкам, высвяціў наперадзе, якраз насупраць інстытута, сілуэт легкавушкі. Калі ішлі з боку кінатэатра, яе тут не было. Подбегам наблізіліся. Машына была не наша — не «эмка» і не «зіска». Нейкая маленечкая, як уціснуцца чацвярым, і ўсяго з дзвюма дзверцамі. Дзверцы былі расчынены. Сцёпа пасвяціў унутр. На заднім сядзенні ляжаў шынель. На пятліцах тры шпалы, а на рукаве чатыры нашыўкі ў выглядзе рымскай пяцёркі. Такой неадпаведнасці ў форме Чырвонай Арміі не бывае. Значыць?..

Гадаць-думаць не давялося. З боку паштамта зачасцілі пісталетныя стрэлы. Бухнула вінтоўка. Хлопцы ведалі, што вінтоўка была ў ахоўніка.

Кінуліся туды. У бок тэатральнага сквера матнуліся два цені.

— Стой! Стой, страляць буду!..

Дзе там... На ўсякі выпадак паслалі ўслед некалькі куль з дробнакаліберак.

Дзверы на паштамт былі — насцеж. Зайшлі і адразу спыніліся. На падлозе сядзеў белы як мел ахоўнік і падтрымліваў левай рукой правую. Адна нага яго была падагнута, і пад сцягном расплывалася лужынка крыві. Хлопцы тут жа распранулі ахоўніка, разарвалі на ласкуты яго нацельную кашулю, перавязалі, як умелі.

Акенца ў камутатарную было закрыта, і Сцёпа ўдарыў па ім прыкладам. Тонкая фанера пырснула трэскамі. Прасунуўшы галаву, хлопец убачыў у закутку немаладую тэлефаністку. Яе біў калатун.

Папрасіў зараз жа пазваніць у бальніцу. Раз, другі. Рэагавання — ніякага. Тады загнуў матам. Гэта падзейнічала адразу.

— Цяпер бачу, што свае,— усё яшчэ ляскаючы зубамі, прагаварыла тэлефаністка і падняла трубку.

Чэрвеньская ноч — не ноч. Колькі таго часу праваждаліся хлопцы на паштамце, а выйшлі — ужо зусім відна. Накіраваліся зноў да легкавушкі. Яна па-ранейшаму стаяла ў

адзіноце з адчыненымі дзверцамі. Зазірнулі ў багажнік. Там ляжалі партатыўная рацыя і таўставаты журнал з бясконцымі калонкамі лічбаў.

Каму паведаміць аб усім? Якраз насупраць інтэрната знаходзіцца ўпраўленне НКДБ. Туды і накіраваўся Сцёпа. А хлопцы пайшлі ў інтэрнат выклікаць змену.

* * *

Гэта было нечаканасцю. Фадзей Лукіч склікаў усіх «ястрабкоў» і сказаў здаць дробнакаліберкі. Растлумачыў:

— Грамадзянскае патруляванне адмяняецца. У горадзе ўводзіцца ваеннае становішча.

— Што будзем рабіць? — глянуў на Сцёпу Васіль Цялегін.

— Не ведаю, як ты, а я заўтра пайду здаваць педагогіку. А тады... Тады хутчэй за ўсё дадому. Няма болей куды. Неразбярыха нейкая кругом...

— Я таксама рашыў — дадому. Дабяромся, возьмем па ладнаму кусману сала, сухароў, ды падамося на ўсход. На захад нельга. Баі ідуць у раёне Мінска... Адзін маёр учора казаў. Той, што з падвязанай рукой.

— Можа, выдумка...

— Якая табе выдумка? Наш ён, маёр. Камуніст. Я дакументы ў яго правяраў. Маніць не стане. Казаў, едуць немчыкі як на вяселле. З музыкай, песнямі. Аж заплакаў. Кажа, біў бы гадаў бязлітасна. Ды ні зброі сапраўднай, ні боепрыпасаў у дастатку. На вінтовачку па пятнаццаць патронаў, на «дзегцяра» па два-тры дыскі. У першым жа баі ўсё гэта зрасходавалі. А ў іх, у немцаў, кожны другі з аўтаматам. А боепрыпасаў дык і не лічаць...

— На Бярозе спыняць,— не зусім упэўнена сказаў Сцёпа.— Белапалякаў жа некалі турнулі ад Бярозы. Ды так, што аж да Варшавы беглі не азіраючыся.

— Каб жа. А можа, там і войска нашага няма. Глядзі, каб і да Магілёва неўзабаве не падабраўся фашыст.

Васіль як у ваду глядзеў. У ноч з 25 на 26 чэрвеня немцы нанеслі першы бомбавы ўдар па Магілёву. Быў ён не надта разбуральны. Але што насцярожвала — бомбы падалі амаль дакладна на чыгуначны вузел і мясакамбінат. Падалі па навядзенню ракет, якія ўзляталі з зямлі. Тыя, хто не спаў тады, бачылі ракеты ў час налёту і ў раёне шоўкавай фабрыкі, авіярамонтнага завода...

Экзамен Сцёпа здаў на «выдатна». У той жа дзень ён

і Васіль, закінуўшы за плечы мяшэчкі з небагатым студэнцкім скарбам, падаліся на захад, у родныя мясціны. Васіль жыў у Малой Машчаніцы за Бялынічамі. Сцёпу трэба было тупаць далей яшчэ кіламетраў з паўсотні, перабрацца цераз Бярозу, і тады, лічы, ён — дома.

Ішлі па ўзбочыне шашы, насустрач бясконцаму патоку перагружаных людзьмі «зісаў», палутарак, «эмак», сялянскіх фурманак і проста пешаходаў, запыленых, змардаваных, асмяглых, хто з клуначкам ці чамаданам, а хто і зусім без нічога. У Княжыцах зайшлі ў краму. Ад стыпендыі заставаліся такія-сякія капейкі, і меркавалася купіць хлеба, або пячэння, ці хоць круп якіх. Паліцы пуставалі. Толькі на адной у кутку стаялі папяровыя пачкі з надпісам «Кофе с цикорием».

— Можа, хлеб ёсць? — безнадзейным голасам спытаў Сцёпа.

— Няма хлеба, хлопчыкі,— спагадліва адказала немаладая прадаўшчыца і, трошкі памуляўшыся, дастала з-пад прылаўка ладны брус брынзы.— Вось усё, што засталося з прадуктаў.

— Давайце ўсё,— мітусліва палез ў кішэню Васіль.— Мы ўжо тры дні нічагусенькі не елі.

Гэта была праўда. Сала, што Алёша, ад'язджаючы ў Ейск, пакінуў Сцёпу, яны, «ястрабкі», з'елі літаральна за суткі, бо студэнцкая сталоўка, нягледзячы на ўсе намаганні Фадзея Лукіча і Ганжына, так больш і не адкрылася. У магазінах жа па паліцах шастаў вецер, бо ніхто ў іх больш не працаваў. А якія магазіны і дзейнічалі яшчэ, заходзіць туды было бескарысна — усё роўна нічога не купіш на зуб.

Брынза аказалася салёнай да жудасці. І ўсё ж гэта быў прадукт харчавання, у якім утрымліваліся ўсе неабходныя для падтрымкі жыцця рэчывы — бялкі, вугляводы і нават тлушчы.

Напачатку хлопцы ўмалацілі яе, мабыць, па паўкілаграма. Потым спахапіліся, што так потым вадою абап'ешся, і захавалі рэшткі брынзы надалей.

Не паспелі адысціся ад Княжыц на які кіламетр, як захацелася піць. Падабралі ў канаве бутэлькі і пайшлі да доміка дарожнага майстра.

Наогул вады па дарозе хапала. Гэта і прыдарожныя вёскі са сцюдзёнымі калодзежамі, і шматлікія рачулкі, ручаіны. Так што пагрозы застацца на пякучым сонцы засмяглымі ад бязводдзя не было.

Сур'ёзная непрыемнасць нечакана падсцерагла іх з дру-

гога боку. Абодва, і Сцяпан і Васіль, адправіліся ў паход у спартыўных прарызінках на босую ногу. Так, маўляў, зручней, лягчэй, чым у чаравіках. А недзе гадзіны праз тры ці чатыры хадзьбы падэшвы ног у іх сталі гарэць, а пад пальцамі — утварыліся вадзяністыя пухіры. Ісці стала немагчыма. Шкарпэтак ні ў аднаго, ні ў другога не было, і яны ў тэрміновым парадку парвалі на анучы споднія кашулі і старанна абматалі ногі. Цяпер хоць і не надта хутка, не так як напачатку, але можна было рухацца далей.

Чым далей ад горада, тым паток машын, падвод, пешаходаў, усё радзеў і радзеў. Ці то паўдзённая спякота разагнала бежанцаў пад шаты цяністых прыдарожных лясоў і прысад, ці мо дзе-небудзь там, за чарговым пад'ёмам, вораг шашу перагарадзіў?.. Можа ж быць такое? Вунь і ў Магілёве, у раёне Лупалава, быў скінуты немаленькі дэсант, лічы, проста ў горадзе. Праўда, там яго хутка ліквідавалі. А тут жа ні знішчальных атрадаў, ні рэгулярных войск...

Сцёпа падзяліўся сваімі меркаваннямі з Васілём.

— Хутчэй за ўсё адпачываюць людзі. Спёка такая, што камень плавіцца,— адказаў Васіль.— Давай і мы даклыпаем вунь да таго мастка і з адхону — пад кусцік. Бачыш, якія вербы там цяністыя. І рэчачка што трэба — крынічная, чыстая. Апаласнёмся, ваду ў бутэльках памяняем.

Рэчка і сапраўды была што трэба, нешырокая, бруістая, з нізкімі берагамі. У такіх звычайна водзяцца адменныя ракі, царская рыба — фарэль, або стронга, як называюць яе ў народзе.

Хлопцы спусціліся з шашы, селі пад вярбой і пачалі няспешна распранацца. І тут наверсе завуркатала машына. Сцёпа падняў вочы — палутарка. Машына ледзь пераехала мост і рэзка тармазнула. З яе кузава як гарох пасыпаліся людзі. Нібы выкінуты нябачнай спружынай, з адчыненай кабіны вылецеў шафёр і скаціўся ўніз.

— Кладзіся! — хрыпата крыкнуў ён.

Хлопцы інстынктыўна прыціснуліся да халаднаватай травы.

Над галовамі на шалёных абаротах зараўлі маторы, потым нешта дзіка заенчыла, засвістала, усё набліжаючыся, прыгнятаючы гукавой аглушальнай цяжкасцю да зямлі, і... рванула. Раз, другі, трэці, чацвёрты...

І рокат матораў пачаў адразу аддаляцца, ператвараючыся ў лёгкі звон. Нарэшце і звон гэты сціх удалечыні. Там, на захадзе.

Аглушаныя, хлопцы працягвалі ляжаць не варушачыся.

— Паднімайся, братва! Адбой,— пачуўся зверху вясёлы голас.— Паехалі далей.

Сцёпа падхапіўся, сеў і не пазнаў аксамітна-зялёнай прырэчнай лугавіны. На ёй зеўралі чатыры чорна-бурыя варонкі. Трава была закідана кавалкамі тарфяніку.

— Па мосце цэлілі, ды трасцу трапілі,— пракаменціраваў шафёр.— Вось вам, фрыцы, маць вашу...— і падняў угору руку з кукішам.

Хутка сабраліся ўсе пасажыры палутаркі — яны хаваліся з другога боку насыпу,— і машына рушыла сваёй дарогай.

— Давай пойдзем адсюль,— прапанаваў Васіль,— а то бывае, зноў наляцяць. Мост ўсё-такі. Хоць і невялікі, але ж стратэгічны аб'ект.

— Э-э!..— гарэзліва крыкнуў Сцёпа і бухнуўся ў ледзяную ваду. Ужо адтуль паклікаў сябра: — Давай. Дзвюм смярцям не бываць, а адной не мінаваць...

А калі пакупаліся і рушылі далей, нечакана прызнаўся:

— Не ведаю, як ты, а я, братка, страшэнна пературхнуў. Першы раз у жыцці зразумеў, што такое душа ў пятках. Аж і цяпер яшчэ паджылкі дрыжаць...

Васіль засмяяўся.

— А думаеш, я не перапалохаўся? Гад, як завые, як засвішча д'ябальскім свістам, здаецца, зараз у блін расплюшчыць...

— А магла ж і трапіць бомба. У нас або ў тых людзей, што ехалі. Га? — Сцёпа спыніўся і недаўменна глядзеў на Васіля.— Слухай, нас з табой магло б зараз не быць. І лесу гэтага мы не бачылі б, рэчкі... Як гэта? Га?..

— Пайшлі,— пацягнуў яго за рукаў Васіль,— філосаф...

* * *

На трэці дзень чарапашай хады мінулі нарэшце Бялынічы. Адсюль да Васілёвай вёскі рукой падаць — нейкіх два кіламетры. Васіль пачаў распісваць, якія смачныя пульхныя бліны ўмее пячы яго маці ды як яны добра ідуць з гусіным шмальцам або смятанай. У Сцёпы аж сліна пацякла. Гаварыў Васіль, ажыўлена жэстыкуляваў рукамі і раптам змоўк. Адразу. Яго ды і Сцёпу непрыемна ўразіла абсалютна пустая шаша наперадзе: ні машыны, ні фурманкі, ні чалавечай постаці. Над голай брукаванай стужкай, якая звужалася ўдалечыні да тоненькай нітачкі, вісела трывожная цішыня.

Такая цішыня звычайна завісае над зямлёй перад пачаткам навальніцы. Але ж якая можа быць навальніца? На небе ні хмурынкі. Сонечна, бязветрана.

— Ну, што змоўк? Малюй далей,— наўмысна бадзёрым голасам прагаварыў Сцёпа і адразу адчуў, што голас яго гучыць крыху фальшыва, ненатуральна.

— Давай, браце, звернем з шашы,— устрывожана прапанаваў Васіль.— Тут нешта не так. Да Машчаніцы і нацянькі дойдзем. Недалёка ўжо.

Хлопцы спусціліся з насыпу і нырнулі пад альховыя кусты, што цягнуліся абапал глыбокай канавы. Канава гэта называецца магістральным каналам, паясніў Васіль. Яе пракапалі меліяратары недзе ў сярэдзіне трыццатых гадоў, каб асушыць балота. Па самым дне канавы слаба цёк празрысты танюсенькі струменьчык вады.

Калі хлопцы адышліся ад шашы метраў на сто, з захаду, з боку Бярэзаня, пачуўся густы гул матораў. Так можа гудзець армада самалётаў. Так можа гудзець вялікая калона цяжкіх машын. Неба на захадзе было чыстым, ніводнай кропачкі ў блакіце. Значыць, не самалёты гудуць, а...

Так. Гэта былі нямецкія танкі. Адсюль, здалёк, яны здаваліся зусім не грознымі, як бы цацачнымі. І толькі па тым, як стагнала, угіналася пад іх гусеніцамі зямля, можна было ўявіць, што гэта за сілішча такая.

Хаваючыся за кусты, хлопцы пабеглі. Падалей ад дарогі. Апынуўшыся на прыстойнай адлегласці, ляглі і сталі назіраць. Танкі былі не аднолькавыя. Папераду ляскатаў гусеніцамі высокі вуглаваты, з караткаствольнай гарматай, за ім — некалькі прыземістых, з доўгімі стваламі гармат, потым — некалькі зусім маленькіх, лёгкіх, а затым зноў тры цяжкія каробкападобныя. Люкі танкаў былі адкрыты, і з іх тырчалі галовы. Між танкамі, то выскокваючы наперад, то збочваючы, мітусіліся матацыклы. Матацыклістаў было па трое — адзін за рулём, другі ў яго ззаду, трэці — у калясцы — за кулямётам. Ні з таго ні з сяго матацыклісты час ад часу спыняліся і пасылалі то ў адзін, то ў другі бок кароткія чэргі. Можа, каб напалохаць магчымых ворагаў, а можа, проста для пацехі.

Перад самым носам Сцёпы на брустверы адхону раптоўна падняліся і адразу апалі чатыры пясчаныя бурунчыкі. Сцёпа працягнуў руку і прыгладзіў іх. Далонь як бы апякло. Калупнуў, і на пясок выкацілася злёгку аплаўленая куля. Не наша. Танчэйшая і даўжэйшая за нашу. У непаразуменні азірнуўся на Васіля.

— Ляжы!..— прашыпеў той.— Не варушыся... Мабыць, заўважылі.

Толькі цяпер Сцёпа зразумеў, што пясчаныя бурунчыкі ўтварыліся не ад чаго іншага, як ад нямецкіх куль. А мог жа немец струганзць крышачку лявей, і тады б...

Канца калоны не было відаць, і хлопцы рашылі ісці далей. Дакладней, не ісці, а пакуль што паўзці, пакуль не дабяруцца вунь да таго пералеску.

За пералескам, сказаў Васіль, адразу луг, па якім цячэ неглыбокая рачулка, а за ёю і вёска, родная Васілёва Машчаніца.

* * *

Калі зайшлі ў двор, маці Васіля адразу выбегла на ганак і, ні слова не гаворачы, пачала ўглядацца ў сына — ён ці не ён? Потым схамянулася, на ўвесь голас па-жаноцку загаласіла і прыпала да сынавых грудзей. Сцёпа стаяў і збянтэжана пераміналўся з нагі на нагу. З-пад павеці выйшаў Васілёў бацька, невысокага, як і сын, росту, з шырокімі плячыма і крыху набычанай пасадкай галавы. Наблізіўся да Сцёпы, агледзеў з ног да галавы, падаў шурпатую цвёрдую далонь:

— Завуць мяне Сідар Мікалаевіч.— Сумна ўсміхнуўся: — У чым толькі душа ліпіць. Мабыць, як грукнула, дык нічога і не елі? — не спытаў, а як бы адзначыў.

З сынам павітаўся проста, па-мужчынску, без ніякіх эмоцый і абдымкаў. Сказаў:

— Скідайце апратку і на рэчку. Вошы ёсць?

— Ёсць,— не гледзячы адзін на аднаго, прызналіся хлопцы. А Васіль удакладніў:

— Неяк за месяц перад вайной паявіліся...

— Перад вялікай бядой заўсёды так,— згадзіўся бацька.— І чорт ведае адкуль...

Праз якую гадзіну хлопцы, вымытыя, ва ўсім чыстым, ужо сядзелі за прасторным сталом і, апякаючыся рассыпчатай бульбай, наперагонкі чэрпалі драўлянымі лыжкамі густа запраўленую зялёнай цыбуляй сыраквашу. Хвалёных бліноў з гусіным шмальцам і смятанай не было, ні ячменных, ні грэцкіх. Не шкада. Затое была здаровая сялянская яда, што цанілася ў народзе вышэй за самыя лепшыя прысмакі.

Маці неадрыўна глядзела, як шчыруюць хлопцы, і слёзы каціліся і каціліся з яе пабляклых вачэй. Васіль ласкава сказаў:

— Хопіць ужо, мамка. Жывы во вярнуўся, і добра. А ты ўсё плачаш...

— То ж я, сынок, ад радасці. Адзін жа ты ў нас...

Маладому здароваму арганізму ўласціва хутка аднаўляць сілы. Праз два дні вымушанага гасцявання ў Васіля Сцёпа зноў адчуваў сябе добра: не плылі чырвона-чорныя кругі перад вачыма, не трымцелі,не падкошваліся ногі, калі памагаў на дрывотні ўскласці бервяно на козлы. Лопнулі пухіры пад пальцамі, і на іх месцы ўтварылася маладая ружовая скурка. Бадай што можна было рухацца далей на сваю Бярэзаньшчыну. Праведаць маці, а потым, прыхапіўшы такі-сякі харчовы запас, вярнуцца сюды, да Васіля, і падавацца глухімі сцежкамі-дарожкамі туды, на ўсход, да сваіх. Так было задумана яшчэ там, у Магілёве.

Сцёпа падзяліўся сваімі планамі з Васілёвым бацькам. Той, крыху падумаўшы, сказаў:

— Ісці ў родныя мясціны трэба. Абавязкова і не адкладваючы на заўтра ці паслязаўтра. Чуеш, хлопча? Пакуль што можна прайсці туды без асобай апаскі, ідзі. Скора такога ўжо не будзе. Вайна завязалася не на дзень і не на месяц. Немцы тут асядуць. Здаецца мне, надоўга. Будуць лютаваць. Бо рана ці позна крэпка схвацяць па зубах і стануць адыгрывацца на мірным насельніцтве. Мы з імі будзем біцца. Тут. У тыле. А не там, куды вы з Васілём збіраецеся неўзабаве бегчы. Там і без вас герояў хопіць.— Сідар Мікалаевіч падняў вочы.— Я камуніст. А ты?

— Камсамолец. Камсоргам факультэта быў,— з гатоўнасцю адказаў Сцёпа.

— Дзе білет камсамольскі?

— Са мной.

— Зараз дам іголку з ніткай, зашыеш у падкладку свайго лапсердака. Няровен час, знойдуць — адразу — куля.

— А вы ж камуніст. Скажа хто, і...

— Бачыш? — Сідар Мікалаевіч паказаў рукой на лес, што пачынаўся адразу за гародамі.— Цяпер мой дом будзе там. І іх забяру з сабой — маці, Ваську.

— Дык гэта ж здорава! — аж падхапіўся з месца Сцёпа.— Аб'явіць немцам партызанскую вайну!.. Ух ты!.. А я неяк і не падумаў пра такое...

— А ты падумай,— у тон яму адказаў Сідар Мікалаевіч.— Там, у цябе на радзіме, той-сёй з нашага брата застаўся. Спецыяльна па загаду. Захочаш знайсці — знойдзеш. Канечне, калі дужа, ад душы, захочаш...

— Ну-у...— пачырванеў ад абурэння Сцёпа.— Вы пра мяне гэтак нядобра...

— А ты надта не абурайся. Вайна, хлопча, гэта — бескампрамісная, магчыма, нават адзіная праверка чалавека на сапраўдную чалавечую годнасць. Яна, як ні якая анкета, выяўляе, хто ёсць хто. Думаеш, усе так і кінуцца біць фрыца? Як бы не так. Крымінальнікі, падпанкі і розная іншая погань хутчэй за ўсё перамятнуцца ў варожы лагер. Праўда, нямнога такіх. Але ж напаскудзіць яны могуць ой як многа. Нам, тылавікам, трэба будзе апасацца іх, можа, больш, чым немцаў. Немцы ж пра нас не ведаюць нічога, а мясцовыя ворагі — усё.

— Я вас зразумеў, Сідар Мікалаевіч. Добра зразумеў. І прыняў для сябе адзінае рашэнне. Вялікае вам дзякуй за гэта.

* * *

Людзі па-рознаму вядуць адлік часу. Калі мір на зямлі, тады тыя ці іншыя падзеі звязваюць з порамі года: было, маўляў, гэта вясной або летам, восенню або зімой. Гэта маладзейшыя. Старыя, асабліва жанчыны, звязваюць больш-менш значныя падзеі з тэрмінамі гаспадарчых работ: «у жніво тое было» або «як сена касілі», «як адсеяліся» ці «ўжо бульбу якраз выкапалі». Некаторыя вядуць свой адлік часу і па абрадавых святах: «на прачыстую», «на грамніцы», «у мясаед», «на каляды» і г. д. Калі ж адбываюцца вялікія гістарычныя катаклізмы, тады адлік часу адзін: да рэвалюцыі — пасля рэвалюцыі, да вайны — пасля вайны...

Зараз, хаця прайшло не так багата часу, як на далёкі Кіеў і Брэст упалі першыя нямецкія бомбы, усе ў Машчаніцы, і старыя і малыя, гаворачы пра што-небудзь значнае, не праміналі адзначыць, калі гэта адбывалася, да вайны ці ўжо пасля таго, як яна пачалася.

Вось і Сідар Мікалаевіч, праводзячы Сцёпу ў няблізкую і ўжо небяспечную на тым часе дарогу, гаварыў:

— Да вайны, хлопча, я гэтыя лясы, па якіх ты пойдзеш, уздоўж і ўпоперак выхадзіў. Кожную сцяжынку, кожную прасеку, лагчынку ведаю...

— Дарэчы, кім вы былі да вайны?

— Ляснічым. Мае ўладанні,— усміхнуўся,— цягнуцца аж да самай граніцы з тваім раёнам. Дык слухай. Блудзіць ты не будзеш. Стары тракт Магілёў — Мінск, хоць і зрабілі новую дарогу, намнога лепшую і прамейшую, прытым брукаваную, не зусім страціў сваё значэнне. Па ім і ходзяць і ездзяць. Немцы яго ігнаруюць. А табе такая дарога ў самы

раз. Апроч сваіх людзей, нікога там не стрэнеш. Карацей, Васіль цябе зараз завядзе туды.— Сідар Мікалаевіч цяжкавата падняўся з лавы, сціснуў сваёй шурпатай цвёрдай даланёй Сцёпаву руку: — Ну, бывай, камсорг! Помні, пра што гаварылі.— І, не азіраючыся, выйшаў.

Сцёпа нават не паспеў сказаць, што помніць усё. Добра помніць.

А Васіль з сумнаватай усмешкай зазначыў:

— Зараз паплача трошкі...

— Бацька? — не паверыў Сцёпа.

— Не глядзі, што ў яго такі суровы выгляд. Чалавек ён у нас мяккі, уражлівы. Леташняй зімой, я быў тады на канікулах, знайшоў у лесе забітага браканьерам лася, дык плакаў, як дзіця. Казаў: злавіў бы гада, задушыў.

— Што, і праўда задушыў бы?

— І вокам бы не міргнуў!

— А кажаш — мяккі...

— Дык жа гэта ён да добрых такі, а ворагаў люта ненавідзіць.— І, крыху павагаўшыся, сказаў: — Дні праз два-тры ідзём у партызаны.

— Ведаю. Твой бацька гаварыў. Я таксама не збіраюся сядзець на печы. Прыйду, разбяруся на месцы, што к чаму, ды за справу. Надзейных хлопцаў-сяброў у мяне шмат. Лічы ўсе, што па дзесяць пакончалі. Ну, вядзі, дзе там той стары тракт.

— Бярэзаньскі,— удакладніў Васіль.

Стары Бярэзаньскі тракт, хоць прайшло ўжо колькі гадоў, як сталі ездзіць у асноўным па шашы, і сапраўды зусім не выглядаў закінутым, недагледжаным. Мабыць, толькі ўзбочыны сведчылі аб тым, што тут даўно ўжо не праходзілася гаспадарская рука — яны, нібы шчэццю, параслі нізенькім частым падлескам. А праезная частка была зусім свежая, жывая. На буйнажвірыстай падушцы дарогі выразна віднеліся адбіткі аўтамабільных і веласіпедных пратэктараў, ямкі ад трактарных «шпораў», танклявыя сляды колаў, пакінутыя коннымі фурманкамі. І жывёлу зусім нядаўна гналі, можа, нават сёння раніцай. А чалавечых слядоў колькі розных.

— Гэтай дарогі і трымайся,— журботна прамовіў Васіль. Памаўчаў.— Можа, яшчэ калі сустрэнемся.

— Не скора, відаць. Бацька твой казаў, вайна зацягнецца, можа, больш як на год. Немцы Смаленск ужо ўзялі...

— Ну, Маскву скулу яны возьмуць. Праўда ж? — горача страпянуўся Васіль.

— А во! — склаў дулю Сцёпа.— Гэта табе не Магілёў.

— А што Магілёў? — запярэчыў Васіль.— Трымаецца наш гарадок, хоць і абкружаны. Учора вечарам адзін наш адтуль прыйшоў, дык казаў, вакол Магілёва зараз не палі, а суцэльныя могілкі нямецкіх салдат, танкаў, машын, гармат. Нават некалькі шкілетаў згарэлых самалётаў бачыў. Перамолваюць іх там, толькі дзяржысь...

— Слухай, Васька, разумееш, ну, усякае можа здарыцца там у мяне, дома... Як цябе тады шукаць?..

— Выспа сярод нейкага балота. Вядуць да яе патайныя кладкі. Адсюль кіламетраў пятнаццаць. Вось усё, што ведаю. Ды, зрэшты, язык да Кіева давядзе.

— Яно ж так.

Пастаялі яшчэ. Моўчкі. Ды і гаварыць як бы не было больш пра што.

Потым парывіста наблізіліся адзін да аднаго, няўмела абняліся, пацалаваліся і, павярнуўшыся, пакрочылі кожны сваёй дарогай.

* * *

Дарога не спіць, кажуць людзі. Гэта так. Нават у самую лютую непагоду, у самае грознае ліхалецце дарога нейкім чынам усё ж жыве.

Не прайшоў Сцёпа і двух кіламетраў, як з прыдарожных кустоў вытыркнулася чарнявая галава:

— Эй, гражданка!

Сцёпа не спалохаўся, нават не сумеўся. Ён за гэтыя, лічаныя яшчэ, тыдні вайны чарнявых і бялявых, малых і высакарослых хлопцаў у чырвонаармейскай форме пабачыў ой як шмат. Узброеныя і без вінтовак, разбітыя недзе ў сутычках з гітлераўскай армадай, усе яны пыталіся пра адно, дзе нашы і, абавязкова, ці няма паблізу немцаў. Гэты, яўны выхадзец з гарачага поўдня, таксама спытаў:

— Красны армія там еса? — і паказаў рукой у той бок, адкуль ішоў Васіль.

— Нет.

— Немец?

— Пака нет. Немец далёка пайшоў, міма. Ты хто?

— Баец. Таджык.

На дарогу выйшлі яшчэ пяць чалавек. Мяркуючы па абліччы, таксама таджыкі. Усе яны былі з вінтоўкамі, патроннымі падсумкамі на рамянях. Сцёпа паглядзеў на іх з павагай — малайцы, не разгубіліся. Двое параненых, адзін у галаву, другі — у руку, а зброю не кінулі.

— Камсамольцы ёсць? — пацікавіўся перш-наперш Сцёпа.

— Тры,— адказаў той, што спыніў.

Сцёпа сказаў, каб камсамольскія білеты байцы на ўсякі выпадак захавалі панадзейней, напрыклад, у абмоткі. У кішэні дастаткова мець чырвонаармейскую кніжку. Бо немцы камуністаў і камсамольцаў расстрэльваюць на месцы, без ніякага запалянення. А з палону хоць можна ўцячы і працягваць барацьбу, ці то злучыўшыся з рэгулярнымі часцямі, ці ў крайнім выпадку тут, у беларускіх лясах, арганізаваўшы партызанскі атрад. Праўда, у гэтай сваёй агітбяседзе Сцёпа быў не арыгінальны, ён амаль слова ў слова паўтараў выказванні Васілёвага бацькі Сідара Мікалаевіча, і ўсё ж радаваўся, што гэтых разбітых, але не скораных таджыкаў, магчыма, нават выхадцаў з аднаго кішлака, гутарка яго ў нейкай меры падбадзёрыла, абнадзеіла.

— Галодныя, мабыць? — спытаў напаследак.

— Шэсць дні ягада, грыб. Хлеб нет, каша нет,— адказаў той, першы. Астатнія ў знак пацвярджэння заківалі галовамі.

Сцёпа развязаў сваю торбу, дастаў з яе вялікі праснак, што спякла яму на дарогу Васілёва маці, цётка Насця, і, адламаўшы кавалак сабе, падаў астатняе байцам. Потым, крышку падумаўшы, дастаў з торбы і сала, спалавініў яго сцізорыкам і таксама аддаў.

Галодныя байцы глядзелі на Сцёпу нейкімі вінаватабалючымі вачыма і баяліся дакранацца да такой нечакана багатай яды. Адзін нават захліпаў.

Сцёпу чамусьці зрабілася няёмка, і ён хуценька падняўся на ногі.

— Пара мне, рабяты. Бывайце.— Паціху, не надта спяшаючыся, пайшоў далей. На захад. На радзіму. У невядомасць.

* * *

Стары тракт у адным месцы сутыкаўся з шашой і перасякаў яе, каб далей кіравацца сваім даўнім напрамкам. Удзень пераходзіць шашу было рызыкоўна, а то і проста немагчыма, бо нямецкае войска рухалася ледзь не суцэльным патокам. Калі раней гэта стужка была састаўлена спрэс з танкаў, браневікоў, аўтамабіляў, то зараз рухаліся бясконцыя конныя абозы, падраздзяленні веласіпедыстаў. І што здзіўляла: пяхоты як пяхоты на шашы не было. А зрэшты, што тут было здзіўляцца: усю Еўропу падмяў пад

сябе Гітлер, усю яе тэхніку ваенную і неваенную заграбастаў і паставіў на службу сваёй арміі. Лацвей яму цяпер...

Каб перайсці шашу і не сустрэцца нос у нос з якімнебудзь зацятым фашысцікам, трэба было чакаць ночы. Бо ўжо пад вечар рух на шашы заміраў, немцы разбівалі ўзбоч дарогі бівакі, гатавалі вячэру і клаліся спаць. Па шашы няспешна праходжваліся толькі вартавыя.

Самая зручная часіна для пераходу. Толькі б не напароцца выпадкова на бівак.

У вячэрніх прыцемках Сцёпа заўважыў непадалёк ад шашы жаночую постаць. Жанчына сядзела за густым кустом, павярнуўшыся ў бок дарогі. Нячутна наблізіўся, прысеў на кукішкі побач. Жанчына рэзка крутнула галавой, войкнула. Сцёпа моцна сціснуў яе за плячо:

— Ц-с-с...

Жанчына ўперылася ў яго поглядам доўгім-доўгім, пранізліва-ўважлівым, дапытлівым, потым прашаптала:

— Ці я сплю, ці блюзню? Ты не Сцёпа часам, што летась у дзевятым вучыўся? Гарманісты...

— Ён самы,— разгублена адказаў хлопец.— А вы адкуль мяне ведаеце?

— Вы... ведаеце...— перадражніла жанчына.— Я ж маладзейшая за цябе. Летась восем класаў скончыла, ну і падалася ў Магілёўскае культасветвучылішча. Цяпер дамоў іду. Анюта я, з Матылянкі. Можа, помніш, як у вас, у дзевятым, выпускны вечар быў, то ты перадаў свой гармонік Лёню Кавалёнку, што з Падваложкі, і мяне на вальс запрасіў?..

— Не, не памятаю...— збянтэжана прызнаўся хлопец.

— Дзе там. Як з'явілася на тым вечары маладзенькая настаўніца з Ганакоў, наезджая, дык ты на нас, сваіх, болей нават не глянуў. Усё з ёй ды з ёй.

— А гэта помню. Надзея яе звалі, а прозвішча Гурыновіч. Дзе-то яна зараз?

— Перапісваліся?

— Не-а. Рассталіся мы неяк не па-людску. Я вінаваты быў. А потым дурны гонар загаварыў: маўляў, не буду пісаць, хай знае. Ну і каму сагразіў, ідыёт.

— Кахаў?

— Не ведаю. Здаецца, нешта было. Нешта такое кволае, крохкае, што трэба берагчы, мацаваць. Я ж не захацеў абмяжоўвацца нясмелымі пацалункамі, ну і грубасцю сваёй нечакана спудзіў пачуццё, якое толькі нараджалася...

— Прыгожа гаворыш,— адзначыла Анюта.— Як і не

хлопец усё роўна,— і нешта сама сабе ціхенька засмяялася.— Давай сачыць за дарогай. Сцямнее скора. Пайшлі бліжэй.

Перабраліся цераз шашу без якіх-небудзь прыгод і ўскладненняў. Адышоўшыся на ладную адлегласць, падшукалі зацішнае месцейка для начлегу. У Анюты аказалася лёгкая байкавая коўдра, у Сцёпы неразлучнае семізоннае, як ён называў, паліто. Коўдру пад ніз, паліто наверх — каралеўская пасцель. Калі ляглі, Анюта ўсім целам прыгарнулася да Сцёпы, горача дыхнула ў вуха:

— Пацалуй мяне. Крэпка-крэпка...

Сцёпа адчуў, як усё цела яго нібы праняла токам. Зорнае неба за высокімі шатамі дрэў гайданулася і павольна паплыло, завалілася ўбок... Сціх пошум ветру. Замоўклі птушкі.

* * *

Пасля ночы, якая абодвум амаль не дала заснуць, моцна хацелася есці. У Сцёпы, акрамя небагатай рэшты сала, у торбе больш нічога з яды не было. У Анюты ж аказаўся ледзь не поўны мяшэчак жытных сухароў, запалкавы карабок солі і паўпачка колатага цукру. Вырашылі, перш чым ісці далей, назбіраць грыбоў — а трапляліся яны, летнія баравікі-каласавікі, на кожным кроку — і стушыць. Пасудзіна, салдацкі кацялок, у Анюты была.

Цяпельца разводзіць не баяліся. Тонкія, сухія, як порах, сучкі, галінкі гарэлі абсалютна бяздымна.

Грыбная тушонка атрымалася надзіва смачная.

— Ну і малайчына ты, Анютка, кухарка — залатыя рукі,— хваліў дзяўчыну Сцяпан.— Дарэмна ў культасвет падавалася, трэ было ў кулінарнае. Дапраўды,— і летуценна закончыў:—Чайку б цяпер ліпавага або з мятай. А лепш за ўсё малачка.

— Эйш чаго захацелася маленькаму,— гарэзліва ўскінула доўгія чорныя вейкі Анюта.— Чаго, мілы, не будзе, таго не будзе. А вось крынічнай вадзіцы з цукрам зараз нап'ёмся. Я з тае крынічкі для грыбоў ваду брала. Пайшлі.

Удваіх — не аднаму. Не так вусцішна ісці па густым лесе, ды і час за гаворкай бяжыць непрыкметна, а з ім як бы скарачаецца і адлегласць.

Людзей сустракалася нямнога. Усё больш ваенныя. Разміналіся моўчкі. Потым паказаўся мужчына ў цывільным. Без шапкі. На левай руцэ компас, цераз плячо — цяжкаватая процівагазная сумка. Прыпыніўся, спытаў, ці не шныпа-

рацъ па лесе немцы. На пытанне, што дзеецца там, куды ідуць Сцёпа з Анютай, адказаў коратка:

— Чыста пакуль. Толькі ў Бярэзані гарнізон. Густы.— І пайшоў далей.

«Густы гарнізон. Што б гэта магло значыць? Хутчэй за ўсё там процьма немчуры. Няйначай. Стратэгічная дарога, рака, мост»,— падумаў Сцёпа і звярнуўся да Анюты:

— Куды навострым лыжы? Цераз Бярэзань, дзе немцы, ці ніжэй па рацэ? У Ядліне да вайны штогод хадзіў паром. У Божыне таксама.

— Будзем трымацца Ядліны,— не задумваючыся адказала Анюта і дастала з-за пазухі камсамольскі білет.— Во, бачыш што ў мяне. Знойдуць — заб'юць. А я жыць хачу.— І прытулілася да Сцёпавага пляча.

На пераправе ім здорава пашанцавала. Не давялося крычаць — надрывацца цераз раку, завучы перавозчыка. Паром стаяў на прыколе якраз на левым беразе, і пастух з дапамогай хлапчука-падпаска ўзганяў на яго рэшткі сялянскага статка. Большасць яго ўжо была перавезена на той бок, і каровы разбрыдаліся па жоўтапясчаным касагоры кожная ў свой хлеў.

Калі пераехалі і ўзабраліся па сыпучым пяску на вясковую вуліцу, Сцёпа паказаў на адну стараватую хаціну:

— Тут жыве адна знаёмая. Можа, зойдзем?

— Не Надзька твая, Гурыновіч? — не без рэўнасці ў голасе пацікавілася Анюта.

— Ды не. Зінка. Яны з маёй цёткай Нінай дружылі. Вось я і знаю яе.

— Пайшлі.

Зіна была дома. Адна. Бацькі недзе завіхаліся па гаспадарцы. Ад яе Сцёпа з Анютай пачулі жахлівую навіну.

Недзе на чацвёрты ці пяты дзень вайны многія настаўнікі Бушавіцкай школы, дзе вучыліся не так даўно Сцёпа і Анюта, ды і Зіна канчала там сем класаў, атрымалі мабілізацыйныя лісткі. Ім трэба было з'явіцца ў Бярэзаньскі райваенкамат. Але як паведамілі настаўнікам па тэлефоне, ваенкамат ужо эвакуіраваўся, а дакладней, перабраўся за раку, па чутках, у мястэчка Пагост. Вось настаўнікі, фізік Барысевіч, біёлаг Зуеўскі, мовавед Караткевіч, Мішка-фізкультурнік, і рушылі туды, на Пагост. Дарогу выбралі цераз Божын, што недалёка ад Ядліны, кіламетры на два ніжэй па рацэ. Там таксама ёсць паром, і там настаўнікі рашылі пераязджаць на левы бераг. Народу на паром набралася столькі, што ён ледзьве трымаўся на плаву. Цывільных было

мала, бадай, толькі бушавіцкія настаўнікі ды сам паромшчык, а ўсе астатнія ваенныя — камандзіры і байцы з разбітых часцей. І вось толькі паром выйшаў на сярэдзіну Бярозы, як з таго, левага, берага густа затрашчалі аўтаматы. Гэта быў нямецкі дэсант. Людзі скакалі ў ваду, ныралі, але ніводнаму выратавацца не ўдалося. Праз дзень ці два, трохі ніжэй па цячэнні, у Перавозе, мясцовыя жыхары вылоўлівалі і хавалі трупы. Дакументы забітых перадалі ў сельсавет. Сярод іх былі і дакументы ўсіх бушавіцкіх настаўнікаў.

Невясёлай была далейшая дарога ў Сцёпы і Анюты. Не радавалі і духмяны хлеб з маслам, што дала з сабой Зіна. З галавы не выходзіла, як трагічна кончылася жыццё любімых людзей.

За Ядлінай ляжала шырокае роўнае поле. Гэта быў аэрадром. За ім, калі перайсці кіламетровую паласу сасновага лесу, знаходзіўся Лук'янаў хутар, дзе Сцёпа нарадзіўся і правёў сваё маленства. Адсюль, з хутара, ён любіў бегаць на аэрадром глядзець вечарамі кіно. Праўда, аэрадром увосень трыццаць дзевятага перастаў дзейнічаць. Самалёты і ўсю гаспадарку перамясцілі некуды ў Заходнюю Беларусь. А неўзабаве не стала і хутара. Дзед Лук'ян прадаў дом-пяцісценку ў Бярэзань, а сабе купіў хату ў суседняй вёсачцы Рачыборку. Ад хутара застаўся толькі каменны падмурак, змацаваны цэментам, ды яма сярод былога двара, дзе быў некалі калодзеж. А яшчэ, наводшыбе, стаяла пуня, у якой звычайна захоўвалі сена. Яе чамусьці не чапалі, хаця ўсе астатнія надворныя пабудовы — свіран, кароўнік, канюшню, свінарнік, лазню, гумно — усё перавезлі ў вёску, на калгасны двор.

Адсюль, ад хутара, да дому было рукой падаць. Сцёпу мераных чатыры кіламетры, а Анюце — шэсць. Гадзіна хады.

Але ўжо добра звечарэла, і рашылі далей сёння не ісці і заначаваць тут.

Сцёпа сеў на цёплы камень падмурка, аблакаціўся. Перад вачыма паплылі затуманеныя гадамі малюнкі дзяцінства. Да горла падступіў тугі, даўкі камяк. На вочы навярнуліся слёзы.

— Ты што, Сцёпка, засумаваў раптам? Не рады, што трапіў на дзедава адонне? — села побач, прытулілася Анюта.

— Як табе сказаць? — пракаўтнуўшы даўкі камяк, ціха адказаў хлопец.— Тут жа было ў мяне тое, што ўжо ніколі-

ніколі не вернецца. Ні паходаў у Старыну па арэхі, ні лоўлі ракаў вунь у той рачулачцы, ні кукавання зязюлі, ні цвітучай чаромхі пад акном... Нічога гэтага больш не будзе. Ніколі. Я толькі зараз гэта зразумеў. Раптоўна неяк. Калі ўбачыў вось гэты мёртвы падмурак...

Анюта пяшчотна пагладзіла яго па плячы, ціха прамовіла:

— Які ты... нейкі...— Памаўчала, паднялася.— Ты пасядзі трошкі яшчэ, а я сушняку збяру, ды яшчэ, можа, грыбоў знойдзем. Павячэраем.

— Грыбы? — Сцёпа падскочыў як на спружынах.— Давай тваю сумку. Зараз.

— І я з табой.

Адразу за падвор'ем рос немалады ўжо бярэзнік з купкай елак у цэнтры. Невялікі гэты лясок чамусьці называўся Пастаўнікам. У Пастаўніку Сцёпа яшчэ ў дзяцінстве меў надзейныя мясціны, дзе пастаянна раслі грыбы. На гэтыя мясціны і павёў ён дзяўчыну. Не падвёў Пастаўнік свайго даўняга сябра. За адну мінуту Сцёпа з Анютай набралі паўнюткую сумку крамяных баравікоў.

Крынічка, што спрадвеку бруілася з-пад магутнага дуба ў канцы агарода, не зарасла, не зацягнулася ілам. Вада ў ёй была ўсё такая ж смачная і сцюдзёная, як і некалі.

За вячэрай Анюта заўважыла:

— Дзіўная рэч — гэтыя грыбы. Стушылі мы тады, пад'ела я і яшчэ зараз есці не вельмі хачу.

— Я недзе чытаў, што па каларыйнасці баравік не ўступае ялавічыне,— пагадзіўся з ёю хлопец і тут жа дадаў: — Але ты не ўлічваеш, што не галодныя мы яшчэ і таму, што Зінка нас няблага пачаставала.

— Зінка.— Анюта адвярнулася.— Упісваў за абедзве шчакі і вачэй не зводзіў са сваёй Зінкі.— Прызналася: — Я ўжо думала, што застанешся ў яе, дык і ў горла нічога не лезла...

Сцёпа прыцягнуў яе да сябе, абняў:

— Дурненькая ты... Усё роўна што дзіця малое...

* * *

Бушавічы, дзе жылі маці і Сцёпаў маленькі брат Янік,— вялікае сяло, а дакладней, мястэчка. Сяло — гэта ў афіцыйных дакументах. А мястэчка — назва, якая спакон веку жыве ў народзе. Мястэчка гэта лічылася своеасаблівым цэнтрам сярод навакольных вёсак. Тут знаходзіліся сельса-

вет і пошта, невялікая бальніца і аптэка, дом сацкультуры і школа-дзесяцігодка, сельмаг і розныя дробныя крамы, а яшчэ вадзяны млын, драўляная царква і мураваны касцёл. На местачковай плошчы амаль кожную нядзелю збіраліся на базар людзі з бліжэйшых вёсак. Гандлявалі ўсім — самаробным посудам з гліны і дрэва, свістулькамі, ледзянцамі на палачках, даматканымі ручнікамі і абрусамі, вязанымі з воўны рукавіцамі і шкарпэткамі і самымі разнастайнымі прадуктамі з сялянскага двара: пачынаючы ад ружаватага, з мясной прораззю сала і канчаючы семкамі-гарбузікамі.

«Цяпер, канешне, ніякіх базараў не будзе,— сам сабе падумаў Сцёпа.— Замрэ ўсё, затоіцца, пакуль ідзе вайна». Хлопец адчуў, што з кожным крокам набліжэння да мястэчка яго ногі робяцца нібы ватныя. Ён разумеў, што гэта ад хвалявання, што ісці трэба спакойна, бо ён ужо не маленькі, што спазнаў сябе нават як мужчына, і ўсё ж нічога з сабой зрабіць не мог.

Зайшлі на старыя могілкі. Селі на камень. Сказаў:

— Слухай, у цябе цукар яшчэ застаўся. Дай мне два кавалачкі. Для брата. Маленькі ён. Пяць гадоў...

— На,— хуценька дастала пачак Анюта.— Бяры ўвесь.

— Не, не,— запярэчыў Сцёпа.— У цябе ж, мабыць, таксама нехта ёсць малы дома. Чакае.

— Ёсць. Сястрычка. Але ёй ужо цэлых дзесяць. Вялікая.

— Усё роўна будзе чакаць гасцінца.

Падзялілі цукар папалам, дамовіліся аб сустрэчы. Анюта павярнула ўлева, на сваю Матылянку, а Сцёпа пакрочыў да свайго дома. Ён стаяў якраз насупраць пошты, амаль у цэнтры. Купіў яго цяпер ужо нябожчык айчым за тры гады да вайны. Купіў, неўзабаве захварэў на скарацечныя сухоты і памёр. Вось і застаўся Янік напалавіну сіратой. У Сцёпы ж бацька быў жывы. Ваенны ўрач у бабруйскім гарнізоне. З маці яны развяліся, калі Сцёпу не было і чатырох. Хлопец зрэдку перапісваўся з ім, збіраўся, здаўшы сесію, пад'ехаць у Бабруйск, ды не выйшла вось.

Вуліца была зусім пустая, бязлюдная, а вось з плошчы, разам з парывамі ветру, далятаў гоман, асобныя чалавечыя галасы. Што б гэта значыла? Мітынг які ці, можа,— чаго на свеце не бывае! — базар? Калі падышоў бліжэй, убачыў: плошча спрэс застаўлена жоўта-зялёнымі нямецкімі машынамі. На такія ён нагледзеўся яшчэ там, каля Бялыніч. Ля машын няспешна расхаджвалі адкормленыя, без шапак

і амуніцыі салдаты. Яны гучна перамаўляліся, з нечага на ўсё горла рагаталі, ігралі на губных гармоніках. На яго, Сцёпу, ніхто з іх не глядзеў. І хлопец хутчэй шуснуў у брамку. Маленькі Янік быў дома адзін. Змарнелага, учарнелага ад сонца, больш за месяц няголенага Сцёпу хлопчык не пазнаў і, калі той працягнуў да яго рукі, каб падняць, горка заплакаў. Ляснула клямка, і ззаду пачулася:

— Што ж вы дзіця пужаеце?

Сцёпа павярнуўся і ўбачыў маці. Узбуджаную, напалоханую. Зрабіў крок да яе. Але маці адступіла назад, прыперлася спіной да дзвярнога вушака і выставіла наперад рукі:

— Не чапайце мяне, а то закрычу...

— Мама...— ціха сказаў Сцёпа.— Гэта ж я... Ну, сын твой...

Маці яшчэ колькі часу нядумна глядзела на яго, потым у нейкае імгненне вочы яе засвяціліся радасцю, і яна кінулася Сцёпу на шыю.

— Сыно-о-ок!..— не сказала, а выдыхнула наўзрыд.

Потым, крыху супакоіўшыся, разгублена засмяялася:

— Гэта ж трэба, га? Роднага сына не пазнаць... Скажаш людзям — не паверацъ...

Збегаўшы з Янікам на рэчку і пераапрануўшыся ва ўсё чыстае, Сцёпа пачаў шукаць у верхняй шуфлядзе камоды айчымаву брытву. Ад краю яе не было, сунуў руку далей, пад клуначак з шарсцянымі ніткамі для вязання, і намацаў нешта халоднае, металічнае. Зірнуў: пісталет ТТ. Запытальна павярнуўся да маці, якая завіхалася ля прыпечка.

Яна засцярожліва паднесла палец да вуснаў: маўчы! — і расказала:

— Быў тут адзін камандзір. Тры кубікі. Пераапрануўся ў Пецькава, а сваё, там у ніжняй шуфлядзе ляжыць, пакінуў. Сказаў, хутка прыйдзе, забярэ.

— Нельга, мамуся, такія рэчы ў хаце трымаць. Я перахаваю. А стрэльбу куды дзела?

У айчыма была неблагая бярданка дваццатага калібру.

— У рэчцы ўтапіла. На чорта яна. І радзіва туды кінула. Як Харлановіч аб'явіў, што радзіва і ружжо здаць у воласць, я і выкінула...

— Ну і ну! — засмучана прамовіў Сцёпа.

Пісталет ён тут жа ўзяў у кішэнь і, зайшоўшы ў хлеў, глыбока засунуў у саламяную страху. А як вярнуўся ў хату, маці пальцам паманіла яго:

— Ружжо і прыёмнік я аддала ў Віляцін Валодзю Якім-

чыку. Так што не злуйся. Не думай, што маці твая такая ўжо дурная. Скулу яму, прышэльцу паганаму, а не ружжо. Хай лепш нашым паслужыць.

— І набоі аддала, порах, кулі?

— Усё-ўсё чысценька аддала Валодзьку.

— А калі спытаюць, дзе ўсё дзелася: стрэльба, прыёмнік?

— А хто гэтыя штукі ў нас бачыў? Ніхто. Толькі Янік. От яму я і ўнушаю, утапіла. Гэта калі спытаўся быў. А цяпер дык і забыўся, мусіць.

— Дарэчы, хто такі Харлановіч?

— Гэта ж у нас ужо воласць зрабілі, там, дзе сельсавет быў. Ну дык Харлановіч за старасту. Немцы паставілі. Ён з Ядліны родам. Перад самай вайной з турмы выпусцілі. За зладзейства сядзеў, недзе недалёка ля Оршы, ці што. Нарэшце, кажа, наша ўзяла. Хоць пажывём па-людску...

— Пажывуць...— машынальна мармытнуў Сцёпа.

* * *

Маці высыпала з чыгунка ў міску разварыстую бульбу, паставіла на стол патэльню з яешняй. Сцёпа ўзяў відэлец. Побач прымасціўся Янік. Зняла фартух і села да стала маці.

У дзверы асцярожна пастукалі.

— Заходзьце.

Увайшлі два Колі — Коля Хімчын і Коля Харытонаў, нядаўнія аднакласнікі Сцёпы.

Паздароўкаліся. Маці тут жа прынесла дзве табурэткі, пасадзіла хлопцаў за стол. Хімчын дастаў з кішэні паўлітэрку гарэлкі і ўрачыста паставіў побач з салатай.

— Ого! — здзівіўся Сцёпа.— Адкуль гэта?

— Вельмі проста,— адказаў Харытонаў.— Як толькі начальства пакінула сельсавет, загадчык «Цэнтраспірта», ты яго ведаеш, аднарукі Дарошка, зняў з дзвярэй завалу і пазваў людзей: разбірайце, пакуль немчура не наехала. Ну мы і...

— Аж душыліся, мабыць, некаторыя, га?..

— Уяві сабе, што ніякіх эксцэсаў не было. Ні тут, ні ў сельмагу, ні ў прадуктовай краме. Людзі спакойна, без прагнасці, разабралі ўсё, што можна было панесці, і пахавалі дома. Каб немцам не дасталося. А вернуцца нашы, усё назад аддадуць.

— А гэту ж ужо не аддасце? — паказаў Сцёпа на бутэльку.

— Тут, братка, асоб стацця. Сябра сустракаем. Паложана. Лічы, што купілі за свае кроўныя,— весела засмяяўся Хімчын.

— Аптэку таксама разбандзерылі?

— Не, аптэку, дакладней, усё каштоўнае з аптэкі, Карпіновіч перадаў у надзейныя рукі. Мы ведаем каму. Засталіся там адны толькі пустыя баначкі-скляначкі.

— «Мы, мы»,— перадражніў Сцёпа.— Хто вы такія — мы? І наогул, як вы даведаліся, што я вярнуўся? На вуліцы не было ні душы. Толькі немцы на плошчы. Дык і яны, мабыць, мяне не заўважылі.

— У нас на ўсіх вуліцах дазоры,— сур'ёзна паясніў Харытонаў.— Усіх чужакоў засякаем.

— Дык я, па-вашаму, чужак? — роблена абурыўся Сцёпа.

— А хто цябе ведае? Пажывём — пабачым. А пакуль давай вып'ем па маленькай.— Хімчын пачаў адкаркоўваць бутэльку.— Дайце нам, мамаша, кілішкі. Вось вып'ем ды паталкуем, як цыганка казала, што было, што будзе і чым сэрца заспакоіцца.

Піць гарэлку хлопцы не ўмелі. Ды, па праўдзе кажучы, і не пілі яе яшчэ ні разу. Толькі на выпускным вечары два Колі ўпотайку ад настаўнікаў прыкладаліся былі для храбрасці да нейкага рублёвага віна. Ніякага эфекту. А Сцёпа і таго не зведаў. Праўда, адзін раз паспытаў у Магілёве піва. Яно яму не спадабалася: зрабіў два глыткі, і адразу занудзіла.

Але тут быў нейкі асаблівы выпадак, ды і час такі, што пара ўжо ім развітвацца з дзіцячымі прывычкамі. І хлопцы нязграбна чокнуліся, потым, душачыся, праглынулі пякучую вадкасць. Маці хуценька паставіла на стол конаўку халоднай вады.

— Запіце.

Хлопцы запівалі, хукалі, выціралі слёзы. Потым Хімчын рашуча заткнуў бутэльку коркам і падаў маці:

— Хай яна спрахне!.. Схавайце.— Паказаў на кілішкі.— І гэта прыбярыце.

Паснедаўшы, хлопцы не згаворваючыся пайшлі да рэчкі. Рэчка Уса, што працякала цераз Бушавічы, была нешырокая і неглыбокая. Толькі ў самім мястэчку люстэрка яе воднай гладзі разлівалася гектараў, можа, на шэсць. Тут, яшчэ задоўга да рэвалюцыі, нейкі прадпрымальны купец перагарадзіў яе дубовай плацінай і ўзвёў двухпавярховы вадзяны млын з двума памольнымі паставамі і крупадзёркай. Млын гэты за год да вайны згарэў. А плаціна засталася.

І шырокая запруда перад ёй засталася. Летам тут было раздолле для купання. А зімой — для катання на каньках.

Хлопцы аблюбавалі лазовае кустоўе, селі, спусціўшы ногі да вады. Хімчын дастаў з нагруднай кішэні пачак «Звездочки», працягнуў сябрам.

— Таксама — з магазіна? — пацікавіўся Сцёпа.

— Не. На Лысай гары знайшоў. Цэлую скрынку, нераспячатаную,— адказаў Хімчын.

— А яшчэ што там было, на Лысай гары?

— Было тое-сёе,— хітравата сказаў Харытонаў. Але што іменна, удакладняць не стаў.

Дзелавіта пераклікаліся ў зарасніку птушкі, ціха шамацела пад цёплымі парывамі ветрыку лістота, рабілася і зноў разгладжвалася вада на запрудзе.

Харытонаў падсунуўся бліжэй да Сцёпы:

— Дык расказвай, як там было, як здаў экзамены за першы курс, як дадому дабраўся. А чаму дамоў, а не на ўсход, можаш не гаварыць. Мы тут таксама пабеглі былі ў Бярэзань, на фронт прасіцца. Адмахнуліся ад нас, як ад мух назойлівых. І ў райкоме камсамола не памаглі. Сказалі сядзець пакуль дома...

Слова за словам, завязалася ажыўленая гаворка. Сцёпа расказаў, як развітаўся з Алёшам Бабіновічам, іх агульным сябрам, як быў «ястрабком», як потым здаваў у падвале інстытута педагогіку, а непадалёк ішла перастрэлка патруля з лазутчыкамі, як трапіў быў па дарозе дамоў пад бамбёжку. Выклаў усё як на духу. Нічога не сказаў толькі пра Анюту з Матылянкі. Гэта было глыбока інтымнае, яго, толькі яго, Сцёпава, і яе, Анюціна. Усім іншым, нават самым блізкім сябрам, да гэтага не павінна быць справы.

У сваю чаргу запытаў хлопцаў, як тут, у Бушавічах, успрынялі людзі вестку пра вайну, што ўвесь гэты час рабілі яны самі.

Калі на першую частку пытання хлопцы адказвалі наперабой і без запінкі, з рознымі цікавымі падрабязнасцямі, то на другую — адмоўчваліся. Так цягнулася мінут, можа, пяць.

— Вам што, цяляты языкі аджавалі? — не выцерпеў Сцёпа.— Ці ў вас якая тайна?

Харытонаў адказаў пытаннем:

— Дзе твой камсамольскі білет?

— А-а-а... Вунь яно што. Складанчык ёсць? Дай.

Сцёпа адкасаў паясніцу, спрытна чыркнуў па нітках і дастаў зеленаватую кніжачку з сілуэтам Леніна.

— Во, глядзіце.— Адгарнуў лісток.— І ўзносы за чэрвень заплачаны.

Хлопцы з палёгкай уздыхнулі.

— Малайчына. Цэленькім захаваў. І мы свае зберагплі, не паспяшаліся спаліць, як некаторыя,— пацямнеў з твару Харытонаў.

— Хто гэта такі? — аж падхапіўся з месца Сцёпа.

— Ды землячок твой рачыборскі. Вулёк. Вальдэмар Антаневіч. Як немцы прыйшлі, у нас на вачах спаліў, дэманстратыўна.

Сцёпа не мог даць гэтаму веры. Вулька ён добра ведаў. Калі яшчэ жыў на хутары: амаль штодня бегаў да яго ў вёску. У Вулька быў дэтэктарны прыёмнік, і яны па чарзе слухалі Мінск. Потым разам рашалі найбольш складаныя задачы. А той вечар, гэта было ўжо, калі канчалі восьмы клас, той вечар хіба можна выкрасліць з памяці? Да іх у клуб упершыню прывезлі гукавое кіно. «Юность Максима». Яны з Вульком выйшлі тады з клуба нібыта п'яныя. Сцёпа ў той час жыў ужо тут, у Бушавічах, але не расстаўся з сябрам, пайшоў праводзіць. Ішлі па начной дарозе праз лес і на ўсю моц спявалі:

Крутится, вертится
Шар голубой...

Затым праспявалі «Орленка», «Там, вдали, за рекой» і яшчэ нешта баявое, юнацкае, рэвалюцыйнае. Сцёпа вярнуўся дамоў, калі ўжо світала...

І вось такая нечаканасць. Дзікая, незразумелая.

— Як жа гэта ён так, га? Як ён мог? Мы ж разам атрымлівалі камсамольскія білеты. Як радаваўся ён!..

— Мяняюцца абставіны, мяняюцца і людзі,— глыбакадумна выдаў Хімчын.

— Сакрат,— крыва ўсміхнуўся Харытонаў.— Усё даволі проста. Тут у нас паліцэйскі ўчастак ствараецца. Вулькоў дзядзька, Антаневіч Ігнат, прызначаны начальнікам. Ходзіць ужо з павязкай на рукаве і пры рэвальверы.

— Ігнат... Чакайце. Дык ён жа сядзеў, нешта такое з белапольскай акупацыяй звязана, дзед мой гаварыў. Пісьмы прысылаў аж з Сібіры.

— Відаць, адсядзеў сваё. А можа, проста ўцёк,— адказаў Харытонаў.— Глядзі, і пляменніка падгаварыў расквітацца з камсамолам. Можа, заўтра ўбачым твайго Вулька з паліцэйскай павязкай.

— Ён цяпер такі мой, як і твой,— агрызнуўся Сцёпа.— А такое, ну, здрады, дараваць яму нельга...

Два Колі моўчкі кіўнулі.

Гэта быў першы ў жыцці суровы прысуд, які вынеслі хлопцы. Яны вынеслі яго свайму нядаўняму сябру, нядаўняму аднадумцу, Вальдэмару Антаневічу. Смерць! За грубую знявагу святых ідэалаў, за здраду Радзіме.

Доўга сядзелі хлопцы моўчкі. На душы кожнага было так пагана, што не хацелася ні гаварыць, ні нават курыць.

— Можа, скупнёмся? — прапанаваў Сцёпа.

— Не, лепш вечарам. Можа, немцы к таму часу з'едуць.

— А пры чым тут немцы? — не зразумеў Сцёпа.

— А пры тым. Пульне для пацехі і будзе смяяцца: маўляў, дыверсанта застрэліў, рэчку хацеў пераплысці... Застрэлілі ж у мінулы наезд дзядзьку Хведара, суседа твайго. Сядзеў на даху, комін рамантаваў, вось і бабахнулі. Савецкі разведчык, маўляў, выглядае, якая часць рухаецца. І Міну Зарэцар, помніш, круглая выдатніца была, забілі. Убачылі, што яўрэйка, і... Дарэчы, ты ведаеш, што ўсім яўрэям местачковым жоўтыя латкі панашывалі на верхняе, спераду і ззаду?..

— Не...

— Вечарам, калі немцы паедуць, убачыш. Цяпер баяцца выходзіць.

Навіна за навіной. І ўсе чорныя, цяжкія, аглушальныя... Сцёпа раззлавана сказаў:

— І вы нічога не робіце ў адказ? Так вось і сядзіце склаўшы ручкі. Хай другія ваююць... А я перасяджу, перахаваюся так-сяк. А там глядзіш, і нашы вернуцца.— Падняўся. Усталі і два Колі.— Што вам у райкоме камсамола сказалі?

— Не гарачыся, не кіпі. Зараз гэта шкодна,— шматзначна адказаў Харытонаў.— Ты думаеш, мы так проста правяралі, дзе твой камсамольскі білет?

— Не думаю.

— То-та. А ў райкоме нам сказалі так. Перадаю табе адказ слова ў слова. Мяркуючы па ўсім, вайна зацягнецца. Можа, нават на год ці болей. На фронце без вас людзей хопіць. А біць ворага можна і ў тыле. Збірайце на палях баёў і захоўвайце зброю, боепрыпасы, падбірайце надзейных таварышаў для стварэння партызанскіх атрадаў, калі ёсць прыёмнік, слухайце і распаўсюджвайце зводкі Саўінфармбюро. Неўзабаве да вас наведаецца наш упаўнаважаны. Усё. І даў пароль.

— Што ж, для пачатку няблага. Збіралі ўжо зброю?

— Было.

— А зводкі запісвалі?

— Таксама было.

— Прыёмнік адкуль?

— Твой Б-1 прыстасавалі да аўтамабільнага акумулятара. У Віляціне ён, у Валодзькі Якімчыка.

— Ведаю. Маці сказала. Бярыце і мяне пад свае знамёны. Спадзяюся — не падвяду. А яшчэ ёсць хто з намі?

— Хапае. І ў тым жа Віляціне, і ў Новінах, і ў Падвалоўжцы.

— Цудоўна! А яўрэйскія хлопцы як?

Харытонаў толькі безнадзейна махнуў рукой, а Хімчын змрочна прагаварыў:

— Дзела труба з гэтымі хлопцамі. Талдоняць, што ім трэба нейкі крыж пранесці, што лёс іх прадвырашаны даўно і супраціўляцца бескарысна... Не разумею я іх ні кропелькі. Толькі Шолам Гантварг і Лейба Слуцкі ўжо на трэці дзень вайны некуды пліганулі. А астатнія сядзяць у сваіх клапоўніках і чакаюць доўбні. Ты з імі асцярожней, асабліва з Іцкам. Ён у іх як бы галоўны які рабін. Усё талмуды чытае. Той можа нават паліцыі выдаць. Чаго вочы акругліў? Ён жа нейкі памешаны, ненармальны...

— Ну і выдаеш ты на-гара́. А зрэшты... Як ты казаў? Пажывём — пабачым?

Доўга яшчэ гаварылі хлопцы. Садзіліся, уставалі, хадзілі, потым зноў садзіліся. Разышліся па дамах аж пад вечар.

Немцы ўжо з'ехалі з мястэчка. Падаліся ў бок шашы, мабыць, на Бярэзань. На вуліцы і плошчы з'явіліся рэдкія прахожыя. Сцёпа ўпершыню ўбачыў мечанага з жоўтымі латкамі на пінжаку чалавека. Гэта быў Навум Карасік, вядомы на ўсю акругу каваль — залатыя рукі. Ён пздароўкаўся кіўком галавы і, не звяртаючы ўвагі на Сцёпаў настойлівы жэст спыніцца, паспешліва прайшоў міма. Дома маці сказала, што размаўляць праваслаўным з яўрэямі сурова забараняецца. У лепшым выпадку паліцай, калі ўбачыць, апярэжа нагайкай, а пад ліхі настрой і застрэліць можа. І адказваць за гэта не будзе. Ды і перад кім адказваць?

* * *

Як і дамаўляліся, назаўтра хлопцы яшчэ прыцемкам неўпрыкмет выслізнулі з мястэчка і падаліся ў лес. Меркавалі пабываць на Мар'іным балоце. Гэта недалёка ад шашы Мінск — Магілёў. Па чутках, у канцы чэрвеня там адбыўся кароткі бой нашых з разведвальна-дэсантным нямецкім

атрадам. Было забіта і ўтоплена ў балоце больш за сто чужынцаў. Трафеі як быццам чырвонаармейцы не падбіралі. Падабралі толькі трохкалёскі-матацыклы з кулямётамі, на якіх газавалі варожыя разведчыкі ў бок Бярэзаня.

Па дарозе хлопцы наведаліся ў Віляцін, да Валодзі Якімчыка. Віляцін — невялікая, на дванаццаць хат, вёсачка. Яна прытулілася да самага лесу. Вуліца — суцэльны зялёны тунель з векавых ліп і клёнаў. Нават у самую спёку на ёй панавала прыемная прахалода. Валодзева хата стаяла першай. Заходзіць у хату хлопцам не спатрэбілася. Валодзя якраз быў на двары, калоў пад павеццю дровы.

Убачыўшы Сцёпу, Валодзя моцна абрадаваўся. Парывіста абняў сябра сухімі дрыготкімі рукамі асуджанага на кароткае жыццё лёгачніка, пацалаваў у шчаку.

— Малайчына,— прагаварыў,—малайчына, што жывы вярнуўся...

— А каб не жывы? — паспрабаваў пажартаваць Коля Хімчын і, адразу ж зразумеўшы, што ляпнуў глупства, у збянтэжанасці пачырванеў.

— Не, дапраўды, я так рады,— не пакрыўдзіўся на яго Валодзя і тут жа паведаміў: — Сенька сёння ноччу прыйшоў.

Вось гэта была навіна дык навіна. Сенька быў старэйшы за хлопцаў ледзь не на два гады. Ён яшчэ з малых гадоў марыў стаць ваенным. Не прызнаваў ніякіх гульняў, акрамя як «у вайну». Добра страляў, хутчэй за ўсіх у школе бегаў шасцідзесяціметроўку, умеў круціць на турніку «сонца». Для загартоўкі кожную раніцу зімой і летам абліваўся да пояса халоднай вадой. Пасля сямі класаў падаў заяву ў Калінкавіцкае пяхотна-кулямётнае вучылішча і стаў курсантам. Незадоўга да вайны прыслаў Сцёпу ў Магілёў — яны зрэдку перапісваліся — пісьмо, у якім не без гордасці паведамляў, што скончыў вучобу з адзнакай і яму адразу прысвоілі званне лейтэнанта.

І вось кадравы ваенны лейтэнант Арсень Яфімавіч Баразнёнак, калі не прайшло яшчэ і двух месяцаў вайны, дома... Сцёпа нават не паверыў.

— Табе не саснілася часам? — спытаў у Валодзі.

— Ты што? — крыху пакрыўдзіўся той.— Такімі штукамі не жартуюць.

— Хворы, паранены?

— Як быццам — не. Зрэшты, я зараз паспрабую прывесці яго сюды, калі не спіць, канечне. Ён зайшоў да мяне за нейкую гадзіну да вас. Хацеў ведаць, ці ёсць у вёсцы немцы.

Сенька прыйшоў скора. Худушчы, тонкі, як стусіна, і ненатуральна прамы. Пацісnуў слабай рукой усім рукі, усміхнуўся. Па шчоках папаўзлі скупыя слёзы.

— Во як бывае, браточкі мае. Не ваяваў і адваяваўся. Прашылі мяне наскрозь. Куляй. Праўда, ні кішок, ні другіх жыццёва важных органаў не зачапіла, от толькі пазваночнік трохі... Наш палкавы лекар, ён яшчэ ў грамадзянскую быў на фронце, казаў, першы раз сустрэўся з такім феноменам. У сарочцы, маўляў, нарадзіўся. Эх! — бездапаможна скрыгатнуў зубамі.— Рабяты недзе лупяць гадаў, а я...— Сенька рыўком падняў гімнасцёрку.— Любуйцеся на ваяку...

Тонкая Сенькава паясніца была абматана шырокім бінтам. Спераду і ззаду бінт трохі гарбаціўся ад тоўстага пласта ваты. І бінт і вата былі насычаны крывёю і чарнелі страшнымі плямамі.

Самы практычны з усіх, Коля Харытонаў тут жа прыняў рашэнне:

— Ты от што, пагавары тут з хлопцамі. А я мігам у Бушавічы. Прывяду зараз Горбача. Помніш? Малады фельчар? Кульгавы? Ён на месцы. Нікуды не паехаў.

— Дабро. А то ўжо больш як два тыдні без перавязкі. Мабыць, чэрві завяліся. Свярбіць дужа.

Пакуль Харытонаў бегаў па фельчара, Сенька пастараўся сцісла расказаць сябрам сваю невясёлую адысею. Пасля заканчэння вучылішча іх, маладых камандзіраў, размеркавалі ў розныя часці. Сенька трапіў пад Баранавічы. Для пачатку яго прызначылі камандзірам кулямётнага ўзвода. Паабяцалі пазней даверыць роту.

Там, пад Баранавічамі, і вайну сустрэў. Збіраліся перадыслацыравацца пад Брэст, ды не паспелі, немец апярэдзіў. З цяжкімі баямі адступалі. Спачатку пад Мінск, а калі Мінск паў, пад Чэрвень. Цяжка параніла Сеньку ўжо ў родным Бярэзаньскім раёне і, дайце веры, якраз на тым месцы, дзе ад шашы адгаліноўваецца дарога на Бушавічы. Білі з засады. Безумоўна, дэсантнікі. Бо рэгулярных, асноўных нямецкіх часцей наперадзе не было...

Коля Хімчын нясмела запярэчыў:

— Слухай, усе гавораць — дэсантнікі, дэсантнікі... Адкуль тады ў іх танкі, гарматы? На парашутах спускаюць, ці што?.. Вунь ужо Смаленск узялі, а мы ўсё пра дэсантнікаў нейкіх гаворым. Прызнаўся б, што неразбярыха была дзікая ў вас, у арміі, можа, здрада нават. Вунь, кажуць, ніводзін самалёт не здолеў падняцца ў паветра, бо бензіну не было. Дык немцы бязбоязна і адпрасавалі ўсе нашы аэрадромы.

А танкі нашы дзе, хвалёныя? Глядзеў, мабыць, фільм «Трактарысты»?.. Мянташылі языкамі: маўляў, будзем біць на чужой тэрыто-о-орыі, ні вяршка зямлі не аддадзім... А аддалі тысячы, мільёны квадратных кіламетраў...

— Ну-у... раскудахтаўся. Не так усё гэта проста,— перапыніў сябра Сенька.— Немец, ён, брат, да таго як ісці на нас, усю Еўропу на калені паставіў, тэхніку якую пад сябе падабраў... Ого-го!..

— А мы дзе былі? Не бачылі нічога? Ці эшалонамі пшаніцы хацелі адкупіцца?.. Крыўдна мне, Сенька, і балюча. Падманулі нас,— нечакана хлюпнуў носам Хімчын.— Кінулі, як шчанят малых на расцярзанне...

— А ты што, вось так і будзеш сядзець, чакаць, пакуль цябе стукнуць даўбнёй па мазгаўні? — з ноткамі гневу ў голасе запытаў Сенька.

— Я не пра сябе. Я сваю дарогу вызначыў. А як быць старым, бабам, дзецям? Яўрэям, нарэшце? Чым яны вінаваты, што засталіся пакінутымі на літасць фашыстаў?..

— Не трэба занадта згушчаць фарбы. Бой ідзе не толькі на фронце. Бой ідзе і ў тыле. Ужо ідзе. Вайна, можа, трохі і зацягнецца, але будзе яна ўсенародная і пераможная для нас. Толькі пераможная,— цвёрда сказаў Сенька.

— Ды я зусім не пра тое. Я пра падман народа, усіх нас. Засіралі мазгі, а мы раты разявіўшы слухалі і ў далонькі ляскалі...

— Чорт яго ведае... Можа, у нейкай ступені ты і маеш рацыю...

З-за прысадаў паказаўся Коля Харытонаў. За ім, злёгку кульгаючы, крочыў Горбач. У левай руцэ фельчар нёс пузаты саквяж, правай абапіраўся на кавеньку.

Сенька раптам пабялеў, увесь неяк сцяўся. Папрасіў Валодзю:

— Прынясі на ўсякі выпадак халоднай вады.

Калі Горбач асцярожна разматаў бінт і зняў з Сенькавай паясніцы перавязку, Сцёпа зірнуў на аголены жывот і напачатку нават не паверыў, што ён наскрозь прабіты. Сантыметрах у пяці лявей ад пупа ружавела невялікая кропачка. Але вось Сенька павярнуўся да яго спінай, і Сцёпа адчуў, што яму робіцца млосна. На выхадзе куля пакінула такі след, што... Не, гэта страшна!.. Такую рану, мабыць, сподкам не закрыеш...

Фельчар ведаў сваю справу адмыслова. Працаваў хутка, лоўка, але без мітуслівай спешкі. Праз колькі хвілін Сенька ўжо прама, як аршын праглынуўшы, сядзеў на лаве і выці-

раў насоўкай бледны твар, на якім выступілі буйныя кроплі поту.

— Дзякуй, доктар,— ад душы пацiснуў ён руку Горбачу.— Адразу ж палягчэла. А галоўнае, свярбець перастала.

— Чарвячкі былі завяліся, таварыш камандзір...— усміхнуўся спачувальна фельчар.— Каб не яны, санітары, магло б і быць загнаенне раны. А гэта... самі разумееце, лейтэнант...

Сенька зморшчыўся. «Таварыш камандзір... Лейтэнант...» Кінуў на Колю Харытонава злосны позірк... «Балбатун!» — вылаяўся ў душы. Але не сказаў нічога. Разумеў, што, гаворачы фельчару пра параненага камандзіра, намер Харытонаў меў самы найлепшы: хутчэй, як мага хутчэй памагчы Сеньку. І праўда, збіраючыся ў Віляцін, Горбач вельмі спяшаўся.

Фельчар пакінуў Сеньку пакецік марганцоўкі, бінт, вату і пайшоў. Харытонаў хацеў праводзіць, але той адмовіўся.

— Куды ісці сабраліся? — пацікавіўся нарэшце Сенька. Ён ужо зусім ачомаўся пасля балючай працэдуры перавязвання. Нават твар паружавеў.

— Думаем палазіць па Мар'іным балоце. Мяркуючы па чутках, што дайшлі да нас пра тамашні бой з нямецкім атрадам разведкі, можна знайсці што-небудзь патрэбнае,— адказаў Хімчын.

Сенька перарывіста ўздыхнуў:

— Эх, маць часная. Каб не рана, дык бы і я з вамі...

— Каб не рана, ты быў бы ўжо недзе за Смаленскам,— сур'ёзна паправіў сябра Харытонаў.

— Твая, братка, праўда.

Сенька задумаўся, схіліў у скрусе галаву.

— Нічога, не гаруй. Знойдзецца і тут дзела. Гарачанькае,— суцешыў Харытонаў. І паглядзеў на Хімчына, Якімчыка.— Ну што, рушым? — Падаў руку Сеньку.— Папраўляйся, камандзір. На людзі надта не вылазь. У нас, у Бушавічах, ужо, брат, воласць і паліцыя.

— Ведаю. Бацька расказваў.

Па вуліцы хлопцы не пайшлі. Вярнуліся назад і пашыбавалі да Мар'інага балота па ўзлессі, парослым густым хмызняком. Першым ішоў Валодзя. Ён добра ведаў усе тутэйшыя паляўнічыя ўгоддзі. Яшчэ ў дзяцінстве разам з бацькам-егерам аблазіў. Мар'іна балота славілася сярод паляўнічых як царства дзікіх качак.

* * *

Прыйшлі на балота, калі сонца ўжо дасягнула зеніту. Пастаялі, паслухалі. Было амаль бязветрана. Вярхушкі дрэў шапталіся ціха-ціха. Ад балота слаба патыхала застаялай вадой і багуннікам. Праляцела, па-авечаму блеючы, слонка, птушка-баранчык.

Рушылі бліжэй да шашы. Валодзя, які ішоў паперадзе, раптам на роўным месцы спатыкнуўся і ледзь не паваліўся. Нагнуўся і падняў за тонкі раменьчык палявы цэйсаўскі бінокль. Асцярожна працёр падалом сарочкі шкельцы, паднёс да вачэй, пакруціў і адразу зацмокаў языком:

— Цудоўная, далажу вам, машына. Нейкі чын кінуў...

Непадалёк валялася афіцэрская шапка з высокім верхам. Харытонаў грэбліва падфутболіў яе і нечакана кінуўся ўслед. За кустом ляжаў труп нямецкага афіцэра. Ад яго ішоў невыносна цяжкі смурод. Хлопцы паспяшаліся адысціся як мага далей. Не сталі нават здымаць кабуру з пісталетам. Агідна было.

Гаварыць не хацелася, і ўвесь час шнырылі па кустоўі, што жывой сцяной аблямоўвала балота, моўчкі. Толькі калі хто знаходзіў што вартае, коратка паведамляў:

— Ёсць.

Траплячіся ўсё больш нямецкія аўтаматы сістэмы «шмайсер» ды карабіны. Зброя неблагая, нават можна сказаць, выдатная для партызан, ды вось бяда, уся яна — як бы нежывая. Немцы кідалі яе, толькі расстраляўшы ўвесь боезапас. А што такое аўтамат ці карабін без патронаў? Звычайная жалязяка...

Усе свае трафеі, акрамя бінокля, хлопцы надзейна захавалі тут жа, непадалёк ад балота. Месца схованкі пазначылі спецыяльнымі надрэзамі на кары дрэваў. Каб не блудзіць потым, як прыйдзецца забіраць.

Падаліся дадому, калі ўжо вечарэла. За доўгі спякотны жнівеньскі дзень лес прагрэўся наскрозь, ад макушкі да шэрага камля. Хлопцы прапацелі, асмяглі. У роце было суха, шурпата, нібы хто жарствы туды насыпаў.

Валодзя рашуча спыніўся.

— Не магу больш. Пайшлі да рэчкі. Тут блізка. Маленькая, ды сцюдзёная. І нап'ёмся і абмыемся.

Спусціліся метраў на сто ўніз, і за ствадамі дрэў адкрылася аксамітна-зялёная лугавіна з бліскучай нітачкай вады ў прагалах ракітніку.

Пілі доўга, з асалодай, аж да ламоты ў зубах. Тады сталі

мыцца і зноў раз за разам чэрпалі прыгаршчамі ваду і пілі.

Асвяжыўшыся, расцягнуліся ўпокат на травяністым беразе адпачыць перад дарогай. Некаторы час перакідваліся нязначнымі фразамі, пазяхалі, потым неўпрыкмет паснулі.

Валодзя прачнууўся першым. Мабыць, падступіўшы да горла сухі кашаль перарваў яго кароткі сон. Сеў, пацягнуўся і адразу глуха, як у бочку, забухаў глухім частым кашлем... На тым беразе ён раптам заўважыў барадатага чалавека. Той не хаваўся. Адкрыта, на ўвесь рост падышоў да рачулкі, спружыніста, з месца пераскочыў яе і пакрочыў прама да Валодзі. Напачатку Валодзя хацеў разбудзіць хлапцоў, потым неяк адразу пазнаў барадача і не стрымаўся, усклікнуў:

— Таварыш Шуба!

Так, гэта быў Шуба, сакратар райкома камсамола. Цяпер ужо падпольнага.

Яны сышліся, радасна павіталіся.

Сонца ўжо кранапася вострых вярхушак яловага лесу на тым баку нешырокай лугавіны. Яго белы ўдзень дыск к вечару густа пачырванеў і намнога пабольшаў. Зараз на сонца можна было глядзець не жмурачыся. Яно не сляпіла.

Хлопцы пачулі чалавечыя галасы і міжволі наструніліся. Пазналі Валодзеў голас, глухі, кашляты. У субяседніка быў добра пастаўлены барытон, не раўнуючы, як у дыктара радыё. Харытонаў, нічога не сказаўшы, імкліва кінууўся туды, на галасы.

І адразу ж пачууўся барытон:

— Во, і ён мяне нядрэнна ведае. Ці не так?

— Ой, здраствуйце, Прохар! — усклікнуў Харытонаў.— Якім ветрам да нас?

— Ваенным. Партызанскім,— пачулася ў адказ. І адразу трывожна: — А нас тут ніхто не падслухоўвае?

— А то як жа,— весела засмяяўся Харытонаў.— Вунь аж два шпіёны адразу. Хлопцы, хадзіце сюды.

Субяседнікам Валодзі аказаўся сакратар райкома камсамола Шуба. Яго ведала амаль уся моладзь раёна. Праўда, зараз пазнаць Шубу ў твар было няпроста. За няпоўныя паўтара месяца ён густа аброс рудай шчэццю і нагадваў хутчэй мястэчковага адзіночку-саматужніка, што шыюць людзям кажухі ды боты, чым камсамольскага работніка.

Павольна, раз за разам спыняючыся, калі ўспыхвала нечаканая спрэчка, пайшлі ў бок Віляціна. Шуба не даваў ніякіх пэўных указанняў, што і як рабіць у падполлі. Так, пакуль што ў глыбокім камсамольскім падполлі, усе апера-

цыі, усе акцыі неабходна праводзіць у залежнасці ад мясцовых умоў на той час, ад канкрэтных абставін. І ні ў якім выпадку не лезці на ражон, не гарачыцца. У падпольшчыкі браць толькі самых надзейных, моцных духам, валявых хлапцоў...

— І дзяўчат! — уставіў Сцёпа.

— Э-э...— крыху замяўся сакратар.— Як бы табе сказаць. Асабіста я не супраць. Толькі як бы там ні было, а жанчыны — слабы пол. Пападзецца, перапалохаецца і... усёй арганізацыі крышка. Міжволі выдасць...

— Дык што, перакрэслім факты гісторыі, калі жанчыны аказваліся намнога мацнейшымі за мужчын? — не без яхідства спытаў Сцёпа.

— А каго ты маеш на ўвазе?

— Лена Дарошка,— зрабіў крок наперад Коля Хімчын.— Варашылаўскі стралок, мае пасведчанне сястры міласердзя. Баявая, як той кажа, свая ў доску...

— Або Зінка Каваленак. Ды ў яе ж такі характар, такі жалезны, што паміраць будзе, а не прагаворыцца.

— Анюта з Матылянкі,— сказаў Сцёпа.— Магу за яе паручыцца на ўсе сто...

— Добра, добра,— заўсміхаўся, замахаў рукамі Шуба.— Чорт вас бяры. Не мне вашу арганізацыю ладзіць. Кажу толькі, глядзіце на месцы самі, не адрывайцеся ад канкрэтных абставін. І, хлопцы, на першым плане павінна быць асцярожнасць, паўсядзённая, паўсямінутная. А яшчэ пільнасць і найглыбейшая канспірацыя. Ніводзін падпольшчык не павінен ведаць усіх астатніх з арганізацыі. Дастаткова ведаць аднаго, ад сілы двух чалавек. Трымаць сувязь адзін з адным па ланцужку. Ты з Пятром, Пётр з Іванам, Іван са Сцяпанам і гэтак далей.

— А кіраўнік? Кіраваць жа арганізацыяй стане нехта адзін. Ён-то павінен ведаць усіх? — задаў пытанне Хімчын.

— Кіраўнік у вас ужо ёсць. З Мінска. Ваша зямлячка.

— Зямлячка? Жанчына? — у непаразуменні спыніўся Сцёпа.— А ты ж, сакратар, як быццам не зусім давяраеш слабаму полу.

— Без мяне прызначылі,— коратка кінуў Шуба.

— І хто яна, калі не сакрэт?

— Для вас не сакрэт. Пінская. Нявестка Івана Сцяпанавіча Пінскага, сын якога служыў капітанам.

За гаворкай дайшлі да Віляціна амаль неўпрыкмет. Шуба застаўся начаваць у Валодзі, а два Колі і Сцёпа накіраваліся на бушавіцкую дарогу.

— Здорава! — узнёсла ўсклікнуў Харытонаў.— Спружына пачынае скручвацца, сціскацца. Ох і хлабысне ж яна па гадах!.. Скора, скора... І бязлітасна!..

— Забалабоніў, паэт-трыбун,— без папроку буркнуў Хімчын.— Як пойдзем, каб не напароцца на каго з новай улады?

Харытонаў прапанаваў на Лысай гары звярнуць направа і, дайшоўшы да школьнага моста, разысціся: Сцёпа — берагам рэчкі аж да свайго агарода, а яны, два Колі, цераз мост. Там ніводзін сабака не стрэнецца.

Так і зрабілі.

* * *

«Пінская, Пінская,— пачаў капацца ў памяці Сцёпа, калі лёг у пасцель...— А ці не тая самая гэта Паліна Васільеўна, што мінулым летам бачыў у Пінскіх?» Тады ён нечага заходзіў да Ігара. Зграбная, мілавідная маладая жанчына прыглянулася яму. Прыгажуня! Ігар тады не сказаў, што гэта жонка старэйшага брата. Але ж Сцёпа яго і не распытваў.

Ігар Пінскі. Ён быў з дваццаць другога. На два гады старэйшы за Сцёпу. Але вучыліся яны разам, у адным, восьмым, класе. Сцёпа, у той час ужо камсорг, аднаго разу прапанаваў Ігару ўступіць у камсамол. Ігар страшэнна пакрыўдзіўся, нават заплакаў ад злосці.

— Здзекуешся?!. Навошта такія, як я, камсамолу? Карлікі, неданоскі? Думаеш, не ведаю, як мяне завуць?

Гэта была праўда. У мястэчку, а часткова і ў школе, Ігара звалі або карлікам, або яшчэ балючай — неданоскам. Дасягнуўшы ў росце няпоўных паўтара метра, ён раптам перастаў расці. Бацькі спачатку не звярнулі на гэта ўвагі, потым спахапіліся, пачалі вазіць па розных дактарах, дабраліся аж да маскоўскіх свяціл, але ніхто ўжо не мог перайначыць таго, што было наканавана Ігару матухнай-прыродай.

«Як-то цяпер жыве-пажывае Ігар? Трэба заўтра ж наведацца да Пінскіх. Заадно, калі праўда, што да іх прыйшла нявестка, пазнаёміцца з ёю»,— засынаючы, рашыў Сцёпа.

* * *

Была ўжо вялікая раніца, калі маці разбудзіла Сцёпу:

— Пайду ў Рачыборак. Трэба бацькам сказаць, што вярнуўся ты і во, здаровенькі, дзякуй Богу. А то бабуля ўсе

вочы па табе выплакала: дзе ды дзе мой Сцяпурка, унучак мой любімы. Па сынах так не плача.

Сцёпа збянтэжана апусціў вочы.

— Можа, я сам схаджу...

— Не, сын. Табе няможна. Там, падобна, усе да немца перамахнулі. Вулёк, Вальдэмар нават надзеў павязку. Сама бачыла. І хто б мог падумаць!.. Такі харошы хлопец...

— Ігнат, крымінальнік, мабыць, вярбуе, а мо і пад прымусам гоніць у паліцыю...— выказаў няпэўнае меркаванне Сцёпа.

— Не тое гаворыш, Сцяпанка,— адразу адхіліла яго думку маці.— Яўрэяў пачынаюць зганяць у гета, у школу вашу. А не сакрэт жа, што амаль ува ўсіх іх ёсць золата, другія каштоўнасці. Вось рачыборцы і збіраюцца разбагацець за кошт няшчасных. Ужо зараз Ігнат назначыў першы выкуп—з кожнай яўрэйскай сям'і залаты чырвонец. Фрыда, суседка, казала. Раніцай ля калодзежа.

— І адкуль такое, мама? Здаецца ж, нашы, савецкія людзі... Многія ўжо пасля рэвалюцыі нарадзіліся...

— Адкуль такое, пытаеш? А ты ў дзеда Лук'яна папытайся. Ён табе лепш за мяне пра гэтых злыдняў раскажа.

— І навошта толькі дзед пасяліўся сярод іх? Няўжо не было дзе купіць хату ў другім месцы, хаця б і тут, у Бушавічах. А цяпер во...

— А цяпер усе адварочваюцца, не здароваюцца, толькі, як дужа прыпрэ, прысылаюць дзяцей пазычыць то сала на падмазку, то лыжку солі. У саміх жа спрадвеку нічога не было. Хутар во дзедаў у трыццатым, пад відам раскулачвання, разграбілі, расцягнулі і... не наеліся. Цяпер ёсць шанец нажыцца за кошт гэтых няшчасных з жоўтымі латкамі. Думаеш, адкупяцца яўрэі? Ды нізавошта. Выдаяць іх гэтыя Ігнаты ды Вулькі, а тады паб'юць, і ўсё тут...— Маці зірнула на ходзікі.— Дык мы пайшлі. Яніка я бяру з сабой. А ты тут глядзі. Па гаспадарцы ўсё зроблена. Снеданне ў печы.

Управіўшыся з небагатым сняданкам, Сцёпа прайшоўся па хаце, спыніўся перад кніжнай шафай. Ніхто нічога не крануў, хаця ад зімовых канікулаў мінула цэлага паўгода. Зірнуў мімаходам на гадзіннік. Дзесяць трыццаць пяць. Бадай, пара да Ігара.

У дзверы асцярожна, але патрабавальна пастукалі. Зірнуў у акно. На прыступках стаяла жанчына ў чорным. Адчыніў, не распытваючы, хто ды адкуль, запрасіў у горніцу. Жанчына села на прапанаваны стул, склала рукі на каленях і падняла на Сцёпу вялікія, надзіва маладыя вочы.

— Я вас ведаю, Сцёпа. Па расказах Ігара. Вы неяк раз летам былі ў нас. У вас такое аблічча, што запамінаецца.

— Тады і я вас ведаю. Вы Паліна Васільеўна,— трошкі пачырванеў Сцёпа. Кампліменты, асабліва з боку жанчын, заўсёды прыводзілі яго ў замяшанне. І нечакана для самога сябе спытаў: — Вам такое прозвішча — Шуба — нічога не гаворыць? — і заўважыўшы, што госця ўся напружылася, сцялася, паспяшаўся супакоіць: — Не бойцеся, мы з вамі зусім адны ў хаце. Мама з Янікам пайшла ў Рачыборак, бацькоў-дзедаў праведаць.

— А я не з пужлівых,— усміхнулася жанчына.— Толькі пытанне ваша такое, ну як бы лепш сказаць, нечаканае, зараней падрыхтаванае, ці што... Разумееце мяне?

— Яшчэ б. Сам, мабыць, здрыгануўся б у вашым становішчы.

— Добра. Калі вы ўжо тое-сёе ведаеце, будзем гаварыць адкрыта, без ніякіх кошак-мышак. Дагаворымся да чаго пэўнага, добра. А не — што ж, мы з вамі не бачыліся, не ведаем адно аднаго і тым больш ні пра што якое не гаварылі. Згода? А прыйшла я менавіта да вас, да вас першага прыйшла па той простай і, я думаю, не пазбаўленай логікі прычыне, што вы ў свой час стваралі ў школе камсамольскую арганізацыю і ўзначальвалі яе аж да ад'езду ў інстытут. Ведаю пра гэта ад Ігара.

Сцёпа паглядзеў праз акно на вуліцу, шчыльней зацягнуў фіранкі і, папрасіўшы госцю перасесці на кушэтку, прымасціўся побач.

— Давайце так, Паліна Васілвеўна. Раскажыце мне пра ўсё-ўсё... што можна, канечне. А потым і я тое-сёе паведамлю.

Пачала Пінская з расказу аб Мінску. Якім ён быў і якім зрабілі яго фашысты. Ад цэнтра засталіся толькі Дом Чырвонай Арміі, Дом урада ды оперны тэатр. Усё астатняе бомбамі зраўняна з зямлёй. Заводы і фабрыкі, школы і бальніцы, дзіцячыя сады і яслі. Карацей кажучы, няма зараз таго ўтульнага прыгожага горада, які быў зусім-зусім яшчэ нядаўна. Больш-менш уцалелі ўскраіны. Іх немцы чамусьці амаль не бамбілі.

Калі Паліна Васільеўна, вярнуўшыся з парку Горкага, дзе хавалася ад чарговага бомбавага налёту, убачыла, што ад яе дома засталася толькі вялізная груда бітай цэглы, адразу пайшла ў свой райком партыі. Ёй пашанцавала. Якраз аказаўся на месцы другі сакратар. Ён без доўгіх роспытаў, што ды як, раскрыў зялёную папку, перагарнуў

колькі аркушаў і, размерана пастукваючы па стале алоўкам, прагаварыў:

— Тэ-эк. Значыць, Пінская Паліна Васільеўна. Муж камандзір, капітан. Родам з Бушавіч Бярэзаньскага раёна.— Ускінуў вочы.— На радзіме мужа бывалі? Ведаюць вас там?

— Бывала. Ведаюць.

— Зараз жа адпраўляйцеся туды. Муж ваш прапаў без вестак пры першай бамбёжцы. Магло заваліць шчэбнем.

— Дык ён жа жывы, я ведаю.

Сакратар стомлена ўздыхнуў.

— Не зразумела... Так трэба, Паліна Васільеўна, дарагая. Вам даручаецца арганізаваць у Бушавічах камсамольскае падполле. Ваша кандыдатура ўзгоднена з Бярэзаньскім райкомам.— Вырваў з блакнота лісток, чыркнуў некалькі слоў.— На першым паверсе, у інструктарскім аддзеле атрымаеце тыднёвы паёк на дарогу.

— Што я павінна рабіць? Канкрэтна,— запыталася Пінская.

— У першую чаргу падабраць верных, надзейных хлопцаў і... і дзяўчат. Збірайце зброю, вядзіце растлумачальную работу сярод насельніцтва, а галоўнае, пры кожным зручным і нязручным выпадку біце фашыстаў і тых, хто прыйдзе да іх на службу. Будуць і такія... Усё. Хаця не,— палез у шуфляду, дастаў кніжку.— Вось, як бы падручнік па падпольнай рабоце. Гэта пра Баўмана.

Пінская прачытала на вокладцы: «С. Мстиславский. Грач — птица весенняя». Усміхнулася.

— Дзякуй. Можа, і падкажа што...

— Не-не, вы не думайце,— крыху збянтэжыўся сакратар.— Чытаў. Многа чаго карыснага можна пачэрпнуць. Асабліва на пачатку падпольнай работы...

Далей была дарога, доўгая, нялёгкая. Але ўсё абышлося, дзякуй Богу, без якіх-небудзь значных эксцэсаў. Ішла не па шашы. Шаша была забіта бясконцымі нямецкімі абозамі, атрадамі веласіпедыстаў, якія іх ахоўвалі. Выручыў Паліну Васільеўну ўсё той жа стары напаўзакінуты тракт Мінск—Магілёў, па якім нядаўна прытупаў у Бушавічы і Сцёпа, толькі з другога боку, з усходу. Ноччу, зашыўшыся ў кусты, спала. Днём на прывалах чытала аповесць Мсціслаўскага і ўсё больш пераконвалася ў правільнасці сказанага сакратаром райкома — з кніжкі і сапраўды можна было пачэрпнуць нямала карыснага, асабліва падпольшчыку-пачаткоўцу.

— А што іменна? — жыва перарваў Пінскую Сцёпа. Заслухаўшыся, ён да гэтага не прамовіў ні слова.

— Ну, як табе сказаць, Сцёпа? — непрыкметна перайшла Пінская на «ты».— Вось слухай, як Мікалай Эрнеставіч рабіў, дакладней, як яны ўсе тады рабілі...

Баўманцы дзейнічалі па прынцыпу ланцужка: кожны член групы не павінен ведаць болей як двух другіх. Сурова забараняецца праводзіць агульныя сходы, паведамляць адзін аднаму пра справы, якія непасрэдна яго не датычаць, складаць якія б там ні было, нават самыя зашыфраваныя, спісы членаў. Кіраўнік і той неабавязкова можа ведаць усіх сваіх людзей. Бо чалавек ёсць чалавек. Не кожны мае жалезную сілу волі, і не кожнаму дадзена вытрымаць, у выпадку правалу, катаванні. Канечне, спецыяльна з гэтай мэтай прафесіянальныя шпіёны, напрыклад, не расстаюцца з ампулай хуткадзеючага яду... Але для гэтага яго як мінімум трэба мець. А дзе ўзяць? Можна, канечне, у бязвыхадную мінуту застрэліцца. Але ж для гэтага трэба мець пісталет. Ды, па-першае, гэта самая небяспечная ўліка, калі дзе зловяць, па-другое, пісталет трэба мець...

У гэтым месцы Сцёпа мімаходзь успомніў пра труп таго нямецкага афіцэра ля Мар'інага балота. Падумаў, што трэба будзе праз які тыдзень наведацца туды і забраць пісталет. Труп, мабыць, ужо лясныя звяры ды груганнё расшкуматалі.

Калі Пінская змоўкла, ён коратка выклаў сваю адысею. Потым абмеркавалі збольшага, як паводзіць сябе пры сустрэчах з паліцаямі.

Прыйшлі да адзіна прымальнага вываду — трымацца залатой сярэдзінкі — ні нашым, ні вашым. Рашылі і яшчэ адно нямалаважнае пытанне — камсамольскае падполле не павінна абмяжоўвацца дзейнасцю ў адных толькі Бушавічах. Трэба стварыць хоць невялічкія, па два — чатыры чалавекі, групы ва ўсіх навакольных вёсках. Надзейныя хлопцы ёсць, напрыклад, у Новінах — Вася Краўчонак па мянушцы Кулямёт, у Ганаках — Міша Корык, у Віляціне — той самы Валодзя Якімчык. На адно толькі пытанне, неадкладнае і балючае, як зламаць упартае нежаданне яўрэйскай моладзі ісці ў лес, не знайшлі якога-небудзь пэўнага адказу. Няўжо на ўсіх іх так моцна падзейнічаў талмуд? Няўжо і сапраўды яны ўсе, нядаўнія актывісты, камсамольцы, раптам асляплі перад рэальнейшай страшэннай небяспекай пагібелі і сапраўды панясуць свой «крыж асуджаных» да канца?

Тут было нешта бязглуздае, дзікае для разумення Сцёпы і Паліны Васільеўны.

— Слухай, паспрабуй пагаварыць на гэту тэму з Гіндай, дачкой аптэкара,— неўпрыкмет для сябе перайшоў на «ты» і Сцёпа.— Маладая дзеўка, камсамолка, разумная, як чорт. Жыве побач з табой. Што яна, урэшце, думае пра ўсё гэта?

— Паспрабую сустрэцца.

Развіталіся па-сяброўску. Абое шчыра радаваліся, што нейкіх сур'ёзных разыходжанняў у поглядах на падзеі і на прадстаячую нялёгкую работу, так, так, іменна работу ў варожым тыле, у іх не выявілася.

Сустракацца вырашылі не дома, як было на гэты раз, а дзе-небудзь у нейтральным месцы, напрыклад, у ляску ля школы, у калгасным садзе, на старых могілках, словам, падалей ад цікаўнага чалавечага вока. Прыход у хату — толькі ў самым неадкладным выпадку. Сувязь пры неабходнасці можна трымаць цераз родзічаў.

Ужо ўзяўшыся за клямку, Пінская паведаміла, што ў мястэчку аселі некалькі акружэнцаў. Як быць з імі? Людзі незнаёмыя, хто ведае, што ў іх за думкі-намеры?

У галаве Сцёпы раптам бліснула цікавая думка.

— Слухай, а калі іх добранька прамацаць у сэнсе ідэалагічных перакананняў ды...

— Што ды? Адправіць у лес? Самі маглі б згаварыцца ды пайсці...

— Не, я не пра тое. Самі яны адзін аднаго баяцца, бо з розных часцей, не ведаюць, хто чым дыхае. А перад намі могуць раскрыцца, даверыцца нам, і тады...

— Можа, у паліцыю? — з'едліва ўсміхнулася Пінская.

— Вось іменна! — горача схапіў яе за рукі Сцёпа.— І толькі ў паліцыю. Свае, нашы людзі там будуць.

— Спяшаешся, хлопец.— Паліна Васільеўна халаднавата вызваліла свае рукі са Сцёпавых.— У нашай справе паспешлівасць раўнацэнна смерці.

— І ўсё ж вы падумайце,— зноў вярнуўся Сцёпа на «вы».— Здаецца мне, што ў маёй прапанове ёсць рацыянальнае зерне.

* * *

Маці з Янікам вярнуліся ў самы абед. Прынеслі з Рачыборка вялікі збан малака, слоік мёду і цэлую кашолку белага наліву. У дзеда Лук'яна быў добры сад і свой пчольнік.

Маці была сумная. А ўсё праз бацькоў. Яны апошнім часам жылі ў Рачыборку, нібы на вулкане. Таго і глядзі, што

з мінуты на мінуту грымне выбух. Ледзь не ўсе Антаневічы — самае распаўсюджанае прозвішча ў вёсцы — падаліся ўжо ці падрыхтавалі заявы ў паліцыю. Пракаповічы і Есьманты занялі пазіцыю чакання. Адзін толькі Мішка Каспяровіч некуды бясследна знік.

Са старым Лук'янам і бабуляй Мар'яй ніхто не хацеў здароўкацца. Усе адварочваліся. У вёсцы ўсё больш зацвярджалася паклёпная думка, што цяперашні начальнік паліцыі Ігнат Антаневіч і валасны стараста Харлановіч сядзелі ў турме па даносу не каго іншага, як дзеда Лук'яна...

— Давай забяром дзеда з бабкай сюды,— прапанаваў Сцёпа.

— А што тут? Тое самае, што ў Рачыборку...

— Дык дзе ж выйсце?

— Выйсце? Няма выйсця, сынок. Каб хаця дзед твой быў здаровы, не інвалід, а то ж ведаеш, які з яго хадок... А маці — сардэчніца, парок у яе...

— А то б?..— спытаў Сцёпа.

— Пайшлі б у лес да партызан, і ўсё тут,— адказала маці.

Дзён праз дзесяць завітала ў Бушавічы Анюта з Матылянкі. Сцёпа вельмі абрадаваўся сустрэчы, запрасіў у дом.

— Што так доўга не паказвалася?

— Ды маці не пускала,— засмяялася дзяўчына.— Кажа, шагу больш з хаты не зробіш без майго дазволу...

— Дазволіла ж усё-такі?

— Як табе сказаць,— патупілася Анюта.— Дужа ж захацелася цябе пабачыць.— І прапанавала: — Пайшлі кудынебудзь. У школьны лясок, ці што?..

— У школе ўжо гета зрабілі. Яўрэяў зганяюць. Небяспечна там. Лепш пойдзем у калгасны сад.

Да вайны ў цёплыя летнія вечары ў калгасным садзе збіралася ўся местачковая моладзь. Гулялі ў валейбол і гарадкі, танцавалі пад гармонік або спявалі песні, закаханыя пары спускаліся па крутым адхоне да рэчкі і заціхалі дзенебудзь у зацененым куточку.

Маці праводзіла Сцёпу з Анютай доўгім дапытлівым поглядам, спытала:

— Надоўга?

— Думаю, што не,— крыху засаромеўшыся, адказаў Сцёпа.

Калі пераступілі парог, схамянуўся, пацягнуў Анюту назад, лаючы сябе на хаду:

— Вось балда, дык балда, я ж цябе з мамай не пазнаёміў. Гэтак жа няможна...

— Нічога страшнага, Сцёпка,— спыніла яго дзяўчына.— Другім разам.

Па дарозе Сцёпа пачаў распытваць Анюту, які настрой у матылянцаў, што думаюць, што гавораць, ці многа моладзі ў вёсцы.

Мяркуючы па тым, што расказала Анюта, настрой у людзей быў не ахці які. Хадзілі вяскоўцы панурыя, прыгнечаныя. А пасля таго, як матылянскі ляснік Зміцер Крывец падаўся ў паліцаі, перасталі наогул давяраць адзін аднаму. Не верыцца, што ўсяго два месяцы назад вёска жыла дружна і зладжана, можа, як ні адна суседняя. Усё рабілі разам, супольна і ў полі, і ў доме і на святы, і ў будні. З моладзі дома амаль усе. Паявіўся аднаго разу Віцька Кавалёнак, што вучыўся ў Мінску на газетнага работніка ды адразу ж знік невядома куды. Атабарыліся ў вёсцы трое акружэнцаў. Памагаюць адзінокім бабам па гаспадарцы.

Сцёпа папрасіў Анюту, калі ўбачыць Віцьку Кавалёнка яшчэ раз, абавязкова перадаць яму камсамольскае прывітанне.

— Пры першай жа сустрэчы перадам,— запэўніла дзяўчына і шматзначна падкрэсліла: — І абавязкова камсамольскае.

— Пагавары і з бабамі, ля якіх прыгрэліся акружэнцы,— папрасіў Сцёпа.— Што яны, ваякі-няўдачнікі, думаюць рабіць далей, чым дышуць...

— Паспрабую.

Нягледзячы на тое, што быў выхадны дзень, нядзеля, у садзе не было ні душы. Адны толькі вераб'і ды галубы гаспадарылі на ажыўленых некалі спартыўных пляцоўках. Скрозь дашчаны насціл танцавальнага пятачка густа прабіваліся мяцёлкі лугавой аўсяніцы, а ўзбоч узняліся крапіва і пустырнік. Ад качэляў засталіся адны абламаныя цырубалкі. Яны звісалі з перакладзіны, нібы пакалечаныя рукі. На баку ляжала «чортава кола», колішняя адчайна-радасная ўцеха мястэчковай дзетвары.

Было самотна і няўтульна.

— Пайшлі адгэтуль,— папрасіла Анюта.— Нешта мне вусцішна тут. Спусцімся лепш да рэчкі і ўверх аж да вытокаў. Га? — гарэзліва зазірнула ў вочы.

— З табой хоць на край свету.

— Так я табе і паверыла. Мабыць, як сустрэнеш Галю Баравіцкую, таксама — гатоў на край свету ісці...

Папракнула, прыраўнавала. Па праўдзе кажучы, Галя яму трошкі падабалася. Як вучыліся ў шостым класе, ён

нават быў падкінуў адзін раз у яе парту любоўную запіску. Ды ніякага адказу на яе не атрымаў, бо запіска тая незразумелым чынам трапіла тады ў рукі Анюты.

— Успомніла! — абняў дзяўчыну Сцёпа, горача пацалаваў.— А ты ведаеш, што родны Галін дзядзька Ігнат Антаневіч — зараз начальнікам бушавіцкай паліцыі?

— Не-е...— разгублена працягнула Анюта.— Ён жа ж сядзеў...

— Вярнуўся. Уцёк.

— Цябе не чапае? — устрывожылася дзяўчына.

— Пакуль не. Банду сабе набірае. З такіх, як сам, а яшчэ з далёкіх і блізкіх сваякоў. Вальдэмар Антаневіч надзеў паліцэйскую павязку, а білет, камсамольскі білет, дэманстратыўна спаліў і попел растаптаў...

— Вулёк?..— прашаптала Анюта.— Сцёпачка, мне страшна. Давай збяжым куды. Яны ж нас заб'юць, і цябе, і мяне, і ўсіх другіх камсамольцаў, партыйцаў, актыў... Яны ж усіх, усіх нас ведаюць. Наперарлік. Чытаў жа, што пішуць немцы ў сваіх лістоўках-загадах: усіх нас выдаваць уладам і альбо знішчаць, альбо вывозіць у Германію на работу...

Сцёпа, як умеў, пачаў супакойваць дзяўчыну. Растлумачыў, што не так гэта проста ўсіх савецкіх патрыётаў узяць і забіць ці загнаць на катаргу ў Нямеччыну. Іх, патрыётаў, мільёны. А здраднікаў, ваўкалакаў — нікчэмныя адзінкі. Ды і немцы ўжо не раз'язджаюць па вёсках, як раней,— адна машына, і ўсё. Вунь цэлымі атрадамі на грабёж адпраўляюцца. Бо ўсё актыўней і актыўней дзейнічаюць лясныя салдаты-партызаны. Запытаўся:

— А можа, думаеш, мы тут сядзім склаўшы рукі?

Дзяўчына ці то з папрокам, ці з захапленнем адказала:

— Ты ўсе-е-едзіш!.. Як бы не так...

...Цалуючы Анюту, Сцёпа падсвядома пашкадаваў, што абяцаў маці скора вярнуцца.

* * *

Бушавіцкая школа-дзесяцігодка з усімі службамі-флігелямі размяшчалася на крутым пагорку за рэчкай. Гэта быў адзіны ў мястэчку двухпавярховы будынак. Да рэвалюцыі ў ім было царкоўнапрыходскае чатырохкласнае вучылішча. У ім нават Сцёпаў дзед Лук'ян вучыўся, а пазней і дзядзькі Коля і Косця. Маці тут таксама правучылася два гады.

— Дзве групы прайшла,— звычайна жартавала яна.

Як ні дзіўна, але і дзед і асабліва дзядзькі запраста маглі рашыць любую задачку нават з падручніка восьмага класа,

прыгожым каліграфічным почыркам пісалі, разбіраліся ў геаграфіі, гісторыі, няблага ведалі такую навуку, як аграномія. Вось табе і царкоўнапрыходская! На дзедавым хутары ніколі не пераводзіліся газеты і часопісы. Аднойчы, узлезшы на гару, Сцёпа знайшоў у закутку стары куфар, паўнюткі каляровымі часопісамі «Нива», «Вокруг света», «Смехач», «Огонек». Прыдбаўшы такое фантастычнае багацце, ён адчуваў сябе самым шчаслівым чалавекам на зямлі. Чытаць па-руску і на роднай мове Сцёпа ўмеў ужо ў пяць год. Навучыў яго айчым, Пётр Іосіфавіч, настаўнік Рачыборскай пачатковай школы. Пазней, як купілі дом у Бушавічах, айчым стаў працаваць тут жа, у мястэчку, у былой царкоўнапрыходскай. Цудоўная гэта была школа, нейкая вясёлая, звонкая, светлая...

А цяпер? Паліцаі абцягнулі ўсю тэрыторыю двума высокімі радамі калючага дроту, шырокія вароты, у якія свабодна праязджаў грузавік, звузілі да шчыліны, як праціснуцца чалавеку. Не школа, а турма. Дакладней, яўрэйскае гета. Гэта, чужое, а таму непрыемнае для вуха слова паўтаралася цяпер па ўсім наваколлі, адкуль абозамі звозілі яўрэяў.

Сцёпа назіраў аднойчы за такім, на сем фурманак, абозам з асуджанымі, што сунуўся з боку Сялібы. Усе фурманкі былі з каптуром нагружаны хатнім скарбам. Наверсе сядзелі нямоглыя старыя і маленькія дзеці. Астатнія павольна рухаліся ўзбоч фурманак. На ўсіх былі нашыты жоўтыя латкі. Людзі не перагаворваліся, не пазіралі па баках. Нават не глядзелі наперад.

Ні канвою з імі, ні якога іншага суправаджэння. Гаркнуць бы каму з іх на ўсё горла: «Разбягайся хто можа», сігануць у лес, што суцэльнай сцяной векавых елак цягнецца справа...

Але ніхто не крычыць, ніхто не бяжыць. Толькі пранізліва надрыўнае рыпенне нямазаных колаў ды шорхат шматлікіх ног плыве над дарогай.

«І скуль такая цялячая пакорлівасць? — з прыкрасцю падумаў тады хлопец.— Не можа ж быць, каб усе у адзін дзень, у адзін час пазбавіліся розуму...» Яго не на жарт разбірала неўтаймоўная злосць...

Перад вузкім праходам на тэрыторыю гета стаялі ўсе пяць бушавіцкіх паліцаяў на чале са сваім начальнікам Ігнатам Антаневічам. Тут жа на табурэтках за невялікім школьным сталом сядзелі валасны стараста Харлановіч і яго пісар Арцём. Паліцаі старанна абшуквалі кожнага

прыбыўшага, падводзілі да стала для рэгістрацыі і без якіх-небудзь рэчаў упіхвалі ў шчыліну-праход.

Калі ў журнале рэгістрацыі быў зроблены апошні запіс, начальства і радавыя дружна накінуліся на фурманкі з дабром. Праўда, для прыліку Ігнат Антаневіч папярэдне крыкнуў у двор:

— Зброю не прывезлі? — і, не пачуўшы ніякага адказу, сказаў-папярэдзіў: — А вось мы зараз праверым. Знойдзем хоць іржавы кінжал, усім — капут.

І пачаліся пошукі «іржавага кінжала»... Над абозам узнялося цэлае воблака пуху з распоратых пярын і падушак, звінелі разбітыя талеркі і шклянкі, чхалі, адфыркваліся коні. На адзін бок ляцела ўсё больш-менш прыгоднае для нашэння ці выкарыстання ў гаспадарцы, на другі ўсякае рыззё ды лахманы, старыя чыгуны, пагнутыя каструлі, вёдры...

Патрашэнне абозу заняло не болей як пяць мінут. Усё лепшае прадстаўнікі «новага парадку» тут жа раскідалі па падводах, паўскоквалі на калёсы самі і, крута развярнуўшыся, з гіканнем і свістам пагрукацелі ўніз да школьнага моста, што злучаў зарэчную і цэнтральную часткі мястэчка.

Пад вечар таго «ўраджайнага» для паліцаяў дня яны шчыгалялі ва ўсім новым. Вядомы на ўсю акругу беспрабудны п'янчуга па мянушцы Міністр усцягнуў на свае доўгія галянастыя ногі лакіраваныя боты-выцяжкі, надзеў вузкаваты ў плячах фрак з атласнымі лацканамі, а на галаву — чорны старамодны цыліндр. Вальдэмар апрануўся ў шыкоўны, шэрага колеру гарнітур, рыжавусы Захарка-канакрад з Ганакоў напнуў на сябе непамерна вялікі жаноцкі світэр... Карацей, увесь радавы састаў занава «абмундзіраваўся» і за кіламетр удушліва пахнуў нафталінам. Толькі Ігнат-начальнік, мабыць, з прынцыпу не пакваліўся на яўрэйскія шмоткі. Адно, што дазволіў сабе — гэта пакласці ў левую кішэню сваёй напаўваеннай гімнасцёркі пару масіўных залатых гадзіннікаў фірмы «Павел Бурэ», а ў праву — жменю пярсцёнкаў з брыльянтамі і залатых чырвонцаў царскай чаканкі.

* * *

Канчаўся жнівень, адыходзіла першае ваеннае лета. Як слаўна было б, калі б яно стала і апошнім ваенным. Каб праз якога паўгода пачуць: усё, вораг разбіты, вайна скончана. Як лёгка ўздыхнулася б, як расправіліся б людскія плечы, зноў засвяціліся радасцю вочы.

Але не падобна было, што жаданне такое здзейсніцца. Валодзя Якімчык, які рэгулярна слухаў радыё, прыходзячы ў Бушавічы, яшчэ ні разу не ўсміхнуўся, калі перадаваў зводкі Саўінфармбюро. Вельмі невясёлыя яны былі, трывожныя. Немец абкружыў Ленінград, акупіраваў Кіеў, усё бліжэй падцягваў войскі к Маскве.

З газет, якія пачалі выходзіць у Мінску на беларускай мове і зрэдку дастаўляліся ў Бушавіцкую воласць (пісар Арцём наклейваў іх на дзверы сваёй канторы), з гэтых газет так і пыхкала неўтаймаванай пахвальбой: у дзень гадавіны Кастрычніцкай рэвалюцыі адборныя гітлераўскія часці пройдуць пераможным маршам па Краснай плошчы. Сам Адольф Гітлер уручыць лепшым з лепшых найвышэйшыя ўзнагароды. «Новы парадак» запануе ад Ла-Манша да Урала. Ніхто, вядома, не верыў гэтым «пераможным маршам», і ўсё ж факт заставаўся фактам: вораг наблізіўся да сталіцы настолькі, што мог абстрэльваць з дальнабоек яе прыгарады. І Ленінград быў ушчыльную абкладзены, і Кіеў стаў нямецкім тылам...

Крыўдна? Вельмі. Да слёз, да болю, да зубоўнага скрыгату.

І незразумела. Як можна было кінуць столькі людзей на здзек і згубу фашысцкаму зверу. Дзе нашы лепшыя ў свеце самалёты, найхутчэйшыя танкі, скарастрэльныя гарматы? Чаму кожны другі немец узброены аўтаматам, а ў нас адзін аўтамат на сотню байцоў? Навошта было пры адступленні знішчаць у гарнізонах запасы зброі, боепрыпасаў? Раздалі б людзям. Ну, няхай сабе не ўсе, але добрая палавіна скарыстала б яе дзе трэба і як трэба.

Мелі б, напрыклад, бушавіцкія хлопцы націскныя ці магнітныя міны, колькі дыверсій маглі б правесці. Нават без асаблівай рызыкі. Не так ужо цяжка прышлёпнуць магнітку да нямецкага браневіка або грузавіка з салдатамі. На шашы можна паставіць націскныя. Ідзе калона — глядзіш, адна, дзве, а то і болей машын адпраўлены на той свет. А мелі б хлопцы хаця б звычайныя капсулі ды бікфордаў шнур. Гэта ж як няма чаго рабіць, можна падняць у паветра паліцэйскую казарму з яе вечна п'янымі жыхарамі. Яна ж, практычна, не ахоўваецца. То п'юць бобікі, то спяць, то ўсёй хеўрай выязджаюць на чарговы рабунак у аддаленыя вёскі.

Сцёпа ад гэтых пякучых думак не знаходзіў спакою. Што рабіць? Нельга больш вось так, адным толькі распаўсюджаннем зводак-лістовак падмяняць сапраўдную падпольную работу. Яна павінна быць важкай, выніковай. Трэ-

ба, каб у тыле ворага зараз, калі ён так блізка ад Масквы, усё трашчала, грымела, ірвалася, каб зямля гарэла пад паганай нагой чужынца, каб кожны яго новы крок станавіўся адначасова апошнім!..

Міжволі Сцёпа заўважыў, што пачаў гаварыць сам з сабою. Крыва ўсміхнуўся. А сапраўды, з кім дужа пагаворыш пра набалелае? Паліна Васільеўна, непасрэдны кіраўнік, ужо месяц як пайшла ў Мінск на чарговы інструктаж. Вернецца толькі ў канцы кастрычніка. Шуба, сакратар цяпер ужо падпольнага райкома камсамола, хоць і абяцаў тады, на прывале ля лясной рачулкі, ні разу не заглянуў.

Некаторы час у Сцёпы цеплілася надзея, можа, той капітан, што пакінуў у маці запасны пісталет, наведаецца. Але і яна паступова адышла ў нябыт.

І ўсё ж пара нешта прадпрымаць — канкрэтнае, пэўнае. Хопіць. Насядзеліся, як мышы пад венікам.

Накінуўшы на плечы пінжак, хлопец выйшаў у двор. На дрывотні Янік будаваў з трэсак шалашык. Спытаў, дзе маці. Янік паказаў рукою на гарод:

— Памідоры збілае.

Сказаў маці, каб да раніцы не чакала, і гародамі накіраваўся да Колі Хімчына.

Неўзабаве хлопцы, прыхапіўшы з сабою Колю Харытонава, кружной дарогай шыбавалі ў Віляцін. Ад Валодзі яны ўжо ведалі, што Сенька Баразнёнак амаль зусім вылечыўся і можа нават бегаць. Вось з ім яны і будуць раіцца сёння... Як-ніяк Сенька кадравы ваенны, камандзір, спецыяльна вучыўся. Слова яго, канечне, канкрэтнае, дзелавое, можа стаць для падпольнай арганізацыі рашаючым на даным этапе. Усе камсамольцы-падпольшчыкі і ў Бушавічах і ў суседніх вёсках, а іменна ў Матылянцы, Новінах, Ганаках, ірвуцца да сапраўднай баявой дзейнасці.

* * *

Ад Валодзі Якімчыка Сенька ўжо ведаў, што бушавіцкія сябры не сёння, дык заўтра завітаюць да яго на лакальную сустрэчу-нараду, і пастараўся што-кольвечы мысленна прыкінуць. Праўда, зусім нямногае. Падполле ёсць падполле. У яго свая спецыфіка. Вось каб гаворку весці пра адкрытыя партызанскія дзеянні, тут у маладога лейтэнанта знайшоўся б цэлы кораб каштоўнейшых прапаноў...

І ўсё ж з нечага трэба было пачынаць і ў падполлі. Не, распаўсюджанне зводак-лістовак таксама немалаважная

справа, асабліва зараз, калі ваенная нямецкая армада знаходзіцца на подступах да Масквы, а гебельсаўская прапаганда так і заліваецца ўзахлёб: Москаў — капут, камуніст — капут, рус — драпае... Людзі даведваюцца з падпольных лістовак аб праўдзе на франтах і, галоўнае, што немец пад Масквой спынены жалезнай сцяной супраціўлення і не можа больш зрушыцца наперад ні на адзін крок, ні на адзін сантыметр. Б'юць яго там няшчадна. І на ўсіх франтах калашмацяць, хаця на поўдні, мяркуючы па зводках, яму, нягледзячы на велізарныя страты ў жывой сіле і тэхніцы, не-не ды і ўдаецца прасоўвацца наперад. Нават Данбас і Крывы Рог захапіў. А гэта ж вугаль, метал. Самае галоўнае для вайны. З імі можна параўнаць, бадай, толькі хлеб.

Хлеб? А з аднаго Бушавіцкага сельсавета колькі яго могуць вывезці немцы? Га? Вунь жа біткам забілі ўжо мяшкамі з зернем сельпоўскі склад. Дзесяткі, а можа, і сотні тон звезлі з навакольных вёсак. Добра, што млын на Усе згарэў, ■ то б і змалолі на муку. Значыць, склад трэба...

Не. Самае першае, што край як неабходна зрабіць, гэта прыбраць Вальдэмара Антаневіча. Ён ведае ўсіх мясцовых камсамольцаў. І Ігната Антаневіча прыбраць. Гэты, мабыць, ужо падрыхтаваў да рэалізацыі чорныя спіскі камуністаў і савецкага актыву...

У сцяну пунькі, дзе пакуль на ўсякі выпадак жыў-хаваўся Сенька, пастукалі ўмоўным стукам. Валодзя. Яго рука. Сенька лёгка падняўся, з'ехаў з сенавала ўніз. На дварэ змяркалася. Гусцеў перад надыходам ночы, настойваўся на сыраватым ветры перадасенні халадок.

— Пайшлі! — сустрэў яго ў варотах Валодзя.— Хлопцы бушавіцкія чакаюць.

— Добра. Толькі на плечы што накіну. Трохі працінае.

Сабраліся ў невялічкай лазні Якімчыкаў, што стаяла наводшыбе, ля самага лесу. Валодзеў дзед аблюбаваў некалі гэта месца для лазні з-за крыніцы, што бруілася тут з-пад магутнага дуба: не трэба, маўляў, ваду насіць са студні ды і дровы на месцы. Паздароўкаліся.

Сцёпа адчуў, што поціск Сенькавай рукі намнога падужэў у параўнанні з тым, колішнім, калі сустрэліся на першым месяцы вайны. «Значыць, сапраўды вылечыўся хлапчына. Ну, то і добра»,— зазначыў сам сабе, а ўголас спытаў:

— Як адчуваеш сябе?

— Надта хваліцца не стану, але смела магу запэўніць, што з «дзегцярам» здолеў бы прабегчы да кіламетра,— коратка адказаў Сенька.

Сцяпан прыкінуў: ручны кулямёт Дзегцярова з дыскам, набітым патронамі, важыць недзе каля дзевяці кілаграмаў. Нішто сабе! Малайчына Сенька!

— Доўга хавацца збіраешся? — задаў новае пытанне.

— Пакуль двух Антаневічаў не стане,— пачулася ў адказ.— Твайго былога сябра Вальдэмара і нашага агульнага начальніка Ігната.

— Чаму «нашага»?

— Ды гэта я так, для смеху. Ігнат жа, мабыць, лічыць цяпер сябе самым галоўным начальнікам над усімі намі. Паліцыя! Гэта табе не хрэн сабачы.

— Хлопцы, дык гэта ж ідэя! — чуць не крыкнуў Коля Харытонаў.— Давайце з гэтага і пачнём. Вінтоўкі ёсць, патроны.

— Цішэй ты,— папрасіў Хімчын.— Кажуць, што і сцены маюць вушы. Я таксама за такі пачатак. Але, мабыць, для здзяйснення яго лепш падышла б не вінтоўка, а «шмайсер». Вярней было б. Касянуў...

— Касянуў,— перабіў Сцёпа.— А патроны? Усе ж ражкі пустыя...

— У мяне ёсць дзве амаль поўныя абоймы ад парабелума,— пахваліўся Хімчын.— Падыдуць.

— Ну-у,— разважліва ўставіў Харытонаў.— Гэта ўжо нешта больш-менш рэальнае. Як ты, Сенька, думаеш?

— Я за вінтоўку або карабін,— адразу ж прагучаў адказ.— Толькі прыстраляць спачатку трэба. Аўтамат жа, асабліва нямецкі «шмайсер», зброя для такой аперацыі ненадзейная. Убойная сіла яго, рэальная, прыкладна метраў на пяцьдзесят. Ды і трасецца ён, зараза, у руках не ўтрымаць. Сам выпрабоўваў. Так што і пацэліць з яго не проста. Зусім іншая справа — нашынская трохлінеечка. Ускінуў, прыклаўся, і ёсць дзесятка. Га, Сцёпа?

— Я таксама за вінтоўку. Вернае дзела,— згадзіўся той.— Але і ад аўтамата не трэба адмаўляцца. На ўсякі выпадак. Калі раптам драпаць давядзецца.

— Па-ўсякаму можа павярнуцца,— не стаў пярэчыць Сенька.— Гаранты на стопрацэнтны поспех у такой справе ніхто не можа даць...

Гаварылі хлопцы доўга, горача, спрачаліся, пагаджаліся, перапынялі адзін аднаго, потым зноў пагаджаліся ці разыходзіліся ў думках, прапановах, планах. Напрыклад, аперацыю па знішчэнні двух найбольш небяспечных паліцаяў, Ігната і Вальдэмара Антаневічаў, «праігрывалі» ў некалькіх варыянтах. Першы — прыбраць іх у Рачыборку, куды на-

ведваюцца, як правіла, праз дзень-два і абавязкова ўдвух. Толькі зрэдку прыхопліваюць з сабой старасту Харлановіча. Другі варыянт — забіць у Бушавічах. Падкараруліць дзенебудзь цямком, як будуць ісці ад Ядвісі-самагоншчыцы і... Рэальна? Яшчэ як!

Калі б у лазні было відна, хлопцы заўважылі б, як незадаволена моршчыцца твар у Сенькі. Але Сенька маўчаў, не ўмешваўся ў гаворку сяброў, хаця і першы і другі варыянты дыверсіі яму не падабаліся. І не падабаліся таму, што былі нейкія нездзяйсняльныя. І першы і другі план, канечне ж, можна было прывесці ў выкананне без якіх-небудзь асаблівых перашкод. Справа была ў іншым. Забіць гадаў у Рачыборку, або ў тых жа Бушавічах, значыць падвергнуць небяспецы рэпрэсій з боку новых улад усіх жыхароў. Было ж нядаўна ў Баравіне. Нехта з акружэнцаў прытоўк там нямецкага оберфельдфебеля. Дык назаўтра наехалі карнікі і вёску ўшчэнт спалілі і людзей чуць не ўсіх пастралялі. Не глядзелі ні старога, ні малога. Добра ведаюць пра гэта і два Колі і Сцёпа, а вось неяк не думаюць ці яшчэ не ўмеюць думаць, што і праз іх такое можа паўтарыцца, на гэты раз у Рачыборку ці Бушавічах. Хаця... наўрад ці немцы надта стануць помсціцца за смерць сваіх халуёў... І ўсё ж...

А яшчэ не трэба забываць, што любы населены пункт, малы ён ці вялікі, гэта шмат лішніх вачэй і вушэй. Як ні маскіруйся, як ні хавайся, а нехта абавязкова ўбачыць цябе, пачуе, або, гаворачы ваеннай мовай, запеленгуе. А такое для падпольшчыка ой як непажадана.

Разважаў Сенька гэтак сам з сабой, у адзіноце, пакуль яго не аклікнуў Сцяпан:

— А што ты скажаш, таварыш лейтэнант,— і са смяшынкай у голасе: — Наш дыпламаваны тактык і стратэг?

— Вось ты жартуеш,— адразу ж адазваўся Сенька.— А я буду гаварыць на поўным сур'ёзе і вашы планы-прапановы пастараюся абвергнуць доказна.

— Абвергнуць? — ледзь не хорам усклікнулі хлопцы.

— Іменна. Галоўная загана вашай тактыкі ў тым, што вы не падумалі пра людзей, а заадно і пра сябе...

Калі Сенька выказаў усё, што і меўся выказаць, у лазні на некаторы час усталявалася напружаная цішыня. Крыць хлопцам не было чым. Яго, Сенькава, была праўда. І як яны самі пра усё гэта не падумалі!.. Ганьба...

— От што, другі мае,— кашлянуў у кулак Сенька.— Мой план знішчэння здраднікаў такі. Сустрэць іх на Лысай

гары. Месца, па-першае, нейтральнае, якраз на сярэдзіне дарогі паміж Бушавічамі і Рачыборкам, а па-другое, вельмі зручнае для засады...

Так, для засады Лысая гара была месцам, можна сказаць, ідэальным. У гэтым хлопцы пераканаліся ўжо на другі дзень, калі пасля бяссоннай ночы завіталі туды, як сказаў Сенька, для рэкагнасцыроўкі мясцовасці.

Прайшоўшыся колькі разоў узад-уперад па густым падлеску пад тоўстымі кашлатымі соснамі, Сенька нарэшце выбраў вартае месца. Адсюль добра праглядвалася дарога. Ішла яна дугой па пакатым схіле метрах за дваццаць пяць адсюль. З дарогі ж на гары нічога нельга было ўбачыць. Вырашылі так: непасрэдна ў засадзе будуць знаходзіцца Сенька і Сцёпа. Коля Хімчын са сваім «шмайсерам» зойме месца вунь у тых кусціках, метраў за дзесяць ад дарогі. Гэта на ўсякі непрадбачаны выпадак. А Коля Харытонаў, як сын лесніка і ўмелец імітаваць галасы птушак, схаваецца паводдаль, дзе-небудзь у бок Рачыборка ці Бушавіч. Апошняе будзе залежаць ад таго, адкуль чакаць «гасцей». Убачыць іх Коля і адразу падасць дамоўлены сігнал. Валодзю накіравалі дазорным на дарогу.

На развітанне сябры дамовіліся аб часе і месцы наступнай сустрэчы. А пакуль па дамах і спаць. Добранька выспацца перад аперацыяй. Першай і таму самай хвалюючай, самай адказнай. Удача, поспех, значыць, натхняльны штуршок на далейшыя здзяйсненні, правал — і ў душы можа пасяліцца няўпэўненасць, а то і самая сапраўдная баязлівасць.

Як гэта важна — зрабіць першы крок цвёрда, не спатыкнуўшыся!

* * *

На схіле наступнага дня да Сцёпы завітаў Ігар Пінскі. Папрасіў «Новую зямлю» Коласа. Няма, маўляў, чаго чытаць. А па сутнасці прыйшоў, каб паведаміць, што вярнулася з Мінска Паліна Васільеўна і хоча бачыць яго, Сцёпу. Пажадана сёння.

Сцёпа зірнуў на ходзікі і, прыкінуўшы, што часу на грунтоўную сустрэчу з Пінскай у яго ўжо не застаецца — пара ісці на Лысую гару да хлопцаў,— спытаў:

— Што так заўчасна? Казала ж, вернецца не раней першай дэкады лістапада.

— Так атрымалася. Нейкая там аказія падвярнулася да Чэрвеня. Цэлых шэсцьдзесят камэ на машыне, гэта табе не пехам...

— На машыне, з немцамі? — насцярожыўся Сцёпа.

— Не, не ведаю,— запнуўся Ігар.— Я не падумаў нават. Можа, не з немцамі. Ходзяць жа і грамадзянскія машыны. Сам бачыў. Гэтыя самыя, як іх? Ага, успомніў, газагенератары.

— Ладна, Ігарка. Сёння нічога не выйдзе. Вельмі ж адказнае спатканне прызначана. Праз гадзіну я павінен быць на месцы. Перадай, сустрэнемся заўтра ў дамоўленым месцы. Лепш за ўсё раніцай гадзін у дзевяць.

— Добра.— Ігар пайшоў.

Сцёпа на хвілінку прысеў на кушэтку, пачаў абдумваць, што трэба абавязкова ўзяць з сабой. Як заўсёды, нож, папяросы, запалкі, ага, у адным з паходаў па трафеі яму трапіўся некрануты індывідуальны пакет. Трэба ўзяць. Усякае можа здарыцца. А што яшчэ? Здаецца, усё. І раптам нібы кальнуў хто памяць: лімонка! У яго ж у падстрэшшы схавана граната-лімонка. Глядзі ты, за часам чуць быў не забыўся пра яе. А яна ж можа вунь як спатрэбіцца!..

Хлопцы ўжо былі ў зборы, чакалі яго. Валодзя Якімчык паведаміў, што ўчора прасядзеў на віляцінскіх могілках, што пры самай дарозе, упустую: ні туды, ні сюды Антаневічы не праязджалі. А сёння — пашанцавала яму: апоўдні паліцаі, а з імі і валасны стараста Харлановіч праляскаталі на сваім вазку ў бок Рачыборка. Жарабок, што той агонь, аж іскры з ноздраў сыплюцца.

— Для нас гэта не вельмі добра,— уголас падумаў Сенька.— Ад стрэлу можа рвануць, тузануць...

— Як сказаць... — адразу запярэчыў Валодзя.— Я не помню выпадку, каб яны праязджалі, хоць бы пару раз для форсу не выстраліўшы. Жарабок мог ужо ву-унь як прывыкнуць.

Сцёпа сказаў пра лімонку.

— Граната — гэта цуд,— узрадаваўся Сенька.— І шпурне яе пад ногі каню... ты, Хімчын, кінеш. Сумееш?

— Ды ўжо як-небудзь, з боскай помаччу. Толькі як жа са «шмайсерам»?

— А ніяк,— рашуча сekануў рукой Сенька.— Ён проста не спатрэбіцца. Ды і сядзець там, блізка ад дарогі, трохі небяспечна. Бачыш,— паказаў гранату,— колькі на ёй, чартоўцы, рабрынак? У кожнай — смерць. Так што кідаць

будзеш з нашай пазіцыі. Выберы толькі зручнае месца, каб нішто не замінала.

Сенька гаварыў узнёсла, залішне бадзёра, залішне дзелавіта. І Сцёпа сам сабе зазначыў: «Хоць ты, дружа, і кадравы ваенны, так сказаць, прафесіянал, але ж хвалюешся не меней за нас, шпакоў цывільных. Чалавек ёсць чалавек, і знакі адрознення тут абсалютна ні пры чым».

Коля Харытонаў першым накіраваўся на свой назіральны пост. Дамовіліся, калі будуць «госці» ехаць зáвідна, каркне варонай, калі ж прыцемкам — двойчы пракугукае савой. Астатнія рушылі на Лысую гару. Закідваючы карабін на плячо, Сцёпа павярнуў галаву да Сенькі:

— Прыстраляў?

— Абодва. Бяры не па цэнтры, а пад яблычка...

Сцёпа і Сенька заляглі на аблюбаваным яшчэ пазаўчора месцы, паспрабавалі прыцэльвацца ў бок дарогі. Усё добра. Галянасты падлесак ні кропелькі не перашкаджае, дарога праглядаецца ў шырокім сектары. Коля Хімчын абышоў кругом каржакаватую сасну, потым захінуўся за ствол, узняў руку з лімонкай. Не, ніжнія галіны не зачэпяць гранату, як будзе кідаць. Прысеў на кукішкі.

— Цяпер і перакурыць можна,— і палез у кішэнь.

— Адставіць! — раптам зусім не па-сяброўску, а камандзірскім голасам цыкнуў Сенька.— Запомніце, што дымок папяросы або сігарэты чуцен за кіламетр ад курца. Нават у бязветранае надвор’е.

— Хто б мог падумаць... — толькі і знайшоўся што сказаць Хімчын.

З боку Рачыборка пракрычала варона.

— Слава Богу,— ціха прагаварыў Сенька.

Сцёпа зацікаўлена зірнуў на яго.

— Ты што гэта божкаеш?

— Добра, што едуць зáвідна. Каб на паўгадзіну пазней, то ні мушкі, ні нават проразі не ўбачыў бы...

Стала ціха-ціха. Нервы напяліся, як струны. Неасцярожны рух, і — лопнуць. Сцёпа пачаў сам сабе лічыць — ад некага чуў ці мо чытаў, што гэта памагае зняць нервовае напружанне, заспакойвае.

Затарахцелі, аддаючыся ў лесе звонкім пошчакам, колы. І вось ён, вараны жарабок з горда ўзнятай галавой. Бяжыць размашыстай рыссю. Наперадзе, за кучара, Вальдэмар. Ззаду ў драбінках, разваліўшыся на высокім сядзенні, Ігнат і стараста.

Хлопцы дамовіліся заранеей: па кучару прыцэльна стра-

ляе Сцёпа, па Ігнату — Сенька. Потым удвух б'юць, таксама прыцэльна, па старасту. Коля Хімчын стараецца кінуць гранату пад ногі каню.

Як яно ўжо там атрымалася, ніхто не мог потым дакладна перадаць. Але калі хлопцы выскачылі з засады на дарогу, каб забраць у здраднікаў зброю і дакументы, уся тройца была мёртвая. Толькі жарабок яшчэ канвульсіўна дрыгаў заднімі нагамі. З яго памутнелага вока скочвалася буйная празрыстая сляза.

Пакінулі Лысую гару адразу ж. Адышоўшыся далёка ў лес, падзялілі трафеі. Сцёпа не ўзяў нічога. У яго было ўжо аж два пісталеты, адзін ТТ, што пакінуў у іх дома, ды так і не забраў армейскі капітан, і яшчэ «вальтэр» — з дзвюма некранутымі абоймамі — трафей, усё ж прынесены Сцёпам з Мар'інага балота праз месяц пасля першага паходу. У Сенькі быў рэвальвер свой, камандзірскі, але толькі з адным патронам. Можа, узяць сабе старастаў парабелум? Ці спустошыць барабан ігнатаўскага нагана? Ды нічога такога рабіць не давялося. Наперад выступіў Коля Хімчын. Ён зняў з пляча цяжкую процівагазную сумку і, узяўшы за ніз, выкуліў на шэры мох. У вячэрнім змроку цьмяна бліснулі жоўтыя цыліндрыкі — кароценькія, трохі даўжэйшыя і зусім доўгія. Гэта быў боезапас для парабелума, нагана і Вальдэмаравай дзесяцізарадкі СВТ, якую зараз трымаў у руках Валодзя. У яго тайніках да гэтага не мелася ніводнай самазарадкі.

Патроны, асабліва да нагана і парабелума, гэта было на сённяшні дзень самае дарагое для хлопцаў. Нават даражэй за тыя залатыя рэчы і манеты, што знайшоў Сенька ў Ігнатавых нагрудных кішэнях, калі забіраў дакументы.

Урэшце Коля Хімчын стаў уладальнікам нагана з добрым запасам патронаў, Коля Харытонаў узяў цяжкаваты парабелум, а Валодзя Якімчык задаволіўся пакуль «шмайсерам». Але каб ён не заставаўся як бы пакрыўджаным, Сцёпа паабяцаў:

— Аддам табе «вальтэр». Маленькі, лёгкі. Згодзен?

— Ну вядома ж! — радасна ўсклікнуў Валодзя.— Магу ўзяць хоць сёння.

— Сёння няможна,— умяшаўся Сенька.— Зараз усе па дамах і... па аднаму, з усімі перасцярогамі. Паліцаі, магчыма, ужо на Лысай гары... — Падумаў трохі, запытальным поглядам абвёў таварышаў.— Што будзем рабіць з золатам?..

— Захаваем да пары,— разважыў Сцёпа.— А там, можа, гаспадарам вернем, што ў гета?

— Вернем, вернем... Гэта ж трэба... Столькі золата хавалі. Адкуль яно ў іх? Ніколі б не паверыў, каб сказалі... Хадзілі ж зашмальцаваныя, чуць не ў рызманах...

— На чорны дзень прыберагалі,— аўтарытэтна заявіў Коля Харытонаў. І адразу з усмешкай: — А што? Можа, у гэтым і крыецца сярмяжная праўда?

* * *

Дабраліся хлопцы дадому за поўнач. У Хімчына і Харытонава здарылася невялікая прыгода. Не жадаючы пераходзіць рэчку на мосце, яны ўпоцемках памыліліся бродам і вымаклі да самага пояса. Сцёпу рэчку пераходзіць не трэба. Яго жытло на гэтым беразе. Перашмыгнуў вуліцу каля старых могілак, і адразу — свой агарод.

Па-сапраўднаму заснуць у гэту ноч Сцёпа так і не змог. Першы раз у жыцці ён страляў не па фанернай мішэні, а ў жывога чалавека. І не проста чалавека, а нядаўняга сябра. Зажмурваў вочы, і з затуманенай далі на яго пачынаў насоўвацца Вальдэмараў твар: усмешлівы, добразычлівы, прыгожы. Такі, які запомніўся ў час развітання, калі Вальдэмар праводзіў яго на шашу, каб пасадзіць на спадарожную машыну. Машын не было даўгавата, і яны ўсё гаварылі, гаварылі, летуценна малюючы ў вясёлкавых фарбах сваю блізкую будучыню. Не падазравалі, што вайна ўжо ўзняла свой крывавы меч і над іх будучыняй, і над, здавалася б, неразрыўнай дружбай, і над іх юнымі жыццямі...

Прачнуўся, а калі больш правільна сказаць, падняўся Сцёпа з ложка зусім разбіты, з цяжкай галавой. Памыўся і, адмовіўшыся ад снедання, пайшоў да дзвярэй.

— Куды, сынок? — спагадліва, як у хворага, запыталася маці.

— Трэба,— каратка кінуў Сцёпа.

— Чакай, не спяшайся. На вуліцы патрулі ходзяць. Злосныя. Каб не затрымалі часам...

— Што гэта іх растрывожыла? — запытаўся, не падымаючы на маці вачэй.— Надзвычайнае здарэнне?

— Яшчэ якое, сынок, здарэнне. Ля Лысай гары партызаны аж трох гадаў уложылі — Ігната, начальніка паліцыі, Харлановіча, што ў старастах хадзіў, і Вулька, колішняга друга твайго... Рачыборцы падабралі трупы, кажуць, без аружжа і дакументаў... Будуць хаваць пасля абеду. Чакаюць начальства з Бярэзаня.

«Та-ак,— сам сабе адзначыў Сцёпа.— Вясковае радыё не спіць, працуе дакладна». Спытаў:

— На які час чакаецца прыезд начальства?

— Як быццам к дванаццаці прыедуць. Аж на дзвюх машынах, кажуць...

«Эх, цяпер бы парачку гранат ды «дзегцяра» на новінскую паваротку! Грымнуць, касянуць!.. — падумаў хлопец.— Паведаміць Сеньку? Не, не паспею. Ды і не справіцца ўдвух з узводам узброеных людзей, хаця б і з засады. А сабіраць усіх хлопцаў няма ўжо часу. Стрэлка перасекла цыферблат у самым нізе — палова адзінаццатай. Пінская дзесь зачакалася».

— Дык я ўсё ж пайду, мама,— адчыніў дзверы Сцёпа.— Прашмыгну як-небудзь. Агародамі. Я да Ігара.

Спусціўшыся да рэчкі, пайшоў па прыбярэжным кустоўі не да Ігара, а зусім у другі бок — да калгаснага саду. Там, у засені ляшчынніку, што густа абступіў вузкі брод-перакат, і было дамоўлена сустрэцца.

Пінскай на месцы не было. На сухім сучку слаба матляўся кавалак пажоўклай газеты. Спачатку не звярнуў на яго ўвагі. Потым унутраны голас як бы падштурхнуў зняць паперыну, разгладзіць. Акруглым почыркам на газеце было напісана: «Перайдзі на той бераг». Перайшоў. Але і тут Пінскай не было відаць. Спыніўся ў недаўменні. Да слыху даляцеў дробны стук дзятла. Сігнал? Так і ёсць. Вунь яна, Паліна Васільеўна, на броўцы адхону зазыўна махае рукой.

Не здароўкаючыся, з ходу спытаў:

— У чым справа? Чаму там не чакала?

— Не ведаеш? Патрулі па ўсяму мястэчку шныпараць. А тут, на зарэчным баку, няма. Вось я і перадыслацыравалася.

— Ну а чаму раней прызначанага часу з Мінска вярнулася? Вельмі небяспечна?

— Цяпер усюды аднолькава небяспечна. А вярнулася раней мяркуемага таму, што такі загад Цэнтра.

— Давай канкрэтна.

— Найпярвейшая, неадкладнейшая задача — знішчыць склад нарабаванага зерня. Паўтараю, неадкладна.

— Ясненька,— пачухаў патыліцу Сцёпа.— Не падказалі там, у Цэнтры, як гэта зрабіць? Ну, напрыклад, каб і зерне знішчыць, і мястэчка пажарам не выкаціць.

— Тут, Сцёпачка, нам самім памазгаваць давядзецца.

— Лёгка сказаць... Быў бы тол, дэтанатары, бікфордаў шнур, тады б можна...

— Стоп! — моцна сціснула яго за локаць Пінская.— У нашага Ігара ўсё гэта, здаецца, ёсць. Сама бачыла ў тай-

ніку, пад падлогай. Выпадкова, канечне, натыкнулася...

— Канспіратар, называецца,— раптам раззлаваўся Сцёпа.— Уласную смерць у хату прынёс... І шмат у яго гэтага дабра?

— Мажа, на пяць складоў хопіць.

— А маўчаў, ні слова. Баіцца, ці што?

— Баіцца,— проста адказала Пінская.

— Вось што, хай сёння ж усё перахавае ў больш надзейнае месца. І каб ведаў я, дзе яно. Або адзін з двух Коляў.

— Зраблю,— з гатоўнасцю сказала Паліна Васільеўна.— Адразу, як вярнуся.

— Дарэчы, на якой такой машыне ты каціла да Чэрвеня? — успомніў Сцёпа Ігараў расказ.

— Па-першае, не да Чэрвеня, а ажно да Ратнага, дзе ляжнёўка. Адтуль да Бушавіч усяго дванаццаць кіламетраў, усяго дзве гадзіны ходу. Па-другое, лічы, машына гэта наша, падпольшчыцкая, газагенератарная трохтонка ЗІС. І ходзіць рэгулярна з Мінска ў Ратнае па піламатэрыялы. Шафёр яе мінскі падпольшчык. Праз яго трымаюць сувязь з Цэнтрам смілавіцкія, чэрвеньскія падпольшчыкі, а цяпер і мы будзем трымаць. Больш не скажу нічога.

— А я і не прашу,— трохі пакрыўдзіўся Сцёпа.

Пінская заўважыла гэта, па-сяброўску паляпала па плячы.

— Прызнайся,— наблізіўшыся ўшчыльную, дапытліва зазірнула ў вочы.— Ліквідацыя здраднікаў ля Лысай гары — твая работа?

— Наша,— адварочваючыся, каб не патануць у гэтых жаночых зазыўных вачах, буркнуў хлопец.— І больш не скажу нічога. Вось так.

— Дай я цябе за гэта расцалую! — у радасным парыве схапіла яго за плечы Пінская.— Вось так! І яшчэ! І яшчэ раз!.. Па славянскаму звычаю. Тройчы. Дзякуй табе, мой хлопчык.

Адышліся ад рэчкі, паглыбіліся ў лес. Пінская спытала, як ідуць справы ў гета, ці не падаўся хто з маладых яўрэяў у партызаны.

— Ніхто нікуды не пайшоў ды і не збіраўся, мабыць. Чакаюць нечага, як вол доўбні. Ну і не ведаю, казаць ці не? Дзяўчат усіх у гета паліцаі перагвалцілі, нават маленькіх не пашкадавалі, да смерці пазамучвалі!.. — скрыгатнуў зубамі... — Такія вось справы, даражэнькая...

— Чорныя,— адным словам падсумавала Пінская.— І ўсё ж я павінна ім тое-сёе перадаць.

— Што іменна?

— Зварот-заклік яўрэяў мінскага гета да барацьбы з фашыстамі.

— Гэта можна зрабіць хоць зараз. Загорнем у паперу каменьчык, перахопім для надзейнасці ніткай і... цераз калючую агароджу...

...На захадзе сонца таго дня ў прышкольным ляску затрашчалі вінтовачныя стрэлы, аўтаматныя чэргі. Паліцаі і прыехаўшыя ў мястэчка гітлераўцы расстрэльвалі яўрэяў. А калі стрэлы сціхлі, у тым баку зашугала ўгору полымя: гарэла школа-дзесяцігодка, адзінае ў мястэчку двухпавярховае збудаванне.

Фашысты і іх прыслужнікі помсцілі Бушавічам за смерць паганых вырадкаў.

* * *

Водгулле падзей, што адбыліся ў Бушавічах за адны тыя суткі, умомант раскацілася па ўсім раёне. Не мінула і двух дзён, як людзі нават ведалі, што гаварыў намеснік начальніка бярэзаньскай паліцыі Валік Петрашкевіч над магіламі фашысцкіх прыхвасняў. А гаварыў ён літаральна наступнае: «Дарагія незабыўныя нашы сябры, таварышы па зброі ў барацьбе за новы парадак, за доўгачаканую волю, што прынесла нам вялікая Германія. За вашу кроў мы адпомсцім. Адпомсцім бязлітасна. Сёння ж змяцём з твару зямлі ўсю бушавіцкую жыдаву. Вы мяне не чуеце, але клянуся над вашымі святымі магіламі: за вашу смерць сёння ж заплацяць смерцю дзвесце чатырнаццаць жыдоў. Такі будзе пачатак. Потым ачысцім нашу вольную зямельку ад камуністаў і камсамольцаў, ад усіх, хто спачувае Саветам. Клянуся!»

Гаварыў Валік натхнёна, з уздымам. З яго пабялелых тонкіх вуснаў так і пырскала пена нянавісці.

Родам цяперашні намеснік начальніка раённай паліцыі быў з таго самага Рачыборка, адкуль выйшлі і Ігнат з Вальдэмарам. Радніла іх трох даволі блізкае сваяцтва. Так што ў шчырасці яго клятвы можна было не сумнявацца.

Калі пахавальная працэсія вярталася з могілак, Валік, не вылазячы з кабіны аўтамабіля, прайшоўся аўтаматнай чаргой па зашчытку хаты дзеда Лук'яна. Пакуль што толькі па зашчытку. Гэта быў красамоўны намёк.

Пра гэта, трасучыся ад нервовага ўзбуджэння, расказала Сцёпу маці. Рачыборцы перадалі.

— Заб'е іх Валік. Вось убачыш, заб'е. Бацька ж быў

дэпутатам сельсавета. Перад самай вайной выбралі як лепшага калгасніка. І яшчэ ж багата жылі нашы. Бадай, лепш за ўсіх галадранцаў. Заб'е...

Нядобра зрабілася на душы ў Сцёпы. Ой як нядобра. Як абцугамі сціснула сэрца. Хлопец упершыню за свой кароткі век адчуў на сабе, што такое сардэчны боль. Раней пра гэта толькі чуў ад людзей ці чытаў у кніжках.

Трэба было тэрмінова прадпрымаць нешта дзейснае, каб прадухіліць бяду. А што іменна? Аднаму такое пытанне не вырашыць. Неабходна з некім параіцца. З Пінскай? Адпадае зразу. Яна тут мала каго ведае, ды і не ў жаночай кампетэнцыі такія справы. Два Колі? А які ў іх вопыт? Зусім яшчэ зялёныя. Тады Сенька? Так, бадай, толькі ён. І яго бацька. Чалавек бывалы. У грамадзянскую ваяваў пад камандаваннем самога таварыша Азіна.

Сцёпа надзеў целагрэйку, дастаў з-пад падаконніка і сунуў за рэмень «вальтэр».

— Сыночак! — умольна паглядзела на яго маці.— Толькі не ў Рачыборак... Абяцай мне...

— Я ж яшчэ не звар'яцеў. Пакуль што пайду ў Віляцін. А там будзе відаць.

— З'еў бы чаго...

— У горла не лезе.— Ужо з парога папрасіў: — Мам, ты, можа, не сядзела б дома, га? Управішся тут па гаспадарцы, вазьмі што-небудзь з яды, замкні дзверы ды ідзі з Янікам на зарэчны бок.— Падумаў.— А лепей за ўсё — у Матылянку. Да Анюты. Ты яе ведаеш. Папрасі суседзяў, Васюкоў, каб прыгледзелі за хатай і свінчом. Змані што...

— Добра, сынок. Я так і зраблю...

Навіна, што пачуў Сцёпа ў Віляціне, проста ашаламіла яго. У Рачыборку — Валік са сваім ад'ютантам. Прыехалі конна. У абодвух — аўтаматы і пісталеты. У Валіка на грудзях навенькі бронзавы крыж на зялёнай істужцы — узнагарода ад нямецкіх гаспадароў за верную службу. Сустрэўшы на вуліцы Янулю Ніціеўскага, шматзначна заявіў:

«Скора будуць пакараны савецкі актывіст і ўсё яго кодла. Не тут, а за вёскай, каб сваёй чорнай крывёю не забруджвалі чыстую зямлю нашу. Хаваць забараняю. Хай лясное звяр'ё хавае».

Зараз Валік з ад'ютантам у Вальдэмаравай хаце. Мабыць, трызну спраўляюць па забітых.

Вальдэмарава маці жыве на самым краі Рачыборка. Адсюль, з Віляціна, да яе з паўкіламетра, не болей. Перайсці перасохлае за лета і яшчэ не ажыўленае асеннімі

дажджамі балотца, і вось яна, хата, дзе жыў Вальдэмар.

— Што рабіць станем? — глуха спытаў Сцёпа.

— Не ведаю,— шчыра прызнаўся Сенька.— Пакуль што будзем весці назіранне. Прынясі бінокль,— папрасіў Валодзю.

У васьмікратны артылерыйскі бінокль двор Антаневічаў бачыўся як на далоні. Відаць было нават, як укормленыя коні пад сёдламі смачна жуюць авёс.

— Эх, быў бы аптычны прыцэл! — горка ўздыхнуў Сенька.— З першай куляй адправіў бы гадаў да сваячкоў...

— А калі без оптыкі? Харашэнька прыцэліцца і...— са слабай надзеяй прапанаваў Сцёпа.

— Не, нічога не выйдзе. Коней — можна. А чалавека? Занадта маленькая мішэнь на такой адлегласці. Толькі напужаем.

— Дык можна падысці блізка. Па алешніку,— не захацеў здавацца Сцёпа.

— Пра гэта і думаю. Бяром так: ты, Валодзя, «шмайсер», я — карабін, а табе Сцёпа, дамо сэвэтушку. Б'е яна метка. І хуценька — на ход.

Калі хлопцы з усімі перасцярогамі прапаўзлі па алешніку і апынуліся нарэшце на куп'істым узлобку непадалёку ад Вальдэмаравай хаты, адразу зразумелі, што спазніліся. Коней на двары ўжо не было. А ў цэнтры вёскі, там знаходзілася хата дзеда Лук'яна, чулася жаночае галашэнне. Але не працяглае, надрыўнае, калі жанчына галосіць, да прыкладу, па нябожчыку, а кароткае, калі дужа балюча б'юць.

Сцёпа парывіста падхапіўся, ірвануўся наперад. Але Сенька адным скачком насцігнуў яго, схапіў за плечы, кінуў на зямлю.

— Куды?! — прахрыпеў.— Вар'ят!.. Заб'юць жа...

— Няхай! — Сцёпа задыхаўся ад ярасці.— Яны там са старых людзей здзекуюцца, а я шкуру сваю ратаваць буду? — і раптам заплакаў наўзрыд.— Так, па-твойму, Сенька?.. Ну скажы, так?..

— Ды супакойся ты! — холадна зірнуў той на сябра.— Інтэлігенцік задрыпаны!.. Істэрычка...

Апошнія Сенькавы словы неяк ураз ацвярозілі і нават супакоілі Сцёпу. А сапраўды, што б ён там мог зрабіць, чым памагчы дзядулю з бабкай? Нічым. Толькі сваю галаву падставіў бы.

— Бяжым вунь у той лясок,— паказаў рукой Сенька.— Ён самы блізкі ад Рачыборка. Туды яны і павядуць. І давайце як найхутчэй!

Сенька не памыліўся. Асуджаных пагналі іменна ў той самы лясок, бліжэйшы ад вёскі. Гналі перад сабой, завязаўшы за шыі вяроўкі. Самі паліцаі сядзелі ў рыпучых сёдлах і час ад часу размашыста апускалі балючыя нагайкі на непакрытыя галовы сваіх ахвяр. Кульгавы дзед Лук'ян стараўся з усіх сіл, яму не хапала паветра, і ён, задыхаючыся, спыняўся. Сардэчніца-бабка ўпала ўжо на першых кроках, і ад'ютант, прывязаўшы вяроўку да сядла, цягнуў яе нежывое сухенькае цела па зямлі.

Хлопцы не бачылі ўсяго гэтага. Яны беглі, прадзіраючыся праз кустоўе. Спяшаліся, не звяртаючы ўвагі на разадраныя да крыві калючкамі глогу рукі і твары...

Яшчэ некалькі крокаў, цяпер ужо на поўны рост, і вось ён, жаданы і страшны лясок.

— Хутчэй!.. — азірнуўся Сенька. Ён бег першым.

Наперадзе пратрашчалі даўжэзныя чэргі з аўтаматаў. Услед за гэтым — гулка бухнуў карабін. Раз, другі. Сенька! — зразумеў Сцёпа. Збоку пратарахцеў «шмайсер». «Валодзя!» Сцёпа таксама выскачыў з кустоў, злавіўшы на мушку дзесяцізарадкі круп каня, націснуў на спускавы кручок.

Хлопцы выйшлі на невялічкую паляну. Яна ўяўляла сабой жахлівае відовішча. Трупы дзеда Лук'яна і бабкі Мар'і былі здратаваны кутымі конскімі капытамі, галовы ператорваны ў чырвона-шэрае месіва...

Дык вось для чаго спатрэбілася садыстам даваць такія доўгія аўтаматныя чэргі...

Валік ляжаў на спіне, сутаргава сцяўшы кулакі. Ногі яго і палавіна тулавішча былі прыціснуты тушай каня. Белыя вочы шырока расплюшчаны. Яны паступова шклянелі.

Сенька сарваў з грудзей Валіка нямецкі крыж і сунуў пад хвост жарабку.

— Тут ён будзе больш да месца...

Калі абходным шляхам, зрабіўшы па лесе даўжэзную дугу, вярталіся ў Віляцін, Сцёпа адчуў, што вось-вось упадзе. Ногі яго зрабіліся ватныя, на лбе выступілі буйныя кроплі поту, а сэрца затухкала павольна, з заміраннем.

— Нядобра мне, Сенька,— прашаптаў ён ледзь чутна і сеў.

— Трымайся! — крыкнуў той.— Зараз.— І паднёс да носа бутэлечку з нашатырным спіртам.— Дыхай!.. Во так... Яшчэ, ну, ну. От і добранька...

«Прадбачлівы,— з зайздрасцю падумаў пра друга Сцёпа.— Умее зазірнуць наперад. Мне б так навучыцца...»

Надвячоркам трупы дзеда Лук'яна і бабкі Мар'і, старанна ўкрытыя белымі прасцінамі, пакоіліся ў адной шырокай дамавіне. Пахавалі іх на віляцінскіх могілках.

Трупы Валіка і яго ад'ютанта праляжалі на палянцы больш за суткі, пакуль не наехала бярэзаньская паліцыя. Бушавіцкія паліцаі ехаць у лясок пабаяліся. Не надта іх было густа.

А цяпер, пасля гібелі адразу трох паліцаяў са старастам у дадатак, наогул ці знойдуцца ахвотнікі надзець паліцэйскую павязку.

* * *

На гэты раз Анюта наведалася ў Бушавічы раней дамоўленага. Зайшла прама дамоў да Сцёпы.

— Здарылася што? — устрывожана спытаў хлопец.

— Ды не, дзякуй Богу, усё покуль добра,— не хаваючы радасці, што зноў бачыць каханага, адказала Анюта.— Во, бачыш,— падняла невялікі клуначак,— яйкі прынесла. На соль мяняць. За шклянку солі аддам, лічы за бясцэнак.— І гарэзліва: — Па руках?

Сцёпа таксама адказаў жартам:

— Эх, дзе маё не прападала! Хай і тут лясне!.. Па руках!

Зайшла маці. Спынілася ў парозе.

— Што гэта вы тут крычыце, як на базары? А ж на вуліцы чутно...

— А ў нас базар і ёсць. Вось гандлярка матылянская яйкі на соль мяняе,— Сцёпа кіўком галавы паказаў на Анюту, што, чырвоная, як маліна, стаяла сярод хаты.

Нечакана для Сцёпы маці падышла да Анюты блізка-блізка, падняла за падбародак яе галаву і моцна пацалавала ў губы.

— От так будзе лепей, нявестачка. Ведаю я пра вашы са Сцёпкам адносіны. Яшчэ тады, у канцы лета, здагадалася. Помніш, калі вы шмыгнулі з хаты... Не саромейцеся мяне. Я ўсё разумею. Сама была маладая. А цяпер, дзеткі, ідзіце ў тую палавіну. А я тут займуся гаспадаркай. Свінчо трэба накарміць, курам даць...

— Можа, навіны якія на мястэчку чула? — пацікавіўся Сцёпа.

— Ёсцека адна навасць. Але потым раскажу, як упраўлюся, не гарыць.

Як толькі перайшлі ў другую палавіну дома і ўселіся, шчыльна прытуліўшыся, на кушэтцы, Анюта раптам апусці-

ла галаву на Сцёпавы грудзі і забілася ў нястрымным рыданні.

— Што ты? — разгубіўся хлопец.— Анютачка, родная мая, ну чаго ты так во адразу, ні з таго ні з сяго...

— Чакай,— душачыся слязьмі, прашаптала дзяўчына.— Я зараз... Зараз пройдзе...

Сцёпа падаў ёй кубак вады, падняў галаву і ражком хусткі выцер пачырванелыя, такія мілыя дзявочыя вочы.

— Ні з таго ні з сяго, кажаш... — пакрыўджана адварочваючыся, гаварыла Анюта.— Чорствы ты, бяздушны чалавек. Няўжо не бачыш, як за апошні месяц, калі забілі тваіх дзеда з бабкай, маці асунулася, учарнела. Старухай зрабілася. Я як убачыла на яе галаве сівыя пасмы, ледзь не закрычала... Няўжо ты нічога не заўважаеш? — зноў паўтарыла пытанне.— А яна ж яшчэ не старая, сарака няма...

Панурыўшы галаву, Сцёпа маўчаў. Доўга, можа, нават занадта доўга цягнулася гэта журботнае маўчанне, аж пакуль Анюта моцна не тузанула яго за рукаў.

— Ну хоць што скажы!..

— Эх, Анютачка ты мая! — голас у хлопца задрыжаў.— Не думай, што я нейкае бервяно бяздушнае. Тая рачыборская трагедыя пакінула зарубку ў сэрцы на ўсё жыццё. Усё бачу я, усё заўважаю. І гора маё не меншае, чым гора маці. Ды не гараваць зараз трэба, а біць гадаў... Біць і біць!.. Э-эх... — і да хрусту ў пальцах сціснуў кулакі.

Анюта паспрабавала скрозь слёзы ўсміхнуцца.

— Цяпер, відаць, прыйшла пара мне цябе супакойваць...

— Не трэба. Зараз усё пройдзе. Проста мінутная ўспышка ці то злосці, ці мо роспачы. Чорт яго ведае. Находзіць на мяне іншы раз. Скажы лепей, чаго спяшалася да мяне?

— Ой, Сцёпачка, гэта ж, мабыць, вельмі важна: зноў паяўляўся Віцька Кавалёнак. Ноччу. Пры рэвальверы, з аўтаматам на грудзях. Напрамілы бог прасіў наладзіць сустрэчу з табой. Назначыў і дзень, і час, і месца.

— Адзін прыходзіў?

— Не, на вуліцы яшчэ двое было. Таксама са зброяй.

Сцёпа адчуў, як у яго ад радаснага ўзбуджэння гулка затахкала сэрца. Не сказаў, а выдыхнуў:

— Нарэшце!..

Зайшла маці.

— Вячэраць сюды прынесці ці туды, на кухню, пойдзеце?

— Ну што вы, што вы! — падхапілася з кушэткі Анюта.— Я і есці не хачу зусім, цёця...

— Заві мяне Аляксандра Лук'янаўна.— І выйшла.

— Давай на кухню,— Анюта схапіла Сцёпу за руку, падняла з кушэткі.

Калі павячэралі, маці расказала абяцаную «навасць». Пачала не спяшаючыся, спакваля:

— Маньку Дубовік, мабыць жа, абое знаеце? Ага ж, тая самая, што ў сяльпе рахункаводам рабіла. Ну-ну, наезджая. Замужам была за настаўнікам. Той кінуў, бо дужа любіла падгуляць. Мусіць, усіх местачковых мужыкоў да сябе перавадзіла. А што, баба відная, пры целе, такіх мужыкі не мінаюць. І дзіця ў яе было. Анюткай, як цябе, дачка, звалі...

— Чаму было? — перапыніла Анюта.— Памерла, ці што?

— От пра гэта і будзе мая навасць. То слухайце. Апошнім часам да Манькі ходзіць пісар Арцём. Мархва, хадзяйка кватэры, дзе гэта шлюха жыве, кажа, што кожны вечар у Маньчыным пакоі чуўся звон шклянак, песні, а то і п'яная лаянка, бойка. Малая Анютка, страшэнна перапалоханая, хавалася тады ў бабы Мархвы. Давяла, гадаўка, дзіцё да таго, што начамі не спіць — кідаецца, крычыць, а то падхопіцца і, голенькая, з немым крыкам кудысь бяжыць. А высахла дзевачка ў шчэпку. Што Мархва дасць, тое і з'есць. Расказала Мархве, як аднаго разу ўзяла без спросу кавалачак сала са стала.

«Тады мамка мяне як стукнула па галаве, дык мне адразу зрабілася добра, і я заснула...»

Карацей кажучы, дзеткі, задумала Манька зжыць дзіця са свету, каб гуляць не перашкаджала. І вось пачала яна паўтараць кожны дзень, і п'яная і цвярозая, што завязе сваю Анютку да бацькоў у Клічаўскі раён. Адсюль у адзін бок кіламетраў шэсцьдзесят, казала, набярэцца. Як толькі падмарозіць асеннюю распуціну, то і павязе. Маўляў, Арцём дасць і каня з воласці і вазок.

Пазаўчора памыла, прыбрала Анютку ў самае лепшае, што было, ну прама як ляльку прыбрала, села з ёй ззаду. Арцём — спераду, і пакацілі. Не дала нават Мархве папрашчацца з дзіцем. Было гэта ўжо позняй раніцай. А надвячоркам і Манька і Арцём былі ўжо дома. Не было з імі толькі дзіцяці. От прыкіньце, які цяпер дзень. Ад сілы восем светлых гадзін. Сто дваццаць кіламетраў, туды і назад, можна зрабіць? За якіх пяць гадзін? Няхай сабе на самым лепшым кані. Ды нізавоштачка!.. — Маці правяла далонямі

па шчоках, нібы здымаючы ліпучае павуцінне.— Задушыла дзіця, курвяжына...

— Як жа гэта можна? Роднае дзіця і... — Анюта моцна прыціснулася да Сцёпы.— Ну, а ты што скажаш? Ну, скажы што-небудзь...

— Разадраць шлюху мярзотную мала. Не хочаш сама расціць, аддай людзям. Выгадуюць. Гэта ж чалавек... Во каго трэба, як тых Ігнатаў ды Валікаў!..

Калі трохі супакоіліся, Анюта пачала збірацца дадому. Маці катэгарычна заступіла ёй дарогу:

— Нікуды, нявестачка, сёння не пойдзеш. Ужо ноч на дварэ. А табе ж усё паўз лес ды паўз лес, чуць не да самай Матылянкі.

— Ды не баюся я лесу, Аляксандра Лук'янаўна.

— Сказала, не пушчу, значыць, не пушчу.— Я — баба такая. Ці мо месца мала? Вунь ложак, кушэтка. Выбірай, дзе лепей.

— Вас не пераспорыш,— слаба махнула рукой Анюта, заружавелася тварам.— Толькі не падумайце абы-чаго...

— Не падумаю, не бойся,— выходзячы ў сенцы, паставіла кропку маці.— Добрай вам ночы, дзеткі.

Сцёпа ўстаў з кушэткі, глянуў у акно. На вуліцы ўжо зусім сцямнела. Пара і ў пасцель.

* * *

З Віктарам Кавалёнкам Сцёпа сустрэўся праз тыдзень. Чакаў яго Кавалёнак на Выгарах, што ў Матылянскім лесе. Выгары — гэта пагорак сярод дрымучага лесу. Некалісь, старыя людзі яшчэ ад бацькоў помняць, тут раслі магутныя карабельныя сосны. Але неяк раз, было гэта яшчэ за прыгонным правам, у цёплае хмарнае надвор'е, у небе над пагоркам адкрылася вялізнае «вока», і з яго вінтом спусціўся на пагорак шырачэзны «хобат»-смерч. Ён з каранямі выраваў шмат соснаў і, прыўзняўшы ўгору, раскідаў па лесе. А па таму, што яшчэ заставалася на пагорку, ударыла маланка і усё спапяліла датла. Нават верхні слой зямлі ператварыла ў спечаную скарынку. Бі па ёй абухом, звініць, а не паддаецца. Праўда, з часам дажджы ды ветры зрабілі сваю справу. Скарынка на гары патрэскалася, і ў рост пайшла раслінасць. Спачатку шэры мох з дзеразой, а затым і ядловец. Ён і зараз панаваў па ўсім пагорку, які ў народзе сталі называць Выгарамі.

Віцька, як толькі заўважыў Сцёпу, кінуўся насустрач. Абняліся, крыху паляпалі адзін аднаго па плячах. Падышоў

каранасты барадач. Сцёпа толькі зірнуў на яго і, адразу пазнаўшы, што гэта сакратар райкома Шуба, рашуча згроб загрудкі. Роблена пагражальным голасам загаварыў:

— Ну, што папаўся, шальмец? Дзе столькі прападаў? Ні голасу, ні вестачкі...

Барадач пакорліва падняў рукі ўгору.

— Таварыш Сцёпа, даруй. Але я і без сустрэчы добра начуты пра ўсе твае прадзелкі...

Пасмяяліся, пажартавалі. Сцёпа запытаўся:

— Чаго зваў, Віцюха? Ці мо тэрміновае што?

— Яшчэ якое тэрміновае! — Віктар паказаў рукой уніз пагорка.— Давай крыху спусцімся ды прысядзем вунь на той выварацень. У нагах праўды няма. А гаворка будзе не мінутная.

Як стала вядома цераз сувязных, немцы рыхтуюцца правесці ў маштабах раёна бліц-аперацыю «Хлеб». Тэрмін — канец лістапада. Да выпадзення вялікіх снягоў. З Мінска ці Магілёва чакаюць на той час вялікую колькасць грузавікоў з адпаведнай аховай, канечне. У камендатуры і раённай управе ўжо маецца канкрэтны план, у якую воласць колькі машын паслаць. На Бушавічы мяркуецца адправіць аж чатыры цяжкія грузавікі.

— Так што?.. — перапыніў Віктара Сцёпа.

За яго адказаў Шуба:

— Так што, братка ты мой, склад з хлебам трэба знішчыць як мага хутчэй, можа, нават неадкладна. Любой цаной.

— Не так гэта проста цяпер. Пасля гісторыі з Ігнатам і Васікам паліцыя ноччу склад ахоўвае.

— А ўдзень?

— Удзень там ахова непатрэбна. Ён жа на той самай плошчы, што і паліцыя. Во, Віктар ведае. Хто гэта сунецца да яго?

Уклініўся ў гаворку Віктар. Як бы між іншым спытаў:

— Табе Анюта што-небудзь пра матылянскіх акружэнцаў гаварыла?

— Нічога асаблівага. Паведаміла, што ёсць такія, быццам бы свае, не прадажныя хлопцы. Вось і ўсё. Прасіў яе, як тут лепей табе сказаць, прашчупаць, ці што, чым яны дыхаюць.— Пацікавіўся: — Слухай, а якія адносіны маюць гэтыя хлопцы да склада з хлебам?

— Самыя прамыя.

— Тады выкладвай. Не цягні ката за хвост.

— Не, спачатку скажы, як зараз паводзяць сябе паліцаі?

— Ціхія зрабіліся. Пакуль нікога не чапаюць, нікому не пагражаюць, як і новы іх начальнічак...

— Дарэчы, а ён, гэты новы начальнік — як яго? — Жывуцкі, што сабой уяўляе?

— Цяжка сказаць. Ведаю толькі, што да вайны скончыў тры курсы мединститута і ўвільнуў ад мабілізацыі. А так... з усімі здароўкаецца, стараецца быць ветлівым. Ні павязкі, ні зброі напаказ не выстаўляе. Вось, бадай, і ўсё...

— Справа ў тым, што матылянскія акружэнцы Грыша-сапёр, Павел і Андрэй — артылерысты, будучы нядаўна на нядзельным базары, заходзілі да яго. Прасіліся ў паліцыю. Абяцаў узяць.

— Чакай,— натапырыўся Сцёпа.— Прасіліся ў паліцыю?!.

— Іменна туды,— спакойна ўдакладніў Віктар.— Па нашай просьбе.

— Цяпер разумею...

— А што тут разумець? — падняўся з вываранай елкі Прохар Шуба.— Хлопцы прасіліся да нас, у партызаны. Вось мы і сказалі ім, спачатку здабудзьце зброю. А дзе яе лягчэй за ўсё ўзяць? Вядома ж, у паліцыі. Выбар жа ў іх вунь які багаты. Цэлы Янкелеў падвал.

— Барахло там, а не зброя. Ламачча адно. А тое, што свае хлопцы будуць у паліцыі,— Сцёпа раптам сарваўся з месца,— гэта ж здорава, яй-божачкі! Бліскучая ідэя! Хто з вас прыдумаў?

— Ніхто нічога не прыдумваў. Сама нарадзілася. Паталкавалі мы з рабятамі, яны і згадзіліся на які месяц надзець паліцэйскія павязкі,— растлумачыў Віктар.

— Тады і са знішчэннем зерняскладa вялікай праблемы не будзе. Хутчэй бы афармляліся.— Сцёпу зарупіла пазнаёміцца з акружэнцамі.— Слухай, Віцька, зладзь спатканне з імі. Хоць сёння. Я павінен кожнага з іх ведаць у твар.

— Згодна. Сёння ж Анюта звядзе цябе з імі.

Сцёпа незадаволена зморшчыўся.

— Зноў Анюта... А калі ты сам?

— Я цябе разумею, дружа,— мякка адказаў Віктар.— У самога ёсць баявая падруга. Але павер, так, браце, трэба.

Абмеркавалі некаторыя іншыя надзённыя пытанні. Мімаходзь Сцёпа расказаў пра дзікі ўчынак Манькі Дубовік. Шуба адрэагаваў парадай:

— Пры першым зручным выпадку Дубовік пастарайце-

ся ліквідаваць. Толькі асцярожна. Узброена жаночым браўнінгам. Агент бярэзаньскага СД. Устаноўлена — точна.

— Чаму раней не папярэдзілі?

— І зараз не позна.

* * *

Жывуцкі паверыў матылянскім акружэнцам. А можа, і не зусім паверыў, ды не было ў яго другога выйсця, як узяць хлопцаў. Хаця б для колькасці. Надта ж мала людзей ішло служыць да немцаў. Выдаў ім павязкі, пасведчанні і зброю на выбар: хто што аблюбуе ў Янкелевым падвале — СВТ, бельгійскі карабін або звычайную трохлінейку. Узброіліся хлопцы сваімі савецкімі вінтоўкамі.

Першыя дзесяць дзён, як і паложана па ваенным статуце, навабранцы былі на каранціне — прыбіралі пуставатую казарму, палілі печ, гатавалі яду. Дроў, дзякуй Богу, хапала, розных прадуктаў — таксама. Не служба — а курорт.

На адзінаццаты дзень Жывуцкі даверыў Паўлу з Андрэем заступіць на пост па ахове зерняскладa. Пазней пабываў у нарадзе і Грыша-сапёр. Для «парадку» ў прысутнасці самога начальніка старанна праверыў усе замкі-завалы на галоўных і запасных дзвярах, прыдзірліва агледзеў супрацьпажарныя сродкі — бусак і ломік-цвікадзёр — на спецыяльным шчыце і, узяўшы пад казырок, далажыў:

— Гаспадзін начальнік! Да нясення службы па ахове аб'екта гатовы! Радавы Пісарчык.

— Добра,— зусім не па-ваеннаму, нават крыху збянтэжана адказаў Жывуцкі.— У далейшым заві мяне не «гаспадзін», а «пан». Пан начальнік. Зразумеў?

— Так точна, зразумеў! — стукнуў абцасамі Грыша.

Застаўшыся адзін, ён яшчэ раз абышоў зернясклад. Сцены з таўшчэзнага, шчыльна прыгнанага бруса з невялікімі закрачанымі вокнамі пад самым дахам. Дзверы абабіты тоўстым ліставым жалезам, запёрты скрыжаванымі заваламі, замкі — мабыць, па паўпуда кожны. Усё надзейна, трывала. Не на год будавалася.

У распараджэнні Грышы было дзве гадзіны. Пакуль прыйдзе змена, ён павінен намеціць месцы для падкопу пад сцены і закладкі толавых шышак. Так было дамоўлена са Сцёпам. А пад раніцу, калі Грыша пасля змены заступіць на свой пост у другі раз, Сцёпа прынясе рыдлёўкі і ўзрыўчатку. Удвух яны павінны будуць замініраваць і ўзарваць гэту, поўную нарабаванага хлеба, будыніну-крэпасць.

Нялёгкая, няпростая задача! Як яно ўсё складзецца-станецца?..

Такое пытанне турбавала, не давала заснуць і Сцёпу. На першы погляд усё як быццам падрыхтавана, дзесяткі раз праверана на трэніроўках, ніякай запінкі-замінкі не павінна здарыцца.

А раптам... Ну хаця б такое. Закрадзецца ў Жывуцкага малейшае падазрэнне на Грышу. Можа ж ён, Грыша, нечым хоць кропельку выклікаць падазрэнне?.. Безумоўна, можа. Начальнік, натуральна, пасылае на пост другога паліцая. А гэта ўжо ледзь не правал...

Або пад раніцу Жывуцкаму захочацца асабіста праверыць пасты...

«Эт! — раззлаваўся сам на сябе Сцёпа.— Ваўка баяцца, у лес не хадзіць. Што будзе, тое і будзе. Маці з Янікам зноў сышла ў Матылянку да Анюты. А паспрабуюць зацапаць яго, жывым не здасца. У адной кішэні, дзякуй усё таму ж скнары Ігару, граната, у другой — рэвальвер з сямю зарадамі. Хопіць на ўсіх!»

Сцёпа расхінуў рэчавы мяшок, пры святле капцілкі яшчэ раз агледзеў туга перавітыя шпагатам пакеты толу. Пакеты гэтыя зрабіў пазаўчора сам Грыша. Чатыры, па дзесяць шашак у кожным. У пакеты былі ўстаўлены дэтанатары з кавалкамі бікфордавага шнура. Даўжыня іх была такая, каб пасля падпалу міны ўзарваліся адначасова або з мінімальным інтэрвалам.

Сцёпа склаў пакеты на месца, паважкаў мяшок: цяжкаваты. Грымне дай божа. Усе шыбы ў бліжэйшых ад плошчы дамах павысыпаюцца.

Зірнуў на ходзікі. Да таго, як Грыша-сапёр заступіць на чарговую вахту, заставалася болей за дзве гадзіны. Праўду людзі кажуць — самае паганае і няўдзячнае — гэта даганяць і чакаць.

Каб неяк скараціць час, паспрабаваў чытаць. Прабег адну старонку, другую, кінуў вокам на гадзіннік. Мінутная стрэлка адолела ўсяго трынаццаць дзяленняў. Устаў і пачаў хадзіць па хаце. Злавіў сябе на думцы, што не помніць ні слова з прачытанага.

Нарэшце без пяці мінут шэсць. Пара. Дастаў з-пад кушэткі дзве сапёрныя рыдлёўкі, сунуў у мяшок і выйшаў. Ноч цёмная, хоць вока выкалі. Каб не наткнуцца часам на развадзячага, Грыша павінен падаць сігнал цыгарэтай.

Ага. Вунь бліснуў рубінавы агеньчык. Гэта Грыша. Нячутна наблізіўся. Грыша моўчкі ўзяў яго за руку, падвёў да сцяны склада і выдыхнуў:

— Тут. Дай рыдлёўку і адзін пакет.— І растаў за вуглом.

Вярнуўся літаральна праз пяць мінут, узяў яшчэ два пакеты.

— Гатова ў цябе?

— Здаецца, гатова. Памацай.

— Лады. Давай пакет,— папыхкаў, стоячы на каленях.— Запальвай, як вучыў. Запалку да кончыка шнура і шморгай карабком. Зашыпела і — драла. Як толькі кашляну.

— Павел з Андрэем гатовы?

— Чакаюць выбуху. А тады — гранату ў дзяжурку і аж да Лысай гары.

— Вас сустрэнуць крыкам савы,— на ўсякі выпадак нагадаў Сцёпа раней умоўлены сігнал для сустрэчы з партызанамі.

І вось з-за вугла склада далятае хрыпаты кашаль. Сцёпа шморгае карабком па запалцы, прыкладзенай да коса абрэзанага бікфордавага шнура. Не загараецца. А, чорт! Ад хвалявання спацелі далоні. Хутчэй — другую!.. Шмаргануў. Загарэлася. Зашыпела. Зайцам сігануў цераз дарогу, стараючыся не тупаць, наблізіўся да роднага дома, затаіўся за сенцамі.

Мярцвяна-белая ўспышка на міг высветліла ўсю плошчу, і тут жа амаль адразу скалануў наваколле магутны выбух.

«Усё!» — нячутна адзначыў Сцёпа, запёр на завалу сенцы і зайшоў у прывулічную палавіну дома. Па хаце гуляў скразняк. Пры нястрымна дужэючым святле пажара, што ўздымаўся над плошчай, убачыў: усе чатыры акны засталіся без шыбаў. Падумаў, што хочаш не хочаш, а давядзецца «пазычыць» вокны ў дамах, пакінутых яўрэямі. Як-ніяк зіма на парозе.

У другой палавіне дома, ад агарода, ні адна шыбіна не высыпалася.

Цяжка апусціўся на зэдлік, прыпёрся спінай да сцяны. У вушах назойліва звінелі ценькія званочкі. Зразумеў: і яго не мінула выбуховая хваля.

Сцёпа не заўважыў, як заснуў. Не прылёгшы нават. А калі прачнуўся, праз вокны ў хату сачыўся белы світанак. Густа пахла пражаным жытам, як некалі на начлезе, калі падсмажвалі з хлопцамі жытнёвыя каласы. Падняўся, адсунуў засланку. Не, у печы не паліцца. І раптам пляснуў сябе па лбе — зернясклад!.. Дагарае ўжо, відаць. Бо такі смалісты звон-брус трасцу чым утушыш. А зрэшты, хто стане тушыць, ратаваць хлеб для прышэльцаў? Хіба паліцаі. То і іх зноў засталася жменька — з Жывуцкім усяго сямёра.

Перайшоў на другую, прывулічную, палавіну. Асцярожна выглянуў праз акно на вуліцу. На вуліцы і плошчы не было ні душы. З таго месца, дзе яшчэ ўчора высілася чорная грамада зерясклада, клубамі падымаўся ўгору жоўта-белы дым. Дагарала зерне.

Замкнуў хату і спусціўся агародамі да рэчкі. Мінут праз пяць быў каля броду. На тым беразе ўжо маячыла знаёмая постаць.

Не паспеў перайсці, як Пінская абвіла рукамі за шыю і горача, узасос пацалавала. Асцярожна вызваліўся, на крок адступіў. Не, гэта ўжо быў пацалунак не таварыша па зброі, а галоднай жанчыны. Так можна чорт ведае да чаго дакаціцца. Злосна кінуў:

— Каб больш такога не было! Не люблю! — павярнуўся, каб пайсці.

— Дурачок! — моцна сціснула за локаць.— Сёння ж сёмае лістапада. Разумееш, восьмае. Наша свята. І наш падарунак яму! Няўжо забыўся, які сёння дзень?..

Сцёпа і сапраўды не звяртаў апошні час увагі на каляндарныя чыслы. Пражыў дзень, і дзякуй Богу. Адчуў сябе ніякавата перад Пінскай.

— Ты даруй, Паліна, што я так груба на цябе... Мне чамусьці здалося...

— Нічога табе не здалося. Так яно і ёсць. Падабаешся ты мне,— шчыра прызналася Пінская.— Аднак не падумай, што я збіраюся насільна адарваць цябе ад каханай Анюты. І ведаеш, гэта ты даруй мне, дурной бабе, што ніяк не магу саўладаць з сабой, як ні стараюся, не выходзіць, і ўсё.— Густа пачырванела, апусціла галаву.— Ну ды не будзем болей пра гэта. Абяцаю, падобнае не паўторыцца.— І зусім іншым, дзелавым тонам: — Не шкодзіла б, Сцёпушка, наведацца ў Віляцін. Валодзя Якімчык, канечне ж, слухаў учора Маскву. Можа, што цікавае пачуў.

— Добра. Я зараз, прама адсюль нацянькі і рушу. Бо калі цераз цэнтр — можна Жывуцкаму на вочы трапіць.

— Пастой,— спыніла яго Пінская.— Чуць не забылася. Ігар сёння хадзіў на разведку. Жывуцкі некуды збег. Самі паліцаі распытвалі, ці не начаваў у якой кабеты.

Сцёпа крыху падумаў, потым са спагадлівай усмешкай сказаў:

— На яго месцы і я не сядзеў бы. Прыедуць немцы па хлеб, а дзе ён, той хлеб? Не ўбярог Жывуцкі са сваім доблесным воінствам, не выканаў найстражэйшы загад начальства. Значыць, што? Шыбеніца! Фашысты, яны цацкацца не

любяць. Вінаваты — не вінаваты, а ёсць зачэпка, пажалце ў пятлю... Сама ж добра ведаеш...

— Ведаю-то ведаю, а напачатку і сапраўды паверыла, што ў якой маладзіцы дрыхне... Ён жа падкі да спадніцы...

— Падкі... Пасля такога выбуху пра ўсе жаноцкія чары забудзеш. Ну, давай руку. Пайшоў. Вечарам чакай добрых вестак.

— Добрых?

— А чаму — не? Стаіць жа Масква. І немчура, прыхвасні больш не паўтараюць, як яшчэ месяц-два назад, сваё «Масква капут». Прыкусілі языкі...

Навіны ў той прыход да Валодзі Якімчыка пачуў Сцёпа не тое што добрыя, а, калі можна так сказаць, аглушальна радасныя. Аж не верылася. Вораг стаіць на подступах да Масквы, а на станцыі метро Маякоўская праходзіць урачыстае пасяджэнне, прысвечанае 24-й гадавіне Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі. На ім выступае сам Сталін. Больш таго, на Краснай плошчы, як заўсёды, праводзіцца ваенны парад. Байцы і камандзіры прама адсюль адпраўляюцца на фронт.

Валодзя, падрабязна расказваючы пра навіны маскоўскага радыё, смяяўся і адначасова выціраў хусцінкай слёзы, а Сенька акуратна разразаў нажом трубку светлых шпалераў. Сёння ж ён на старым сельсавецкім «ундэрвудзе» адстукае адным пальцам якую паўсотню лісточкаў з апошняй навіной і перадасць па прызначэнню. Хай усе ведаюць, што святочная прагулка «нязломных» армій «вялікага вермахта» скончылася. Так сказаў сам Сталін.

* * *

Коля Харытонаў не ўвайшоў, а ўляцеў да Сцёпы. Круглы твар яго ззяў, не раўнуючы, як надраены самавар. Плюхнуўся на кушэтку, шырока раскінуў рукі.

— Ну-у... і дзякуй Богу!

Іранічна прыжмурыўшыся, Сцёпа спытаў:

— Што, пятак знайшоў ці другое шчасце прываліла?

— Не было б шчасця, ды няшчасце памагло. Манька Дубовік са сваім бахурам перастраляліся. Насмерць.

— Абое?

— У тым і справа. Ён яе з нагана ў жывот, а яна яго — у скронь. Два «молодых интересных» трупы ў Мархвінай хаце. Бегае бедная жанчына па людзях, каб памаглі пахаваць. Ніхто не хоча на могілках. Каб не паганілі. Толькі —

за мястэчка. Як яны яўрэяў. Разумееш, Сцёпка, і не трэба мне цяпер рукі мараць. Лічы, тваё заданне выканалася само сабой.

— А што паліцыя?

— Цьфу! — абразліва плюнуў Харытонаў.— Якая паліцыя!.. Разбегліся, пазашываліся дзе хто... Хіба не чуў?

— Чуць-то я чуў, але ж учора на свае вочы Міністра бачыў.

— Як? — хітра звузіў вочы Коля.— Пры ўсім парадзе?

— Чакай, чакай,— напружыў памяць Сцёпа і аж крыкнуў: — Слухай! І праўда!.. Ні павязкі, ні вінтоўкі. Мяне нават здзівіла трохі, што гэта ён так.

— А сёння знік і Міністр. Жонка яго ходзіць па суседзях і талдоніць, што на Украіну, да брата, падаўся. Маніць, канечне.

— Гэта ўжо як піць даць,— згадзіўся Сцёпа.— Сядзіць недзе ў запечку ці ў падвале. Жраць хапае. Акружэнцы расказвалі, якое было багацце прадуктаў у паліцыі. Кублы сала, кумпякі вэнджаныя, розныя крупы, мука.— Запытаўся: — Ніхто туды не заглядваў?

— Ігар пабываў. Пустая казарма, хоць шаром пакаці, казаў. Толькі ў дальняй каморцы два мяшкі солі засталося.

— Соль,— Сцёпа аж перасмыкнуўся ўвесь.— Што ж ты маўчыш? Яе трэба зараз жа, неадкладна...

— Не гарачыся,— спаважна перапыніў яго Харытонаў.— Будзе ноч — будзе работа. А зараз... Шмат лішніх вачэй... Дарэчы, я ўжо і транспарт падрыхтаваў...

— Удвух з Хімчыным справіцеся?

— Раз плюнуць. Ды і Ігароха паможа. Соль ён надзейна прыхаваў. Казаў, без яго доўга шукаць прыйдзецца. Ты на гэты раз можаш адпачыць.

— Якое там — адпачыць? — махнуў рукой Сцёпа.— Трэба во ў Новіны бегчы. Вася Краўчонак цераз сястру перадаў, хоча пабачыцца.

— Бяжы. Васіль дарэмна не пазаве...

...Да Новін ад Бушавіч было сем кіламетраў. Вяла туды лясная гравійная дарога.

Сцёпа ішоў спорай, хуткай хадою. Гэтаму спрыяла надвор'е. Марозна. Бязветрана. У сасновым лесе дыхаецца лёгка-лёгка. Не мінула і гадзіны, як за паступова радзеючымі соснамі ўбачыў першыя новінскія хаты. Выйшаў на знаёмую вуліцу. Хоць бы адна жывая душа! Пуста, гола. І... трохі вусцішна.

Хата Краўчонкаў стаяла трэцяй у правым радзе. На стук адчыніў сам Васіль.

Радасна, але без лішніх эмоцый павіталіся. Васіль запрасіў у свяцёлку.

Справа да Сцёпы ў яго была пільная, тэрміновая. Тыдні тры назад да іх у Новіны наведаўся былы старшыня калгаса Федарынчык. Ён з сям'ёй перабраўся з вёскі некуды ў лес. Яшчэ ў канцы ліпеня. Цяпер Федарынчык быў начальнікам боесілкавання партызанскага атрада. Атрад рос як на дражджах, а зброі, боепрыпасаў — бракавала. Асабліва вострая патрэба была ва ўзрыўчатцы. Новінскія хлопцы нагрузілі тады яму цэлую падводу вінтовак, патронаў. Далі нават два кулямёты. Адзін зняты з нашага лёгкага танка, другі — нямецкі пяхотны МГ з дзвюма жалезнымі каробкамі. Пабяцалі дабыць і ўзрыўчаткі. Ды вось няшчасце: літаральна дзень назад Федарынчык, ідучы на чарговае заданне, можа, нават сюды, у Новіны, напароўся на нямецка-паліцэйскую засаду і, каб не трапіць у варожыя рукі жывым, падарваўся на гранаце. Загінуў сам, загінула з ім шмат фашыстаў, нешта каля дзесяці чалавек.

Так людзі перадалі.

Але ж з гібеллю Федарынчыка не адпала ў партызан патрэба ва ўзрыўчатцы. Васіль ведае, цераз каго — няважна, што ў Сцёпы ёсць сталая сувязь з Віктарам Каваленкам і Прохарам Шуба, камсамольскім генсекам. Неабходна даць знаць гэтым людзям, што ўзрыўчаткі зараз у новінскіх хлопцаў ёсць болей чым дастаткова і няхай забіраюць у самы бліжэйшы час.

Сцёпа запэўніў, што Віктару або Прохару стане ўсё гэта вядома, калі не сёння, то заўтра. Абавязкова. Канечне, пры ўмове, што чорт нагу не падставіць. Вайна — не гульня. Любы крок, і верны і няверны, можа каштаваць жыцця. Любая сцежка, і праверaная і неправераная, можа прывесці да магілы...

Дамовіліся аб паролях на будучае, аб месцы наступных сустрэч. Коратка расказалі адзін аднаму пра апошнія навіны.

Асабліва абрадавала Васіля паведамленне аб выступленні Сталіна і традыцыйным парадзе на Краснай плошчы.

— Жывём, братцы! — аж падскочыў Васіль.— Пабягу хлопцаў парадую!..

Вяртаючыся назад, Сцёпа ўвесь час не пераставаў думаць, як лепей, хутчэй звязацца з Віктарам Каваленкам, цераз Віляцін ці Матылянку. Прыкінуўшы і так і гэтак, узважыўшы ўсе «за» і «супраць», выбраў урэшце Матылянку.

І не памыліўся. Калі вечарам прыйшоў у вёску, там якраз быў «часовы паліцай» Грышка-сапёр — заскочыў да знаёмай кабеты пераапрануцца. Праз яго і перадаў у атрад усё, што было трэба. І ўжо назаўтра вечарам атрымаў ад Васіля маленечкі ласкуток паперы з адным-адзіным словам «Дзякуй!».

Пасля ганебнага бегства з Бушавіч жменькі недабітых паліцаяў і дурной смерці пісара Арцёма дыхаць людзям стала вальней. Можна было, не апасаючыся чужых вачэй, зайсці да каго хочаш і ў лес па дровы з'ездзіць без боязі, што цябе абвінавацяць у сувязі з бандытамі-партызанамі.

Жыццё пацякло спакойнае, вальготнае, без нечаканасцей і рызыкі і... як бы гэта ні здавалася дзіўным, можа, нават недарэчным на першы погляд, сумнае. Так, для Сцёпы і яго сяброў па камсамольскаму падполлю сядзець у поўнай бяздзейнасці па меншай меры было мулка. А капнуўшы глыбей, можна сказаць — злачынна. Вайна ж фактычна толькі пачалася, а яны, кокнуўшы колькі здраднікаў, супакоіліся і чакаюць, каб ім паднеслі чарговае заданне на сподачку з блакітным абадочкам.

Не вяжацца такі супакой з чалавечым сумленнем. Недаравальны ён, калі рашаецца лёс Радзімы. Кожны патрыёт павінен зараз рабіць нешта пэўнае, даступнае яму і карыснае для Айчыны. Хто што можа.

Сцёпа хацеў пайсці да Колі Хімчына ці Харытонава, параіцца з імі, зрабіць такія-сякія намёткі на бліжэйшы час. Ды ўжо па дарозе перамяніў першапачатковае рашэнне. Спачатку ён зазірне да Пінскай. Як-ніяк таварыш з Мінска, іх непасрэдны кіраўнік.

Пінская была якраз дома. Спачатку як бы трошкі напружылася:

— Здарылася што?!

— Ды не, усё як было. Нібы ў тым сонным царстве,— нявесела пажартаваў Сцёпа і ў скупых словах выклаў сваю скруху.

Пінская толькі ўчора ўначы вярнулася з Ратнага. Лесапільны завод там партызаны разабралі і некуды вывезлі. Ад лакамабіля застаўся адзін шкілет. Знішчылі дашчаную дарогу-ляжнёўку, што вяла з шашы ў пасёлак. Цяпер ужо лесавозы-газагенератары больш з Мінска не ходзяць. Яе знаёмы шафёр-сувязны быў апошні раз у Ратным дзесяць дзён назад, яшчэ да пагрому. На явачнай кватэры пакінуў для Пінскай шыфроўку.

— Вось яна.— Паліна Васільеўна ўстала з табурэткі,

прыжмурыла вочы і, уся наструніўшыся, пачала чытаць:— «Днямі пад выглядам ваеннапалонных уцекачоў мінскае СД засылае ў партызанскія атрады Бярэзаньшчыны групу дыверсантаў у колькасці сямі чалавек — Казлоўскі, Татарчук, Фаміных, Талакян, Герцыкаў, Палавінкін, Карачэнка. Мэта. Масавае атручванне партызан і мясцовага насельніцтва, тэрарыстычныя акты, падрыхтоўка карных аперацый. Тэрмінова паведаміце партызанскаму кіраўніцтву. Сувязь па ранейшых каналах. Дзякуем». — Села.— Усё.

— Значыць, сувязь па ранейшых каналах,— міжволі ўздыхнуў Сцёпа.— Закрыліся тыя каналы. Колькі дзён мінула, як прыйшла шыфроўка?

— Дзесяць. Цягнуць нельга. Магчыма, гэтыя казлоўскія ды палавінкіны ўжо круцяцца ля партызанскіх катлоў ды калодзежаў. Усіх запомніў?

— Не, прачытай яшчэ раз.

Памяць у Сцёпы была неблагая. Праз тры мінуты ён ужо без запінкі адбарабаніў усе сем дыверсанцкіх прозвішчаў.

І зноў яму трэба было тэрмінова бегчы. І зноў на сувязь усё з тымі ж Віктарам ці Прохарам. Выходзіць, дарэмна ён наракаў на паласу вялай бяздзейнасці. Работа была, ёсць і будзе. Толькі паспявай.

На гэты раз Сцёпа ўзяў кірунак на Віляцін. Так было дамоўлена з Віктарам Кавалёнкам пры апошняй сустрэчы. Сувязь з атрадам будзе ажыццяўляцца цераз Валодзю Якімчыка або Сеньку Баразнёнка. Частыя ж з'яўленні партызан у Матылянцы, пры самай дасканалай маскіроўцы, маглі быць заўважаны нядобрым чалавекам. Вёска ж не маленькая, больш за сто двароў. Розныя людзі жывуць пад яе дахамі...

Адчыніла Сцёпу Валодзева маці. Пільна агледзела з галавы да ног, паўзіралася ў твар.

— Ці не Шуры Дымоўскай сын будзеш?..

— Пазналі, цётка Агата. Думаў, забыліся ўжо пра мяне. Амаль два гады не бачыліся. Дзе Валодзя?

— А хто ж яго ведае? Не сказаў. Быў тут надоечы Сенька, гаварылі пра нейкага госця. Збіраліся лазню для яго прапаліць. Мо ты і будзеш той самы госць?

— Можа, і я,— міжволі зманіў Сцёпа.

— Тады во што. Ідзі да Баразнёнкаў, а няма там, шыбуй прама ў лазню. Ля лесу. Хаця сам ведаеш. Помню, парыўся раз...

— Было, было, цётачка, і не адзін раз,— заспяшаўся на вуліцу.— То бывайце здаровы...

— Шчаслівенька...

Лазня Якімчыкавых была зроблена па-беламу. Калі распальвалі складзеную з камянёў печку, дым з яе не валіў на памяшканне, як у другіх, а выходзіў у комін. Унутры лазня была не закопчаная, сцены і столь бурэлі сухой драўнінай. І вада ў лазні грэлася не апушчанымі ў бочку з вадой распаленымі камянямі, а праз спецыяльную трубу, што была ўмуравана ў печку і злучана з жалезнай двухсотлітроўкай.

Так, хлопцы былі ў лазні. І не адны. З імі знаходзіўся і Віктар Кавалёнак. Убачыўшы Сцёпу, ён аж засвяціўся ад радасці.

— Ну, братачка, усё-такі ёсць на свеце Бог. Пачуў мае малітвы. Як добра, што ты прыйшоў!.. Мы ўжо збіраліся бегчы да цябе. Чакалі поцемкаў...

— Як гэта кажуць? На лаўца і звер бяжыць?

— Во-во, якраз у дзесятку. Ёсць, браце, не зусім звычайнае заданне табе. Не, хутчэй не заданне, а просьба. Трэба усё абмазгаваць. Вобшчам, з усіх бакоў усё разгледзець, перш чым паставіць канчатковую кропку...

— Даўгаватая прадмова. Давай хутчэй выкладвай, што ў цябе за далікатная просьба-заданне. Бо ў мяне тэрміновае паведамленне. Пра дыверсантаў.

— Зараз, зараз. Табе неабходна пераехаць на жыхарства ў Бярэзань. І чым хутчэй, тым лепш.

— Як так пераехаць? А маці, брацік? Іх таксама браць? — апешыў Сцёпа.

— От давай думаць будзем, як тут лепш зрабіць. Хлопцы,— звярнуўся Віктар да Валодзі з Сенькам,— дапусцім, што падобнае заданне атрымалі вы?..

— Я сям'ю не чапаў бы,— не задумваючыся адказаў Сенька.— Тут жа ўсе свае. А везці туды, у тое пекла...

Валодзя быў гэткай жа думкі.

— Разумна. Ваша праўда,— без ваганняў згадзіўся Сцёпа.— Але пад якой маркай я раптам паяўляюся у Бярэзані? Так і скажу ў паліцыі ці ўправе: прымайце партызанскага сувязніка, сам камісар Віктар Кавалёнак прыслаў да вас?

Віктар весела зарагатаў:

— Малайчына, не траціш пачуцця гумару. Дык слухай, толькі ўважліва, як усё трэба зрабіць, вярней, як мы мяркуем абставіць тваё ўцёкі з Бушавіч у Бярэзань. У тую ноч, калі ты, так сказаць, «уцячэш», партызаны правядуць па ўсіх навакольных вёсках павальную мабілізацыю ўсіх маладых хлапцоў, а таксама прыпіснікаў-акружэнцаў. Гэта ўсур'ёз. Усе яны толькі і чакаюць нашага прыходу. Рвуцца хлопцы ў бой.

— А я, значыць, у кусты? — Сцёпа нядобра паглядзеў на сябра.

— А ты на больш адказны, на больш небяспечны, калі хочаш ведаць, участак. Вось так! — Голас Віктара задрыжэў. У самую пашчу хітрага, каварнага, бязлітаснага звера. Калі згода — па руках, калі ж адчуваеш, што можаш ненарокам спаткнуцца, не зладзіць з нервамі,— адмаўляйся адразу. Ніхто цябе ні ў чым не ўпікне. Падбяром другую кандыдатуру.

— Зноў доўгая прадмова. Ты мне выкладзі сутнасць справы: што іменна я павінен рабіць і дзе, у якой бярэзаньскай установе або на якім прадпрыемстве. Якая перада мной стаіць задача? Канкрэтна давай. Тады я змагу даць і канкрэтны адказ — здолею выканаць ці не.

— Канкрэтна, кажаш? Магу і канкрэтна. Толькі такія пытанні вырашаюцца сам-насам.

Сенька і Валодзя падняліся з лаўкі.

— Пойдзем дроўцаў дубовенькіх прынясём,— сказаў Валодзя.— А вы тут вырашайце. Паўгадзіны вам на гэта хопіць?

— У-га-га! Вось так,— правёў Віктар рабрыной далоні па горле.

Застаўшыся адны, Сцяпан і Віктар прыселі бліжэй адзін да аднаго. Задача Сцёпу ставілася і сапраўды нялёгкая, небяспечная. Рызыкаваць трэба было кожны дзень. Карацей, партызанам пазарэз патрэбен друкарскі шрыфт. Ручную друкавальную машыну яны прыдбалі ў божынскім сельскім музеі, спадчына графа Патоцкага. Узялі адтуль і разнамерныя накатачныя валікі. Нават бляшанка фарбы знайшлася. А шрыфтоў — толькі тое, што было ў выстаўленай на стэндзе наборнай касе. З такім запасам не тое што газету-двухпалоску, звычайную лістоўку на дзесяць — пятнаццаць радкоў не выпусціш.

Выпускаць жа партызанскую газету — весніцу праўды для заняволенага люду трэба ўжо зараз, сёння.

Якім жа чынам? Выйсце тут адно. У Бярэзані раённая друкарня засталася некранутай. Месяц назад бургамістр Хвалынскі вывесіў аб'яву, што будзе выходзіць газета на беларускай мове, орган раённай управы. Тэрмінова патрабуюцца наборшчыкі, друкары, літаратурныя работнікі. Канечне, з лаяльных грамадзян. Усе яны будуць забяспечаны пайком і жытлом. Аплата працы — у нямецкіх марках. Сцёпа можа запраста ўладкавацца літработнікам. Пісаў жа ён перад вайной у раёнку і ў абласной не раз выступаў

з замалёўкамі. Журналісцкая жылка ёсць. Дадуць для праверкі напісаць што — не схібіць, зробіць.

— Усё гэта зразумела,— прамовіў у роздуме Сцёпа,— але ж я не друкар і тым больш не наборшчык. А шрыфтамі распараджаюцца толькі яны і ніхто больш. Давай вось як зробім. Ты ж ведаеш, што ў Бярэзані працуе ў МТС мой родны дзядзька, Валік не паспеў забіць.

— З Мікалаем Лук'янавічам у нас ёсць сувязь.

— Ну і слава алаху. Тым лепш. Пайду-тка я да яго на работу. У МТС. У слясарнай справе трохі кумекаю. І правы шафёра трэцяга класа маю. Падазрэння ніякага. Прозвішчы ў нас розныя, і знешне ніякага падабенства. Атрымаю той самы паёк і маркі. Што ж датычыць шрыфтоў, гэтым зоймуцца мае добрыя знаёмыя са Святліцы — Язэп Чэх і Ваня Паповіч. Першы — друкар, другі — наборшчык. Болей у раёне спецыялістаў няма, гэта — точна.

— А як не згодзяцца?

— Гэта ўжо мой клопат. Упэўнены, што асечкі не будзе. Не такія гэта людзі, каб немцам прадацца.

— Ну добра. Чорт цябе бяры. Рабі як знаеш. Толькі растлумач, чаму не хочаш — у рэдакцыю?

— Па-першае, друкарня і рэдакцыя далёка не адно і тое ж. Сам добра ведаеш. Па-другое, немцы могуць не пасяліць іх пад адным дахам, і тады маё з'яўленне ў друкарні траціць усякі сэнс. Паспрабуй дацягніся да тых шрыфтоў. І па-трэцяе, не хачу ганьбіць сваё імя. Газета, прытым фашысцкая, гэта палітыка. А вернуцца нашы, што я скажу? Пісаў у нямецкім лістку? Пісаў. Ну дык палучай па заслугах... Не так?

— Твая праўда, братка Сцяпан,— перарывіста ўздыхнуў Віктар.— Рана ці позна вайна скончыцца. Нашы вернуцца, у гэтым не можа быць ніякага сумнення. Вернуцца і спытаюць, строга спытаюць з нас... Лады, план твой прымаю. І дай мне сваю лапу. Вось так. А цяпер паўтары мне яшчэ раз прозвішчы дыверсантаў, ды пабягу ў штаб. Справа — тэрміновая. Заві хлопцаў. Лазня на сёння адмяняецца.

## Трывожнае чаканне

Бярэзань сустрэў Сцёпу пранізлівым холадам і няўтульнасцю. З боку, здавалася, такой заўсёды ласкавай, Бярозыракі цяпер несціхана дзьмуў тугі вецер-разак, які, нібы

старое рэшата, працінаў ушчэнт ужо вынашанае «семісезоннае» паліто і студэнцкія дзяшовыя штонікі і прымушаў хлопца бесперапынна рухаць лапаткамі і не хадзіць, а як бы прытанцоўваць у модных ботах «джымі» па абледзянелых дошках пасялковых тратуараў.

Першую ноч Сцёпа прадрамаў на лаўцы ў кухні аднапакаёвай казённай кватэры дзядзькі Міколы. Дзядзька і да вайны жыў тут, калі працаваў старшым механікам МТС. На вайну яго не ўзялі, бо пасада механіка падпадала пад бронь: меркавалася ў тутэйшых майстэрнях рамантаваць танкі, цягачы і іншую ваенную тэхніку. А тут раптоўна наляцелі немцы, і пра эвакуацыю позна было ўжо думаць. Вось і застаўся дзядзька Мікола з сям'ёй як бы зусім добраахвотна ў варожым палоне. Месяцы два ці тры яго ніхто не турбаваў і ні аб чым не пытаўся. Але аднойчы, ужо на пачатку верасня, непрыкаянае дзядзькава жыццё адразу перайначылі дзве падзеі, якія зваліліся на яго амаль адначасова: у поўдзень яму прынеслі позву з раённай управы абавязкова з'явіцца заўтра да самога пана бургамістра, а позна ўвечары ў чорную шыбіну акна нехта настойліва пастукаў. Калі, не пытаючы, хто там, выйшаў на ганак, нос у нос сутыкнуўся з сакратаром райкома партыі Сакалоўскім: пазнаў таго па надзвычай высокай танклявай постаці. Паздароўкаліся, адышліся да хлеўчука. Першае, што спытаў дзядзька ў Сакалоўскага, было:

— Можа, галодны?

— Потым,— няпэўна адмахнуўся той.— Я вось па якой справе да цябе. Нам стала вядома, што немцы збіраюцца аднавіць работу МТС, дакладней, эмтээсаўскіх майстэрань. Так што і цябе не абміне запрашэнне на паслугі «вызваліцелям».

— Ужо атрымаў позву. На заўтра,— коратка адказаў дзядзька.

— То і слаўненька! — па-дзіцячаму ўзрадаваўся сакратар.— Згаджайся на любую пасаду.

— Але ж...— паспрабаваў запярэчыць Мікола.

— Ніякіх але... Згаджайся. І рабі ўсё, што загадаюць. Старайся ўвайсці ў давер. Толькі не перабольшвай. З галавой усё рабі, разважліва, каб не выклікаць залішняй стараннасцю адваротную рэакцыю.

— А можа, яны па другой якой справе...

— Не, не, не,— горача запэўніў Сакалоўскі.— Ты ж не камуніст, не дэпутат, ніякі не актывіст... Ты проста выдатны спецыяліст. А такімі людзьмі немцы не кідаюцца. Я не

сумняваюся, што іменна з нагодыаднаўлення майстэрань цябе і выклікаюць...

Ледзьве не на досвітку рассталіся ў тую ноч дзядзька Мікола і сакратар райкома, а цяпер начальнік разведкі партызанскага атрада.

Вечарам наступнага дня дзядзька Мікола ўжо хадзіў па тэрыторыі МТС з новенькім пасведчаннем дырэктара гэтага прадпрыемства. У яго задачу ўваходзіла як мага хутчэй укамплектаваць штат і разгарнуць актыўную работу. І ён узяўся за справу, як той кажа, закасаўшы рукавы. І неўзабаве штат быў набраны амаль поўнасцю. Набіраў ён тых, каго сам добра ведаў па ранейшай рабоце і хто добра ведаў яго. «Сямейка» падабралася дружная, працавітая, і калі ў майстэрні з'яўляўся сам шэф Бекер, таўшчэзны нямчына з дамскім «вальтэрам» на рэмені, усе так гучна грукалі малаткамі, шоргалі рашпілямі, блямкалі па кавадлах, што той толькі задаволена паціраў рукі і прыязна ўсміхаўся ў сіваватыя вусы:

— О-о-о... гут, гут!..

Пра ўсё гэта даведаўся Сцёпа ад дзядзькі Міколы ў першы ж дзень свайго прыходу ў Бярэзань. У той жа дзень і ён стаў слесарам-інструментальшчыкам. Зарплата — сорак пяць акупацыйных марак. Паёк — 400 грамаў асцюкаватага хлеба на дзень. Але... на бязрыб'і і рак рыба. Ды, урэшце ж, не па заробкі нейкія прыйшоў ён сюды...

Праз які тыдзень Сцёпа ўжо меў свой куток для жыцця — зняў шасціметровы пакойчык-пенал у адзінокай бабулі. Дамовіліся, што ён будзе аддаваць ёй хлеб і маркі, стане калоць дровы, адрамантуе напаўразбураны хляўчук, плот, а яна будзе карміць яго. Атрымалася няблага — кватэра ды яшчэ са сталом.

Цяпер трэба было неяк сустрэцца з Фёдарам Глінскім.

Пра гэтага чалавека, зараз рэдактара райгазеты, Сцёпа ведаў толькі тое, што пачуў ад Віктара Кавалёнка, калі сустракаліся апошні раз. Незадоўга да вайны камсамолец Глінскі паступіў у мінскі інстытут журналістыкі і амаль паспеў скончыць два курсы, як здарылася нечаканае: яго бацьку, малапісьменнага лапцюжнага селяніна, абвінавацілі ў трацкізме і адправілі пад канвоем у Сібір аж на дзесяць гадоў. А сына «ворага народа» Фёдара тут жа выключылі з камсамола і аўтаматычна — з інстытута. Першакурснік Віктар быў прамым сведкам, як усё гэта рабілася, і ў душы глыбока спачуваў сябру. Але... Скажы хоць адно слова ў абарону «трацкісцкага» сынка і сам загудзіш услед за ім...

Адкрыта пра тыя страшныя падзеі пагаварылі яны ўжо тут, калі апынуліся абодва на акупіраванай тэрыторыі. Не, не трымаў крыўды Федзя на савецкую ўладу. Ён непахісна верыў у ідэю пабудовы камунізму, у непазбежнасць сусветнай рэвалюцыі, а арышт бацькі і выключэнне самога з камсамола і інстытута цалкам адносіў да «перастаранняў» мясцовых органаў ГПУ. Нават усур'ёз збіраўся напісаць пра ўсё грунтоўнае пісьмо вялікаму правадыру ўсіх часоў і народаў. І каб не вайна, канечне ж, напісаў бы...

Праз нейкі час Віктару стала вядома, што Глінскі паступіў на работу ў рэдакцыю райгазеты. Вядома ж, узялі яго туды без ніякіх праверак на лаяльнасць. Сын рэпрэсіраванага, сам выгнаннік з камсамола, хіба можа такі чалавек не быць верным новаму парадку, што прынесла армія фюрэра?!.

Так дыктавала простая логіка. І разам з тым Віктару не давала спакою сумненне ў такой, здавалася б, жалезнай логіцы. На донцы яго душы жыла, не гасла ўпэўненасць, што пайшоў Фёдар Глінскі на службу да немцаў з нейкай сваёй, аднаму яму вядомай, задумкай-мэтай. Толькі вось з якой? Сустрэцца б з ім зноў, як тады, адзін на адзін, пагутарыць адкрыта, шчыра... Не, не вораг Федзька, не мог ён вось так адразу стаць пярэваратнем... Тут нешта зусім іншае. А што? — зноў пытаўся сам у сябе Віктар і, не знаходзячы больш-менш пэўнага адказу, наказаў праз людзей пра жаданне спаткацца. Фёдар чамусьці адказаў маўчаннем. Ці, можа, не перадалі яму людзі Каваленкаву просьбу.

Ва ўсякім разе Сцёпа зараз не ведаў, да каго пойдзе, да свайго чалавека або да заклятага ворага. А ісці трэба было абавязкова і не адкладваючы: у свой чарговы візіт да дзядзькі Міколы Сакалоўскі зноў напомніў пра шрыфт для партызанскай друкарні. Папрасіў перадаць пра такую пільную патрэбу непасрэдна Сцёпу. Вось ён, Сцёпа, зараз і рашаў, з чаго пачаць канкрэтную аперацыю «Шрыфт». Пасля доўгага пакутлівага роздуму, як больш натуральна сустрэцца з гэтым загадкавым Глінскім, а праз яго і са знаёмымі друкарамі, ён нарэшце балюча стукнуў сябе кулаком па лбе: ідыёт! ды гэта ж прасцей простага — напісаў ура-заметку пра бурную работу рамонтных майстэрань і нясі ў рэдакцыю,— ніхто нават не падумае, што ў галаве ў цябе зусім не заметка, а шрыфт, які ты, кроў з носа, павінен дастаць і пераправіць у лес.

Заметка, над якой Сцёпа прасядзеў чуць не цэлы вечар, атрымалася хаця і хадульна-штучнай, затое да крыку ўзнёс-

лай. Такую ніякі рэдактар, калі ён сапраўды служыць немцам, адхіліць не мог. Хай Глінскі хоць заікнецца аб адхіленні, Сцёпа тут жа прыгрозіць, што пойдзе скардзіцца да самога бургамістра Хвалынскага. А што? Маслам кашу не сапсуеш.

З твару Глінскі нечым нагадваў плакатнага казаха: скуласты, ледзь касаватыя вочы, невялікія поўныя губы, круглы падбародак. Толькі вось валасы давалі браку — былі не традыцыйна чорныя, а зусім наадварот — светлыя. Сцёпаву заметку ён прабег вачыма за нейкую мінуту і, не падымаючы погляду, забарабаніў па стале кароткімі пальцамі:

— Што ж, рука набіта, пісаць умееш. Асабліва падабаецца мне фраза, што «новы парадак усяліў у людзей небывалы працоўны энтузіязм». Малайчына! Проста здорава. І калі паспеў гэтак пераўвасобіцца? Да вайны ж пісаў зусім пра іншае... Даводзілася чытаць твае вучнёўскія карацелькі.

— А як жа інакш? — з гарэзлівым нахабствам паглядзеў на рэдактара Сцёпа.— Зараз той-сёй, не мне раўня, некаторыя прафесійныя журналісты папераўвасобліваліся...

— Што гэтым хочаш сказаць? — падняў нарэшце насцярожаныя вочы Глінскі.

— А тое, пан рэдактар, што час зараз такі.

— Добра, чаму ў такім разе не падпісваешся сапраўдным імем? Сорамна?

— Зусім не. Проста так спакайней. А то, чаго добрага, лясныя хлопцы могуць і...

— Слухай,— моцна пацёр лоб Фёдар.— Ты от што, давай без гэтых самых... Заметку тваю я надрукую. Абяцаю ніводнага слова не мяняць. Толькі скажы, навошта табе ўвесь гэты маскарад з заметкамі. Я ж бачу, што заметка ў цябе толькі повад, каб зайсці да мяне. А мэта? Мэта якая?

— Ну во,— паспрабаваў засмяяцца Сцёпа.— Ужо і падазрэнні. Але, калі па шчырасці, не беспадстаўныя. Прывяла мяне да вас зусім не гэта паршывенькая заметка, а мая беспрасветная адзінота. Як уцёк, калі ў партызаны хацелі забраць, як страціў сяброў у тую страшную ноч, дык паверце, пан рэдактар, словам няма з кім перакінуцца, душу адвесці. Усё адзін, нібы ваўкалак які...

— Трэба было ў партызаны ісці... З сябрамі...

— Я?!. У партызаны?!. Ну не-е... Няхай дурні ваююць.

— Баптыст?

— Нешта накшталт гэтага. Але ж і баптысты людзі, і ім у адзіноце вельмі мутарна. Трэба з некім сустракацца, пра

нешта гаварыць, спрачацца. Тут і ўспомніў я пра сваіх яшчэ даваенных сяброў Чэха і Паповіча, ну і рашыў пабачыцца з імі, іншымі словамі — наладзіць кантакт. Працуюць у вас такія?

— Працуюць.— Глінскі мелькам зірнуў на глухую сцяну.— Там, на тым баку. Уваход праз другія дзверы, са двара.

— Я так і меркаваў, што яны тут.

— А каму ж больш запаўняць вярстатку ды круціць станок? Адзіныя на ўвесь раён друкары.

— Можна іх бачыць? — нецярпліва прыўзняўся на стуле Сцёпа.

— Не спяшайся, паспееш. Без майго дазволу яны нікуды не адлучаюцца.

Глінскі як бы між іншым пачаў расказваць, чаму апынуўся тут, у рэдакцыі, а не дзе-небудзь у другім месцы, хаця Сцёпа і не пытаўся ў яго пра гэта. Аказваецца, калі ён, недавучаны студэнт-журналіст, прыйшоў з Мінска, бярэзаньскі ваенкамат ужо эвакуіраваўся некуды, а немцы былі за ракой. Давялося тэпаць у родную Лысуху. Крыху падкарміўся ў бацькоў, а тады, каб на быць абузай, падаўся на заработкі ў райпасёлак. Тут і сустрэўся з Лукаўцом, які занава ствараў раённую газету. Да вайны Лукавец працаваў настаўнікам літаратуры і мовы ў мясцовай школе і час ад часу друкаваў у газеце лірычныя вершыкі, замалёўкі прыроды. Быў беспартыйны. Вось яго бургамістр Хвалынскі і рашыў выкарыстаць у якасці свайго ідэалагічнага паплечніка, праз яго, а дакладней, праз друкаваны орган раённай управы расказваць вызваленаму ад бальшавіцкай няволі народу пра нямецкі рай і, што самае галоўнае, пра неабходнасць любымі сродкамі садзейнічаць хутчэйшай перамозе гітлераўскай арміі над ненавіснымі саветамі. Лукавец ведаў Федзю як здольнага журналіста і пісьменніка, бо амаль заўсёды выступалі разам на літаратурных старонках у раёнцы, а таму прапанаваў ісці да яго ў штат. Фёдар згадзіўся без ваганняў — усё ж самастойнасць, паёк, не трэба сядзець на бацькавым карку. Месяцы два назад Лукаўца ноччу забралі ў СД, і адтуль ён больш не вярнуўся. На яго месца Хвалынскі прызначыў Фёдара.

— Давай да мяне ў літрабы,— прапанаваў Глінскі.— А то хоць і маленькая газетка, бачыш, усяго двухпалоска, а ўсё ж цяжка аднаму...

— Не,— рашуча подняўся Сцёпа,— не па Сеньку шапка. Ды і працую я ўжо. Вось,— ён дастаў з кішэні аўсвайс,

дзе значылася, што Сцяпан Іванавіч Гурскі з'яўляецца слесарам-інструментальшчыкам машынных майстэрань.— Мая стыхія — тэхніка. Люблю.

— То як знаеш,— не стаў настойваць Фёдар.— Толькі нам удвух было б весялей і... як тут лепей сказаць? Надзейней, ці што?

— Чаму надзейней? — зацікаўлена спытаў Сцёпа.

— Таму што. Двое — не адзін. Гэта ж элементарна. Ну ды,— падняўся з-за свайго аблупленага стала Глінскі,— не будзем больш таргавацца. Пайшлі да нашчадкаў вялікага Скарыны.

Язэп Чэх пазнаў Сцёпу адразу. Падышоў, усміхнуўся сваёй бездапаможна-добрай усмешкай, абняў:

— Жывы? Цэлы? Ну і дзякуй Богу,— і адышоўся да наборнай касы.

Паповіч не спяшаўся расстацца з ёмістай маслёнкай. Спачатку заліў з тонкага носіка змазку ў ручную друкарскую машыну, потым спакваля ўзняў вочы, доўга прыглядаўся.

— Сцяпан? Пасталеў. Каб на вуліцы стрэліся, то і не пазнаў бы...

Пагаварылі пра тое-сёе, не кранаючыся ні ваеннай тэмы, ні раённых навін, выкурылі па закрутцы і, абмяняўшыся адрасамі, рассталіся. Глінскі вярнуўся ў рэдактарскую палавіну, а Сцёпа, наставіўшы каўнер свайго палітончыка, подбегам паджгаў дадому. Мароз быў такі, што скуру на шчоках сцягвала, лоб ледзяніла.

* * *

Быў канец студзеня, і мароз нарэшце адваліўся. Праўда, да адлігі было яшчэ далёка, але пасля той звінячай, празрыста-сіняй лютасці, калі вылітая з конаўкі вада замярзала, не даляцеўшы да зямлі, здавалася, што ў паветры павеяла ледзь не першым уздыхам блізкай вясны. Зачырыкалі ўцалелыя вераб'і, запінькалі нешматлікія сінічкі.

Яшчэ ўчора, ідучы з работы, Сцёпа надумаў аддаць увесь выхадны дзень рамонту бабулінага хлеўчука. Прынёс з майстэрань цэлую торбу неабходных інструментаў, запасся цвікамі, скобамі, каб не бегаць у пазычкі да людзей, і цяпер заняўся расчысткай двара ад снегу. Інакш да хлеўчука не падступіцца. Накідала і намяло яго аж пад самы паддашак.

Баба Хрысціна таксама выйшла на дапамогу з драўлянай лапатай. Але Сцёпа адправіў яе назад у хату.

— Сам упраўлюся, бабуля. Вось калі вазьмуся непа-

срэдна за хляўчук, тады тым-сім паможаце — дошку якую падаць або скабу... А зараз ідзіце і займіцеся чым-небудзь іншым.

Работа спорылася, і праз якую чвэртку гадзіны Сцёпа адчуў, што пачынае пацець. Скінуў свой рабочы ватнік і застаўся ў адным світэры. Рукам стала вальней.

З вуліцы пачулася падначлівае:

— Памагай, Божа!

Не азіраючыся, Сцёпа адказаў:

— Казаў Бог, каб і ты памог!

— Што ж, давай струмант, не адмоўлюся.

Сцёпа павярнуўся і ўбачыў Язэпа Чэха з яго дабрадушна-вінаватай усмешкай на твары. Паздароўкаліся. Паказаў на сенцы, да якіх была прыслонена лапата:

— Бяры, не саромейся. Як там у паэта? Не саромейся, Параска, ты для нас жаданы госць.

Удвух рабіць стала намнога весялей і жвавей. Працавалі моўчкі, зрэдку кідаючы адзін аднаму добразычліва-калючыя парады:

— Глядзі, плячук не вывіхні!..

— Прыбяры пяткі, падшуфлюю!

— Мо пану вадзіцы прынесці? Цяжкавата ж...

— Ня белай косці, як у некаторых...

Смехам-жартамі, а за нейкую гадзіну ці болей расчысцілі ад снегу ўсю пляцоўку вакол хлеўчука. Можна было брацца непасрэдна за рамонт. Але тут выйшла на ганак баба Хрысціна, паклікала:

— То ўжо адпачылі б, дзеткі! Вунь колькі снегу пераківалі. А я вам тым часам пачастунак падрыхтавала. Прашу да стала.

— Можа, адмовімся? — бліснуў вачыма Сцёпа.

— Не ў маіх правілах,— адказаў Язэп Чэх і, зачарпнуўшы прыгаршчамі снегу, пачаў церці-мыць рукі.

Стол баба Хрысціна падрыхтавала, можна сказаць, каралеўскі. Цэлая скавародка смажанага сала (і адкуль толькі яно ўзялося!), чыгунок бульбы, поўная міска хрумсткай квашанай капусты. Чэх у азарце моцна пацёр далонямі, а Сцёпа адчуў, што ў яго зараз, як у малога дзіцяці, пацячэ ад прагнасці сліна, і бягом нырнуў у свой пакойчык. Выйшаў адтуль, урачыста выставіўшы наперад руку са старасвецкім паўштофам цёмнага шкла. У ім быў спірт-сырэц. Трэба сказаць, што запаслівыя хлопцы з рамонтных майстэрань прывезлі яго з мясцовага спіртзавода аж цэлую цыстэрну. І, захаваўшы яе на дрывяным эмтээсаўскім складзе, бралі, ка-

му колькі трэба. Бралі па-гаспадарску, не стараючыся ўрваць як мага болей. Наадварот, калі каму патрабавалася напоўніць тую ці іншую ёмкасць, абавязкова зваў з сабой яшчэ каго, як бы ў якасці сведкі, і толькі пры ім адвінчваў запаветны кранік.

— Ух, ты! — міжволі ўсклікнуў Язэп Чэх.— Як на вялікае свята ў вас сёння...

— А яно, дзеткі, вялікае свята сёння і ёсць,— нечакана азвалася ад печкі баба Хрысціна.— Людзі кажуць, што турнулі нашы фашыстоўскую пошасць ад Масквы. Крэпка турнулі, так, што пруць без аглядкі. Там-сям аж на сто вёрстаў адагналі... Во... Па радзіву перадавалі... Нашы...

Сцёпа замёр каля стала нібы аслупянелы, так і не паставіўшы штоф на належнае месца, вочы Чэха акругліліся, і ён толькі здолеў выдыхнуць:

— От гэта навіна!..

Нарэшце Сцёпа крыху ачомаўся, наблізіў твар да бабы Хрысціны, шэптам спытаў:

— Праўда?

— Каб мне з гэтага месца не сысці! — горача перахрысцілася старая.— На свае вушы чула, дзеткі. Гэты самы, як яго, ну што заўсёды...

— Левітан,— падказаў Чэх.

— Ага, ён пра ўсё расказваў. І колькі нашы палонных забралі, аруддзяў розных, машын... Многа сёлаў і нават гарадоў аслабанілі, нешта ці не трыста, ці нават болей... Дзіравая памяць ужо... Але што праўда, то праўда... На свае вушы чула. Толькі вось дзе, у каго, не пытайце. Няможна...

— Што ж вы, Хрысціна Пятроўна, маўчалі? — з незахаванай крыўдай кінуў Сцёпа.— Такая радасная навіна! Першая за ўсю вайну, а вы...

— Во што, дзеткі, як-ніяк, а служыце вы ў немцаў. Хоць і ружжаў не ўзялі. Як жа я магла перад вамі адкрыцца?..

— Але ж от адкрыліся,— папікнуў Сцяпан.— Не збаяліся нямецкіх прыхлябацеляў.

— Дык хіба я такая ўжо дурная, што нічога не бачу, не разумею? Усе вы тут, хто не ўзяў зброі, робіце не на немцаў, а супраць іх. Пра цябе, Сцёпка, мне мой блізкі родзіч расказаў, ён таксама ў МТС робя, ён цябе і на кватэру да мяне сасватаў...

«Чыбіс! — мільганула перад вачыма Сцёпы постаць ціхага, хударлявага старога токара.— Так, іменна ён і парэкамендаваў зняць куток у бабы Хрысціны. А маўчаў. Хаця... Навошта лішнія словы...»

— А яшчэ,— працягвала старая,— навіна дужа ж ужо такая вялікая, такая радасная, што ніяк не ўтрымаць. І скажу вам па праўдзе, грэх не падзяліцца такой вялікай радасцю са сваімі людзечкамі. Вунь як вы адразу прасвятлелі, акрыліліся, мабыць, і жыць зараз захацелася намнога больш, чым колькі мінут назад!..

— Дайце я вас за гэта пацалую, дарагая Хрысціна Пятроўна! — скрозь слёзы выдыхнуў Сцёпа і моцна прытуліў старую да сябе. Потым яны па-мужчынску стрымана абняліся з Язэпам.

— То сядайце, дзеткі,— выціраючы рогам хусткі вочы, запрасіла баба Хрысціна.

— І вы з намі!

— А то як жа. Абавязкова.

* * *

Адразу пасля абеду Сцёпа і Язэп паспяшаліся да хлеўчука. Да цямна яшчэ гадзіны тры, і можна нямала зрабіць. А потым, упоцемку, вобмацкам дужа не напрацуеш, ды і мароз-траскун зноў ціскане к ночы. Ужо цяпер бярэцца, неба праясняецца.

— Як табе мая гаспадыня? — было першае, што спытаў Сцёпа.

— Малайчына бабуля! Толькі трэба быць ёй паасцярожней.

— А як яна нас раскусіла? Га? Хіба не яснабачанне?

— Калі па шчырасці, то гаварыла яна больш пра цябе, чым пра мяне,— ухіліўся ад прамога адказу Язэп.— Асабіста мне не вельмі даспадобы такі вось рэнтген...

— Бадай што твая праўда. У нашай справе чым менш вушэй і вачэй, тым лепш, больш упэўненасці і надзейнасці,— пагадзіўся Сцёпа.

— Не разумею, пра што ты.— Язэп зрабіў нявінныя вочы.— Пра якую нашу справу ідзе гамонка?

— Пра тую, дзеля якой ты прыйшоў сёння да мяне, а не застаўся дома, у сям'і, на выхадны,— на поўным сур'ёзе зазначыў Сцёпа.

— Дык я ж убачыў, праходзячы міма, што чалавек адзін такія горы зляжалага снегу варочае, з сіл выбіваецца, вось...

— Перастань,— адмахнуўся Сцёпа.— Я без жартаў. Скажы, чаго прыйшоў?

— Раз ужо так, скажу. Калі ты зайшоў да нас у друкарню, я зразумеў, што візіт твой не проста так нанесены, а ў ім была нейкая пільная патрэба. Вось і рашыў высніць, што б гэта ўсё значыла.

Сцёпа наблізіўся да Язэпа ўшчыльную, узяў за самаробны гузік кажуха:

— А значыць гэта ўсё, дарагі Язэпе, што мне патрэбны шрыфт, сапраўдны, друкарскі і ў самым шырокім асартыменце...

— Такім чынам, мая здагадка была правільнай,— сам сабе прамармытаў Язэп і сціснуў Сцёпаву руку вышэй локця.— Калі трэба?

— Хоць зараз, хоць заўтра... Толькі як мага хутчэй...

— Сакалоўскі просіць?

— І ён таксама.

— Тады вось што,— прапанаваў Язэп.— Калі ты ўжо распачаў рамонт, то, мабыць, у першую чаргу трэба зрабіць тут, у хлеўчуку, нейкі тайнік, куды будзем складваць шрыфт, пакуль набяром поўны камплект. З наскоку яго ўвесь не вынесеш. Трэба хаця б з тыдзень часу.

— Лады! — крыкнуў Сцёпа і тут жа спужаўся ўласнага голасу.— Перш-наперш,— асцярожна азірнуўся наўкола,— перакрываем дах...

— Між іншым, ты не арыгінальны! — ціха сказаў Язэп.

— Гэта значыць? — насцярожыўся Сцёпа.

— Цябе апярэдзілі.

— Хто?

— Не здагадваешся? — і Язэп пачаў падрабязна расказваць пра маўклівую гульню, якая вялася ўжо з месяц між імі, Язэпам і Васілём, з аднаго боку, і Федзем Глінскім — з другога. Пачалася яна з таго, што неяк раз увечары Федзя папрасіў у Чэха ключ ад друкарні, маўляў, жадае падвучыцца наборнай справе. Назаўтра, ідучы дадому, Чэх зайшоў у рэдакцыю і ўжо сам прапанаваў Глінскаму ключ ад друкарні. Той з падзякай адмовіўся і паказаў свой, які скапіраваў з Язэпавага. Язэп гэтаму не здзівіўся: два ключы — гэта лепш — ніхто ні ад кога не залежыць. А потым заўважыў, што некуды знікла запасная вярстатка. Зазірнуў у наборныя касы і ўбачыў, што нядаўна яшчэ поўныя ячэйкі ледзь не напалавіну апарожнены. Спытаў у Паповіча, ці ён тут наводзіў парадак, можа, перасыпаў шрыфты ў рэзервовыя касы. Нічога падобнага Васіль не рабіў. І тады стала зразумела: шрыфты паціху забірае сам рэдактар Глінскі і, канечне ж, адносіць у сваю Лысуху, дзе жыве. А там...

Уважліва выслухаўшы Язэпа, Сцёпа задумаўся: а ці не адно і тое ж заданне яны выконваюць — ён і Глінскі? і паралельна. І ці ёсць сэнс ісці на ўздвоеную рызыку?

Трэба будзе заўтра ж параіцца з дзядзькам Міколам,

папрасіць, каб ён неяк звязаўся з Сакалоўскім і ўсё высніў. А не ўдасца — тады адпросіцца сам на пару дзянькоў і сходзіць у Віляцін або лепш за ўсё ў Матылянку і там пра ўсё даведаецца. Заадно маці з Янікам пабачыць, Анютку да сэрца прыгорне...

— Што застыў у нерухомасці? — таўхануў яго Чэх.— Мысліш?

— Эге ж,— блазнавата прыжмурыўся Сцёпа.— Як бы гэта з печы зваліцца і с.... не пабіць.

— Ведаеш,— загаварыў урасцяжку Язэп Чэх,— на маю дурную галаву, я б пагаварыў папярэдне з Глінскім.— Можа, ён стараецца іменна для тых самых хлопцаў, што і ты... Як кумекаеш?..

— Хрэн яго бацьку знае,— у непрыхаванай разгубленасці развёў рукамі Сцёпа.— Можа, і сапраўды пагаварыць? — І тут жа моцна грукнуў малатком па дошцы.— Не. Пойдзем па другой, больш бяспечнай дарозе. Усё,— выпрастаўся, нібы скінуў з плячэй нябачны груз.— Аперацыя працягваецца. Лезь наверх і зрывай усё гніллё, а я тым часам займуся варотцамі.

* * *

Дзядзька Мікола дакладна не ведаў, калі ў наступны раз прыйдзе да яго Сакалоўскі ці хто іншы з разведчыкаў, а таму параіў Сцёпу лепш самому адправіцца на два-тры дні ў родныя мясціны і там праз мясцовых жыхароў звязацца з самім Віктарам Кавалёнкам. Афіцыйна, калі хто спытае, прычына для такога паходу — прыдбаць што-кольвечы з харчоў. Цяпер жа шмат хто з бярэзаньцаў адпраўляюцца ў вёскі, каб прамяняць якую адзежыну на хлеб, сала, яйкі.

— Можа, солі з сабой вазьмі шклянак пяць-шэсць,— параіў дзядзька.— Цяпер жа ў вёсцы соль даражэй за золата.

— Гэта можна,— пагадзіўся Сцёпа.— Хаця, праўда, мы там у паліцаяў і збамбілі два мяшкі, калі іхні гарнізончык ляснуўся. Ды ўсё ж, не так гэта і шмат. На адны Бушавічы не хопіць пры самай строгай эканоміі...

— У меня вунь аж паўмяшка,— паказаў дзядзька ў запечак.— Вазьмі. У любым выпадку згадзіцца.

Адправіўся ў сваю няблізкую дарогу Сцёпа на досвітку, калі яшчэ ні адно акно ў пасёлку не свяцілася. На дварэ было марозна. Пасля кароткай адлігі снег зверху зашэрхнуў цвёрдай скарынкай, і ногі зусім не правальваліся. Можна было пакідаць убаку наезджаныя дарогі, каб пазбегнуць

непажаданых сустрэч, і шыбаваць нацянькі, лясамі, пералескамі. Так яно, мабыць, і карацей будзе: не дваццаць абазначаных слупамі кіламетраў, а ўсяго якіх шаснаццаць набярэцца. Эх, былі б лыжы!.. Ну ды гэта ўжо занадта...

Дзень займаўся ціхі, бязветраны. Яшчэ нядаўна чыстае зорнае неба паступова зацягвалася празрыстай бялёсай смугой. На кашлатых соснах рэдкага пералеску, што цягнуўся ад рамонтных майстэрань аж да Святліцы, нясмела ценькалі сініцы, хрыпла пераклікаліся нахохленыя вароны. І нібы акампануючы ім, мерна парыпвалі па жорсткім цаліку лёгкія Сцёпавы боты. Дыхалася вольна, на поўныя грудзі.

Сцёпа дастаў з нагруднай кішэні масіўны сярэбраны гадзіннік — развітальны падарунак Паліны Васільеўны, кіраўніка бушавіцкага камсамольскага падполля, пстрыкнуў вечкам. Было без малога восем. Калі ісці з сярэдняй хуткасцю пяць кіламетраў у гадзіну, то ў Матылянцы ён будзе ўжо к абеду. А калі прышпорыць па-сапраўднаму? Га? Ніхто ж не замінае! Тады і на позняе снеданне можна паспець. «Дык давай, браток, газ да плешкі!» — скамандаваў сам сабе хлопец і ўжо не пайшоў, а нібы паляцеў па цаліку.

Ад Бярэзаня да Гуты было мераных шэсць з паловай кіламетраў. Сцёпа не раз хадзіў тут. Зірнуў на гадзіннік і ўзрадаваўся — пакрыў дыстанцыю роўна за сорак мінут! Цяпер галоўнае было — не збавіць тэмпу.

І зноў імклівая, без перадышак, хадзьба, і зноў адзін напрамак — паўднёвы захад.

Не заўважыў, як, вырваўшыся з лесу, перамахнуў нешырокую палосу чыстага поля і апынуўся ў пералеску. Так, гэта быў той самы пералесак, у якім зусім нядаўна Петрашкевіч так па-зверску расправіўся з самымі блізкімі для яго, Сцёпы, людзьмі — дзедам Лук'янам і бабуляй Мар'яй. Пастаяў крыху, змахваючы балючыя слёзы, і ўжо зусім паволі, нібы несучы на нагах пудовыя гіры, пасунуўся ў бок Рачыборка. Для чаго? І сам не ўсведамляў. Толькі паправіў на пятлі пад пахай пісталет і, не зварочваючы, стаў набліжацца да крайняй, трохі наводшыбе, хаты, дзе жылі Пракаповічы. З коміна хаты роўным слупком падымаўся ў неба лёгкі дым. Значыць, нехта ёсць. Злёгку націснуў на клямку, пхнуў дзверы — адчынена. На кухні былі старыя — дзед і баба. Яны не здзівіліся, не спужаліся і не абрадаваліся прыходу Сцёпы. Прывыклі да такіх вось нечаканых візітаў, ці што? Нарэшце стары дастаў з кішэні камізэлькі акуляры з драцянымі дужкамі, прыладзіў на носе і ўгледзеўся ў прышлага чалавека.

— Ці не Сцяпан? — нешта падобнае на ўсмешку амаладзіла яго твар.— То сядай. Расказвай.

— Што расказваць, дзядуля? — глуха адказаў Сцёпа.— Пасля таго... Эх... Лепш вы раскажыце, дзе вашы сын, дачка? Як жывяце тут?

— Жывём во, бачыш, пакуль... Мадзеем неяк. А Караля нашага, як і Эдварда Рахвалавага, у партызаны мабілізавалі. Тады ў адну ноч усіх маладых хлопцаў забралі. Во і ў Віляціне, і ў Бушавічах, і ў Сыманаўцы... Падчыстую. Ты ж там, мусіць, таксама ці ў другім месцы дзе?

— У другім, дзеду, зусім не ў лесе. Ну, ды гэта не мае значэння.

— А не баішся, што партызаны цябе ета самае... — хітра прыжмурыў вочы стары.

— Няўлоўны я, Фелікс Антонавіч. Як бы зачараваны,— пажартаваў Сцёпа.

— Тады шыбуй хутчэй адсюль. А то ненарокам наедуць хлопцы, і будзе табе... Не хачу, каб у маёй хаце кроў пралілася. Ідзі, хлопчык, ступай з Богам...

Сцёпа выйшаў з хаты ў поўнай разгубленасці, міжволі палахліва азірнуўся па баках. Упершыню за ўвесь апошні час, як апынуўся ў Бярэзані, падумаў, што яму цяпер у яго становішчы аднолькава пагражае сустрэча ці то з немцамі і паліцыяй, ці то з партызанамі. А ўслед за гэтай думкай прыйшло страшнае, ганебнае ўсведамленне, што для немцаў і паліцыі ён, Сцяпан Іванавіч Гурскі, ад пачатку і да канца свой чалавек, аднадумец, паплечнік, а для партызан — вораг, здраднік, пярэварацень.

Вось як яму адной толькі фразай прасвятліў раптам мазгі стары Фэлька.

* * *

Да Матылянкі Сцёпа наблізіўся з боку лесу. Замеценая ледзь не па самыя стрэхі вёска здавалася нежывой. На вуліцы, як скінуць вокам, ні душы. Ні над адным з комінаў не віецца цёплы дымок. Маўчаць пеўні, не рыпяць калодзежныя жураўлі і калавароты.

Вусцішна зрабілася Сцёпу. Нарадзілася раптам нядобрая, трывожная думка: можа, прайшліся па вёсцы карнікі? Ды як быццам не было такога — у Бярэзані ведалі б. Паглядзеў на гадзіннік — палова першай, поўдзень. Ну, канечне ж, людзі ўжо ўправіліся па гаспадарцы і цяпер сядзяць у хаце, займаюцца кожны сваёй справай. Такая аптымістычная думка збольшага супакоіла хлопца. Прыкі-

нуўшы, дзе прыкладна знаходзіцца Анюціна хата, пералез цераз жардзяны плот і агародамі пашыбаваў да двара.

Анюта была дома адна. Бясконца ўзрадавалася, кінулася хлопцу на шыю, упілася губамі ў шчаку. Потым адпіхнулася, змахнула слёзы.

— У-у... халодны які!.. — і тут жа: — Што так доўга не паказваўся? Я ўжо сама хацела бегчы ў Бярэзань. Распранайся. Зараз самавар пастаўлю, чаем цябе напаю. У-у, нядобры... — балюча ўшчыпнула за бок.— Я ўжо чаго толькі не перадумала. І ўсё чамусьці благое вярзецца...

— Дзе мама?

— Аляксандра Лук'янаўна з Янікам пажыла ў нас пасля той «мабілізацыі» ўсяго два тыдні, а тады вярнулася назад, у Бушавічы. Я наведала яе ў тую нядзелю. Здароўе іх добрае, толькі за цябе вельмі перажывае, баіцца, што можаш не стрываць між двух агнёў, можаш сарвацца...

— Ну, гэта ўжо дарэмна. Яна ўсё мяне маленькім лічыць. Хаця... ад бяды ніхто не застрахаваны. А зрэшты, зраблю сваё, і тады...

— Што тады?

— Тады я, Анютачка мая ненаглядная, зноў вольны казак! — Абняў дзяўчыну, прыгарнуў да сябе.— Адразу — у атрад! Дарэчы, Віцька Кавалёнак даўно быў?

Наведваўся Віктар у вёску, аказваецца, толькі што, літаральна мінулай ноччу. Заходзіў і да Анюты, прасіў якнебудзь у самы бліжэйшы час схадзіць у Бярэзань і даведацца ў Сцёпы, як ідуць у яго справы. Анюта паспрабавала ўдакладніць, якія іменна справы. Але Кавалёнак ухіліўся ад прамога адказу; буркнуў толькі: ён ведае.

— Эх!.. — у скрусе ўздыхнуў Сцёпа.— Гэта ж трэба!.. А што б мне было выйсці ўчора вечарам, якраз бы сустрэліся! Ён мне так патрэбен, Анютка!

— Каб жа гэта знаццё, што ты прыйдзеш,— спачувальна паглядзела на яго дзяўчына.— А то... — Пасядзела ў роздуме, потым павольна паднялася з канапы, падышла да вешалкі.— Ведаеш што? — павярнулася да Сцёпы.— Помніш Грышу? Ага, таго самага сапёра-мінёра. З ваеннапалонных. Дык ён жа ў Віктаравым атрадзе і частавата да Гэлькі прыходзіць. Яны, ну як бы табе лепей сказаць, ужо жывуць, бы муж з жонкай. Ну і яна да яго лётае, прама ў атрад. Каханне! А што, калі я зараз папрашу яе, га? Пойдзе, скажа пра цябе, а к ночы і Віктар заявіцца.

— Можа, мне самому туды пайсці? З ёю?

— Нават не думай такога. Нізавошта ў атрад яна не

павядзе. Гэта ж ваенная тайна. А па-другое, я цябе і не адпушчу. Столькі не бачыліся, і раптам... — Яна ўсхліпнула, уткнулася тварам у грудзі...

— Гэтага яшчэ не хапала.— Сцёпа, як малую, пагладзіў яе па галаве.— Добра. Ідзі. Толькі ненадоўга.

— Я мігам! — радасна бліснула вачыма Анюта.

Жаноцкая інтуіцыя не падвяла Анюту. Гэлька, як толькі пачула ад яе просьбу схадзіць у лагер, адразу саскочыла з цёплай ляжанкі і пачала як апантаная збірацца ў нялёгкую і разам з тым такую жаданую дарогу. Пяць мінут, і вось яна, шчаслівая ружовашчокая Гэлька, ужо стаіць перад Анютай у светлых, прыгожа расшытых бурках, у ёмкім, да таліі, кажушку, у пуховай хустцы на галаве.

— Пайшлі? — глядзіць на сяброўку.

— Давай так,— трошкі ахалоджвае яе пыл Анюта,— ідзём спаважна спачатку да мяне, нібы ў госці, а потым ад мяне, агародамі і шмыгнеш на сваю сцяжыну.

...Віктар Кавалёнак пастукаўся ў хату, як толькі добра ўцямнела. Прыйшоў, як заўсёды, не адзін. З ім былі ў ролі ад'ютанта Грышка-сапёр, а яшчэ начальнік разведкі Сакалоўскі. Павітаўшыся са Сцёпам, Грыша тут жа павярнуўся і выйшаў на двор, сачыць. А Віктара і Сакалоўскага Сцёпа запрасіў у другую палавіну хаты — горніцу. Госці, не распранаючыся, уселіся ля стала.

Сцёпа сцісла паведаміў, як праходзіць аперацыя па здабычы шрыфтоў, паабяцаў, што поўны камплект у яго будзе ў канцы наступнага тыдня. Сказаў, што друкары пастараюцца заадно падкінуць кілаграмаў пятнаццаць — дваццаць газетнай паперы.

— Добра было б,— адзначыў Кавалёнак.— У нас жа толькі шпалеры пакуль ды жоўтыя трафейныя гросбухі... — Звярнуўся да Сакалоўскага: — Арганізуеце вывазку?

— Ды ўжо ж. Не думаю, каб маглі здарыцца якія складанасці. Немцы ў Бярэзані, пакуль мы іх непасрэдна не пакраталі, не вельмі турбуюцца аб ахове свайго гарнізона. Пасты ў іх толькі на мосце, каля СД і камендатуры.

— Глінскі як там? — зноў павярнуўся Віктар да Сцёпы.— Пазнаёміўся з ім?

— Пазнаёміцца паспеў, бо інакш не было як падступіцца да друкарні. Але вось раскусіць з першага заходу гэтага чалавека не змог. Няпросты ён і, здаецца мне, не на немцаў стараецца. Чэх сказаў, што паціху-памалу сам выносіць з друкарні шрыфты. Таму я і хацеў даведацца, ці не па вашаму заданню стараецца хлопец?..

— Не,— цвёрда заявіў Віктар Кавалёнак. Крыху падумаў і паглядзеў на Сакалоўскага: — Як думаеце, на каго можа працаваць Глінскі?

— Давай будзем маракаваць так,— адкінуўся на спінку стула начальнік разведкі.— Жонка Глінскага родам з Бялыніцкага раёна, як мне вядома, яна не так ужо і рэдка ходзіць туды, у родныя мясціны. А лясы там, сам ведаеш, якія. Не ўступяць нашым. І партызан хапае. Узяць хаця б атрад бацькі Сідара...

— Можа, Сідара Мікалаевіча? — міжволі вырвалася ў Сцёпы.

Сакалоўскі здзіўлена паглядзеў на яго.

— А ты адкуль ведаеш?

— Ды я ж, ды мы ж з яго сынам Васілём Цялегіным вучыліся разам. Я нават колькі дзён жыў у Сідара Мікалаевіча...

— Вунь яно што-о-о... — працягнуў Сакалоўскі.— Правільна ўсё. Цялегін Сідар Мікалаевіч. Яго, як і мяне, пакінулі для арганізацыі партызанскай барацьбы.

— Можа, яны нават аднавяскоўцы,— выказаў здагадку Віктар.

— Хто — яны? — не зразумеў Сакалоўскі.

— Ну, жонка Глінскага і гэтыя самыя Цялегіны,— паясніў Кавалёнак.

Сцёпа сказаў:

— Пра гэта не так цяжка даведацца. Як вярнуся, адразу да Глінскага і пра Машчаніцу, дзе хаваўся на пачатку вайны, гаворку завяду...

— Што ж, няблага прыдумаў. Толькі не надта адкрывайся. Асцярожнасць патрэбна і яшчэ раз асцярожнасць,— лішні раз папярэдзіў Кавалёнак.— І вось што: не перашкаджай Глінскаму рабіць сваю справу. Каб нават намёку пра шрыфты не было. Не выключана, што дабывае іх Федзя для атрада бацькі Сідара. А базіруецца той атрад на самай граніцы з нашым раёнам.— Памаўчаўшы, спытаў: — Якія ў цябе планы на гэтыя два дні?

— Планы няхітрыя. Наведаю родных, затым — у Вілянін і прамым ходам назад у Бярэзань — рамантаваць нямецкую тэхніку.

— Прывозяць што на рамонт?

— Пакуль не. Толькі на нафтасховішча прывезлі калонай бензіну шмат, саляркі. Неўзабаве пост там паставяць — загадалі старую будку адрамантаваць для варты.

— Будзем мець на ўвазе,— зазначыў Сакалоўскі.

Калі з дзелавой часткай было пакончана, Сцёпа запытаў пра «мабілізаваных» хлопцаў-сяброў, як ім там жывецца ў партызанах, як ваюецца.

Навіны былі сумныя. Літаральна пазаўчора загінуў у баі Вася Краўчонак. Той самы мілы, крыху наіўны, ва ўсім шчыры Вася па мянушцы Кулямёт (за нястрымна быструю гаворку), якога Сцёпа ціха, можна сказаць, употай, але па-брацку, моцна любіў... Не пратрымаўся і месяца Валодзя Якімчык — працэс у лёгкіх пачаў гэтак хутка прагрэсіраваць, што давялося хлопца завезці дадому. Не так даўно пахавалі. Не праспявае ён больш пад акампанемент Сцёпавага гармоніка частушкі пра

Цудоўныя, шчаслівыя
Калгасныя условія,

за якія хацелі яго ў трыццаць дзевятым арыштаваць. Выратавалі тады ад турмы, а мо і ад чаго страшнейшага яго сухоты. Раённы ўрач сказаў, што жыць Якімчыку засталося год-два, не болей. Аказваецца, доктар меў рацыю. Зноў цяжка паранены Сенька Баразнёнак. На гэты раз у нагу. Ні на якія заданні, натуральна, хадзіць не можа. Страшэнна перажывае праз гэта, псіхуе. Доктар не абяцае хуткага вяртання ў строй — вельмі сур'ёзна пашкоджана голень. Толькі два Колі, Хімчын і Харытонаў, «прабываюць у поўным здравіі», ніводнай драпінкі, ніводнага вывіху, хоць ні адна, ці то вялікая, ці то малая, баявая аперацыя без іх не абыходзіцца.

— Словам, парадавалі вы мяне,— з горыччу падвёў рысу гаворцы Сцёпа. Падняўся, адхінуў занавеску на кухню.— Пайшлі. Вячэра гатова.

* * *

За тыдзень Язэп Чэх нанасіў да Сцёпы столькі шрыфту, што яго хапіла б для поўнага набору вялікафарматнай газеты. У сваю чаргу Сцёпа прама ў кішэнях папераносіў яго ў майстэрню і схаваў у кузні пад вялізнай грудай вугалю. Кузня на тэрыторыі МТС стаяла асабняком і была самай блізкай пабудовай ад лесу. Сюды ж закінуў хлопец і загорнуты ў брудную мешкавіну ладны рулон паперы — ледзьве быў давалок з дому да тайніка. Пра тайнік сказаў дзядзьку Міколу і яшчэ, на ўсякі выпадак, старшаму механіку Сухоцкаму, які таксама, ведаў, звязаны з партызанамі. Бо можа здарыцца так, што прыйдуць хлопцы з атрада, а дзе што ўзяць, ніхто і знаць не будзе.

Праўда, чакаць лясных гасцей давялося нядоўга. Ужо

ў канцы тыдня Сакалоўскі ў суправаджэнні ўсё таго ж Грышы, матылянскага прыпісніка, быў у дзядзькі Міколы і, коратка расказаўшы пра апошнія навіны, пагрузіў на развалкі важкія мяшкі і знік, растаў пад нізкімі шатамі кашлатых елак.

Цераз дзядзьку перадалі настойлівую просьбу Віктара Каваленка да Сцёпы: абавязкова зноў сустрэцца з Глінскім і як-небудзь разведаць, для каго ўсё-такі той збірае шрыфт. Калі па заданню партызан, тады ўсё зразумела, а калі проста так, пакуль што дзеля спартыўнага інтарэсу, каб пры зручным выпадку прапанаваць якому атраду ў якасці ўзносу-заяўкі на давер або нават на пераход у іх рады, то тут можна будзе зрабіць ход канём: адна з партызанскіх брыгад Чэрвеньшчыны таксама мяркуе арганізаваць у сябе выпуск газеты. Знаёмы камбрыг напрамілы бог прасіў Каваленка памагчы шрыфтам. Тут бы і змог згадзіцца Фёдараў запас.

Сцёпа рашыў не надта мудрагеліць, а ісці пратаптанай дарожкай: напісаць яшчэ адзін панегірык у раёнку і такім чынам займець права на чарговае спатканне з Глінскім.

Фёдар якраз размаўляў па тэлефоне, калі Сцёпа зайшоў да яго ў кабінет. Тэлефон, прадаўгаватая металічная скрынка з бліскучымі кружкамі званкоў на пярэдняй частцы корпуса і чорнай ручкай збоку, вісеў на сцяне, прама за аблупленым рэдактарскім сталом. Фёдар гаварыў, павярнуўшыся тварам да сцяны, і толькі махнуў рукой на прывітанне Сцёпы: сядай, маўляў, не да цябе пакуль.

— Кажаце, няма аўтарскага актыву, Харытон Львовіч? — падначаленым голасам вёў Глінскі.— Яно, канечне, трохі ёсць, але не зусім. Вось і зараз толькі што зайшоў, хі-хі, аўтарскі актыў. Хто? Рабочы з майстэрань. Гурскі. Вядома ж, надрукую...

Сцёпу раптам захацелася рэзка павярнуцца і грукнуць дзвярыма. Ён ужо быў памкнуўся зрабіць гэта. Але на яго ўмольна глянулі Фёдаравы вочы: не гарачыся!..

Сцёпа апусціўся на стул, пачаў натужліва ўспамінаць, дзе ён мог чуць гэта самае Харытон Львовіч. Выручыў Глінскі.

— Будзем старацца, пане бургамістр,— прамовіў ён у тэлефон.— Абавязкова. Пастараемся арганізаваць... — І, яшчэ не павесіўшы трубку, гучна выдыхнуў: — Уф-ф...

— Цяжка? — здзекліва-спачувальна папытаўся Сцёпа.

— Не гавары! Гэта ж трэба, знайдзі селькора, які б заклікаў людзей збіраць для нямецкай арміі цёплыя рэчы... Прытым каб селькор быў вядомы ў раёне...

— Дык жа зіма канчаецца... — здзівіўся Сцёпа.

— Відаць, не апошняя для іх на нашай зямельцы,— сказаў і папярхнуўся Фёдар. Нечакана са злосцю адпіхнуў убок масіўную чарніліцу, аж гранкі заліў.— Ты чаго да мяне?

— Вось новую заметку прынёс,— паклаў на стол акуратна складзены лісток з вучнёўскага сшытка.— А яшчэ пра тое-сёе пагаварыць хацелася, калі вам, пане рэдактар, будзе не ў абузу...

— Пра што пагаварыць? — злосна упіўся вачыма ў твар Сцёпы.

— Чуў я, што жонка ваша Зіна родам з Бялыніцкага раёна, ледзь не з самой Машчаніцы.

— Ад каго чуў? — насцярожыўся.

— Дык жа ваш Тарноўскі разам са мной у майстэрнях ішачыць. Ён і сказаў.

— А з якога гэта повада гаворка такая зайшла?

— Цяпер і не прыпомню. Дзень цягнецца доўга, пра што толькі ні перагаворыш. Мабыць, агульных знаёмых успаміналі...

Фёдар недаверліва пакруціў галавой:

— Знайшлі тэму... А што датычыць Зіны, то яна і сапраўды з Машчаніцы. Толькі не ўразумею, чаму цябе гэта так пільна цікавіць?..

— Усё вельмі проста,— адказаў Сцёпа і пачаў падрабязна расказваць, як яны з аднакурснікам Васем ратаваліся ад вайны там, у Машчаніцы, як іх прывячаў-навучаў Васеў бацька Сідар Мікалаевіч Цялегін...

Пачуўшы гэта імя, Глінскі аж увесь перасмыкнуўся. Прыняў са стала і зноў кінуў рукі, нервова забарабаніў кароткімі моцнымі пальцамі.

— Гэта ж трэба! — усклікнуў.— Не магу ўцяміць толькі, якая тут сувязь між маёй жонкай і нейкімі там Цялегінымі.

— Самая прамая,— Сцёпа падаўся тулавам уперад.— Ваша Зіна не так даўно хадзіла на радзіму, Тарноўскі казаў, дык, можа, што пра Цялегіных, пра Ваську ведае. Прыкіпеў я да яго... сэрцам...

— Эйш ты, як усё паварочваецца. Што ж, давядзецца наладзіць вам з Зінай рандэву.

— А мо вам што пра іх, Цялегіных, расказвала? — з надзеяй спытаў Сцёпа.

— Давай, Гурскі, прыходзь да мяне заўтра,— неяк раптам весела, раскавана падхапіўся з-за стала Фёдар, наблі-

зіўся ўшчыльную да Сцёпы, які таксама ўстаў.— Зіна тут будзе, от і пагаворыце з ёю... Пра ўсё.

— Добра. А як жа мая заметка?

— Не залежыцца.

«Клюнула! — задаволена думаў Сцёпа, вяртаючыся дадому.— Цяпер, галоўнае, не насцярожыць знячэўку карася. Адзін няпэўны рух, і вільне на глыбіню, толькі яго і бачылі...»

Зіна Сцёпу спадабалася: мілая разумная шчабятуха з ледзь улоўнай насцярожанасцю ў куточках шэрых вачэй. Калі разгаварыліся, аказалася, што яна добра ведае Сцёпаву сяброўку Анюту, разам вучыліся ў Магілёўскім культасветвучылішчы, хаця Анюта была курсам ніжэй. Здружыў іх культасветаўскі хор. З Федзем сышліся проста — перад вайной. Зіна па накіраванню прыехала на работу ў бярэзаньскі Дом культуры. Не знайшоўшы кватэры ў пасёлку, пайшла ў суседнюю Лысуху і тут уладкавалася на жыхарства ў Глінскіх.

«Як іншы раз пераплятаюцца, скрыжоўваюцца жыццёвыя сцежкі»,— міжволі падумаў Сцёпа. А ўголас спытаў:

— Чуў я, Зіна, што вы нядаўна хадзілі да родных у Машчаніцу. Як там мой добры друг Васька Цялегін, бацькі яго як?

Зіна запытальна паглядзела на Фёдара, прыўзнялася і зноў села на стуле.

— Як вам лепш сказаць? — зацерабіла яна ражок хусткі.— Жывыя яны ўсе, здаровыя, дзякуй Богу...

— Вы іх бачылі, гаварылі з імі? — Сцёпа падсунуўся бліжэй да Зіны.— Дзе, пры якіх абставінах?

— Ну, гэта ўжо падобна на допыт,— штучна засмяялася Зіна.— Пагадзіцеся — бываюць такія сітуацыі, калі чалавек не хоча зманіць, але і праўду казаць не мае права. Каб не нашкодзіць. І, зрэшты, няўжо вам недастаткова таго, што Цялегіны ўсе жывыя і здаровыя? Ва ўсякім разе, так было два тыдні назад.

Такі адказ крыху збянтэжыў Сцёпу. Ён аж пачырванеў. Памкнуўся нават папрасіць прабачэння за бестактоўнасць, але тут жа перадумаў і летуценна прамовіў:

— Як бы я хацеў зараз іх бачыць, асабліва Сідара Мікалаевіча!..

— А чаму не «асабліва друга Ваську»? — весела бліснула на яго вачыма Зіна.

Сцёпа зрабіў выгляд, што не зразумеў падкавыркі. Пастараўся адказаць як мага больш сур'ёзна:

— Ведаеце, Зіначка, уся справа ў тым, што Сідар Мікалаевіч для мяне не проста бацька друга, а мой, як бы гэта дакладней сказаць, духоўны пастыр, настаўнік, які ў сціслай, але даступнай форме запраграмаваў маё жыццё на ўвесь ваенны час, ад пачатку і да канца.

У шэрых Зініных вачах успыхнулі зялёныя калючыя іскрынкі.

— Не зусім разумею, Сідар Мікалаевіч, камуніст, кавалер баявога ордэна за грамадзянскую вайну, раптам праграміруе Сцяпану Гурскаму пераход на бок немцаў...

— Зін! — умяшаўся Фёдар.— Я ж табе казаў, што гэты крок быў вымушаны ў Сцёпы. Не прыйшоў бы ў Бярэзань пад надзейнае крыло, маглі б забраць у партызаны...

— Хаця,— спачувальна адгукнулася Зіна,— там жа страляюць. Забіць могуць. Страшна...

— Ну добра, Зінаіда, згодзен. Сапраўды, падкручваю я гайкі на нямецкіх машынах. Вунь учора матацыкл самога Бекера адрамантавалі. Але ж не адзін я такі. Некаторыя вунь якія высокія пасты пры немцах занялі. Нават у прапагандзе...

— Гэта ўжо каменьчык у мой агарод,— жыва азваўся Глінскі.— Прапагандай таксама некаму трэба займацца. І на гэта ў мяне ёсць важкія прычыны.

— У мяне таксама,— адразу ж падхапіў Сцёпа.— Проста так, без дай прычыны, з дому ніхто не збягае, асабліва ў наш неспакойны, трывожны час. У адным магу запэўніць цябе, Зіна,— сам таго не заўважыўшы, перайшоў на «ты»,— наказ Сідара Мікалаевіча я не парушыў ні на ёту. Таму і цікавіць мяне дужа, як ён там сам са сваёй асабістай праграмай. Ці вытрымлівае?

— Вытрымлівае! — нечакана для сябе бухнула Зіна. І адразу сцялася, зніякавела пад спапяляльным поглядам Фёдара. Яна раптам зразумела, што недаравальна прагаварылася, сказала тое, пра што гаварыць найсуровейшым чынам забаронена, і твар яе ўмомант пакрыўся непрыгожымі чырвонымі плямамі.

Сцёпу зрабілася па-чалавечы шкада яе. І ён, каб разрадзіць абстаноўку, а заадно прыадкрыць перад гэтай, такой зараз няшчаснай, маладой жанчынай свае карты, звярнуўся да Фёдара:

— Я вам вельмі ўдзячны, пан рэдактар, за гэта спатканне, а вашай жонцы — за добрыя навіны. Зараз хацеў бы паглядзець гранкі маёй чарговай заметкі. Спадзяюся, яе ўжо набралі?..

— Айн мамэнт! — заспяшаўся Фёдар да вешалкі.— Я зараз, Зінуля...

«Глядзі ты, як падхапіўся! Няўжо здагадаўся, чаго я хачу?» — падумаў Сцёпа і, каб не траціць марна часу, як толькі за Глінскім зачыніліся дзверы, наблізіўся да Зіны:

— Запомніце, я не з фашыстамі. Праз колькі дзён у Бярэзані будзе мая Анюта, і яна вам пра ўсё, што можна будзе, раскажа. Верыце мне?

У адказ кароткі сцвярджальны ківок галавы.

— А цяпер скажыце, шрыфты Фёдар носіць для Сідара Мікалаевіча?

— Я ўжо перадала іх, як хадзіла. Ледзьве давалакла. Добра, хоць Федзеў брацік памог, а то б...

— Няхай Фёдар яшчэ збярэ хоць невялічкі камплект. Вельмі трэба. Згода?

— Папрашу. А каму трэба?

— Чэрвеньцам... Пра нашу адкрытасць Фёдару ні слова...

Зіна сумна ўсміхнулася:

— Самі сябе баімся...

— Такі час...

Ляснула клямка ў дзвярах. Парог пераступіў Глінскі, несучы цэлае бярэмя свежых гранак. Кінуў на стол, папрасіў:

— Памажыце вычытаць.

* * *

Дырэктар майстэрань Мікалай Лук'янавіч, альбо, як яго называла большасць рабочых, дзядзька Мікола, атрымаў чарговую позву з'явіцца разам са старшым механікам Сухоцкім да Хвалынскага.

Калі яны зайшлі ў кабінет бургамістра, той быў не адзін. Абапал Хвалынскага, адкінуўшыся ў мяккіх крэслах, сядзелі начальнік раённай паліцыі Кішкурных і куратар майстэрань таўстун Бекер. Паводдаль, расслаблена абапіраючыся на падаконнік, стаяў перакладчык Бекера Франц.

Дзядзька Мікола і Сухоцкі, пераступіўшы парог, знялі шапкі, пачціва паздароўкаліся. Выкліканых чамусьці не запрасілі сесці, хаця паўз сцяну стаяў добры дзесятак стулаў, і гэта адбілася ў сэрцы глухой трывогай, прымусіла насцярожыцца.

Хвалынскі прыўстаў з месца і, павярнуўшыся ўсім тулавам да Бекера, сказаў:

— Калі ласка, пан гаўптман.

— Я есть говорыт короткий,— пачаў Бекер па-рускі, але не знайшоўшы больш у сваім лексіконе патрэбных слоў, тыцнуў пальцам у бок Франца: — Переводить!

І Франц залапатаў, ледзьве паспяваючы за сваім шэфам: на тэрыторыі былой МТС знаходзіцца вялізная звалка разбітых аўтамашын-палутарак, трохтонак. Разбіты яны, як паведамілі спецыялісты, не безнадзейна. Амаль кожную можна адрамантаваць і паставіць на ход. Але для пачатку неабходна аднавіць дзве трохтонкі. Тэрмінова! Для патрэб раённай паліцыі. Пажадана, у мэтах эканоміі дарагога паліва, забяспечыць іх газагенератарнымі ўстаноўкамі. Усё. Гэта загад ваенных улад. Пан Бекер лічыць непатрэбным лішні раз нагадваць, што бывае ў выпадку невыканання загаду. Дырэктар майстэрань і старшы механік могуць ісці.

Дзядзька Мікола і Сухоцкі асцярожна прычынілі за сабой дзверы. Ужо на вуліцы спахапіліся, што забыліся нават развітацца з высокім начальствам, так агарошыў іх нечаканы загад. Ён парушаў, не, начыста перакрэсліваў іх уласныя планы — разукамплектаваць разбітыя машыны так, каб вораг ніякім чынам не мог ужо іх выкарыстаць. Меркавалася нават сапраўдныя матбры, хадавую частку зняць і, добра змазаўшы салідолам, каб не з'ела ржаўчына, закапаць у зямлю. А тады, як прыйдуць нашы...

Позна цяпер пра гэта думаць. Нехта апярэдзіў, падказаў немцам ці паліцаям, што ўрэшце адно і тое ж, што можна без асаблівых затрат і намаганняў разжыцца адразу на дзве, ш то і тры аўтамашыны.

— Ну, што скажаш? — пасля доўгага маўчання, ужо каля эмтээсаўскіх варот, павярнуўся да Сухоцкага дзядзька Мікола.

— Нічога. Абскакалі нас, аб'ягорылі. Толькі вось хто данёс немчуры, што машыны на звалцы далёка не металалом?

— Чорт яго ведае... Як быццам усе свае. Не павінны былі пайсці на такое...

— Чакай! — раптам спыніўся Сухоцкі.— А ці не той гэта нядаўні візіцёр з паліцыі, што шукаў матор для танкеткі?

— Гэтакі даўжэзны, худы?

— Ага. І прозвішча ў яго на ўкраінскі манер. Забыўся от...

— Кірычэнка, здаецца,— сказаў дзядзька Мікола.

— Падобна, так. Дык ён, гэты хлыст, па-мойму, разбіраецца ў тэхніцы не горш за нас з табой. Ты б пабачыў, як

загарэліся яго вочы, калі палазіў па машынных могілках. Кажа, у вас жа тут — залатое дно, усё амаль новае. Адрамантаваць — раз плюнуць... Канечне ж, ён, ніхто іншы, увёў у вушы начальству пра магчымасць дурыкам займець транспарт.

— Займеюць, гады!..— аж скрыгатнуў зубамі дзядзька Мікола.— Трэба толькі хлопцаў талковых на рамонт прызначыць. А яны ім так зробяць, што... Словам, сам разумееш... Каго б ты раіў?

— Тарноўскі — вялікі спец па розных тэхнічных «сюрпрызах», Пракапенка-шафёр умее ў гэтым сэнсе «пажараваць», ды так, што камар носа не падточыць, Міранавіч добры майстар па падшыпніках. Можа так падзаліць, што ўжо недзе на трэцяй гадзіне язды пачнуць крышыцца...

— Ім і даручым аднаўленне газагенератараў,— заключыў Мікалай Лук'янавіч.— Дзейнічай.

Атрымаўшы канкрэтнае заданне, і Тарноўскі і яго сябры Пракапенка з Міірановічам аж павесялелі: кончыліся для іх сляпыя пошукі «дзела», да якога можна было б прыкласці па-сапраўднаму сваю мазолістую руку. Аўтамабілі для паліцыі яны адродзяць. Збяруць машыны з рознага ламачча, якому даўно ўжо пара была пад прэс. А ўсё добрае, надзейнае, годнае ператвораць у лом, з якога ніводзін майстар нічога не зляпіць. Цяпер і хаваць не трэба будзе ні матораў, ні шасі...

— Слухай, Юзік, дай нам яшчэ ў памочнікі Сцёпу,— папрасіў Сухоцкага Тарноўскі.— Хлопец малады, увішны, пакуль я адну гайку адкручу, ён пяць паспее...

— Добра, няхай.

Так Сцёпа стаў членам брыгады па аднаўленні старых аўтамабіляў. Задача перад ім стаяла не вельмі складаная, хаця з пункту гледжання фізічных затрат і не такая ўжо лёгкая: трэба было разабраць усе дабітыя і новыя зісаўскія маторы і памяняць месцамі іх нутро. Гэта значыць у новыя блокі перакінуць зношаныя каленчатыя валы, паршнявую і размеркавальную сістэму і наадварот.

Работа прыйшлася хлопцу вельмі даспадобы, і ён гатовы быў рабіць хоць кругласутачна. Тарноўскі не дужа адабраў Сцёпаву стараннасць:

— Не спяшайся. У нашым дзеле залішняя гарачка ні к чаму. Паспеецца,— спаважна гаварыў ён.— Нам трэба дзейнічаць так, каб любы, нават самы яўны, брак некаму збоку здаваўся цукерачкай...

— Дык жа дужа хочацца, дзядзька Гаўрыла, каб бобікі як найхутчэй адправіліся ў рэйс...

— Паспеецца. Адправім. Магчыма, нават з музыкай.

Што меў на ўвазе Тарноўскі пад сваім «з музыкай», хлопец распытваць не стаў. Па-першае, гэта будзе не памужчынску, а па-другое, гэты «сабе наўме» чалавек можа проста паслаць яго куды-небудзь падалей, і правільна зробіць. Спатрэбіцца, сам пра ўсё скажа, а не — такой бяды.

Пасля нядоўгіх пошукаў выбралі на звалцы дзве адслужыўшыя свае яшчэ да вайны зісаўскія рамы. На іх былі амаль цэлыя, хаця і без дзверцаў, кабіны, а галоўнае — не кранутая аматарамі танных запчастак трансмісія. Устанавілі рамы ў вялікім гаражы на дубовыя калодкі. Першнаперш рашылі праверыць хадавую частку. Асабліва — задні мост. Разабралі адзін дыферэнцыял, другі і, пераканаўшыся, што абодва ўжо на ладан дыхаюць, паставілі ўсё на месца, начыста вымылі салярам, надраілі да сляпучага бляску. Тое ж самае прарабілі з рысорамі, барабанамі для колаў.

Прыехаў быў неяк Бекер на сваім цундапе, убачыў такое хараство і аж языком зацмокаў: гут, корош! Даведаўшыся, што старшы тут Тарноўскі, пачаставаў яго цыгарэтай. На развітанне падняў угору ўказальны палец і пракартавіў:

— Срок держать!

— Абавязкова! — выцягнуўся ў струнку, ледзь не казырнуў Тарноўскі.

Сцёпа адчуў, што вось-вось яго прарве дурны, такі недарэчны зараз рогат, і паспяшаўся схавацца за спіны таварышаў. А ўлагоджаны гаўптман спаважна разьвярнуў сваю таратайку і патрашчаў у бок канторы.

Гаўрыла Тарноўскі з папрокам паглядзеў на Сцёпу:

— Ох і пагарыш ты аднаго разу, хлопец, калі не навучышся вытрымцы. Не дзіцё ж ужо, дзякуй Богу, не блазнюк які...

— То ж вельмі смешна ў вас, дзядзька Гаўрыла, атрымалася, як ва фрунт перад Бекерам сталі... Чамусьці слаўны салдат Швейк успомніўся. Ну ды даруйце, болей падобнае не паўторыцца. І, дарэчы, які ён тэрмін дае на аднаўленне машын?

— Тры месяцы. Роўна. Вось і лічы, застаецца ў нас на ўсё крышку болей за два месяцы. Не густа.

— Значыць, недзе да канца мая трэба здаць спецзаказ. Уга. Часу хопіць,— бадзёра крутнуўся на адной назе Сцёпа.

— А ты не падумаў, што перад самай прыёмкай заказу

паліцаі могуць прыслаць свайго спецыяліста, як яго? Кірычэнку ці Карачэнку, і той унікліва пачне перабіраць усе вузлы? Яму ж ездзіць, не нам...

Пачутае прозвішча «Карачэнка» апаліла Сцёпаву памяць халодным агнём. Ён адразу напружыўся, падцяўся і апынуўся ў думках на перадапошнім спатканні з Палінай Васільеўнай Пінскай, калі яна паўтарала прозвішчы засланых мінскім СД у Чэрвеньскі і Бярэзаньскі раёны дыверсантаў. Сярод названых было — Карачэнка. Хаця... Іх жа спецыяльна пасылалі для падрыўной работы ў партызанскія атрады. А тут — паліцыя. Трэба неяк даведацца, калі і як трапіў гэты доўгі хлыст у паліцыю. Толькі вось як, праз каго гэта зрабіць? Можа... Можа, папрасіць Глінскага? Мае ж ён, урэшце, права пісаць пра подзвігі паліцыі. Асабліва пра тых яе ваяк, што нечым вызначыліся. Назваць яму, да прыкладу, імя Карачэнкі. Няхай той раскажа, што і як прывяло яго сюды, у рады верных слуг «новага парадку».

Трэба будзе падказаць яму напісаць такі опус. Толькі, мабыць, падказаць не самому, а вуснамі Зіны. Яна жонка, і яе Фёдар паслухае хутчэй, чым Сцёпу. А повадам для сустрэчы з Зінай паслужыць прыход Анюты. Яна павінна заявіцца ў Бярэзані з дня на дзень. Цвёрда абяцала, што першага або другога красавіка абавязкова будзе. Нават пасялковы адрас Сцёпы колькі раз паўтарыла, каб не забыцца і лішне не распытваць незнаёмых людзей.

* * *

За вячэрай Сцёпа, як звычайна, пацікавіўся, ці не было якіх-небудзь добрых вестак «адтуль».

— Добрага, дзеткі, на жаль, нічога няма. Як адагналі немца ад Масквы, так і стаіць ён. А вось на поўдні лезе наперад. Напралом. Зацягваецца вайна,— уздыхнула старая.— Сёння ўжо няма чым дыхаць-жыць, а заўтра што станецца? І за якія грахі такая напасць на людзечак?..

— Нічога, Хрысціна Пятроўна, француз у дванаццатым годзе Маскву не толькі быў забраў, а нават спаліў. А што з гэтага выйшла? Цяпер жа немца не толькі не пусцілі ў сталіцу, а і адагналі вунь на сколькі. І на поўдні тое самае будзе...

— Будзе-то яно будзе, ды калі? — у скрусе падперла галаву рукамі старая.— Сіла ў яго, недавярка, дужа вялікая. За яго во і мадзяры пайшлі ваяваць, і фіны, і гэтыя тальянцы, румынцы... паўсвету аж... А мы ж, савецкія, адны...

— Адны, пакуль што,— вымушаны быў пагадзіцца Сцёпа.— Затое мы ведаем, за што ваюем. Мы сваю родную зямлю абараняем.

— Кепска, дзеткі, абараняем. Нельга было пускаць супастата нават на парог, не тое што... Дык хваліліся, распіналіся: шапкамі закідаем!..

— Так ужо выйшла, Хрысціна Пятроўна...

— Выйшла... Нядобра выйшла. Колькі крыві нявіннай пралілося... І яшчэ пральецца...

Каб неяк перамяніць цяжкую гаворку, Сцёпа спытаў:

— Да мяне ніхто не заходзіў, не цікавіўся?

— Не, не было. Чакаеш каго?

— Чакаю, Хрысціна Пятроўна. Нявеста павінна завітаць з дня на дзень.

— Палянь-ка ты,— здзіўлена зіркнула на хлопца старая.— Такі маладзенькі, а ўжо нявесту мае!.. Ці не ранавата?

— Любви все возрасты покорны,— гарэзліва праспяваў Сцёпа.

— Што ж, прыводзь, бурчаць не буду.— І адразу чыста па-жаноцку заглянула ў вочы.— Прыгожая? Наша, бярэзаньская?

— Прыгожая, баба Хрысця, вельмі прыгожая. І наша. Толькі не тутэйшая, а аж з Матылянкі, што кіламетраў за дваццаць адсюль.

— Лічы, шо тутэйшая. Мне, як маладая была, прабегчы дваццаць вёрст нічога не значыла. Усё роўна што цяпер да суседзяў схадзіць...

— Да вас у мяне вялікая просьба, Хрысціна Пятроўна. Як прыйдзе мая нявеста, а зваць яе Анюта, вы ўжо не праганяйце, хай пачакае мяне ў гэтым пакойчыку...

— Гаворыш абы-што,— пакрыўджана нахмурылася старая.— Ці ж я фашыстоўка якая...

Прыйшла Анюта ў апошні дзень сакавіка. Было гэта раніцай. А вечарам таго ж дня яны ўтраіх — Анюта, Сцёпа і Фёдар Глінскі — шыбавалі ў Лысуху, на сустрэчу з Фёдаравай жонкай Зінай. Дарога была недалёкая — якіх тры кіламетры — і прамільгнула за гаворкай неўпрыкмет.

Убачыўшы Анюту, Зіна нават вачам сваім не паверыла, кінулася на шыю:

— Няўжо ты? Не змянілася, пахарашэла нават, хоць і вайна.— Замітусілася, затупала па кухні.— Распранайцеся, заходзьце ў горніцу, а я тым часам самавар пастаўлю. Федзя, глядзі гасцей...

У горніцы — светлым утульным пакоі — Глінскі пасадзіў Анюту са Сцёпам на канапу, паклаў на стол тоўсты фотаальбом з сямейнымі здымкамі:

— Вывучайце, тут уся радаслоўная Глінскіх з канца мінулага стагоддзя...

Фёдар пайшоў на кухню, пра нешта там пашаптаўся з жонкай і неўзабаве грукнуў уваходнымі дзвярыма. Анюта паспяшалася да Зіны — памагаць. У іх адразу ж завязалася ажыўленая гаворка, праўда, вялася яна напаўголаса, але Сцёпа разы два выразна пачуў прозвішча Карачэнка і зразумеў, што яго Анюта часу марна не траціць.

Потым, калі вярнуўся са двара Фёдар з запацелай пляшкай нейкага зелля, пачалося застолле. Спачатку, як гэта заўсёды бывае, закусвалі моўчкі, а неўзабаве ўжо гаварылі ўсе разам, амаль не слухаючы адзін аднаго.

Калі жанчыны пачалі збіраць са стала посуд, Глінскі запрасіў Сцёпу падсесці да яго на канапу, паглядзеў зусім цвярозымі вачыма як бы ў самую душу хлопца і без лішніх дыпламатычных выкрунтасаў спытаў:

— Прызнайся, навошта табе здаўся гэты смоўж Карачэнка?

Сцёпа здзівіўся: калі Зіна паспела перадаць яго (дакладней Анюціну) просьбу Глінскаму? Яны ж як быццам не заставаліся адзін на адзін, увесь час тут, разам з усімі. І глядзі ж ты, паспелі перагаварыць.

— Трэба, Фёдар. Трэба ведаць, якім чынам ён, маючы зусім іншую задачу, апынуўся ў паліцыі? Калі гэта адбылося? Ці, можа, гэта зусім не той Карачэнка, які маецца на ўвазе?

— Гэта вельмі важна?

— Вельмі, Фёдар.

— Добра. У некаторай ступені я табе асвятлю гэта пытанне, не прыбягаючы нават да інтэрв'ю з самім Карачэнкам. Ад Кішкурных пачуў на адной гулянцы. Ён, Кішкурных, ведае, што я пацярпеў ад саветаў, і таму давярае мне. То слухай уважліва...

На тую гулянку Фёдар трапіў зусім выпадкова. Яму трэба было завізіраваць у Хвалынскага чарговы нумар газеты. Хвалынскага на месцы не аказалася. На пытанне, дзе шукаць, сакратарка адказала, што ўсё раённае начальства, у тым ліку і нямецкае, абедае зараз у былой сельпоўскай сталоўцы і што пан бургамістр прасіў, калі пільная патрэба, пазваніць яму туды. Фёдар так і зрабіў. Заплятучым языком Хвалынскі прагугнеў у трубку:

— Зараз жа давай сюды. Каб адна нага там, другая тут... Уразумеў?..

— Яволь! — па-блазенску гаркнуў у трубку Глінскі.

Мінуты праз тры ён ужо сядзеў між расчырванелага начальства — галоўным паліцаем Кішкурных і бургамістрам Хвалынскім. Між імі, відаць, толькі што вялася нейкая гарачая перапалка, бо абодва былі край узбуджаныя. На другі бок састаўленых у шарэнгу сталоў сядзелі немцы са сваім камендантам Кальтвасарам у цэнтры. У іх таксама ішла ажыўленая гаворка, якая суправаджалася то задаволеным смехам, то воклічамі абурэння... Словам, звычайнае п'янае застолле...

Кішкурных, якому, відаць, да чорцікаў ужо надакучыла весці палеміку з гэтым упартым, як асёл, Хвалынскім, з радасцю пераключыўся на Глінскага:

— Ваюем, уюнаша, на газетным фронце? — аблапіў Фёдара за плечы, дыхнуў часночным перагарам у твар.— Н-н-не... ты не думай, я б-без ніякай насмешкі... Прапаганда, яна во! — падняў вялікі палец.— Без яе ні-ні...— Раптам гаркнуў на ўсю сталоўку: — Гебельс!..

Нямецкая палавіна адразу прыціхла. Начальнік СД Шнітке сказаў колькі слоў перакладчыку Францу, і той тут жа, звяртаючыся да Кішкурных, паўтарыў па-руску:

— Зачем господин начальник полиции произносит в этом грязном катухе великое имя?

Кішкурных, хістаючыся, устаў з-за стала, паспрабаваў нешта адказаць, але Шнітке грэбліва махнуў рукой. Франц са з'едлівай усмешачкай пераклаў:

— Начальніку паліцыі пара ісці спаць.

Фёдар таксама падняўся з месца:

— Я вам памагу. Трымайцеся,— і павёў Кішкурных да выхаду.

Пасля кароткай паўзы ў сталоўцы зноў успыхнула ажыўленая гаворка.

А за дзвярыма, абапёршыся спіной на прасценак, п'яна плакаў Кішкурных:

— Выгналі, с-сучча мяса... Н-ну і няхай... П-пляваць я хацеў... Эх, няма друга майго Андрухі Карачэнкі... Той бы мяне ў крыўду не даў, заступіўся б, жыцця за мяне не пашкадаваў бы... Я яго, падлюгу Андрушку, з лап у смерці вырваў... Не верыш?

А было так. На прадзім'і Кішкурных з дзесяткам падначаленых накіраваўся на хутар Забалонь пад маркай зрабіць засаду на партызан, хаця калі папраўдзе, то проста крыху

паграбіць заможных хутаран. Ні павязак паліцэйскіх не надзелі, ні апраткі чорна-шэрай. Замаскіраваліся пад партызан. Ішлі па чорнай сцяжыне — снег яшчэ не выпаў. Недзе ўжо каля хутара заўважылі на дарозе чацвёра людзей — двое са звязанымі рукамі, двое — з карабінамі напагатове. Тут і дурань здагадаецца, што партызаны кагосьці зацапалі і вядуць або на допыт, або, што яшчэ горш, на расстрэл.

Тут паліцаі і ўзнялі страляніну. Чацвёрка на дарозе нібы растварылася. Калі наблізіліся, адзін са звязанымі рукамі ляжаў мёртвы, другі ж, Андрэй Карачэнка, быў толькі лёгка паранены. А партызан і след прастыў... Тады і падабраў Кішкурных Карачэнку. Той расказаў, што пасля заканчэння нямецкай спецшколы быў накіраваны ў партызаны, ды яшчэ па дарозе туды яго апазнаў былы таварыш па канцлагеры, а цяпер партызан, і хацеў даставіць у атрад. Дзякуй, што выручылі, інакш бы крышка. Валодзьку Казлоўскага, корыша па спецшколе, шкада. Паспелі застрэліць. А яго, Кірычэнку, толькі крыху зачапіла ў плячо. Нават косці не закранула...

Выслухаў Сцёпа Глінскага і паспакайнеў: усё станавілася на сваё месца. Адно толькі трэба было пастаянна не выпускаць з поля зроку: Карачэнка, пахваліўся Глінскаму Кішкурных, вялікі спецыяліст па частцы тэхнікі. Ён нагледзеў на эмтээсаўскай звалцы многа добрых яшчэ машын, і скора паліцыя будзе мець уласны аўтатранспарт.

«Трэба зараз жа, неадкладна, перадаць гэту непрыемную навіну — пра Карачэнку і яго магчымы непасрэдны ўдзел у рамонце грузавікоў — дзядзьку Міколу і Сухоцкаму. Неабходна прыняць нейкія папераджальныя меры, абясшкодзіць Карачэнку. Яго, як Бекера, не падманіш. Чалавек, відаць, тэхнічна адукаваны. І калі запрыкмеціць маніпуляцыі з перастаноўкай на месцы новых дэталяў рознай старызны, нікому з іх, рамонтнікаў, нездабраваць».

Сцёпа шчыра падзякаваў Глінскім за ўсё і, клікнуўшы з кухні Анюту, ледзь не бягом прыпусціў у Бярэзань.

Вечарэла. Размяклая пад вясенннім сонцам дарога пачынала патроху падсыхаць, шэрхнуць, і пад нагамі прыемна пахрустваў цененькі лядок.

* * *

Дзядзька Мікола, можна сказаць, ніяк не адрэагаваў на трывожнае паведамленне Сцёпы. Прамармытаў толькі сваё любімае:

— Пажывём — пабачым. Час працуе на нас.

Сухоцкі на гэта горача запярэчыў:

— Бяздзейна чакаць, усё роўна што вол — даўбешкі. Карачэнку трэба абясшкодзіць, бо час працуе і на яго. За гэтыя два месяцы ён хоць раз ды праверыць зробленае намі. Гэта як піць даць. А тады што? Вазьмі хаця б заднія масты. Сатэліты з'едзены ўшчэнт, паўвосі ледзьве ліпяць. Не трэба быць спецыялістам экстра-класа, каб не западозрыць у гэтым дыверсію з нашага боку...

— І што ты прапануеш?

— Не ведаю. Думаць трэба. Нешта шукаць, з хлопцамі параіцца, хаця б з тым самым Пракапенкам. Можа, што падкажа. Ён жа памагае Карачэнку ў аднаўленні танкеткі. Можна сказаць, друг...

— Закадычны,— з сарказмам у голасе дадаў Мікалай Лук'янавіч.— Помніш, як не хацеў ісці, калі Кішкурных прасіў.

— І ўсё ж, хаця і пад няўсыпным вокам самога Карачэнкі працуе там, у гаражы спіртзавода, Пракапенка, але ж менавіта ён зараз самы блізкі да яго чалавек. Нікога другога болей няма. Яны ж адну, агульную справу робяць. А гэта, што б там ні было, збліжае людзей. Ды і па нацыянальнасці яны як бы сваякі — абодва хахлы.

— Апошняе, бадай, мае значэнне, і нават немалое,— пагадзіўся нарэшце з Сухоцкім дырэктар.— Я пра гэта неяк не падумаў. Што ж, тады давай дзейнічай. Хлопец ён жывы, кемлівы, магчыма, і ўнясе якую дзельную рацуху.

«Рацухай» Пракапенка, працуючы ў МТС яшчэ да вайны, называў рацыянальныя прапановы.

У вялікім гаражы, дзе вярталіся да жыцця «паліцэйскія» грузавікі, Сухоцкі кіўком галавы адазваў Пракапенку ўбок. Запытаўся:

— Які ў цябе дзень карачэнкаўскі?

— На гэтым тыдні — суботу прызначыў.

— Субота, субота... — пачаў загінаць пальцы Сухоцкі.— Чатыры дні на роздум...

— Які роздум? — злёгку насцярожыўся Пракапенка.

— Пайшлі ў інструменталку, як бы па камплект. Па дарозе і пагаворым. Лішнія вушы тут не патрэбны.

Пракапенка вярнуўся да брыгады рамонтнікаў, узяў чамаданчык для інструменту і, кінуўшы: «Я скора», паспяшаўся за Сухоцкім, які ўжо выходзіў з гаража.

Пачуўшы ад старшага механіка, што яму, Пракапенку, канечне, пры яго добрай згодзе на гэта, прапаноўвалася «ўчыніць», ледзь не выпусціў з рук чамаданчык.

— Во так узяць і кокнуць?!. Ты што гэта, Сухоцкі? З глузду з'ехаў?

— У тым і справа, што не проста так вось узяць і раскалоць яму чэрап, напрыклад, тарцовым ключом... Неабходна ўсё гэта зрабіць так, каб ніхто ні-ні... Тут, братка, памазгаваць трэба...

— Яшчэ як памазгаваць,— наморшчыў Пракапенка лоб. Памаўчаў, потым амаль весела глянуў на Сухоцкага.— Эх! Была не была!.. Дык, кажаш, чатыры дні на роздум? Што ж, будзем думаць. Не можа быць, каб што светлае не скумекала гэта дурная башка,— і пляснуў сябе па лабаціне.— Чакайце аказіі...

Саня Пракапенка пачаў з таго, што ўжо назаўтра прынёс у гаспадарчай сумцы двух вялікіх пацукоў, якіх удалося злавіць за ноч у пастку, і ўпотайку ад сяброў пасадзіў іх у пустую жалезную скрыню са шчыльна прылягаючым векам. Пакуль нікога яшчэ не было, запусціў бензінавы рухавічок, якім прыводзілі ў дзеянне такарны станок, і праз доўгі гумавы шланг запусціў у скрыню добры струмень выхлапнога газу. Задача была простая — праверыць, ці праўда, як тое часта паўтаралі на шафёрскіх курсах, што выхлапны газ — страшная атрута і можа забіць усё жывое. Праверыць, бо сам ён, Саня Пракапенка, не сто і не дзвесце разоў удыхаў у сябе гэту атруту, прытым на поўныя грудзі, і ні разу не адчуў нават лёгкай змены да горшага ў сваім здароўі. Магчыма, выкладчыкі, гаворачы будучым вадзіцелям пра вялікую небяспеку выхлапнога газу, мелі на ўвазе звычайную прафілактыку. Маўляў, усяк можа стацца, усё ж газ, дым, зусім бясшкодным такое рэчыва не можа быць, а беражонага і Бог беражэ. Яны ж, тыя выкладчыкі, самым найсуровейшым чынам папярэджвалі: не мыйце рукі бензінам, не бярыце ў рот шланг з палівам, дужа шкодна, небяспечна. А цэлая армія розных рамонтнікаў, шафёраў, трактарыстаў, мабыць, дзесяткі гадоў не ведае лепшага сродку для мыцця рук, як бензін. Любую мазуту ўмомант адмывае. А як прымусіць той самы бензін пайсці па шлангу, калі не смактануць яго?..

Словам, не верыць выкладчыкам нельга, але і праверыць тое-сёе не шкодзіць.

Убачыўшы, што на эмтээсаўскі двор пачынаюць заходзіць першыя рабочыя, Пракапенка падышоў да жалезнай скрынкі і прыўзняў вечка. У твар злёгку патыхнула знаёмым пахам выхлапнога газу. Нахіліўся і ўбачыў: абодва пацукі ляжаць мёртвыя, сутаргава скурчыўшы кіпцястыя лапы.

Эксперымент быў закончаны.

Цяпер трэба было ажыццявіць яго ў больш шырокім маштабе, карацей кажучы, даць эксперыменту непасрэднае практычнае прымяненне, пусціць ў жыццё. Аднаму зрабіць гэта, бадай, не пад сілу. Спатрэбіцца кваліфікаваная дапамога ўмудроных жыццёвым вопытам людзей. Хаця б таго ж самага старшага механіка. Спецыяліст ён дай Бог кожнаму, з царом у галаве. А галоўнае, у курсе, сам прасіў падумаць, як найбольш зручна, не выклікаючы падазрэнняў з боку немцаў і паліцыі, прыбраць Карачэнку.

Дык вось, задумка ёсць. І здаецца адзіна верная: вытворчае атручванне ў час работы. Ніхто нічога ніякага. Звычайны няшчасны выпадак.

Вечарам Пракапенка быў на кватэры ў Сухоцкага. Яны сядзелі за сталом, засланым цыратай. Механік датошліва выпытваў, што сабой уяўляе гараж спіртзавода, дзе рамантуецца танкетка Карачэнкі. Самому яму неяк ні разу не давялося там пабываць. Аказваецца, гараж гэты быў плоскадахавай мураванкай на дзве грузавыя або тры легкавыя машыны. Ацяпленне — ад звычайнай бляшанай печкі, з трубой у адзінае акенца. Святло — насцеж расчыненыя дзверы, а вечарамі — карбідная лямпа.

— Вентыляцыя? — налёг на край стала Сухоцкі.

— А ніякай! — ажывіўся Пракапенка.— Чаму ж мне і дзеўбанула ў галаву... пра газ.

— Як жа вы ўсё-ткі праветрываеце гараж?

— Ды якое там праветрыванне? Калі выпрабоўваем матор, паганяем яго добранька якую гадзіну, а то і дзве, то назаўтра, як на вуліцы ціха, нельга зайсці. Карбідка і тая гарэць не хоча...

— У такім разе, Саня, мабыць, твой план адзіна правільны. І нічога іншага, рэальна зробленага, на гэты момант я не бачу. Будзем дзейнічаць.— Сухоцкі ўстаў з табурэткі, зрабіў колькі крокаў па цесным пакоі і зноў вярнуўся на месца.— Пра нашу цыстэрну са спіртам ты ведаеш. Нацадзі не шкадуючы, няхай п'е, хоць зальецца. Пра закусь падумай. Каб нічога тлустага. Хопіць хлеба, цыбулі... Сам разумееш. Ну, а там ужо разыгрывай свой спектакль, як задумаў: маўляў, пад рокат матора. Ой,— раптам спахапіўся механік,— глушыцель ён ужо прывалок?

— Не, казаў, што аднаму цяжкавата... Каб я памог...

— Трэба спяшацца. Матор з глушыцелем — зусім не той эфект на згубу...

— Божачка,— шчыра перахрысціўся на голы кут Пра-

капенка.— Да ніспашлі ты на мерзасць людскую ціхую-ціхую пагодку. Каб нават волас, травінка не варухнуліся ў той расцудоўны вечар...

— Хопіць, Саня,— мякка спыніў яго Сухоцкі.— Давай яшчэ і яшчэ раз прайграем усю аперацыю ад пачатку і да канца. Трэба быць гатовымі да самых нечаканых нечаканасцей.

Прыкруціўшы ў лямпе кнот, яны зноў наблізіліся адзін да аднаго і загаманілі-забубнелі пра сваё, такое трывожнае, такое небяспечнае, такое непазбежна неабходнае.

* * *

Канец красавіка радаваў усё жывое ціхім лагодным надвор'ем. На вачах афарбоўваліся ў аксамітную зелень прырэчныя лугі, там, дзе паспела сысці паводка, набрынькалі гатовыя вось-вось праклюнуцца пупышкі на бярозах, рупіліся, перасвістваліся ў падстрэшшах і ля шпакоўняў пасялковыя птушкі, а над усім гэтым, здавалася, над самым цэнтрам пасёлка звінеў, залівaўся нябачны з зямлі срэбнагалосы жаваранак.

Асабліва хораша было раніцай, калі прырода толькі-толькі пачынала абуджацца, ажываць... У паветры веяла свежасцю, бадзёрасцю, удыхнуўшы такога бальзаму, міжволі хацелася калі не спяваць, то хоць прабегчыся па панадворку.

Начальнік паліцыі Кішкурных хуценька апрануўся і накіраваўся да казармы. У будцы днявальнага спыніўся і загадаў асядлаць двух рысакоў — яму і Карачэнку. Начальнікам валодала неадольнае жаданне прамчацца галопам з канца ў канец па яшчэ сонным пасёлку. Зараз жа.

Але днявальны крыху падпсаваў яго гарэзлівы настрой, прагугнявіўшы, што Карачэнка сёння ў казарме не начаваў.

«Эт, кот марцовы!..— паблажліва прыжмурыўся Кішкурных.— Мабыць, зноў да Евы зайшоў». Уголас спытаў:

— Не казаў, куды пойдзе?

— Казаў. На спіртзавод. Танкетку канчаць.

— Тады сядлай аднаго жарабка. Ды жыва! — скамандаваў начальнік.

Саскочыўшы з каня ля гаража, ён адчуў, як ім пачынае няўмольна авалодваць, нарастаць трывога. Дзверы ледзь прыадчынены, і з іх павольна-павольна выпаўзае сінявaты дымок. Нязносна цяжка патыхае перагарэлым бензінам...

Кішкурных ірвануў адну палавіну дзвярэй, затым дру-

гую, расчыніў іх на ўсю шырыню. Ступіў унутр. Убачыў ля дальняй сцяны Карачэнку. Той сядзеў на бочцы з-пад бензіну і, унурыўшы галаву на варштат, спаў. У руцэ — шклянка. Зазірнуў — недапітая. Моцна таўхануў у плечы, гаркнуў:

— Устаць!

Карачэнка хітнуўся і пачаў павольна спаўзаць з бочкі, пакуль не чмякнуўся мяшком на земляную падлогу. Кішкурных зазірнуў у твар яму і жахнуўся. Труп! Шырока раскрытыя вочы ашклянелі, на ашчэраным твары застылая д'ябальская ўсмешка.

Мёртвае цела свайго паплечніка паліцаі павезлі ў казарму не па галоўнай вуліцы пасёлка, а бачком, паўз раку. Навошта лішнія вочы, непатрэбныя размовы.

У той дзень не з'явіўся на работу Саня Пракапенка. Не аказалася яго і дома. На дзвярах вісеў замок. Значыць, знік разам з жонкай.

Ні Сцёпу, ні тым больш дзядзьку Мікалая з Сухоцкім гэткі Санькаў фартэль не здзівіў, хаця папярэдне пра ўцёкі гаворкі і не было.

Толькі хто яго ведае, як бы яно далей для яго, Пракапенкі, склалася, калі б пасля «няшчаснага выпадку» ён не падаўся ў лес?

* * *

Удар у плячо быў моцны, але небалючы. Сцёпа імгненна крутнуўся, ускінуў кулак і... апусціў. Перад ім, шырока расставіўшы ногі, стаяў і паблажліва ўсміхаўся Пятрок Басэвіч. Так, так, гэта быў ён, нядаўні Сцёпаў аднакурснік, гуляка і беспрасветны п'яніца. Сцёпа пазнаў яго адразу, нягледзячы на тое, што Басэвіч адпусціў рыжаватыя вусы і невялікую бародку. Усё тыя ж мутнавата халодныя, глыбока пасаджаныя вочкі, усё той жа напалавіну вышчарблены жоўты зуб-разец.

— Здароў, камсорг! — падкрэслена гучна гаркнуў Басэвіч сваім прапітым басам і працягнуў руку.

— Здароў,— адказаў Сцёпа, працягваючы кулак. Потым спахапіўся, расціснуў пальцы.— Даруй, гэта ж я думаў, які хуліган. То сабраўся адказаць ударам у сківіцу.

— Мяне цяпер не дужа і саб'еш з ног. Моцна стаю.

— Бачу,— пагадзіўся Сцёпа, уважліва акінуўшы позіркам грузнаватую постаць Басэвіча. Нягледзячы на цёплае надвор'е, на ім быў новы чорны кажух, падпяразаны афіцэрскім рэменем. На рэмені злева вісеў маўзер у драўлянай

кабуры, справа — рэвальвер у звычайнай скуранай, спераду, у ножнах сярэбранай чаканкі, целяпаўся каўказскі кінжал. На левым рукаве — павязка паліцэйскага. На галаве па-заліхвацку, збітая набакір каракулевая шапка-кубанка. Дапаўняла ўбор перакінутая цераз плячо палявая сумка.

— Дык што, камсорг, не чакаў сустрэчы? Не рады? А я вось рад. Каб спаткаў цябе ў Бялынічах, абавязкова ў госці запрасіў бы. Дальбог, камсорг, гы-гы-гы...

— Ды кінь ты, заладзіў,— камсорг, камсорг,— раззлавана кінуў Сцёпа.— Быў камсорг ды ўвесь выйшаў. Зараз перад табой рабочы нямецкіх рамонтных майстэрань. Вось так. А наконт гасцей — калі ласка. Пляшка спірцягі ў мяне знойдзецца. Толькі вось зажаваць няма чым.

— А мы баранінкай,— правёў Басэвіч рукавом кажуха па мокрых сіняватых губах. Вочы яго прагна заблішчалі, і ён ужо амаль сяброўскім тонам запытаў: — Далёка дзе жывеш?

— Рукой падаць. Вунь за тым асабнячком і будзе мая лачуга,— паказаў у бок пасялковага сквера.

— Амаль у цэнтры,— адабральна адзначыў Басэвіч.— Зручна.— І рашуча запатрабаваў: — Дык вядзі. Што час марна трацім. А то вычхаецца яшчэ твой спірытус-вініус,— і крыху збянтэжана хіхікнуў.— А за камсорга не крыўдуй. Гэта я так, жартам.

— Ні храна сабе жартачкі. Цяпер жа сам ведаеш, што з нашым братам могуць зрабіць. А ты на ўсю вуліцу. Але ладна ўжо... Скажы лепш, якім ветрам да нас? Ад Бялыніч сюды вёрст з паўста набярэцца ды ўсё лесам.

— Фі, лесам. Мы, брат, на маторах. Папераздзе двухрылы бранявік, ззаду — грузавікі. За гадзіну прытарахцелі.

Сцёпу да свербу ў горле зарупілася спытаць, з якой мэтай прыехалі бялыніцкія паліцаі, ці шмат іх, што так смела «тарахцелі» па лесе. Але ён адагнаў гэта жаданне: можна выклікаць у Петрака падазрэнне. Лепш няхай сам прабалбочацца, калі залье бельмы... А не, дык не.

— Ты ж, мабыць, не радавы паліцэйскі? — паспрабаваў зазірнуць яму ў вочы Сцёпа.

Басэвіч фанабэрліва паправіў вусы, кінуў кароткі погляд на Сцёпу:

— А сам як думаеш?

— Мяркуючы па экіпіроўцы, у начальніках ходзіш.

— Угадаў, кам... цьфу, ты, Сцяпан. Цяпер я не проста нікудышны студэнт і выпівоха, на якога ўсё плявалі ды

харкалі, цяпер я — асоба. Намеснік начальніка раённай паліцыі. Так што і мы не лыкам шыты.

— Што ж, Пятрок, віншую. Нарэшце надышоў твой зорны час. І як справы ідуць?

— Як? — Басэвіч спрытна расшпіліў верхнія аплікі кажуха, шырока расхінуў левы адварот, і Сцёпа ўбачыў на яго фрэнчы бронзавы нямецкі крыж, якім немцы не скупіліся ўзнагароджваць сваіх паслугачоў.— Вось так, даражэнькі. Абы-каму такое не ўручаюць.

— Яно, вядома,— згадзіўся Сцёпа. Яму адразу зрабілася ніякавата, нават вусцішна. Ён уявіў, колькім людзям гэты адштампаваны кавалачак металу каштаваў жыцця і колькім яшчэ каштаваць будзе. Вось і зараз, захоча Басэвіч, вякне ў паліцыі, што ён, Сцёпа, быў камсоргам курса і... Не, не, толькі не гэта. Яму, Сцёпу, трэба жыць, жыць. І не толькі таму, што жыць вельмі і вельмі хочацца, а паміраць вельмі і вельмі страшна. Яму трэба жыць, каб знішчыць як мага болей вось такіх басэвічаў. Цяпер гэта самае найгалоўнейшае ў яго, Сцёпавым, жыцці.

Баба Хрысціна, як толькі ўбачыла Басэвіча, адразу зніякавела, нібы паменшала ростам і, адступаючы задам, пасунулася на куханьку. А госць, не здароўкаючыся, яшчэ з парога грозна рагатнуў:

— Пячы яешню, старушэнцыя!..

— Дзе ж яны ў мяне, тыя куркі, дзеткі, усё забралі, як мятлой падмялі... — затрэслася старая.

— Ты не бойся мяне, не грабіць прыйшоў,— падабрэў Басэвіч.— Дружка вось сустрэў, ну ён і запрасіў у госці.

— То пагасцюйце на здароўе, дзеткі, а я збегаю да суседзяў, можа, у каго і праўда якое яйка знайду.

І яна трасучымі рукамі пачала надзяваць паддзёвачку.

Сцёпа пацягнуў Басэвіча ў свой пакойчык-пенал.

— Слухай, не дражні ты яе. А то яшчэ возьме ды і...

— Шкадуеш? — зняважліва перапыніў яго Басэвіч.— Пажыла сваё, не шкадуй. Я і не такіх адпраўляў у рай, для дзела, брат, і немаўлятка шкадаваць не трэба... — і пагаспадарску ўсеўся да століка на куце.

За кароткі час сустрэчы з Басэвічам Сцёпа ў другі раз адчуў, як яму робіцца вусцішна. Міжволі ўзнікла дзікая думка: «Узяць ды кокнуць гада! Вось тут, у гэтым пенале... Пісталет жа, вось ён...» Але хлопец стрымаў сябе і пачаў дзелавіта корпацца ў тумбачцы. Перш-наперш дастаў і паставіў на столік літровую бутэльку спірту-сырцу, затым — дзве цыбуліны, хлеб. Прынёс з кухні шклянкі, нож, конаўку халоднай вады.

— Пачнём? — спытаў у Басэвіча.

Той насмешліва паглядзеў на стол.

— І гэта ўсё? — Звыклым жэстам кінуў на калені палявую сумку, дастаў адтуль бляшанку мясных кансерваў і кавалак ружовага сала, падсунуў да Сцёпы.— Адкрывай і нарazaй. Гуляць дык гуляць. Мы не жабракі якія і не лясныя бандзіты,— пранізліва зірнуў на Сцёпу,— каб задавальняцца нішчымнай зацiркай. Мы ўсё,— падкрэсліў,— усё, што пажадаем, можам мець... — І нецярпліва пацягнуўся да бутэлькі, наліў сабе паўшклянкі.— Ты не звяртай увагі, перабаршчыў учора трохі, дык нутро смыліць.— Каўтануў адным глытком, запіў вадой і шумна выдыхнуў.— Не прымі, Божа, за п'янства, прымі за лякарства.

Яшчэ мінуту назад шызы Басэвічаў твар пачаў увачавідкі ружавець, мутныя вочкі — праясняцца. Ён зняў нарэшце шапку, расшпіліў і шпурнуў на ложак рэмень з амуніцыяй.

Сцёпа закончыў рэзаць сала, пераклаў на талерку кансервы. Наліў сабе чвэрць шклянкі, госцю палавіну.

— Спаіць хочаш? — здзекліва ўсміхнуўся той.— Не, даражэнькі. Басэвіч літру заложыць, і хоць бы хны. От учора: усе за сталом пазвальваліся, а я яшчэ да бабы пайшоў і не абрамізіўся... Так што...

— Слухай, Пеця, скажы ты мне радзі Бога: ну навошта мне цябе спайваць!.. Можа, каб якую ваенную тайну выведаць? То магу запэўніць, мне яно ні к чаму, сам бачыш: чалавек я сугуба цывільны, жыву і працую ў нямецкім гарнізоне, да ваенных спраў амаль ніякіх адносін не маю, можа, хіба што іншы раз ваенную тэхніку даводзіцца рамантаваць... Так што нічога такога не выдумляй. Давай лепш чокнемся. За сустрэчу!

— Давай! І за нашу перамогу!

— Згодзен! — ахвотна падхапіў Сцёпа.— І за яе!

Калі крыху закусілі, Сцёпа пачаў распытваць пра жыццё ў раёне, як бы між іншым пацікавіўся, ці не сустракаў калі Басэвіч сваіх землякоў — былых калег па інстытуце.

— Гэта з Малой Машчаніцы? Цялегіны? Збароўскі? Каюк ім.

— Як — каюк?! — ледзьве не крыкнуў ад такой страшнай навіны Сцёпа.

— А вось так,— Басэвіч зрабіў рукою круг над сталом і чуць не перакуліў бутэльку. Сцёпа хуценька адставіў яе на падаконнік.— Вось так. Аблажылі іх, як мядзведзя ў бярлозе. Чакаем падмацавання, і тады — разумееш...

У Сцёпы адразу адлягло ад сэрца. Ён зразумеў, што

з хлопцамі пакуль што нічога кепскага не здарылася.

— Разумею, Пеця, разумею. А ты еш, закусвай. Бо, мабыць, яшчэ на службу трэба. Ці мо ў мяне перадыхнеш?..

— Што — выганяеш? — Басэвіч раптам моцна грукнуў кулаком па стале.

— Ты што, Пеця,— не на жарт спалохаўся Сцёпа.— Барані цябе Божа і падумаць такое. Ты ж мой, можна сказаць, самы дарагі госць за апошні час. І ведай, пакуль вось гэту не прыкончым,— зноў паставіў на стол бутэльку са спіртам,— нікуды адсюль не вылезеш...

— Дык налівай, чаго ката за хвост цягнеш?..

— Наліваю. Хай гэта чарка будзе за тваё, Пеця, драгацэннае здароўе.

— І за нашу перамогу! — гаркнуў Басэвіч.

— І за нашу перамогу! — звонкім рэхам адказаў Сцёпа.

Басэвіч касеў на вачах. Відаць, адрыгалася ўчарашняе, ды і сам па сабе спірт — гэта не тое што самагонка. Таму, каб потым лішняе неваждацца з п'яным паліцаем, Сцёпа рашыў больш не падліваць яму. Але той, зусім не закусіўшы і пасля трэцяй порцыі, схапіў бутэльку і наліў сабе чуць не поўную шклянку.

— Г-г-глядзі, як-к т-трэба піць! — падняў шклянку, набраў поўныя грудзі паветра, два разы каўтануў і, вырачыўшы вочы, выдыхнуў: — Вады-ы...

Потым цяжка падпёр галаву кулакамі і заплакаў:

— Гадзіна!.. Сволач!.. Сам нябось не паехаў, пабаяўся, паскуда... Шкуру беражэ... Як дзюрка якая — ты, Басэвіч, затыкай...

— Можа, прыляжаш на хвілінку, Пеця,— спачувальна прапанаваў Сцёпа.

— Не-е... — Басэвіч дастаў з кішэні залаты гадзіннік, шчоўкнуў вечкам.— Скор-ра на службу. Дап'ём, і пайду...

— Як знаеш.

— Я ўсё знаю. Я знаю ў сто разоў б-болей, чым ты, смаркач. Хоць ты і камсоргам быў і выдатнікам. Я мудрасць жыцейскую знаю. Жыць трэба для сябе і... і спяшацца т-трэба... Я кожны д-дзень новую б-бабу... Ем, п-п'ю, гуляю... А што?.. Пакуль жыў, жыві... Кор-ратка, доўга, але каб на поўную кат-тушку, не тое шт-то ты... А нач-чальніка свайго я ненавід-джу. Гэта ям-му т-трэба б-было сюды ехаць... Сам гаўптман Вер... Верд...нер пасылаў... Дык не... Мяне паслаў... Пабаяўся, с-сука... Бандытаў, з-заціpачнікаў спужаўся. Басэвіч едзь у Б-бярэзань д-да-маўляцца на абłаву... Налей! — раптам гаркнуў амаль цвяроза.— Чаго

вушы натапырыў. Думаеш, ваенную тайну выдам. А во!.. — і сунуў пад нос Сцёпу цяжкі кулак.— Л-ладна, жар-ртую. Р-разам з вашымі будзем партызан біць, а дзе і калі — на-а, выкусі... Давай, п-паднімай...

З п'янай балбатні Басэвіча Сцёпа ўжо зразумеў, што прыехала іх, паліцаяў і немцаў, недзе чалавек шэсцьдзесят, каб, аб'яднаўшыся з бярэзаньскімі, наладзіць аблаву на партызан. І, відаць, даволі хутка. Трэба было неяк выправадзіць з хаты Басэвіча і прымаць рашэнне, што рабіць далей.

І Сцёпа рашуча падняўся з-за стала.

— Т-ты к-куды? — усім тулавам, навальваючыся на столік, падазрона пасунуўся да яго Басэвіч.

— Ды вось хачу, каб ты не пакідаў маю хату з пустымі кішэнямі. Ёсць у мяне ў заначцы яшчэ адна пляшка, праўда, напалову меншая, але за моц ручаюся.

Басэвіч цяжка ўстаў, хістаючыся, аблапіў Сцёпу, мазнуў па шчацэ мокрымі губамі:

— Нясі, давай яе, чартоўку, с-сюды. З-заўтра пасля б-бойкі в-во як згадзіцца... А гэту,— паказаў на недапітую літроўку... — прыкончым т-тут... Ну... Н-налей, п-пакуль я абман... абмандзіруюся,— і пачаў непаслухмянымі пальцамі зашпільваць кажух. Сцёпа, неўпрыкмет спалавініўшы і схаваўшы рэшту спірту, прынёс абяцаную бутэльку-прэзент і запіхнуў у палявую сумку. Потым памог Басэвічу апрануцца.

— Цябе праводзіць?

— Н-не... Я, др...дражэнькі, сам... Як штык...

На ганку зачапіўся за прыступку, але не ўпаў. Пастаяў, пахістаўся і, па-бычынаму нагнуўшы ўперад галаву, рушыў на вуліцу.

Сцёпа выглянуў з-за брамкі. Басэвіч ішоў пасярэдзіне вуліцы, амаль не хістаючыся, хаця ногі пераstaўляў з натугай.

* * *

Пасля адыходу Басэвіча Сцёпа ўжо спакойна яшчэ раз пастараўся скласці ў адно абрыўкі яго п'яных выказванняў. Вывад атрымліваўся ўсё той жа: прыехалі сюды бялыніцкія гарнізонныя немцы з паліцаямі, каб аб'яднаць не такія ўжо буйныя свае сілы з бярэзаньцамі і ўдарыць па партызанах. Але дзе, у якім менавіта месцы, па якому канкрэтнаму лагеру партызан? Ну, па-першае, недзе на мяжы двух раёнаў. Пра гэта не так цяжка здагадацца — не стануць жа

бялыніцкія паліцаі рызыкаваць жыццём дзеля знішчэння «чужых» лясных бандытаў. Кожны павінен клапаціцца за ачыстку сваёй тэрыторыі. А па-другое, мяркуючы па тым, як выказваўся Басэвіч пра сям'ю Цялегіных, меўся на ўвазе карны паход менавіта на атрад, адным з кіраўнікоў якога з'яўляецца Сідар Мікалаевіч.

Трэба было як мага хутчэй папярэдзіць яго. Якім чынам? Зноў, відаць, давядзецца вырашаць гэта нялёгкае пытанне з дапамогай Зіны: адна яна ведае, дзе дыслацыруецца атрад Цялегіна. Заадно неабходна папярэдзіць дзядзьку Мікалая, каб перадаў Сакалоўскаму ці каму іншаму з партызан пра намеры бялыніцкіх «гасцей». Быць таго не можа, каб яны, партызаны-суседзі, не прыдумалі сумесна, як сарваць зрыхтаваную супраць іх карную акцыю.

Доўга не марудзячы, Сцёпа апрануўся і, абмінуўшы цэнтр пасёлка стараной, паспяшаў у Лысуху. Зіна была якраз дома. Яна не здзівілася прыходу Сцёпы: так было дамоўлена раней — пры сур'ёзнай патрэбе наведваць адно аднаго без папярэджання.

А позна ўвечары меў Сцёпа гаворку і з дзядзькам Міколам. Той паклікаў Сухоцкага і загадаў тэрмінова раскачагарыць нядаўна сабраную для патрэб майстэрань газагенератарную палутарку: неабходна, маўляў, прывезці з-за Мікуліч нарыхтаваных яшчэ да вайны дубовых і бярозавых калод на чуркі.

Кола падпольнай машыны закруцілася. Цяпер можна было крышку расслабіцца, адпачыць. Сцёпа скруціў тоўстую цыгарку і моцна зацягнуўся. Па ўсім целе палілася непрыемна патлівая млявасць. Ён тут жа расцёр цыгарку ў пальцах, шпурнуў ад сябе і, хіснуўшыся, як п'яны, пайшоў да лавы ў кутку гаража. Сеў, аблакаціўшыся на калені, падпёр кулакамі галаву. Самотна паўшчуваў сам сабе, што апошнія двое сутак амаль нічога не еў, а толькі беспярастанку курыў. Да таго ж зусім не спаў. Толькі замружыць вочы, сцішыцца, паплыве ў цёплую плёнку сну, а тут нешта як тармасне ўсяго, вочы і расплюшчваюцца...

* * *

Гэта адбылося ў адну з цудоўных майскіх раніц. На шашы за ракой. Адбылося роўна праз два дні, як прыехалі ў Бярэзань бялыніцкія «госці». Туды, за раку, цераз мост прайшлі тры набітыя па самую завязку немцамі і паліцаямі машыны на чале з двухматорным «цягні-піхай» браневіком. Натужліва равучы маторамі, калона ўзабралася на горку,

аздобленую абапал вясёлым меднаствольным сасоннікам, і, з палёгкай адсапнуўшыся, з ветрыкам рынулася ўніз. На гэтай глыбока тылавой шашы ехаць было вальготна, ні табе сустрэчных машын, ні падвод, ні нават чалавечай постаці. Газуй, гані, хоць галаву скруці — ніхто і нішто не перашкодзіць. Свабода, трасца матары!.. Можна б і гонкі-перагонкі наладзіць. Толькі вось не дужа што пryткі бранявік нельга абʼязджаць. А так бы...

«Ву-ух!» — магутны выбух скалануў усё наваколле. Цяжкі бранявік злёгку ўздыбіўся над брукаванкай дарогі і няўклюдна рухнуў пад адхон. З усіх яго шчылін-адтулін папоўз, закурыўся чорны дым. З-за сасновых ствалоў, з прыдарожных кустоў паляцелі на машыны і пад машыны гранаты, затрашчалі аўтаматы, часта затахкалі вінтоўкі. Загарэлася адна машына, другая... Вось ужо ўсе тры палыхаюць бялёсым, амаль нябачным пад яркім сонцам агнём. Скачуць з кузаваў і падаюць карнікі... Кароткае дружнае «ўра», падбор трафеяў, і партызаны паспешліва разышліся ў супрацьлеглыя бакі — адны, а было іх на чале з Сакалоўскім усяго шаснаццаць чалавек, падаліся да сябе на захад, другія — дваццаць хлопцаў з роты Сідара Мікалаевіча — скрыліся ў усходнім кірунку.

У той жа дзень, толькі ўжо вечарам і ўжо не на тым баку ракі, а на гэтым, над шашой пратрашчалі тры вінтовачныя залпы: немцы і рэшткі паліцаяў пахавалі паўз дарогу сваіх таварышаў па зброі.

Недзе каля сотні бярозавых крыжоў налічыў Сцёпа, прагульваючыся неўзабаве па шашы. І сярод іх два асабліва важныя ў цяперашнім яго лёсе. Хлопец злавіў сябе на тым, што акуратныя надмагільныя градкі зусім не выклікаюць у ім, як заўсёды бывала раней, глухой тугі, боязі перад нязведаным, перад тым, што робіцца з чалавекам, калі ён адыходзіць у небыццё. Наадварот, пагорачкі з крыжамі, пад якімі ляжалі трупы немцаў і паліцаяў, выклікалі на гэты раз пачуццё вялікага задавальнення, нават радасці. Страшна ўсведамляць такое, але ж факт застаецца фактам. І нічога тут не папішаш.

* * *

На схіле лета па Бярэзаню папаўзлі ўпартыя чуткі, што ў пасёлак на днях прыбудзе і раскватаруецца ці то полк, ці то батальён уласаўцаў. Хто яны такія, гэтыя ўласаўцы, ніхто толкам не ведаў. Адны сцвярджалі, што гэта добраахвотнікі з савецкіх ваеннапалонных, якія самі папрасіліся да

5—374

немцаў на службу, другія — што гэта былы царскі, а цяпер савецкі генерал Уласаў прадаўся Гітлеру і заадно прадаў сваю армію. Знаходзіліся і такія, што сцвярджалі, быццам уласаўцы гэта вызваленыя з турмаў крымінальнікі розных масцей і рангаў.

Слухаючы людзей, Сцёпа не бачыў істотнай розніцы паміж аднымі і другімі. Ваеннапалонныя яны ці перабежчыкі, крымінальнікі ці яшчэ хто. Калі сталі са зброяй на бок немцаў, значыць, ворагі, здраднікі, значыць, тыя самыя фашысты, і адносіны да іх у сумленных людзей могуць быць адны — кляйменне ганьбай, усеагульная нянавісць, пагарда.

І ўсё ж цікава, вельмі нават цікава, што ў іх там, на самым донцы душы, асабліва ў маладзейшых, якія нарадзіліся і выраслі ўжо за савецкім часам? Не можа такога быць, каб усе яны вось так похапкам узялі і здрадзілі Радзіме, вернасці якой кляліся, уступаючы ў піянеры, прымаючы воінскую прысягу... Ніяк такое не магло ўкласціся ў Сцёпавай галаве, набыць пэўнае лагічнае тлумачэнне.

І не было дужа з кім пагаварыць, каб унесці хоць якую яснасць у гэтую пакутлівую праблему. Дзядзька Мікола, зараней вядома, прамаўчыць, Сухоцкі толькі ўсміхнецца, няпэўна развёўшы рукамі. Тарноўскі адкажа сваім любімым прыгодным на ўсе выпадкі жыцця: «Пажывём — пабачым».

Зрэшты, апошняе ў данай сітуацыі самае разумнае — трэба жыць і чакаць, як яно пойдзе ўсё далей, як будзе, калі пасёлак запалоняць уласаўцы.

Першы раз жывых уласаўцаў Сцёпа ўбачыў, калі вяртаўся надвячоркам з работы. Па чатыры ў рад, яны малайцавата адбівалі крок па цэнтральнай вуліцы пасёлка і бадзёра пелі:

Белоруссия родная,
Украина золотая,
Наше счастье впереди
Мы своими штыками оградим...

Хлопец прыслухоўваўся да песні і пакутліва напружваў памяць, стараючыся ўспомніць, дзе ён ужо чуў яе: у кіно, па радыё, з вуснаў чырвонаармейцаў, што іншым разам маршыравалі на плошчы ў Магілёве? Да болю знаёмая мелодыя, да болю знаёмыя словы. Свае, родныя, аж слёзы пачынаюць душыць...

Што гэта, звычайнае басяцкае штукарства або недвухсэнсоўны выклік немчуры: слухайце, маўляў, мы вас ні на пазногаць не баімся. А паспрабуйце пікнуць — ураз змяцём...

Эх, каб яно было так!..

Сцёпа прыпёрся спіною да таполі, пачаў разглядаць праходзячых міма салдат. Адкормленыя, чыста паголеныя, у новенькай нямецкай форме. Толькі вось пятліцы на кіцелях з чырвонай, а не белай, як у немцаў, акантоўкай, ды пагоны не нямецкія, а як былі ў царскай арміі. Зброя — спрэс наша, савецкая — рускія трохлінейкі, аўтаматы ППШ, ручныя кулямёты Дзегцярова. Міжволі падумалася: «Так, гэта не збор рознага зброду, а самая сапраўдная рэгулярная армія, дакладней, адно з яе падраздзяленняў, толькі пераапранутае ў чужы мундзір».

Чамусьці зноў прагучалі ўвушшу словы мудрага дзядзькі Тарноўскага: «Пажывём — пабачым, пажывём — пабачым, пажывём — пабачым». Яны не адставалі ад хлопца, пакуль ён не ступіў на двор бабы Хрысціны. Тая, відаць, чакала — не магла дачакацца яго. Прама з парога кінулася насустрач:

— От добра, што прыйшоў, дзеткі!.. Гэта ж трэба, надумаўся, га?..

— У чым справа, Хрысціна Пятроўна? — перапыніў яе Сцёпа.

— Ды гэты таўстапузы, ну, што падворны начальнік у нашым завулку, адразу аж чатырох салдатаў на пастой прывёў...

— Пасяліліся? — не на жарт устрывожыўся Сцёпа. Што-што, а суседнічаць са здраднікамі ён бы не здолеў.

— Не-а. Мяне суседзі папярэдзілі, што будуць ставіць гэтых вырадкаў па кватэрах, дык я ў свой пакой усю старую мэблю з хлеўчука перацягала, а на кухню — бочку з-пад капусты. Глядзіце, кажу, калі даспадобы, сяліцеся, толькі ў мяне ўжо кватарант ёсцека, як вы, на немцаў стараецца...

— А што яны? — з нецярпеннем запытаўся Сцёпа.

— Пераглянуліся між сабой і адмовіліся ад такой кватэры. А пузач як бліснe на мяне воўкам, як цыкне скрозь сцятыя зубы: «Сцерррва старррая»... Дык я яму гэтак ціхенька, неўпрыкмет — фігу...

Сцёпа з палёгкай перавёў дух, усміхнуўся.

— Добра зрабілі, Хрысціна Пятроўна. А то б мне прыйшлося шукаць другі прытулак.

— Ці ж я дурная, не разумею? Табе ж і з хлопцамі пакалякаць трэба; і Анютку, кветачку сваю, прыгалубіць.

* * *

З кожнай новай сустрэчай адносіны паміж Сцёпам і Фёдарам Глінскім усё больш наладжваліся. Яны ўжо не надта таілі адзін ад аднаго свае пачуцці і думкі, як тое было на пачатку знаёмства, не маскіраваліся пад нямецкім служакаў, а вялі свае рызыкоўныя размовы адкрыта. Бо апошнім часам ужо не сумняваліся, што ўрэшце абодва яны служаць адной і той жа справе. Гэта, праўда, не значыла, што адкрываліся яны адзін перад адным чыста ва ўсім. Ёсць такія недатыкальныя бакі ў рабоце падпольшчыка, пра якія няможна сказаць нават самаму блізкаму сябру. Але гэта не магло парушыць атмасферу ўзаемнага даверу.

Апошнім часам Сцёпа заходзіў у кабінет Глінскага, як ва ўласны дом. Калі — падзяліцца толькі што пачутай радаснай або горкай навіной, калі — проста так: пасядзець, адвесці душу ў гаворцы.

Вось і на гэты раз Сцёпа зазірнуў да Глінскага, не маючы нейкай пэўнай мэты. А Фёдар, той быццам чакаў яго: выскачыў з-за стала, абрадавана затрос руку:

— Добра, што зайшоў. Што тут учора вечарам было, якога госця я прымаў, скажу — не паверыш.

— Сам Хвалынскі, напэўна? — на ўсякі выпадак спытаў Сцёпа.

— Хвалынскі — што? Шэрая будзёншчына. Ды і не можа ён дазволіць сабе ўнізіцца да наведвання нейкага замухрышкі рэдактара. Трэба — да сябе выкліча. Тут, братка, птушка зусім іншага палёту...

— Хто?

— Новы начальнік бярэзаньскай паліцыі пан Гардзіеўскі. Во! — амаль урачыста паведаміў Фёдар.— Сам. Уласнай персонай. Каб засведчыць пану рэдактару сваё ніжэйшае і гэтак далей. З самога Беластока прывезлі.

— Якое ўражанне? — пацікавіўся Сцёпа.— Ёсць што чалавечае ў абліччы ці, можа, як быў Кішкурных, сколаты, сінькай размаляваны ўвесь ад пазногцяў да самых вушэй?..

— Як ні дзіўна, але першае ўражанне на мяне зрабіў ён зусім неблагое. Я нават застаўся ад яго ў захапленні. Так, так, не круці галавой. Па-першае, чалавек цудоўна валодае нашай беларускай мовай, сцвярджае, што яна для яго родная. Па-другое, свабодна гаворыць па-руску, нават без малейшага акцэнту...

— Адкуль ведаеш? — гулліва перапыніў Сцёпа.

— Дык не адзін жа ён прыязджаў, а з целаахоўнікам. Ясна?

— Ясна. Ну, а па-трэцяе?

— А па-трэцяе,— Глінскі прыўзняў на стале акупацыйную газету на нямецкай мове «Minsker Zeitung»,— узяў пан Гардзіеўскі гэты лісток, прабег вачыма зверху ўніз і пачаў расказваць, пра што ў нумары пішуць...

— Паліглот?

— Несумненна. Дык слухай далей. Пазнаёміўся, значыць, са мной, адправіў целаахоўніка да машыны, ён на «опелі» прыкаціў, і давай распытваць пра мясцовае начальства, пачынаючы ад бургамістра Хвалынскага і ніжэй, аж да твайго начальніка Мікалая Лук'янавіча, нават Сухоцкага. Ды гэтак датошліва, з падрабязнасцямі. І як яны стараюцца для вялікага рэйха, якую канкрэтную карысць прыносяць, нават як бавяць вольны час, з кім сустракаюцца, дружаць...

— Стой, стой, а чаму іменна ты павінен валодаць такім шырокім патокам рознабаковай інфармацыі. Мабыць жа, гэта справа тайнай агентуры.

— Я пасля першага ж яго пытання намякнуў яму пра гэта. Дык ён ведаеш, што адказаў? Кажа, што паліцэйскі ён толькі па ваеннай неабходнасці. А да вайны працаваў у Польшчы прафесійным журналістам і пасля заканчэння вайны абавязкова вернецца да любімай прафесіі. Карацей, у сваім ваяводстве ён ведаў усё і ўсіх, усю іх паднаготную. Інакш бы грош яму цана. Таму і ад калегі Глінскага мяркуе атрымаць вычарпальныя адказы на ўсе пытанні. Тым больш што не такія яны ўжо закавырыстыя і ніякім чынам не закранаюць дзяржаўную ці ваенную тайну. Лагічна?

— На першы погляд, так,— згадзіўся Сцёпа.— І разам з тым незразумела. Якая яму справа да асабістага жыцця, скажам, таго ж Сухоцкага?

— Вось і мяне гэта турбуе. Ноч сёння не мог заснуць, усё мучыўся ў здагадках...

На вуліцы загудзела машына. Фёдар кінуўся да акна. Побач прыліп да шыбы Сцёпа. З задняга акенца «опеля» на імгненне паказаўся мужчынскі профіль з арліным носам і крутым падбародкам.

— Ён,— сказаў Глінскі.— Гардзіеўскі.

— Я яго ўжо аднаго разу бачыў,— вярнуўся Сцёпа на сваё месца.— Стаяў каля камендатуры з уласаўскім маёрам. Аб нечым дужа ажыўлена гаварылі. Можна было падумаць, што сустрэліся пасля доўгай разлукі закадычныя сябры.

— З чаго заключыў?

— А чорт яго ведае?.. — сумеўся Сцёпа.— Я і сам не

знаю. Стаяць, гэпаюць адзін аднаго па плечуках... Хіба незнаёмыя стануць так сябе паводзіць пры першай сустрэчы?

— А чаму першай?

— Ну во... — з папрокам глянуў Сцёпа на таварыша.— Уласаўцы прыбылі ў пасёлак адкуль? Так, правільна, з боку Магілёва. А Гардзіеўскага адкуль прывезлі? З Беластока, гэта значыць зусім з супрацьлеглага боку. Дык якое ў іх магло быць знаёмства?.. Дзесятае?..

— А можа, і так? Не дурань жа сказаў, што толькі гара з гарою не сыходзяцца, а чалавек з чалавекам охо-хо...

— Растрывожыў ты мяне сваімі байкамі-загадкамі,— падняўся са стула Сцёпа.— Пайду развеюся трохі, а там і на дзяжурства пара...

— На якое яшчэ дзяжурства?

— Забыўся табе сказаць. Немцы, канечне, нашымі рукамі закончылі ўзвядзенне агароджы вакол нафтабазы і рамонт вартаўнічай будкі. Вось мы, рабочыя, пакуль што па чарзе і дзяжурым. Хвалынскі ж тым часам стараецца пададбраць надзейных людзей на пасаду пастаянных вартаўнікоў. Абы-каго не возьмеш... Як-ніяк — гаруча-змазачныя матэрыялы. Без іх самая дасканалая ваенная тэхніка — нішто.

— І ружжо даюць?

— Вісіць на сцяне дубальтоўка дванаццатага калібру. Каб набоі яшчэ...

— Ну, ты ўжо чорт ведае чаго захацеў,— весела засмяяўся Фёдар.— Дык заглядвай. Буду рад бачыць.

— Ага. Да сустрэчы.

Сцёпу не цярпелася хутчэй пабачыцца з дзядзькам Міколам, з Сухоцкім, перадаць ім як мага паўней гаворку, якая толькі што адбылася пра новага начальніка паліцыі, пра яго дзіўныя паводзіны.

Інтуіцыя падказвала хлопцу, што за ўсім гэтым крыецца нешта неардынарнае. Толькі вось што? Адказаць на такое пытанне можна было толькі агульнымі намаганнямі, падключыўшы, магчыма, Сакалоўскага, Каваленка, а то і самога камбрыга Бараноўскага. У іх зараз вунь якія сувязі і з Масквой і амаль з усімі іншымі брыгадамі рэспублікі: месяц назад атрымалі з Вялікай зямлі зусім новенькую рацыю. Чаго на свеце не бывае — раптам ім што-небудзь вядома і пра новага начальніка паліцыі. Бярэзанські раён — гэта ж зона, кантралюемая менавіта брыгадай Бараноўскага.

Неўзабаве сустрэча з партызанамі адбылася. Да дзядзь-

кі Мікалая наведаліся ўсё тыя ж Сакалоўскі і Грыша-ад'ютант. Гаварылі яны ад імя камбрыга і камісара. Але так завуаліравана туманна, так расплыўчата, што зразумець можна было адно: у гарнізоне ідзе нейкі глыбока засакрэчаны працэс. У што канкрэтна усё гэта выльецца, прадказаць цяжка ды, бадай, на даным этапе і зусім немагчыма. Трэба набрацца цярпення і чакаць. Часова, да асобага распараджэння, затаіцца і ніякіх акцый супраць немцаў, паліцыі і асабліва ўласаўцаў не прадпрымаць.

На развітанне партызанскія разведчыкі пакінулі Мікалаю Лук'янавічу дзве магнітныя міны. Грыша расказаў і паказаў, як з імі абыходзіцца. Прызначэнне мін — узрыў цыстэрнаў з маторным палівам. Але толькі тады, як прыйдзе загад. А пакуль што міны надзейна захаваць.

Сцёпу дзядзька Мікалай пра міны нават не заікнуўся. А вось пра тое, што часова, магчыма, нават на ўсю зіму, неабходна затаіцца і чакаць, паўтарыў аж два разы.

Не дужа парадавала хлопца пачутае.

* * *

І пацягнуліся для Сцёпы даўжэзныя дні трывожнага чакання. А вось каб чаго добрага, радаснага ні ён, ні таварышы па падполлі — не мелі. Хлопец акуратна хадзіў на работу, налаўчыўся там майстраваць зграбныя запальнічкі і ў выхадныя дні на бярэзаньскім базарчыку выменьваў на іх махорку, сялянскі сыр, а калі асабліва шанцавала, то і кавалачак жаўтаватага сала. Дзве трохтонкі для патрэб паліцыі брыгада так і не адрамантавала. І стаялі яны застыглымі шкілетамі пасярод гаража, безнадзейна пазіраючы ў аблупленую сцяну пустымі вачніцамі фараў. Спынілі рамонт яшчэ ў канцы мая ў той самы дзень, калі за ракой на шашы партызаны ўшчэнт раскалашмацілі нямецка-паліцэйскі карны атрад. Куратар майстэрань ад нямецкіх улад гаўптман Бекер на першым часе яшчэ цікавіўся, як ідуць справы з рамонтам аўтамабіляў. Але пачуў ад брыгадзіра, што без спраўных газагенератарных установак (тыя, што стаялі на машынах, хлопцы ў першы ж дзень разманціравалі і, паламаўшы, раскідалі ў розныя бакі) рухацца з рамонтам далей немагчыма. Ды і невядома яшчэ, як і чым «абуць» машыну, калі і ўдасца дастаць тыя ўстаноўкі. Гумы ж нідзе ў раёне не знойдзеш. Усю яе прадпрымальны селянін пусціў на выраб абутку. З аўтакамер клеілі хоць і нехлямяжыя на выгляд, затое надзейныя для носкі галёшы-бахілы на валёнкі. Пакрышкі, адпаведным чынам апрацаваныя,

ішлі на падэшвы і абцасы да старых ботаў, чаравікаў. Выслухаў таўстун Бекер такую несуцяшальную інфармацыю і толькі рукой махнуў. Няхай, маўляў, машыны чакаюць лепшых часоў, а ім, рабочым, самая пара брацца за рамонт трактароў, сеялак, плугоў.

Хацелася тады Тарноўскаму, ды і, мабыць, не аднаму яму, плюнуць гэтаму адышліваму свінчу ў пабітую сінімі пражылкамі фізіяномію: што ты чаўпеш, сляпая жывёліна, каму сёння гэтыя трактары трэба?! Для цябе, для тваёй крывавай зграі савецкія людзі стануць расціць хлеб? Ды нізавошта на свеце! Лепш самі памруць з голаду. Зрэшты, з апошнім ён, Тарноўскі, пераборшчваў. Памерці? Ой не! За мінуўшыя амаль ужо паўтара года вайны людзі на акупіраванай тэрыторыі не толькі паспелі аправіцца ад першай разгубленасці перад чужынцамі, але і паспяхова авалодалі нялёгкай навукай, як выстаяць у гэты найсуровейшы час. У час пасяўной на поле выходзілі ўсе — ад малога да сталага, нават старыя дзяды не сядзелі склаўшы рукі. Партызаны таксама на нейкі час скарачалі баявыя дзеянні і вярталіся ў вёскі, каб у самыя сціслыя тэрміны памагчы людзям засеяць ярыну, пасадзіць бульбу. У ход ішоў любы няхітры сялянскі інструмент — матыкі, рыдлёўкі, самаробныя плугі. Упрагалася ў работу і партызанская конніца. На каня зараз людзі маліліся больш, чым да вайны на трактар. Гэты спрадвечны чатырохногі памочнік селяніна быў на невялікіх плошчах зручней і надзейней за любую тэхніку. Ні табе рамонту, ні смярдзючага паліва, адно не забудзься — добра накарміць жывёліну.

З мінутнага задумення Тарноўскага вывеў хрыплаваты голас бекераўскага перакладчыка Франца:

— Вы зразумелі, якая задача цяпер перад вамі?

— А як жа. Будзем старацца.

Немец у знак згоды кіўнуў галавой і павярнуўся да выхаду.

— Як трактар сюды зацягнем? — занепакоена крануў брыгадзіра за плячо Сцёпа.

— А ніяк,— усміхнуўся той.— Сам прыедзе.

— Як сам? — не зразумеў хлопец.— Сваім ходам?

— Ну. Паставім зараз магнета, зальём у бак з літроўку карасіна, крутнём за ручку і... паехалі, пакацілі...

— Дык яны спраўныя? Усе? — не паверыў адразу Сцёпа.— А загад Сталіна — усё знішчаць, паліць, не аддаваць ворагу.

— Ты што ж думаеш, мы тут усе бязмозглыя? Сядзелі

і чакалі, каб аддаць ворагу цэленькія трактары? Не, братка. Усё з іх, бедных, паздымалі, пакінулі, у чым мама радзіла. Хай цяпер возьме немец, хай пажывіцца. А во яму,— паказаў дулю.— І разам з гэтым зусім знішчаць машыны — гэта вялікае глупства, хаця і сам Сталін аб гэтым распарадзіўся...

— Дык вы зрабілі па-свойму?..

— Зрабілі так, як трэба было зрабіць. Па-гаспадарску. І хопіць пра гэта.

...Шэрыя аднастайныя дні ў жыцці Сцёпы скрашваліся ў апошні час, бадай, толькі рэдкімі спатканнямі з Анютай. Або ён збягаў на выхадны да яе ў Матылянку, або яна, звычайна ў будні, завітвала ў яго цесны пакойчык, і тады на кароткі час кудысьці ўдаль адступала вайна, адхлынала ад сэрца неадступная трывожнасць, хмарнае неба распагоджвалася і з яго блакітнай глыбіні ліліся на ўсё наваколле патокі жыватворнага святла, цеплыні. Калі былі ўдваіх, верылася толькі ў добрае, прыгожае, жыццёва надзейнае. А расставаліся за ваколіцай Матылянкі ці ў бярэзаньскім ляску, што пачынаўся адразу за майстэрнямі, і зноў у сэрца пасялялася незразумелая вусцішнасць, а неба зацягвалася нізкімі беспрасветнымі хмарамі. І такая адольвала самота, хоць ты воўкам вый.

І развеяць такі паганы настрой дужа не было з кім. З Глінскім? Дык, здаецца, ім поўнасцю заваладаў у апошні час новы начальнік паліцыі. Як толькі Сцёпа памыкаўся зайсці да Фёдара, амаль заўсёды пад вокнамі рэдакцыі бачыў «опель» Гардзіеўскага. Быццам наўмысна перабягаў той хлопцу дарогу.

У бабы Хрысціны яшчэ ад самага лета навіны істотна не мяняліся: ідуць кровапралітныя баі за Сталінград. Апошнім часам не проста за горад, а літаральна за кожны дом. Вораг не шкадуе нічога, каб прарвацца да Волгі.

«Так, даўно стаяць,— думаў сам сабе Сцёпа.— Недзе аж з канца ліпеня мінулага сорак другога. Гэта колькі ўжо? Жнівень, верасень, кастрычнік, лістапад, снежань... Ого! Ледзь не паўгода. Значыць, ёсць яшчэ порах у нашых парахаўніцах! Будзе і там немцу тое, што было пад Масквой. Эх! Скарэй бы ты, дарагая Хрысціна Пятроўна, уляцела з радаснай весткай у хату. Як у тую зіму, калі рамантавалі з Язэпам Чэхам хляўчук... Тады якраз турнулі фашыстаў ад Масквы. А цяпер бы ад Волгі...»

Мара. Так, пакуль што гэта толькі хлапечая мара. Можа, наіўная, можа, нават — цьфу-цьфу — не здзяйсняльная,

але без яе зараз жыць нельга. Можна нават зусім зачахнуць, атрафіравацца, ці што?..

Хоць бы чым-небудзь карысным заняцца, дастойным камсамольца, савецкага патрыёта. Можа, плюнуць на ўсё ды рвануць да Віцькі ў атрад?! От было б здорава!..

«А хто табе сказаў, што ты тут, у пасёлку, больш не патрэбен? Калі б гэта было так, то Сакалоўскі перадаў бы цераз дзядзьку Мікалая. Значыць, сядзі і не рыпайся. Чакай».

Ведаючы, што ўласаўцы амаль кожную суботу і нядзелю наладжваюць у пасялковым клубе бясплатныя канцэрты, Сцёпа вырашыў схадзіць на адзін з іх. Хацелася паглядзець, паслухаць, чым частуюць публіку самазваныя артысты здрадніцкай арміі. Пэўна ж, пачнуць і закончаць якім-небудзь панегірыкам у славу вялікага фюрэра. А ў гэтым акаймаванні натыкаюць розных танных песенек-агітак, экзатычных танцаў...

Так думаў Сцёпа, калі ішоў упершыню ў клуб. І не падазраваў нават, як глыбока памыляецца ў сваёй прадузятасці...

Зайшоў і здзівіўся: народу ў зале — біткам, усе праходы між крэсламі запруджаны. Толькі перад самай сцэнай, дзе на двух пярэдніх радах чынна сядзяць немцы,— больш-менш свабодна. Акінуўшы вокам тусклавата асветленую залу і пераканаўшыся, што прыстроіцца зручна нідзе не ўдасца, хлопец спыніўся прама ля дзвярэй — няхай ужо патаўхаюць трохі, калі не патурбаваўся прыйсці крыху раней.

На яго шчасце, дзверы за спіной адразу зачыніліся, і ў зале патухла святло. На прасцэнак перад заслонай матыльком выпырхнуў канферансье ў цывільным і добра пастаўленым голасам прывітаўся, расказаў «апошні», не дужа каб смешны акенкдот «для затраўкі», а затым урачыста, паступова напружваючыся, аб'явіў:

— Выступает солдатский джаз-оркестр. Художественный руководитель и дирижер старший лейтенант Седых. Увертюра!

Рассунулася заслона, і перад вачыма гледачоў узнікла група ваенных музыкаў — саксафон, труба, кларнет, трамбон, акардэон, домра, барабан і скрыпка. Скрыпку трымаў у апушчанай руцэ сам дырыжор, высакалобы, з бледным тварам старшы лейтэнант. Прафесійна адпрацаваны лёгкі паварот да аркестрантаў, узмах смычка, і вось ужо ў прыціхлую залу льецца энергічна насычаная мелодыя. Сцёпа

слухае і адчувае, як ужо з першых музычных тактаў па яго спіне пачынаюць бегаць халодныя мурашкі.

Ды гэта ж пачатак «Інтэрнацыянала» — аўтаматычна адзначае музычная памяць, а вось радкі з папулярнай перад вайной «Масквы майскай», а гэта з фільма «Знішчальнікі», а вось і ноткі з «Маршу трактарыстаў», якія так любіў іграць на сваёй хромцы Сцёпа, абавязкова падпяваючы:

...Наша поступь тверда,
И врагу никогда
Не гулять по республикам нашим...

Ды якая ж гэта ўверцюра? Гэта ж самае звычайнае папуры з самых папулярных савецкіх песень апошніх гадоў! Папуры, змацаванае, сцэментаванае арганічна ўплеценымі ў агульную музычную канву нотнымі выбаркамі з міжнароднага гімна працоўных...

Зала ўзарвалася бурай апладысментаў. Нерухома сядзелі толькі два пярэднія рады.

Нішто сабе пачатак выдалі джазавікі. Што ж аб'явіць канферансье на другое? І ён аб'явіў:

— Русская народная песня «Из-за острова на стрежень». Исполняет рядовой Рудюк в сопровождении дуэта баянистов.

Густы сакоўны бас ўсплыў да самай столі, запоўніў усе шчылінкі ў зале, прымусіў пазвоньваць схаваныя за чорнымі шторамі шыбіны шырокіх вокнаў. Сцёпу раптам ні з таго ні з сяго захацелася ўключыцца ў песню, падцягнуць. Але яго апярэдзілі. Як толькі са сцэны палілося:

Волга, Волга, мать родная...—

пярэднія два рады адначасова і дружна павялі:

Вольга, Вольга, мутэр Вольга...

Так, гэта спявалі немцы, амаль усе, што сядзелі ў двух пярэдніх радах.

«Вось табе і раз,— нават разгубіўся Сцёпа.— Ніколі б не паверыў, каб хто сказаў...»

Затым былі салдацкі хор, танцавальны нумар, выступленне ілюзіяніста і на закуску:

— Сценка из музыкальной комедии «Свадьба в Малиновке». Исполняют сержант Владимир Орлов и работница городской управы Надежда Мацук. Музыкальное сопровождение — баянист — рядовой Полищук.

Камедыю «Вяселле ў Малінаўцы» Сцёпа ведаў даволі добра. Ён глядзеў яе ў пастаноўцы абласнога тэатра аж два разы. Каб не вайна, з задавальненнем паглядзеў бы, мусіць,

яшчэ раз. Цікава, які іменна ўрывак з гэтай вясёлай і адначасова драматычна насычанай рэчы выбраў Арлоў са сваімі партнёрамі? Хлопец аж крыху падаўся грудзьмі наперад.

Калі на падмосткі выйшлі артысты і між імі пачаўся вясёлы дыялог-падначка, Сцёпа зразумеў, што сцэна для паказу была выбрана самая сугучная гэтаму суроваму часу — вяртанне Яшкі-артылерыста з аўстрыйскага палону і яго першае знаёмства пасля доўгай разлукі з роднымі мясцінамі і ўцалелымі ад бязлітаснай вайны людзьмі.

Зала ўвесь час сачыла за ігрой артыстаў з затоеным дыханнем, не варухнуўшыся. А калі на пытанне Яшкі-артылерыста, як там зараз пажывае тое сяло, мясцовы стараста адказаў: «Немцы датла спалілі», і Яшка патрос кулаком у бок двух пярэдніх радоў: «У-у, гадзюкі!», зала ў другі раз за гэты вечар аднадушна ўзарвалася громам апладысментаў. Не ўдзельнічалі толькі два пярэднія рады. Немцы як па камандзе падняліся і павярнуліся да выхаду. Сцёпа, каб не замінаць, выскачыў першы.

Размашыста крочыў, удыхаючы марознае паветра, дадому і не мог пазбавіцца ад бязмернага захаплення перад мужнасцю гэтых незразумелых людзей. От табе і здраднікі!

«Хаця стой, хлопец,— астудзіў свае пачуцці Сцёпа.— А што, уласна, яны такое зрабілі, гэтыя ўласаўскія артысты, што так узносіш іх? Дужа насалілі немцам? Дык, калі папраўдзе, тыя наўрад ці што толкам дапетралі. А пра Разіна нават падцягнулі. Словам, канцэрт для фрыцаў быў не чым іншым, як вечарам адпачынку. Тады, магчыма, пастаноўшчыкі канцэрта мелі на ўвазе падняць маральны дух мясцовага насельніцтва? Але ж дзевяноста працэнтаў прысутных на канцэрце было з тых, хто служыць у немцаў. Які там ужо ў іх, той маральны дух? Кормяцца, халуйнічаюць, каб любой, нават самай ганебнай цаною ўцалець у гэтай страшэннай мясарубцы...»

І знікла, развеялася ад гэтых цвярозых думак першае Сцёпава захапленне спектаклем. З задавальненнем падумалася, як зараз прыйдзе дадому, распранецца і, ужо лежачы на пасцелі, дастане з-пад падушкі запаветны томік з напаўсцёртай назвай «Як гартавалася сталь».

Во гэта і будзе тое сапраўднае, што падымае, мацуе маральны дух чалавека.

Звонка парыпваў пад нагамі снег, у бясхмарным небе дрыжалі далёкія зоркі. Сама па сабе нарадзілася думка: «Кончыўся студзень, не за гарамі вясна». Нарадзілася і растала. Да вясны яшчэ было далекавата. Аж цэлы месяц чакаць.

* * *

З няшчыльна зашторанага кухоннага акна на двор сачыўся тоненькі праменьчык жаўтаватага святла — баба Хрысціна, мабыць, таксама па-за домам бавіла сёння вечар і толькі што вярнулася. Падумаў, што зараз жа раскажа аб сваіх уражаннях ад канцэрта. Цікава, як яна адрэагуе?

Сцёпа пераступіў парожак кухні і ад здзіўлення застыў на месцы. Выкруціўшы кнот лямпы на поўную сілу, баба Хрысціна, апранутая ў сваю лепшую жакетку, якую, помніцца, надзявала пры Сцёпе ўсяго адзін раз — летась, на сёмага лістапада,— гэта самая баба Хрысціна сядзела за сталом і... піравала. Так, інакш як пірам у адзіночку назваць гэта было нельга. Накрухмалены бялюткі абрус быў застаўлены разнастайнымі стравамі, прыгожа раскладзенымі на шыкоўныя талерачкі: тут і танюсенькія кружочкі свойскай каўбасы, і скрылі вяндліны, агуркі, салёныя рыжкі, капуста. А па цэнтры стала — бутэлька пшанічнай і два кілішкі: адзін, поўны да краёў, другі — напалову адпіты.

— Хуценька распранайся і за стол,— па-маладому лёгка падхапілася баба Хрысціна.— Дай палью табе на рукі. А божачкі, чуць дачакалася пацягайлы. Ох і раскажу Анютцы, дасць табе чосу за начныя пагулянкі!..

Зусім забыўшыся аб сваім намеры расказаць пра канцэрт у клубе, хлопец кіўком галавы паказаў на стол:

— З якой нагоды, Хрысціна. Пятроўна?

— Ой, дзетачкі, гэта ж у нас сёння такое свята, такое вялікае-вялікае,— і раптам выпусціла кубак з вадой, уткнулася тварам у Сцёпавы грудзі, дробна ўздрыгваючы ад глыбокіх рыданняў...

Разгублены Сцёпа асцярожна абхапіў яе за тонкую сухенькую талію, падвёў да стула, пасадзіў.

— Супакойцеся, Хрысціна Пятроўна. Вельмі прашу. Што здарылася?

— Што здарылася? — выціраючы ручнікам слёзы, перапытала баба Хрысціна.— А тое, што капут немцам пад Сталінградам.— І вочы яе зноў зазззялі маладым радасным бляскам.— Аж трыста тысяч немчуры піратаўклі і запаланілі нашы. Во!

— Нешта ж дужа шмат. Можа, трыццаць тысяч? — недаверліва прамовіў Сцёпа.

— Трыста,— цвёрда паўтарыла старая.— І яшчэ сам генерал іхні самы галоўны, забылася фамілію, здаўся...

— Фельдмаршал Паўлюс,— напомніў Сцёпа.

— Ага, ён,— узрадавалася баба Хрысціна.— На свае вушы чула. І не ад людзей, не з трэціх вуснаў. Так што можаш не сумнявацца, дзеткі.

— Такую вялікую навіну, такую светлую радасць і праўда, дарагая Хрысціна Пятроўна, грэх не адзначыць. Ох і закруцяцца, замітусяцца цяпер немчыкі...

* * *

Не, назаўтра немцы ні кропелькі не бегалі і не мітусіліся. Хадзілі па вуліцах, як і раней, паважна, ганарліва, падкрэсліваючы тым самым сваю перавагу перад людзьмі ніжэйшай, не арыйскай расы. Адно, што зрабілі ў памяць аб разбітай арміі Паўлюса — гэта на камендатуры прыспусцілі ў жалобе сцяг са свастыкай.

Жыццё працягвалася, акупацыя — таксама. Нічога знешне не змянілася. Адно толькі, што пасялкоўцы прыкметна павесялелі, не хадзілі панурыўшы галовы, а неяк прамей, вальней, як людзі, што пасля доўгай хваробы адчулі нарэшце, што выкарабкаліся з яе абдымкаў, хутка папраўляюцца. Вось-вось яны зноў стануць здаровымі, паўнацэннымі людзьмі.

* * *

На гэты раз Сцёпу пашанцавала. Фёдар Глінскі быў у сваім кабінеце адзін. А раней Сцёпа проста сюды не заходзіў, бо пад акном, нібы прывязаная, заўсёды стаяла машына начальніка паліцыі. «Няўжо ў іх дружба? — пакутліва думаў тады хлопец.— У чым яна заключаецца? Чым мацуецца? Федзя ж хлопец на ўсе сто наш. А начальнік паліцыі?» Сцёпа падумваў, як бы танчэй, неўпрыкмет дазнацца, што, якая сіла так цягне Гардзіеўскага да Федзі. Можа, супольнасць мыслення ці мо ўзаемная сімпатыя? А мо што зусім-зусім іншае, такое, пра што Сцёпа нават не асмельваецца падумаць?

Фёдар шчыра абрадаваўся прыходу сябра.

— От жа прапажа!.. — памкнуўся ён насустрач.— Я ўжо чаго толькі не перадумаў. Можа, думаў, наогул плітануў куды з пасёлка...

— З радасцю б. Ды пара не прыйшла,— горача паціснуў працягнутую руку Сцёпа.

— А рабяты плітуюць,— сказаў і тут жа прыкусіў язык Фёдар.

— Якія рабяты? — стараючыся не заўважыць раптоўнай збянтэжанасці Фёдара, спытаў Сцёпа.

Фёдар паглядзеў на яго доўгім поглядам, не спяшаючыся вярнуўся да стала, сеў і, горка ўсміхаючыся, сказаў:

— Так, браце, слова не верабей. Сказаў А, гавары Б. Можа, і не варта было пакуль расказваць, ды... Карацей кажучы, уласаўцы паціху пачынаюць у лес да партызан пераходзіць. Са зброяй. Не чуў?

— Не,— радасна захваляваўся Сцёпа.— Першы раз чую.— І памаўчаўшы: — То гэта ж здорава...

— З аднаго боку — так, а з другога — не зусім.

— Чаму — не зусім? — не зразумеў Сцёпа.

Але Фёдар не стаў разжоўваць сэнс сказанага. Апусціў вочы на свежую гранку, потым зноў падняў на Сцёпу:

— Пра гэта паталкуем, як настане адпаведны час. А пакуль што — рана. Раскажы лепш, як жыў апошнім часам, чым займаўся.

Сцёпа падзяліўся ўражаннем ад канцэрта ўласаўцаў, сказаў, што не шкодзіла б у газеце зрабіць нешта падобнае. Напрыклад, даць спачувальны матэрыял з нагоды разгрому арміі Паўлюса пад Сталінградам, паведаміўшы пры гэтым, колькі немцаў там запалонена. І акупантам будзе прыемна, і нашым людзям вочы адкрыюцца на значнасць гэтага разгрому...

Фёдар не прыйшоў у захапленне ад такой прапановы. Больш таго, як бы раззлаваўся:

— Ты от што, Сцяпан, займайся лепш тым, чым табе палажана. А мы тут самі разбяромся як-небудзь... Не дзеці горкія...

— Даруй. Але проста прыйшла ў галаву такая вяр'яцкая ідэя.

— Іменна — вар'яцкая,— дабрадушна пагадзіўся Фёдар.— А каб яна цябе больш не мучыла, займіся карыснай справай. Стала вядома, што ў бліжэйшы час, а калі больш дакладна, то на пачатку мая, пачнецца чарговы хапун моладзі для адпраўкі на рабства ў Германію. Будуць браць халастых. Так што трэба, каб увесь раён ведаў пра гэта. І няхай моладзь перахаваецца тым часам.

— Дык і я ж юрыдычна нежанаты,— адзначыў Сцёпа.— Значыць, і мяне за шкірку ды ў нямецкі рай?

— Цябе хапун не зачэпіць.

— Чаму?

— Хіба не разумееш? Ты ж працуеш на нямецкім прадпрыемстве.

— Якога там чорта, на нямецкім,— ад душы зарагатаў Сцёпа.

— Усё адно,— і Фёдар, пільна паглядзеўшы ў вочы Сцёпу, раптам запытаў: — Слухай, а што іменна сёння прывяло цябе сюды. То не хадзіў, не хадзіў, мусіць, цэлы месяц, а тут заявіўся...

— Непрыемна табе? — роблена нахмурыўся Сцёпа.

— Не, што ты? Наадварот...

— Калі так, скажу. Не хадзіў, бо пад акном тваёй канторы ледзь не кожны дзень дзяжурыць машына Гардзіеўскага, а прыйшоў зараз, каб даведацца, што ў цябе з ім за шуры-муры. Толькі адкрыта. Сам разумееш, чаму мяне такое пытанне непакоіць.

Поўныя вусны Фёдара адразу зрабіліся тонкімі і жорсткімі, у вачах бліснуў нядобры агеньчык.

— Ты от што, хлопец! — ён падбіраў патрэбныя словы.— Зараз такі час, калі кожны робіць сваю справу так, як падказвае яму ўласнае сэрца, робіць, каб было лепш. І ёсць такія справы, пра якія можа ведаць толькі той, хто іх робіць. Так што, мілы дружа, іншага адказу ад мяне не чакай і ў далейшым з падобнымі пытаннямі да мяне не звяртайся.

Рассталіся яны ў той дзень халаднавата.

* * *

Першае, што падумаў Сцёпа, вяртаючыся ад Глінскага, было: зараз жа паведаміць пра блізкі хапун хлопцам з майстэрань, Хрысціне Пятроўне і, канечне ж, Анюце. А там, як у той прыказцы пойдзе — кума куме, а кума па ўсім сяле. Праўда, у аддаленыя вёскі немцы надта не кінуцца — пабаяцца, а вось Бярэзань і наваколле могуць вымесці падчыстую. І нічога з гэтым не зробіш. Адно — моладзі трэба перахавацца тым часам, калі будзе ісці аперацыя.

Але на ўсякі выпадак неабходна папярэдзіць і родныя Бушавічы і Матылянку, давесці да ведама партызан, каб былі напагатове і, магчыма, прынялі нейкія контрмеры.

Хрысціна Пятроўна паведамленне пра новую акцыю немцаў выслухала спакойна.

— Людзі ўжо ведаюць,— сказала.— Толькі кажуць, што не на пачатку мая ён будзе, а недзе ў канцы лета. Немцы ўласаўцаў збіраюцца адпраўляць з пасёлка некуды ў іншае месца, бо разбягацца пачалі. Дык от пад іх канвоем адправяць і маладых дзевак ды хлапцоў, што не пайшлі ў лес...

— Ну-у-у, Хрысціна Пятроўна!.. — не хаваючы захаплення, усклікнуў Сцёпа.— Паслухаеш вас, і можна падумаць, што вы зусім не простая пасялковая жанчына, а самы

што ні на ёсць разведчык. Не буду спрачацца за дакладнасць тэрмінаў вывазу моладзі ў Германію. Толькі скажу, што і пачатак мая нельга скідаць з рахунку. Чалавек, які паведаміў мне пра хапун, ведае не так ужо і мала.

— Што ж, яно твая праўда. Задумкі могуць мяняцца, бо ўсё зараз, бывае, неспадзявана мяняецца. Вайна, каб яна, лютадзейка, спрахла!

Перад вачыма Сцёпы ўсплыў мілы твар Анюты, і ў яго зашчымела сэрца: схопяць яе гвалтаўнікі, родную, пяшчотную, шпурнуць у чорны фургон і павязуць чорт ведае куды на здзек, на рабства. Яму неадольна захацелася ўбачыць Анюту зараз жа, сёння, моцна прыціснуць да грудзей, гладзіць мяккія русыя косы, і ён, нават не прысеўшы, накіраваўся да выхаду.

— Надоўга? — спытала гаспадыня.

— Магчыма, да заўтрашняга вечара,— няпэўна адказаў Сцёпа.

Але адправіцца ў той дзень у Матылянку яму так і не ўдалося. Не паспела сцямнець, як да дзядзькі Міколы завітаў Сакалоўскі, і Сцёпу прыйшлося прасядзець з ім аж да поўначы. Начальнік разведкі паабяцаў Сцёпу ўзяць яго нарэшце ў канцы лета ў атрад. А пакуль што, паўтарыў колькі разоў, ён больш патрэбен тут, у нямецкім гарнізоне. І даволі цьмяна намякнуў, што пасёлак у недалёкім будучым можа стаць сведкам даволі значных ва ўсіх адносінах падзей. Так што свае хлопцы тут патрэбны да зарэзу.

Сцёпу неяк само сабой падумалася: «А ці не звязаны гэты намёк з сакрэтам Глінскага, які ён нізавошта не хацеў адкрываць, ці не пра адно і тое ж ідзе гаворка?» Што ж, мабыць, і сапраўды наспявае нешта настолькі значнае, што тайну аб ім трэба трымаць за сямю замкамі.

Дзядзька Мікола сказаў Сакалоўскаму, што немцы як бы мяркуюць паставіць да нафтасховішча начную ахову.

— Толькі нанач? — перапытаў разведчык.

— Ва ўсякім разе так сказаў мне Бекер,— адказаў дзядзька.— Ён упэўнен, што партызаны ўдзень не палезуць, а ноччу — могуць. Таму салдат з аўтаматам надзейней, чым цывіль з дубальтоўкай.

— Хвашчэўскага, загадчыка нафтабазы, не збіраюцца мяняць? — пацікавіўся Сакалоўскі.

— Не, такой гаворкі не было. Хвашчэўскага ж прыслаў сам Хвалынскі. А таму акупанты давяраюць.

— Тады, лічы, істотных перашкод для здзяйснення будучай акцыі не паўстане.

— Як сказаць, сакратар? — засумняваўся дзядзька Мікола.— Хвашчэўскі для мяне чалавек новы.

— А для мяне ён — свой,— коратка адказаў Сакалоўскі.— Па Вялікаборскай МТС знаю. Верыш мне?

— Лішняе пытанне.

Сцёпа зноў не змог зразумець, пра якую акцыю ідзе гаворка, і гэта яго, прызнацца, балюча задзела. Не давяраюць яму, ці што? Ён парывіста падхапіўся з места і накіраваўся да дзвярэй. Наўмысна бадзёрым голасам сказаў:

— То я адчальваю. Жадаю поспеху.

— Стой,— нягучна загадаў Сакалоўскі.

Сцёпа спыніўся.

— Колькі табе гадоў?

— Ну, улетку будзе васемнаццаць. А што?

— У такім узросце чалавек, камсамолец, асабліва ў такі вось грозны час, павінен быць больш сур'ёзным, а не ўдарацца ў амбіцыю: ці бачыце, ад яго нешта скрываюць. Так, скрываем. Нават бацьку роднаму не скажам. Ёсць справы, пра якія ніхто не можа ведаць, акрамя выканаўцаў...

Сцёпа пачуў, што чырванее. Добра яшчэ, што ў хаце паўзмрок і гэтага не можа заўважыць начальнік разведкі. А то б — ганьба. Падпольшчык, называецца... І ўсё ж, перамогшы мінутную збянтэжанасць, адказаў з годнасцю:

— Я сваё месца ведаю. Толькі прашу вас у далейшым вашы асабліва сакрэтныя справы абмяркоўваць сам-насам...

— Вось тут бадай што твая праўда,— падняўся з месца Сакалоўскі, падышоў, абняў за плечы.— Не сярдуй, хлопча, бывае, што іншы раз сам сабе не верыш...

* * *

Апошнім часам Сцёпа незразумелым унутраным пачуццём пачаў заўважаць, што ў пасёлку завязваецца нейкі патаемны вузел на перамены. Што гэта за перамены і калі яны могуць наступіць — канечне ж, ведаць было яму не дадзена. Нешта (самае галоўнае!) не казаў яму Фёдар пра свае сустрэчы, прытым сістэматычныя, з начальнікам паліцыі Гардзіеўскім, замураваліся ад яго маўчанкай і дзядзька Мікола з Сухоцкім, асабліва пасля двух апошніх прыходаў Сакалоўскага, сталі больш асцярожныя ў размовах хлопцы-рабочыя: не баяліся гаварыць толькі адзін на адзін, калі ж з'яўляўся хто трэці, гаворка тут жа канчалася сама сабой. У такой абстаноўцы Сцёпа ўсё больш усвядомлена пачаў адчуваць сябе тут, у Бярэзані, лішнім чалавекам. І гэта

страшэнна прыгнятала, хаця, здавалася б, жыў і працаваў тут не самаволь, а па загаду партызан, хаця б тых самых сакратара райкома, а зараз начальніка разведкі Сакалоўскага і добрага таварыша камісара атрада Віктара Кавалёнка. Але ж рабіць яму, Сцёпу, тут, у пасёлку, практычна не было больш чаго. Усё, што патрабавалася, ён добра, або не зусім, зрабіў. Зараз бы туды, у лес, да хлопцаў. Цяпер, добра вывучыўшы ўсе закавулкі пасёлка, ён мог бы пранікнуць сюды ў любы час сутак і правесці практычна амаль любую баявую аперацыю, нават СД узарваць. Бадай, адзін толькі мост цераз Бярозу будзе не па зубах. Ды і то, калі добранька параскінуць мазгамі, не такі ўжо недасягальны гэты аб'ект, нягледзячы на ўсе тэхнічныя хітрыкі немцаў.

Дык жа не, не даюць Сцёпу ніякіх «сапраўдных», на яго думку, заданняў. Сядзі і чакай. Няхай бы хоць бліжэй падпусцілі да таго патаемнага, відаць, глабальна важнага, што неўпрыкмет рыхтуецца. Хаваюцца ўсё: чуць не скажуць — у цябе, маўляў, яшчэ матчына малако на губах не абсохла. Ці мо не надта спадзяюцца на яго сілу волі — пападзецца і ад першага ж шомпала «расколецца». Далёка не кожнага надзяліў Бог жалезным самавалоданнем. Ды і самому Сцёпу неяк ні разу не давялося за кароценькае жыццё праверыць на справе, ці ёсць у яго хоць якая-кольвечы сіла волі — неяк не надарылася такога выпадку. А мо і сапраўды ён самы што ні на ёсць хлюпік, кісель?..

Падобныя думкі ўсё часцей агортвалі хлопца, і ён усё часцей пачаў падумваць, што зрабіў вялікае глупства, згадзіўшыся тады на падполле ў Бярэзані. Быў бы ў атрадзе, то кожны дзень займаўся б нечым карысным, а не кіс, як у гэтай фашысцкай смярдзючай бярлозе. Не, хопіць! — сказаў сам сабе Сцёпа. Хай сабе думаюць пра яго што хочуць, а чакаць восені, калі яго «абавязкова забяруць у атрад», як абяцае Сакалоўскі, ён больш не стане. Так ён і скажа начальніку разведкі. Не згодзіцца той, тады Сцёпа звернецца да Фёдаравай Зіны. А тая добра ведае дарогу ў атрад Сідара Мікалаевіча Цялегіна. Вось так ён, Сцяпан, і вырашыць гэта астачарцелае ганебнае пытанне свайго жыцця. Пойдзе да цялегінцаў, калі свае нешта круцяць...

Нельга сказаць, што такое рашэнне прыйшло хлопцу неспадзявана, раптоўна, ад прыкрай бяздзейнасці ў апошні час, ці што. Не. Яно, гэта рашэнне, выспявала паступова, на працягу некалькіх апошніх месяцаў, калі ён адчуў, зразумеў, што ўсё «сур'ёзнае», патрэбнае для перамогі робіцца ў пасёлку фактычна без яго непасрэднага ўдзелу і ён у гэ-

тым ва ўсім аказаўся як бы пабочным назіральнікам, як бы лішнім. Дык навошта ж тут, у гэтай пракуранай чужым смуродам дзюрцы, ён, чалавек, які валодае ўсімі відамі стралковай зброі, навучаны мінёрству, нарэшце, ваджэнню аўтамабіля, будзе сядзець і марнаваць дарагі час?!.

Усё. Кропка. У першы ж прыход Сакалоўскага ён прад'яўляе таму ультыматум. А не пагодзіцца з яго довадамі былы сакратар, няхай не крыўдуе...

От толькі не апярэдзілі б немчыкі са сваім чарговым хапуном! Што-што, а падобныя аперацыі яны праводзяць бліскуча.

## Світанак

Іх везлі на двух вялікіх адкрытых грузавіках у самай сярэдзіне даўжэзнай калоны. Паперадзе ехалі дзяўчаты. Над бартамі грузавіка стракацелі белыя, сінія, зялёныя хусцінкі. Іх было паўнютка, не раўнуючы, як кветак на гарадскім газоне. Бралі іх, як і хлопцаў, у апошнюю перад ад'ездам ноч, без ніякага папярэджання. На зборы давалі не болей чым пятнаццаць мінут. З сабой можна было ўзяць усё, што хочаш з яды і адзення, але не болей за адно «месца», гэта значыць адзін чамадан ці адзін клунак або торбу. Бралі ўсіх, каму не болей за дваццаць пяць і нецяжарная. Не бралі толькі тых, хто непасрэдна абслугоўваў акупацыйныя нямецкія ўстановы.

З хлапечай моладзі падчысцілі ўсіх, хто не дасягнуў трыццацігадовага ўзросту. Не паглядзелі, жанаты ты ці халасты, працуеш або не...

Няўжо мала тых мільёнаў ваеннапалонных, што захапілі жывымі-здаровымі ў першыя ж дні вайны? Ці мо ўжо перамалолі ўсіх, высмакталі з іх усю кровачку ды спалілі ў сваіх Майданаках? А цяпер падбіраюць новых рабоў з акупіраваных зямель. Ці мо бесяцца, прытым зусім небеспадстаўна, што гэтыя рэшткі моладзі возьмуць урэшце зброю супраць няпрошаных гасцей...

Хто ведае... Ясна было адно — тапелец хапаецца за саломінку. А што немец менавіта ў гэтай ролі выступае зараз, не мог не разумець толькі апошні тупіца. Вось едзе ў адным кузаве з бярэзаньскімі хлопцамі старэнькі унтэрафіцэр з татальнікаў. Яму ўжо недзе пад шэсцьдзесят. Пrыстаўлены вартаўніком, ці што? Мабыць, так, бо і ў дзяў-

чачым кузаве — таксама тырчыць стары луб з вінтоўкай ля пляча. Ды дарэмна гэта перасцярога. Ніхто адсюль, з калоны, не збяжыць, хоць бы і хацеў-перахацеў. На кабіне ледзь не кожнай машыны — кулямёт, у кузавах, калі пералічыць усю калону, набярэцца ўзброеных салдат, і немцаў і ўласаўцаў, не меней за чатыры тысячы. Спераду і ззаду па два сярэднія танкі і браневікі.

Ды яшчэ і кузаўны дзядуля, якому ў самы раз унукаў няньчыць, аберуч трымаецца за свой карабін. А ён жа, хаця б во гэты, што зручна размясціўся на скрынцы спіной да Сцёпы, хутчэй за ўсё і мушку з проразззю сваімі слязлівымі вачыма не ўбачыць, калі, не давядзі Бог, спатрэбіцца страляць.

Сцёпу ні з таго ні з сяго да свербу захацелася даведацца, што думае сам стары ахоўнік пра ўласныя ваяцкія здольнасці. Хлопец юрка павярнуўся на скрынцы, сеў да унтэра бокам і паспрабаваў зазірнуць яму ў твар:

— Пан! Гэр унтэр афіцір! Русіш фарштэйн?

Унтэр крыху збянтэжана ўсміхнуўся ў сівыя вусы:

— Мало. Русіш плен пятнаццаць год. Мало говориль.

— А я мало говориль дойч. Шуле...

— О-о, гут. Здравствуй, Ваня.

— Іх іст не Ваня, а Сцёпа.

— Сц'ёпа. Гут. Я есть Ото Міткель.

— Гросфатэр Ото?

— Я, я,— нечакана ўзрадаваўся унтэр.— Я есть гросфатэр. Імею,— і растапырыў пяцярню,— дзеці ў дзеці...

— Унукі? — удакладніў Сцёпа.

— Так. Тры ўнукі,— працягваў усміхацца ахоўнік.

Слова за словам, дзе па-руску, дзе па-нямецку, а дзе на спрадвечнай міжнароднай мове пальцаў і жэстаў, разгаварыліся. Дакладней, гаварыў, расказваў адзін унтэр, а Сцёпа толькі слухаў ды ківаў то сцвярджальна, то спачувальна галавой.

Сцёпа не адчуў да гэтага старэнькага ні нянавісці, ні хоць бы слабай варожасці. На свой страх і здзіўленне, ён раптам зразумеў, што недзе на самым донцы яго сэрца квола зачапілася і пачынае нарастаць сімпатыя да гэтага вось простага чалавека, дзядулі трох унукаў.

З нядоўгага расказу Сцёпа ды і бадай усе, што сядзелі ў кузаве, зразумелі, што зусім не соладка жывецца і там, у Германіі, краіне, якая падтаптала практычна ўсю Еўропу. Узяць хаця самога Ота Міткеля... Яму ўжо пяцьдзесят дзевяты год. Ён баўэр, селянін, яму зямлю глядзець, а да-

водзіцца во ездзіць з вінтоўкай. Абрабляюць жа яе, яго зямлю, дзяўчаты з Оста, значыць, нашы. Былі два хлопцы з ваеннапалонных, але, як паведаміла жонка, нядаўна некуды ўцяклі. Ці багата жыве? Ну як сказаць. Не галадаюць. Ёсць што апрануць. Але каб быў які запас, то ні-ні... Толькі самае неабходнае. Усё, што дае зямля, ідзе на вайну. Да каліўца...

Нехта ад задняга борта напаўголаса папрасіў Сцёпу:

— Спытай, чаго іх несла да нас? Ці мала награбілі па ўсім свеце?..

На яго абурана зашыкалі. А Сцёпа пакруціў пальцам ля скроні. Толькі гросфатэр зрабіў выгляд, што нічога не пачуў і не зразумеў, і ўзяўся за свой салдацкі ранец. Не прайшло і мінуты, як Сцёпа трымаў у левай руцэ танюсенькі скрылёк эрзацхлеба, намазаны лярдам, а ў правай — закрутку-кубачак ад біклажкі, напоўненую пахучым шнапсам.

— Будзь здороф, Сц'ёпа! — падміргнуў унтэр.

— Данке! — кульнуў Сцёпа пякучую вадкасць.

Кузаў зайздросліва закашляў. Хлопец дастаў з хатуля сала, хлеб. Нарэшце за ўвесь даўжэзны сённяшні дзень яму захацелася есці. Дзякуй Хрысціне Пятроўне — не паскупілася. Не. Не тое. Мабыць, апошняе, што было са скароміны, паклала.

* * *

Да Ігуменя даехалі, калі ўжо змяркалася. Машыны, у якіх везлі бярэзаньскіх хлопцаў і дзяўчат, спыніліся ў засені высокіх таполяў невялікага гарадскога сквера. Ота Міткель, крэкчучы, злез на зямлю, патупаў крыху, размінаючы ногі, і гукнуў на кузаў:

— Аўфштэйн! Прыгаць!..

Хлопцы дружна пасыпаліся долу. Сцёпа неўпрыкмет шкуматнуў за рукаў чарнявага хлопца, што сядзеў усю дарогу ля задняга борта і так недарэчы быў ляпнуў унтэру пра сусветны разбой немцаў, паказаў вачыма ўбок:

— Давай адыдзем.— І, не чакаючы адказу: — Табе, смаркач, жыць надаела, што плявузгаеш абы-што?

Чарнявы ўвесь перасмыкнуўся:

— Хіба няпраўду сказаў? Ці мо думаеш, буду, як ты, за кавалак хлеба лізаць старому фрыцу задніцу? — Вочы хлопца пабялелі. Ён увесь затрымцеў і гатовы быў вось-вось кінуцца ў бойку або... горка зарыдаць.

Сцёпа адчуў, што і ў яго ад незаслужанай крыўды пачынаюць сціскацца кулакі, каб сadануць гэтаму смаркатаму

дурню ў зубы, але, сабраўшы ў камяк усю сілу волі, стрымаў сябе і пацягнуў чарнявага падалей ад астатніх, якія ўжо пачыналі звяртаць на іх увагу. Убаку, упэўніўшыся, што ніхто, акрамя гэтага хлопца-падростка, не можа яго пачуць, сказаў:

— Я не лізаў і не збіраюся лізаць немцам задніцу. Усё наадварот. А гэты Ота не апошняя паскуда, як табе здаецца. Ёсць і сярод іх людзі... Хаця б той самы Тэльман. Чуў, можа? Ды куды табе...

— Што ты на мяне крычыш?! — усхліпнуў падростак.— Яны маю мамку і сястру насмерць замучылі... А ты... людзі... Ненавіджу!.. Мне цяпер нічога не страшна!..

Сцёпа зразумеў, што гэта нервовасць можа закончыцца самай сапраўднай істэрыкай, і паспяшаўся абняць хлопца за худыя плечы і адвесці падалей ад машыны. Знайшоўшы ўцалелую скамейку, асцярожна пасадзіў яго, сам сеў побач.

— Ты адкуль будзеш? Хто такі?

— Хто? — Хлопец адвярнуўся, каб неўпрыкмет змахнуць слёзы.— Віцька я. Віктар Кудла.— І пакутліва ўсміхнуўся.— Праўда, смешнае прозвішча? Нават мянушкі не трэба. А родам з Трысцянкі.

Вёску Трысцянку Сцёпа крыху ведаў. Гэта недалёка, кіламетры за два ад Бярэзаня, за тым самым эмтэясаўскім ляском. Там, у Трысцянцы, жыла нават нейкая Сцёпава радня.

На паверку Віцька Кудла аказаўся не такім ужо падросткам-пацаном. Да вайны паспеў скончыць дзевяць класаў Бярэзаньскай школы. Значыць, усяго на год маладзейшы за яго, Сцёпу. А што з выгляду такі кволенькі, то, мабыць, род у іх такі... нямоглы, ці што... А можа...

— Ты часам не хворы? — нахіліўся да яго Сцёпа.

— Вось ты пра што? — зноў пакутлівая ўсмешка кранула яго тонкія вусны.— У нас, кажуць, канстытуцыя такая... Ну... незайздросная. А ўвогуле я крэпкі. Мог бы і з табой пабарацца...

Гэта было ўжо нешта падобнае на звычайную, зусім не да часу і не да месца хлапечую пахвальбу, і таму Сцёпа абарваў Віцю:

— На мазгі, бачу, ты не надта крэпкі. Не крыўдуй. Я хацеў сказаць, што думаць яшчэ самастойна не ўмееш. А таму і спрабуеш лезці напралом. Так, братка, нікому нічога не дакажаш.

— Хітраваць, звівацца вужакай перад імі? — упіліся ў Сцёпу гнеўныя вочы.

— А калі трэба? Ці, па-твойму, толькі напралом? Ды, зрэшты... вольнаму воля. Лічы, што я табе нічога не казаў... І як зусім супакоішся, прадумай пра тое, як надалей сябе паводзіць. Канечне, калі хочаш жыць. З карысцю для людзей.

Віця нічога не адказаў. Сцёпа падняўся і, не азіраючыся на яго, пайшоў да машыны.

* * *

У Мінску машыны з уласаўцамі і моладдзю, прывезенай з Бярэзаня, разгрузіліся каля пасажырскага вакзала. Гады за тры да вайны Сцёпу ўжо даводзілася бываць тут. Тады вакзал здаўся яму сапраўдным казачным палацам. Асабліва калі параўноўваць з занядбанымі бярэзаньскімі хацінамі. Адно было блага — занадта шмат людзей, ну як тых мурашак. Яны так і снавалі і снавалі ўзад-уперад, аж у хлопца з непрывычкі закружылася галава. Зараз на месцы былога прыгажуна-вакзала ляжала груда бітай цэглы, з якой тырчалі ўгору ржавыя жалезныя пруты. І горад, наколькі можна было ахапіць вокам, ляжаў у руінах. Нейкім зруйнаваным, абгрызеным выглядаў і прывакзальны сквер. А тады ж, да вайны, тут высіліся такія цяністыя каштаны ды ліпы. У скверы, уздоўж асфальтавай дарожкі, пачалі строіцца паротна ўласаўцы. А будучыя рабочыя дойчлянда хлопцы і дзяўчаты збіліся ў грудок і чакалі, што ім загадаюць рабіць. Неўзабаве з дзвярэй барака, дзе, мабыць, размяшчаліся вакзальныя службы, выйшаў унтэр Ота Міткель у суправаджэнні ўласаўца ў чыне старшага лейтэнанта. Калі наблізіліся, немец, гледзячы чамусьці на аднаго Сцёпу, паведаміў:

— Ваш новы начальнік. Надо падчыняйсь! — і, казырнуўшы на развітанне, паволі пакрочыў да сваіх, якія ўжо рассаджваліся па машынах.

Сцёпа зірнуў на старшага лейтэнанта і адразу сумеўся: ён ужо недзе бачыў гэты твар. Але дзе, калі, пры якіх абставінах? Напружыў памяць. Так, вось гэтыя самыя глыбока пасаджаныя яркія вочы, цвёрда акрэсленыя губы, валявы баксёрскі падбародак, смаляна-чорны чуб з-пад афіцэрскай шапкі. Так, так, чуб... А там ён выбіваўся... Ну, ну... З-пад будзёнаўскага шлема!.. Нарэшце ўспомніў Сцёпа, аж з палёгкай уздыхнуў — Яшка-артылерыст з «Вяселля ў Малінаўцы», які выступаў са сцэны бярэзаньскага Дома культуры і грязіў кулаком у бок пярэдніх радоў залы, дзе сядзелі немцы: «У-у-у, гадзюкі!..»

Дык вось, значыць, хто зараз павязе Сцёпу і яго сяброў у нямецкі рай! Ну што ж, можа, гэта і не самае горшае. З гэтым старлеем, магчыма, лягчэй будзе здзейсніць тое, што задумаў ён, Сцёпа, як толькі яго схапілі і калі даведаўся, што павязуць іх у Мінск. Тут жа, недзе непадалёк ад вакзала, ён добра памятаў, ёсць вуліца Лугавая, на якой павінен жыць яго родны дзядзька Кастусь. Калі той, цяжка параненым, зімой сорак другога ўцёк з палону, Сцёпа асабіста цераз былую сваю настаўніцу дастаў яму аўсвайс і пропуск у акупіраваны Мінск. Дзядзька тады сказаў цвёрда: «Палон і раненне для мяне не канец барацьбы!» Сцёпа верыў, што дзядзька, калі, канечне, жывы ды здаровы, працягвае ваяваць. І яму нешта падкажа. Толькі б убачыцца. Паспець, каб не адправілі. Бо адправіць могуць у любую мінуту, любое імгненне. Вунь ужо на запасны пуць падганяюць таварны састаў.

Старшы лейтэнант папрасіў хлопцаў і дзяўчат стаць па двое, прайшоўся паўз шарэнгу, відаць, пералічваючы, потым зазірнуў у паперку і задаволена адзначыў:

— Ніхто не адстаў і не згубіўся. Малайцы, татарва. А цяпер слухайце, што скажу. Паколькі я былы акцёр, а не афіцэр, то камандаваць вамі не стану. Папрашу проста быць людзьмі і не падводзіць мяне. Аж да самай Германіі жыць будзем у адным вагоне ўсе — хлопцы і дзяўчаты. А там — не ведаю, куды вас, а куды — нас, гэта значыць, мяне. От такія пірагі, татарва. Уразумелі? — Не дачакаўшыся адказу, прагаварыў: — Вунь, на запасным пуці, вагон з белым крыжам бачыце? Так, так, цялятнік. Гэта наша часовае жытло. Пайшлі за мной. Будзем наводзіць марафет.

Сцёпа, параўняўшыся з уласаўцам, як бы знячэўку лёгенька таўхануў яго плячом і папрасіў прабачэння. Той жыва павярнуўся і бліснуў усё разумеючымі вачыма:

— Ёсць пільная гаворка? Паспеецца. Стаяць тут будзем доўга.

Ад нечаканасці хлопец аж спыніўся. «Аслупянеў, ці што?» — незадаволена пхнулі яго ззаду. А Сцёпа і сапраўды ледзь не аслупянеў. Гэта ж трэба, акцёр, артыст, Яшка чортаў, усё разумее. І ад раптоўна падступіўшага да сэрца радаснага прадчування, што ўсё будзе добра, гатоў быў пусціцца ў скокі, ці закрычаць, ці абняць і пацалаваць вось гэты шурпаты слуп з разбітым ліхтаром набакір.

Стары, напаўразбіты вагон-цялятнік са шчалястымі сценамі і там-сям прадзіраўленым дахам насуперак змрочным меркаванням аказаўся параўнальна чыстым. Патрабавалася

толькі працерці мокрай анучай сцены, падлогу, і можна было засяляцца на жыхарства. Дзяўчаты, адразу аблюбаваўшы сабе дальні кут, падалей ад шырачэзных дзвярэй, што качаліся на роліках узад-уперад уздоўж вагоннай сценкі, акуратна склалі свае хатулі і ўзяліся за прыборку. Ніхто з іх больш не галасіў, не прычытаў, як было гэта ў Бярэзані ды на першых кіламетрах дарогі ў «нямецкі рай». Усе, мабыць, ужо выплакаліся і цяпер працавалі неяк зацята, можна сказаць, з ярасцю і ў абсалютным маўчанні, так нязвычным для калектыўнай работы.

Хлопцы, таксама закінуўшы рэчы ў свой «мужчынскі» кут, згрудзіліся каля шырока расчыненых дзвярэй вагона і спаважна пачалі скручваць цыгаркі. Да іх падышоў новы начальнік і, адкінуўшы ўбок сваю пайковую цыгарэту, папрасіў махоркі.

— Не магу цярпець гэты эрзац,— паскардзіўся ён.— Хоць дзесятак высмалі, а ні табе ў с..., ні ў галаве. От наша махорачка гэта курыва!..

— Дык і курылі б нашу,— нясмела сказалі з групкі.

— Не ўсё кату масленіца,— дабрадушна ўсміхнуўся ўласавец, беручы добрую порцыю са Сцёпавага капшука, сказаў: — Дарэчы, завуць мяне Іван Станіслававіч Старэвіч, а для вас — грамадзянін начальнік.

— А чаму грамадзянін, а не гэр або хаця б пан? — не стрымаўся, запытаўся Сцёпа.— Ці ж мы вязні? Мы ж едзем на вольную работу, і амаль без прымусу.

Уласавец адказаў коратка:

— Гэр і пан для мяне не падыходзяць. А «грамадзянін» — гэта зусім не турэмны зварот, як табе чамусьці думаецца. «Грамадзянін» — гэта ва ўсіх адносінах правільна, дэмакратычна.

— Даруйце, але я падумаў, што калі чалавек надзеў нямецкую форму...— пачаў апраўдвацца Сцёпа, аднак уласавец не даў яму закончыць і падхапіў прама на хаду:

— ...ды яшчэ афіцэрскія пагоны, то ён адразу стаў «гэрам»? Так? Дык вось што, дарагуша, запомні і вы ўсе, татарва, запомніце — мы не немцы, мы — рускія і наша армія называецца руская вызваленчая. Уразумелі? Тота. А цяпер — што ты яшчэ хацеў спытаць? — зноў павярнуўся непасрэдна да Сцёпы.— Ты, як бачу, нехта накшталт атамана. Як бы і не баішся нікога, у прыватнасці мяне.

Сцёпа адчуў, што чырванее, і ад гэтага яшчэ больш збянтэжыўся. Пачаў як бы апраўдвацца:

— Ды ніякі я не атаман. Проста трохі старэйшы за іх,

за... «татарву», як вы кажаце, і да вайны паспеў паспрабаваць студэнцкага хлеба... Можа, таму і не такі сарамлівы ці баязлівы...

— Студэнт, кажаш? Не гуманітарый часам?

— Ён самы,— пацвердзіў Сцёпа.

— О, тады лічы, мы калегі. У мяне за плячыма аж тры курсы інстытута... таксама гуманітарнага...— і адразу, як бы спахапіўшыся: — А цяпер паслухайце, як далей жыць станем. Мы ў вагоне воінскага эшалона. Паедзем дні праз чатыры на захад. Куды — не пытайце. Эшалон, натуральна, ахоўваецца. У горадзе каменданцкі час. Так што каб ніякіх бадзянняў без патрэбы. Асабліва як сцямнее. Страляюць вартавыя без папярэджання. І яшчэ. Тут побач ёсць рынак,— зазірнуў у паперку.— Ігумецкі называецца...

— Ігуменькі,— паправіў Сцёпа, бо ведаў, што адразу за такім цудоўным арыенцірам, як гэты рынак, у Мінску знаходзіцца запаветная Лугавая вуліца, дзядзькава...

— Ага, твая праўда, я не так прачытаў,— пагадзіўся ўласавец, яшчэ раз мелькам зазірнуўшы ў паперку.— Дык вось, рынак працуе штодзённа з 11.00 да 17.00. Калі ў вас ёсць лішнія рублі або маркі, золата ці серабро, лішнія шмуткі, нарэшце, можаце схадзіць туды і абмяняць на тое, што вам патрэбна.

— А калі збяжым? — пачулася яхідна-здзекліваe.

— Гэта выключана,— катэгарычна заявіў «грамадзянін начальнік».— Горад абкружаны трайной аховай. Так што нават мыш не прашмыгне.— І падумаўшы крыху: — Ну, здаецца, усё для пачатку... Хаця не... Туалет за вакзальным баракам. Там жа побач кубавая з гарачай і халоднай вадой...

— У вагонных тамбурах зроблены для пільнай патрэбы спецыяльныя сёдлы з двух бакоў. Што ж датычыць вады, давядзецца шукаць чыстую бочку. Ну ды яшчэ паспееццa. От цяпер усё. Можаце займацца сваімі справамі. А я — у штаб. Можа, якім харчам разжывуся.— Весела падміргнуў: — Для вас, татарва.

«Мабыць, не такі ўжо благі чалавек гэты здраднік,— ужо каторы раз падумаў Сцёпа.— Асабліва калі ўлічыць, як ён выступаў тады ў ролі Яшкі-артылерыста... »

Назаўтра, дачакаўшыся адзінаццаці гадзін, Сцёпа звярнуўся да начальніка з просьбай адпусціць яго ненадоўга на рынак.

— Прадаць што хочаш? — пацікавіўся той.

— Ды вось,— паляпаў хлопец даланёй па лакіраваным корпусе гармоніка,— хромку думаю загнаць.— І з даверам

у голасе запытаў: — Пару літраў дадуць? Як думаеце, Іван Станіслававіч?

— Я б і за дзесяць не аддаў,— катэгарычна заявіў уласавец.— Гармонік — гэта рэч. А самагонка, няхай сабе самая найнайлепшая,— мача. Ды і чым весяліць народ будзеш? Дарога ж не блізкая...

— Не на вяселле вязуць,— апусціў голаў Сцёпа.— Пасля вайны павесялімся.— Памаўчаў, умольна паглядзеў на ўласаўца.— Адпусціце, а? Я нядоўга забаўлюся. А для надзейнасці, каб не аблапошылі тамашнія жулікі, няхай, можа, і Віцька Кудла са мной пойдзе... Ты згодзен, Віця?

— А мне ўсё роўна,— абыякава махнуў рукой новы Сцёпаў знаёмы.— Дазволяць — пайду, не — дык плакаць не стану.

— Ладна,— згадзіўся начальнік групы.— Ідзіце. Удвух. Толькі доўга не баўцеся.

— Вялікае вам дзякуй, Іван Станіслававіч,— ледзь не пакланіўся Сцёпа і звярнуўся да Кудлы: — А ты што, з голымі рукамі пойдзеш? Вазьмі хоць які скрыль сала. Можа, на мыла абмяняеш. Ты ж казаў, у цябе няма...

Віцька вавёркай скокнуў у вагон.

Кіраваўся Сцёпа на рынак без асаблівай боязі быць затрыманым патрулём. Аўсвайс у яго быў у кішэні: калі бралі ў Германію, ніхто не запатрабаваў здаць. Віцька хаця і не меў дакумента, але запроста мог сысці за малодшага Сцёпавага брата, тым больш што быў ледзь не на цэлую галаву ніжэйшы. Ды ўрэшце ў выпадку чаго — побач вакзал, а там грамадзянін начальнік, добрай душы Іван Станіслававіч Старэвіч, у вельмі ўнушальнай форме. Выручыць.

На падыходзе да рынку хлопцам сустрэлася захутаная па самыя вочы ў чорны шалік жанчына. Сцёпа, папрасіўшы прабачэння, спытаў, як ім прайсці на вуліцу Лугавую.

— А навошта вам Лугавая? — чамусьці адразу насцярожылася жанчына.— Радня там?

— Ды не,— шырока ўсміхнуўся Сцёпа і ляпнуў па гармоніку.— Во... Хачу прадаць. Там жа, кажуць, базар штодня працуе...

— Вам не так сказалі,— зачасціла, відаць, дужа некуды спяшаючыся, жанчына.— Лугавая вунь яна,— махнула рукой,— за тым домікам пачынаецца, і ніякага базару там няма. Базар правей, на пагорку. Бачыце зарашэчаныя вароты? Гэта ён і ёсць — Ігуменьскі рынак. Ну, я пайшла,— і хуценька пачала аддаляцца. Хлопцы нават не паспелі падзякаваць ёй.

Лугавая зусім не была падобная на вуліцу гарадскую. Звычайныя вясковыя дамы, толькі з нумарамі і ржавымі ліхтарамі на вуглах, звычайныя платы, за якімі стракацелі знаёмыя кожнаму вяскоўцу вяргіні ды астры, хліпкія дашчаныя тратуарчыкі ўздоўж нямошчанай, у калдобінах, праезнай часткі...

Сцёпа прыгадаў няхітрую гарадскую навуку, якой авалодаў, яшчэ калі вучыўся ў Магілёве. Значыць, так: нумарацыя дамоў пачынаецца ад цэнтра — злева па ходу дамы будуць няцотныя, справа — цотныя. Жанчына сказала, што вуліца Лугавая пачынаецца за гэтым домам. У дзядзькі дом нумар адзінаццаць. Спачатку яны пойдуць па правым баку вуліцы і выглядзяць неўпрыкмет патрэбны нумар, а потым, зноўтакі трымаючыся бліжэй да платоў, вернуцца і... Э, будзь што будзе... Зойдуць пад выглядам гандляроў у першую ж, якая больш-менш прыглянецца, хаціну і прапануюць свой тавар у абмен на добрую самагонку. Даводзіць здзелку да канца зусім неабавязкова. Можна знайсці колькі хочаш прычын, каб разарваць яе нават на самым пачатку. Потым яны зойдуць яшчэ ў адзін дом, а там і ў трэці... Пакуль не спыняцца на нумары адзінаццаць. І гэта, на думку Сцёпы, будзе намнога разумней, чым калі яны рынуцца адразу да дзядзькі. Хоць вуліца і пустая, ні душы, але хто ведае, колькі вачэй цікуюць за ёй з-за занавешаных фіранак. А можа, за якімі і паліцай сядзіць. Барані Божа нарвацца на такога. Тады ўжо ніякія аўсвайсы не памогуць.

Заходзіць хлопцам нікуды не давялося. Насустрач ім па другім баку вуліцы пружыністым крокам шыбаваў высокі падцягнуты барадач сярэдніх гадоў са сталярнай скрынкай у руцэ. Па паходцы і постаці Сцёпа адразу пазнаў: «Дзядзька Косця». Зайшоў яму наперад і дрыжачым ад хвалявання голасам прапанаваў:

— Купіце гармонік.

Дзядзька ўвесь тарганууся і спыніўся. Хацеў, мабыць, крыкнуць, як было некалі раней: «Сцяпок!», але кінуў суха, абыякава:

— Самагону не раблю.— Праходзячы міма, шэптам кінуў: — Тупайце ў самы канец аж да Свіслачы. Там пакінутая сядзіба. Чакайце да вечара,— і пайшоў ранейшай дарогай. Пайшоў не азіраючыся. Толькі крок яго перастаў быць пружыністым, можна было падумаць, што ў чалавека раптоўна пацяжэлі ногі.

* * *

Пакінутая сядзіба сустрэла хлопцаў затхлай сырой няўтульнасцю. Нейкі прадпрымальны сквапняга не пасаромеўся абадраць яе як ліпку. Былі разабраны столь і падлога, выняты аконныя рамы і дзверы, разбурана грубка з плітой. Словам, ад былога чалавечага жытла засталася толькі каробка ды праржаўлены жалезны дах над ёю. Нягледзячы на скразняк, які вольна шастаў праз праёмы вокан між аблупленых сцен, у доме моцна пахла часнаком і воцатам.

— Яўрэі жылі,— шэптам сказаў Сцёпа.

— Чаму так думаеш? — зацікавіўся Віцька.

— Я ж колькі гадоў жыў у мястэчку і сяброў-аднакласнікаў іхняй нацыі меў нямала, заходзіў у хаты. Не ведаю чаму, але ў большасці хат панаваў спецыфічны пах іменна часнаку і воцату. Відаць, кухня ў іх такая.

— Мой бацька таксама вельмі любіў часнок,— скупа ўсміхнуўся Віцька.— Як наесца, бывала, з салам, дык маці аж з хаты вытурвала...

— Тэ-эк,— працягваў шнарыць вачыма па закутках Сцёпа.— І жыў тутака шавец.

— Што — дратвай запахла?

— Не, глядзі, вунь капылы валяюцца самых розных калібраў.

— Ясна. І драўляныя цвікі рассыпаны,— паказаў у кут Віцька.— Мабыць, там пад акном было яго рабочае месца... А зараз, калі жывы, недзе ў гета немцам боты шые...

Адно слова «немцы» адразу вярнула Сцёпу ў цяперашнюю рэальнасць іх становішча. Што канкрэтна меў на ўвазе дзядзька Косця, калі сказаў ісці ў пакінутую сядзібу? Што сюды ніхто не зазірне? А раптам суседскія дзеці прыдумаюць якія хованкі ці проста выпадковы чалавек па прыроднай патрэбе вырашыць захінуцца падалей ад лішніх вачэй? А то некаму проста спатрэбіцца палка дроў. Тут жа іх колькі хочаш. Ламі, даламвай і бяры. Хапіла ж у некага сумлення вынесці ўсё, што толькі можна было...

А можа, дзядзька Косця меў на ўвазе вось гэты непралазны густы лазняк на беразе ракі? Ён, лазняк гэты, пачынаецца адразу ж за вузкай палосай колішніх градак, нават плотам не адгароджаны. Вось там, напэўна, меркаваў дзядзька, і належыць укрыцца да вечара хлопцам. Яды ў іх хапае, вада — побач, нахіліўся з нізкага берага і чэрпай, колькі табе трэба. І хат далей няма. Забалочаны луг ды кустоўе. Канец горада.

Без лішніх развагі ды роздумаў хлопцы, пераканаўшыся, што Лугавая вуліца па-ранейшаму абсалютна бязлюдная ды і з суседніх вокан як быццам ніхто не цікуе, прыгнуліся і юркнулі ў прыбярэжныя кусты. Пашыліся як мага глыбей. Неўзабаве натрапілі на адносна сухую, без чаўкання пад нагамі, мясцінку і селі. Сцёпу нясцерпна захацелася закурыць, і ён ужо быў палез у кішэнь па курэцкія прылады. Ды раптам успомніў даўняе, калі яшчэ на пачатку вайны падпільноўвалі на Лысай гары паліцаяў са старастам, суровае папярэджанне Сенькі Баразны: у сакрэтах, засадах, схованках ні ў якім разе не курыць — тытунёвы дым чуваць на адлегласці больш за кіламетр. А Сенька ж кадравы ваенны, да вайны паспеў скончыць кулямётнае вучылішча і аж два кубікі на пятліцы атрымаць. Успомніў гэта Сцёпа і з жалем запіхнуў капшук назад у кішэнь.

— Дужа хочацца? — спачувальна паглядзеў на яго Віцька.— А ты пажуй сухарыка. Памагае,— і пачаў развязваць торбу. Потым запыніўся, са страхам паглядзеў на сябра: — Слухай, а раптам грамадзянін начальнік ужо спахапіўся, што нас доўга няма, і аб'явіў росшук?..

— Кінь думаць такое,— паспрабаваў той супакойваць Віцьку.— На маю думку, калі б і ўсе разбегліся, ён бы не стаў падымаць вэрхал. Па-першае, не такі гэта чалавек, не прадажная шкура, а надзеў форму, бо, відаць, не было іншага выйсця. Ты б пабачыў, як ён са сцэны трос кулаком пад носам немцаў, аж пабялеў, затрымцеў увесь ад нянавісці. Гэта па-першае. А па-другое, забіралі ж нас не яны, уласаўцы, а немцы. І везлі аж да Мінска немцы. Толькі тут, калі падалі вагоны, перадалі нас на час дарогі да Германіі ўласаўцам. А гэтым напляваць на нас. Толькі лішняя абуза. Мабыць жа, немцы загадалі і карміць нас, бо Іван Станіслававіч, помніш, пайшоў старацца наконт харчоў для татарвы... Так што можаш асабліва не дрыжэць...

— Усё гэта так, разумна і амаль пераканаўча,— адводзячы вочы ўбок, сказаў Віцька.— А калі раптам усё наадварот: гэты твой Старэвіч апошні падлюка і гад, у нутро ж ён цябе не пускаў, і калі немцы перадалі яму нас не як статак, групу зняволеных, а строга па спіску, з указаннем усіх анкетных даных?.. Што тады?

— Я чамусьці так не думаю. Бралі ж нас, напрыклад, мяне асабіста, зусім не так, як бяруць, пэўна, у турму,— без вобыску, без прыглядкі, нават не зазірнулі ў пакойчык, калі збіраўся, толькі сказалі дужа не марудзіць. І гармонік параілі не пакідаць бабулі Хрысці: жыць, маўляў, стане-

це ў Дойчляндзе вальней, чым тут, так што і музыка згадзіцца...

— А мяне на базары зацапалі ды так і не адпусцілі. Добра, што цётка паспела тое-сёе перадаць. А так бы ехаў галодны.

— У цябе сапраўды неяк нядобра атрымалася. Ну ды нічога, будзем спадзявацца на лепшае і чакаць...

— А што яшчэ застаецца?..

Дзень быў па-асенняму шэры, глухі і бязветраны. Не шумела, амаль не варушылася лістота на прырэчных кустах, хмары віселі нізка-нізка і былі цяжкія, набрынялыя вільгаццю так, што здавалася, падскоч, пырні пальцам і адразу запырскае, пальецца сляпы дождж.

Час цягнуўся павольна-павольна. І невядома было, што зараз — поўдзень ці павярнула на вечар. Свой кішэнны гадзіннік Сцёпа ўжо каторы дзень не заводзіў, баяўся, каб хто з канваіраў не заўважыў і не адабраў. А на сонца не было нават намёку,— хмары закрылі неба ад краю і да краю. Можа, толькі ў горадзе працуе якая фабрыка ці завод, і яны дадуць гудок на канец рабочага дня...

— Сцёп, и Сцёп,— пацягнуў Віцька за рукаў.— А што, калі нас усё-такі шукаюць ды знойдуць тут?..

— Кінь дурню малоць!.. — аж раззлаваўся хлопец.— Узяў во баязліўца на сваю галаву. Ты ў штаны часам не наклаў?

Віцька пакрыўдзіўся, адвярнуўся. Потым, крыху памаўчаўшы, пачаў тлумачыць-апраўдвацца:

— Гэта я так, на ўсякі выпадак. Падумаў, што рэчка тут нешырокая. У выпадку чаго можна нырнуць і даплысці нырцом аж да таго берага. Праўда ж? А там зноў кусты, не горшыя, чым тут... А?

— «А, а»...— перадражніў Віцьку Сцёпа.— Калі ўжо што невераемнае з тваіх надуманых жахаў здарыцца, жывым я не дамся.— І ён неўпрыкмет пагладзіў левы бок, дзе за поясам прамацвалася рукаятка пісталета. Нягледзячы на смяротэльную небяспеку, Сцёпа, як прыхапіў зброю тады, ідучы з Бушавіч у Бярэзань, так амаль ніколі і не расставаўся з ёю. Нават у сне. Пісталет быў для яго як бы гарантам жыцця. Хаця ён жа, гэты самы гарант, у любую мінуту мог аказацца і прычынай гібелі. Цьфу-цьфу, але варта было натрапіць, маючы пры сабе пісталет, на патруль з вобыскам і...

Каб не думаць больш пра страшнае, спытаў у Віцькі:

— Колькі зараз, па-твойму, будзе часу?

— Дакладна не скажу. Але калі меркаваць па майму страўніку, ужо недзе добры абед, а то і пасля абеду...

...Чалавечыя крокі яны пачулі аднačасова і аднačасова павярнулі галовы ў той бок. Калі даверыцца слыху, то чалавек быў адзін і, канечне, не барановай вагі: пружыністая лугавая дрыгва чаўкала пад яго абцасамі даволі ўнушальна. Але не бесперапынна. Праз крокі тры-чатыры чаўканне на хвіліну сціхала, замірала, і толькі ледзь чутна шапацелі кусты: мабыць, чалавек паварочваўся тулавам наўкруг і аглядаўся, нечага шукаючы. «То ж, мабыць, дзядзька Косця!» — мільгнула радасная думка, і Сцёпа адчуў, як сэрца адразу падскочыла пад самае горла і забілася там трапяткой птушкай. Ён ужо паспрабаваў быў прыўзняцца на ногі, але Віцька з сілай шкуматнуў за крысо, і ён плюхнуўся долу. Непадалёк пачулася ціхае, у кулак:

— Кхе, кхе...

Канечне, дзядзька. Пара. Сцёпа адвёў Віцькаву руку ўбок і ўстаў. Ужо добра-такі змерклася, і дзядзькаву галаву над шчоткай кустоўя было амаль не відаць.

— Дзядзька?

— Хадзіце сюды, хлопцы,— нягучна паклікаў той.

* * *

Першае, што зрабіў дзядзька, калі зайшлі ў хату, гэта завёў хлопцаў у глухую, без адзінага акенца, камору і сказаў сядзець і чакаць. Праз колькі часу вярнуўся з газоўкай і ўжо не адзін, а ведучы за сабой каржакаватага сівога мужчыну. Усеўшыся насупраць Сцёпы, дзядзька пачаў без прадмоў:

— Гэты чалавек мой друг. Ён з Сёмкава Гарадка, і завуць яго Антон Іванавіч. Як толькі выйдзеце адсюль, будзеце рабіць усё, што ён загадае...

— Што скажу,— мякка паправіў сівы.

— Няхай так. Калі прыбудзеце на месца і ў вас запытаюць, хто накіраваў, ніякага дзядзьку Косцю ды яшчэ з пэўным канкрэтным прозвішчам вы не ведаеце. Накіраваў вас таварыш Пікус. Цяпер трымайце вось гэта,— працягнуў складзеныя папалам паперкі.— Гэта пропускі з горада на прад'яўніка. На ўсякі выпадак. Спадзяюся, што яны не спатрэбяцца. Ці не так, Антон Іванавіч?

— Пакуль што Бог мілаваў,— сціпла паціснуў той плячыма.

— Цяпер трошкі памазгуем пра экіпіроўку. Ты от,—

звярнуўся да Віцькі,— як цябе зваць? Добра, запомню. Ты от апрануты надзейна, як след. Адразу відаць сялянскага хлопца. А от пляменнічак мой усё цягнецца да інтэлігентнасці. Там гэты нумар не пройдзе. Здымай свой студэнцкі балахон і бяры маю паддзёўку. І з пінжачка, хлопча, ты вырас. Скідай. Дам табе камандзірскую гімнасцёрку чыстага сукна. Гармонік пакінеш тут. Пазней перапраўлю,— і, заўважыўшы за поясам у Сцёпы рукаятку пісталета, рыўком падхапіўся з месца.— Што гэта ў цябе?!.

— Звычайны ТТ,— будзённа і ўсё ж з ноткамі гонару адказаў хлопец.

— Вар'ят! — злосна кінуў дзядзька.— Уласную смерць з сабой носіш.

— А можа, наадварот — ратунак? — нясмела запярэчыў Сцёпа.

— Не, юнача,— умяшаўся Антон Іванавіч.— Без пісталета, калі зловяць, можна яшчэ неяк адбрахацца. Праверана на ўласным вопыце. А пісталет — гэта адразу шыбеніца... Так што не цягні з сабой. Не прападзе, не бойся.

Развіталіся з дзядзькам па-мужчынску коратка і выйшлі ў непраглядную ноч. Пастаялі, слухаючы цішыню, прасачылі за ракетай, што ўзляцела недзе ў раёне таварнай станцыі, і Антон Іванавіч зрабіў крок наперад:

— Трымайцеся ўвесь час за мной, не адставайце ні на пядзю. І — каб ціха-ціха...

Яны пайшлі спачатку па вуліцы, а калі мінулі апошні дом, звярнулі прама ў руіны. Непраглядная цемрадзь як бы злёгку расступілася, і Сцёпа пачаў нават бачыць звілістую сцяжынку, што крута абмінала груды шчэбеню і бітай цэглы. Ішлі доўга і без перадышак. Спыніліся толькі раз, перад тым як перабрацца цераз чыгуначны пуць. Выйшлі з руін аж на другім канцы горада. Тут, як і на Лугавой, уцалела цэлая вуліца індывідуальнай забудовы. Далей, за дамамі, пачыналася поле. Вочы ўжо добра адаптаваліся да цемнаты, і Сцёпа без асаблівага напружання зроку ўгадаў за полем зубчатую сцяну лесу. «Нарэшце!» — ледзь не сказаў ён услых і адразу з палёгкай уздыхнуў. Адразу ж загудзелі ад стомы ногі, і хлопец зразумеў, што, віляючы па руінах, яны адолелі, можа, з дзесятак кіламетраў.

Антон Іванавіч падвёў хлопцаў да шчытнага паркана, якім руплівы гаспадар адгарадзіўся некаліс ад вольнага поля, і сказаў адпачываць, чакаць яго. Толькі, барані Божа, не курыць і гучна не размаўляць.

Калі засталіся ўдвух, Сцёпа шкуматнуў Віцьку:

— Як сябе адчуваеш?

— Ногі быццам сабакі рвуць. Ніколі так многа не хадзіў.

— Нічога. Прывыкнеш.

— А куды нас гэты сівак павядзе?

— Дакладна не ведаю. Але здагадваюся.

— Можа, да партызан? — Віцька моцна сціснуў сябра за локаць.

— Можа, і туды, толькі цс-с... Нехта набліжаецца...

Антон Іванавіч вярнуўся на падводзе. Пасадзіў хлопцаў у драбінку ззаду, сам усеўся за кучара, і яны крануліся. Калёсы пакаціліся прама па полі і зусім бясшумна. Гэта крыху здзівіла Сцёпу, бо раней яму заўжды даводзілася ездзіць на фурманках, якія абавязкова бесперапынна ляскаталі. Апусціў руку ўніз і крануў кола. Яно было цёплае і мяккае. І хлопец зразумеў — колы пастаўлены ці то ад матацыкла, ці то ад легкавушкі.

* * *

Пераехалі шашу і нырнулі ў цёмны полаг лесу. Тут ужо дарога была бітая, укатаная, і калёсы пакаціліся намнога лягчэй, чым па полі.

Антон Іванавіч нарэшце павярнуўся са свайго перадка да хлопцаў і амаль на поўны голас сказаў:

— Цяпер і закурыць можна. Лічы, што дома. Наша зона.

— А далёка яшчэ да лагера? — спытаў Сцёпа.

— Эйш ты, здагадаўся,— задаволена прабубнеў сівы.— На досвітку будзем там...

Аднекуль спераду папераджальна прагучала:

— Стой! Хто?

— Свае,— спыніў каня Антон Іванавіч.

— Пароль?!

— Вінтоўка! — адказаў сівы і тут жа запытаў: — Водгук?

— Віцебск.

— Праязджай,— пачулася з цемры. Потым на дарогу выйшаў высокі чалавек з нямецкім аўтаматам на грудзях, наблізіўся да калёс:

— Здароў, Іванавіч. Курыва вязеш?

— Раздабыў трохі гродзенскай махры. Мацак! Адсыплю і табе. А гэта новенькія. Ад Пікуса.

— А... Як ён там трымаецца? Пагрозы няма?

— Хто ж яго ведае, адкуль і калі яно, зло тое, зваліцца.

Як быццам спакойна пакуль. А ў нас што яшчэ новага?

— Рашчэня на «жалезку» хадзіў. Кокнулі эшалон з тэхнікай. Камбрыг з Вялікай зямлі вярнуўся. Не пазнаць. У пагонах. Нязвычна неяк. Нібы белагвардзеец які...

— Пабачым, што там за пагоны,—Антон Іванавіч пачаў падбіраць лейцы.— Доўга табе яшчэ тут дзяжурыць?

Высокі паднёс да вачэй левую руку:

— Праз сорак мінут зменяць.

Калёсы пакаціліся далей.

* * *

Партызанскі лагер распалажыўся на прасторным лясным пагорку, ля падножжа якога бруілася нешырокая жвавая рэчачка. Зямлянкі, іх, даўжэзных і кароткіх, нібы усечаных, Сцёпа налічыў аж сем, мясціліся няправільным паўкругам вакол дашчанай хаткі ў цэнтры. З высокай жалезнай трубы над хаткай курыўся лёгкі, амаль нябачны дымок. І патыхала адтуль нечым смачным, дамашнім. Канечне ж, партызанская кухня.

Антон Іванавіч распрог каня і, адвёўшы яго пад паветку, крытую яловым лапнікам, вярнуўся і стаў маніпуляваць з хамутом. Вось ужо разбэрсаны сырамятныя раменьчыкі, і пальцы сівога асцярожна дастаюць з лямца тонкую трубачку паперы. Мінута, і хамут зноў зашнураваны.

— Пайду ў штаб на даклад,— сказаў ён.— Нікуды не адлучайцеся без мяне. Чакайце тут,— і накіраваўся ў бок бадай самай маленькай зямлянкі.

Калі хлопцы засталіся адны, Віцька цяжка ўздыхнуў:

— Слухай, у мяне такое пачуццё, што нас чакае нешта непрыемнае. Нейкі камень на душы...

— І мне трохі вусцішна,— прызнаўся Сцёпа.— Ну хто мы такія для партызан? Дэзерціры ці нешта накшталт таго... Могуць і не прыняць...

— Добра, калі таварыш... як яго? ага, Пікус, напісаў, хто мы і што,— з надзеяй прамовіў Віцька.— А як не?..

Раптам перад хлопцамі ўзнік, яны нават не заўважылі, адкуль з'явіўся, невысокага росту чалавек у камандзірскім шынялі без пятліц. Шынель быў падперазаны шырокім рэменем, на якім целяпалася аблезлая кабура. Вочы чалавека глядзелі холадна, пранізліва, ад такога погляду рабілася зусім не радасна...

— Хто будзеце?

— Ды вось,— пачаў Сцёпа,— зараз Антон Іванавіч вернецца...

— Я вас пытаю.

— Да вас, у партызаны, прыбылі,— нечакана выпаліў Віцька.— Ваяваць хочам. І будзем!

— Які спрытны ваяка,— скрывіў тонкія губы незнаёмец.— А хто сказаў, што ты збіраешся іменна за нас ваяваць?

Каб пагасіць недарэчную запальчывасць Віцькі, Сцёпа балюча наступіў яму на нагу і ветліва звярнуўся да незнаёмца:

— Скажыце, калі ласка, хто вы будзеце?

— Начальнік асобага аддзела атрада Данской. Ясна? А цяпер следуйце за мной.— І, крута павярнуўшыся на месцы, пакрочыў у самы дальні і заценены кут лагера да незаўважанай напачатку Сцёпам восьмай па ліку зямлянкі.

Яна была зусім невялікая, гэта зямлянка Данскога, і занадта змрочная, без адзінага акенца. Нізкае скляпенне — столь, прыземістыя нары чалавек на трох-чатырох прама супраць увахода, а яшчэ — злева ад дзвярэй жалезная печка-буржуйка, справа груба збіты стол. На стале — старэнькая палявая сумка. Данской расшпіліў рэмень, грукнуў па стале важкай кабурой і сеў на цурбанок, які служыў тут замест табурэткі. Хлопцам паказаў на нары:

— Сядайце. Вось ты,— кіўнуў галавой на Сцёпу,— хто будзеш?

— Сцёпа я, Сцяпан Гурскі,— прыўстаў з месца хлопец.

— Сядзі, сядзі. У нагах, казаў адзін не зусім дурны чалавек, праўды няма. Расказвай. Я слухаю. Адкуль прыбыў, дзе жыў і што рабіў, чаму так позна, толькі летам, лічы, увосень сорак трэцяга, надумаўся зноў пайсці абараняць Радзіму?

— Чаму зноў пайсці? — падхапіўся Сцёпа. Гэта маленькае, здавалася б, зусім нікудышнае слоўца «зноў» працяла яго нясцерпнай крыўдай.— Вы калі нічога не ведаеце, то не ўзводзьце паклёп...

Данской, не зводзячы са Сцёпы вачэй, намацаў і расшпіліў кабуру, дастаў і паклаў перад сабой наган. Але Сцёпу гэты красамоўны жэст зусім не спалохаў, наадварот, як бы надаў адвагі.

— Ды вы ведаеце, што я 24 года нараджэння, у снежні радзіўся во, так што не прызвалі... і добраахвотна не змог уступіць... Во...

Данской адсунуў рабром далоні наган крыху ўбок.

— Ясненька, не змог добраахвотна. Толькі не трэба хваляваца. Адказвай спакойненька. Чаму не змог уступіць

добраахвотна? — здзекліва заўсміхаўся.— Па інваліднасці забракавалі?

— Самі драпалі на злом галавы! — трацячы цвярозую разважлівасць, ледзь не крыкнуў Сцёпа.— Як толькі першыя бомбы ўпалі на Магілёў, дык ад ваенкамата адны згарэлыя паперы ў двары засталіся... А з работнікаў — ні душы, усе кабінеты насцеж...

— І адкуль у цябе такія звесткі, што ваенкамат разбегся? — Начальнік забарабаніў пальцамі па стале.

— На свае вочы бачыў,— горача падаўся наперад хлопец.— Мой жа інтэрнат — пяць крокаў ад ваенкамата...

— Сядзі! — ужо не сказаў, а загадаў Данской.— Давай без эмоцый. Ты от сказаў — Магілёў, інтэрнат. Аж адтуль, за сотні кіламетраў, прабіраўся, каб трапіць іменна ў наш атрад? Так выходзіць?

— І так і не так. Да вайны я вучыўся на першым курсе настаўніцкага інстытута. Калі не ўдалося пайсці добраахвотна на фронт, падаліся з хлопцамі дадому.

— Куды?

— У Бярэзаньскі раён.

— Камсамолец?

— Ага, быў камсоргам факультэта нашага...

— Камсорг, значыць? Так? Камсорг. Дык што ж ты... тваю ў бога маць, пайшоў не на ўсход, а да немцаў? Дзе логіка?

— Так выйшла. Галодныя былі. Харчу ў Магілёве, як пачалася вайна, у магазінах хоць шаром пакаці. Ды і не к немцам мы ішлі, а да бацькоў. Хто ж думаў, што вы, армейцы, пусціце іх за паўмесяца аж да самай Масквы...

— Маўчаць! — гаркнуў штосілы Данской.— Агітатар тут мне знайшоўся. Адказваць толькі на пытанні.

— А я што раблю? Я ж адказваю,— крыху занепакоіўся Сцёпа.— Ніводнага слова маны ў маіх адказах...

— «Ніводнага слова»,— перадражніў Данской.— Філасофствуеш занадта многа, студэнт. Маўляў, прапусцілі... Маўляў, аж да самай Масквы... Тактыка такая была, калі хочаш ведаць,— не зусім упэўнена закончыў ён.

— Я разумею, што тактыка. Але ж дужа шмат зямлі ды людзей нашых пад немца трапіла...— зноў нясмела зазначыў Сцёпа.

Але болей Данской не даў яму гаварыць.

— Маўча-аць, шчанюк! — раптам крыкнуў ён і, схапіўшы наган, да збялення костачак на пальцах сціснуў рукаятку, павярнуў дулам на хлопцаў. Тыя сцяліся, адхіснулі-

ся: зараз стрэліць гэты шалёны начальнік!.. Ды стрэл не прагучаў. Данской без ніякага знешняга ўздзеяння на яго, сам па сабе, у адзін міг зусім супакоіўся, нават вочы яго з шалёна белых зноў зрабіліся цемнавата-калючымі, і ён кінуў наган на стол, а сам цяжка плюхнуўся на сваё шурпатае седала.

Іграў на публіку, прытвараўся? Як быццам не падобна.

— Ты вось што, Гурскі, давай дамовімся. Гавары мне толькі праўду. І без ніякіх сваіх філасофій, без залішняй студэнцкай фанабэрыі. Скажы, якім чынам ты са сваім сябруком трапіў да нас у атрад. Толькі ў трох словах.

— Антон Іванавіч прывёз,— сказаў Сцёпа і адразу сціх, упёршыся поглядам у пераносіцу асабіста.

— Тэк. Гэта зразумела. А да гэтага, да гэтага дзе і чым займаўся? Чаму не ў сябе ў раёне пайшоў у партызаны, га? Значыць, была на тое нейкая прычына?

— Так, была. Але гэта вельмі доўгая гісторыя. У трох словах, як вы патрабуеце, яе не перакажаш.— Сцёпа раптам адчуў, што ён не здолее больш шчыра размаўляць з гэтым чэрствым чалавекам, у душы якога, апрача залубянелай падазронасці да ўсяго і ўсіх, мабыць, няма больш нічога. Таму, ямчэй уладкаваўшыся на нарах, як мог спакойна прамовіў: — Ведаеце што, начальнік асобага аддзела атрада, пакуль не вернецца Антон Іванавіч, я на вашы пытанні адказваць не буду. Толькі пры ім. Або ў прысутнасці таварыша Пікуса.

Данской аж падскочыў на сваім цурбане.

— Ты знаеш, з кім уступаеш у спрэчку?! Ды я з цябе... Я што хочаш з табой магу зрабіць, смаркач няшчасны! Адна мая каманда, і ад цябе і твайго дружка мокрае месца астанецца. Лазутчыкі фашысцкія, уласаўцы!..

— Нас уласаўцы толькі ў Германію везлі, на работу,— дрыготкім голасам прамовіў Віцька.— А вы на нас такое,— і горка ўсхліпнуў.

— Супакойся! — балюча таўхануў яго локцем Сцёпа.— Сапраўды, смаркач...

Данской падняўся і пачаў зашпільваць шынель. Потым узяў са стала рэвальвер і паказаў дулам на дзверы зямлянкі:

— Пайшлі!..

Была ўжо раніца. Неба зусім праяснілася, і на бледнай просіні выразна вычэрчваліся цёмныя вярхушкі стромкіх сосняў. Сцёпа адчуў, як яго ногі пачалі налівацца нязрушнай цяжасцю, а сэрца забілася цяжка, балюча. Віцька сутаргава ўчарэпіўся за яго руку.

— Варушыся, там! — ужо знадворку зычна клікаў Данской.

І Сцёпа, перасмыкнуўшы плячыма і нібы скінуўшы нябачную цяжасць раптоўнага страху, перахапіў руку Віцькі, моцна сціснуў у сваёй і наўмысна бадзёрым голасам сказаў:

— Пайшлі, Віцёк. Нас жа чакаюць,— задзірліва глянуў на Данскога.— Пад аховай пойдзем!..

Яму так зараз не хапала прывычнай надзейнай рукаяткі пісталета за поясам. Эх, дзядзька, дзядзька!.. Падвёў ты пляменніка...

А можа, гэты калючавокі, ад макаўкі да пят начынены фаршам падазронасці чалавечак зусім і не збіраецца іх застрэліць? Можа, мае на ўвазе што іншае? Чорт яго бацьку знае... Ды, зрэшты, будзь што будзе!

Мітуслівы бег Сцёпавых думак перапыніў знаёмы голас Антона Іванавіча:

— Сцёпа, Віктар! Дзе вы? Не бачу. Хадзіце сюды.

Данской хуценька схаваў рэвальвер у кабуру і першы зрабіў крок на голас. Але хлопцы абмінулі яго і падаліся ўперад ледзь не бягом.

— Куды гэта ты іх гоніш? — яшчэ здаля спытаў Антон Іванавіч у Данскога. Для сівога, відаць, не прайшлі незаўважанымі маніпуляцыі таго са зброяй.

— У кутузку, куды ж яшчэ? — крыху збянтэжыўся асабіст.— Нешта блытаюцца хлопцы на допыце, не дагаворваюць. А пад канец зусім адмовіліся адказваць на пытанні... То няхай у «цёмнай» добранька падумаюць, з кім маюць справу. Пасядзяць на адной вадзе, стануць больш згаворлівымі.

— Слухай, Данской,— нахіліўся да асабіста, калі параўняліся, Антон Іванавіч.— Цябе там у штабе атрада чакае ганец са штаба брыгады. Нешта тэрміновае. А з гэтымі хлопцамі мы і без асобага аддзела разбяромся. Так што спяшайся па выкліку.

Калі Данской крыху адышоўся, сівы нібы сам сабе прамармытаў:

— Прыслалі параграф на нашу галаву...

Сцёпа адчуў, як з яго адразу спала напружанасць, адступілася і знікла пачуццё смяротнай небяспекі. Уважліва зазірнуў у вочы Віцьку. Той адказаў пакутлівай усмешкай.

Сівы абвёў хлопцаў усёразумеючым позіркам і прабачліва сказаў:

— Гэта я вінаваты, што не папярэдзіў Данскога аб вашым прыбыцці. Паспадзяваўся, што яшчэ дрыхне наш

Берыя. Аж не, не спіцца сукіну сыну... Ды нічога, не перажывайце. Больш ён да вас нават не падыдзе. А зараз ідзіце за мной. Прадстаўлю вас атраднаму начальству, заадно апрадзялім, за якой службай замацаваць.

— Мне б у разведку,— не стрымаўся,летуценна прамовіў Сцёпа.

— Не спяшайся з заяўкай,— спакойна адказаў Антон Іванавіч.— Для разведработы перавага ў нас аддаецца мясцовым, якія на многія кіламетры вакол усе сцежкі-дарожкі ведаюць. Толькі не менш цікавая, чым у разведцы, работа і ў падрыўнікоў, сувязных, нават гаспадарнікаў. Так што дзе прыкласці свае сілы, спрыт, уменне — знойдзем.

* * *

Сустрэча з атрадным начальствам прыемна ўразіла хлопца, асабліва калі ўлічваць нядаўнюю сутычку з Данскім. Тут усе, акрамя вайскоўца са шпаламі ў пятліцах, сустрэлі новенькіх добразычліва, без якіх-небудзь прыкмет падазронасці, ветліва запрасілі сесці на засцеленыя даматканай пасцілкай нары. Для пачатку малады старшы лейтэнант, высакаты прыгажун з фацэтна падстрыжанымі вусікамі, спытаў, ці ёсць у хлопцаў што курыць. Сцёпа дастаў з кішэні нераспячатаны пачак гродзенскай махоркі і працягнуў:

— Калі ласка, можаце ўзяць сабе. У мяне яшчэ ёсць, дзядзька,— і адразу ж спахапіўся, аж пачырванеў,— мне таварыш Пікус даў на дарогу. А там недзе ў сідары ёсць і свойская...

— Дзякуй, калі так,— не стаў скромнічаць камандзір і запрасіў прысутных: — Навальвайся, братва, пакуль я шчодры.

Закурылі. Камандзір з асалодай зацягнуўся раз-другі, пахваліў табаку і запытаўся адразу ў абодвух, якой зброяй хто валодае. Віцька сказаў, што ў яго дома схавана вінтоўка, з якой не раз стралялі з сябрамі ў лесе. А Сцёпа не без гордасці паведаміў, як на апошніх заліковых стрэльбах з баявой зброі ў інстытуце атрымаў тры пяцёркі запар — на 200 метраў па мішэні — з вінтоўкі, ручнога кулямёта і станкача. Не прамінуў сказаць, што даводзілася кідаць з акопа і баявыя гранаты — РГД і эфку.

— Добра, відаць, вас муштравалі ў інстытуце,— не без задавальнення зазначыў вайсковец са шпалай.

— Муштры не было, таварыш капітан,— з годнасцю адказаў Сцёпа.— Звычайная вучоба. Мы яшчэ акрамя выву-

чэння зброі авалодвалі яздой на аўтамабілі і матацыкле. Нам нават права выдалі. У мяне — трэці клас.

— Тады ты для нас наогул знаходка,— падышоў да яго і працягнуў руку капітан.— Завуць мяне Рабчанка Рыгор Рыгоравіч. Камандзіра — Багдановіч Валянцін Аляксеевіч, а камісара — Сядых Фёдар Данілавіч. Запомніш?

— А то як жа. Толькі вось, ведаеце,— зноў густа пачырванеў Сцёпа. Яму хацелася адразу, як толькі пераступіў парожак гэтай штабной зямлянкі, задаць самае галоўнае, жыццёва важнае для іх, Сцёпы і Віці, пытанне: як быць ім, калі апынуцца сярод радавых партызан і тыя пачнуць распытваць, чаму так позна прыйшлі. Ужо ж практычна пачалося вызваленне Беларусі. Не за гарамі час, калі і тут загрыміць франтавая кананада. А яны, здаровыя нармальныя хлопцы, толькі-толькі бяруцца за зброю.

З-за стала падняўся, зрабіў колькі крокаў узад-уперад камісар атрада.

— Пра вас,— з добрай усмешкай паглядзеў на сцішаных хлопцаў Фёдар Данілавіч,— даволі падрабязна расказаў у сваім данясенні таварыш Пікус. Асабліва пра цябе, Сцяпан. Нічога кампраметуючага ў тым, што вы рабілі, няма. Наадварот. Так што, калі вас дужа ўжо пачнуць шкуматаць за фалды, а такіх аматараў хапае, адказвайце проста, як было. Не забудзьце ў адказ запытаць, а якім чынам яны апынуліся ў атрадзе? Тут у нас, рабяткі, такая сітуацыя, што бяры любога і пішы з яго раман. Будзе цікавей, чым твой граф Монтэ-Крыста. Так што, як там у класіка? Наперад без страху і сумнення...

Са штабной зямлянкі хлопцы выйшлі ў суправаджэнні начальніка боезабеспячэння. Ён меў смешнаватае прозвішча — Табачок. Гэта быў малады, ненамнога старэйшы за Сцёпу, хлапец у франтаватай скуранцы, перахопленай у таліі рэменем з трафейным парабелумам.

— Зараз вас узброім, і — да дзеда Ільі.— Ён пачаў здымаць свірновы замок з дзвярэй непрыкметнай зямлянкі.— Гэта наш арсенал. Не спяшайцеся. Тут цёмна, як у негра ў... Ногі паломіце. Зараз «кацюшу» запалю.

Падземны партызанскі арсенал аказаўся надзіва багатым і разнастайным. Тут былі сабраны вінтоўкі і карабіны, ручныя і станковыя кулямёты бадай усіх сістэм і калібраў, мінамёты, а яшчэ рэвальверы, пісталеты, аўтаматы (усе, відаць, няспраўныя, падумаў Сцёпа, інакш бы хлопцы расхапалі за малінку), на падлозе горкай высіліся цынкавыя скрынкі з патронамі, драўляныя — з гранатамі. У куце

стаяла доўгае, невядомае Сцёпу ружжо з надульным, як у гарматы, тормазам.

— Што гэта? — пацікавіўся хлопец.

— ПТР, процітанкавае ружжо,— ахвотна паясніў Табачок.— Нямецкі бранявік прашывае, будзь спок. Нават «тыгра» праб'е, калі ў бок пекануць...

— Нешта новае,— сказаў Сцёпа,— нам пра такое не расказвалі.

— З Вялікай зямлі нядаўна падкінулі пяток на брыгаду. От і нам адно выдзелілі...

Табачок выняў з пірамiды два кавалерыйскія карабіны і працягнуў хлопцам:

— Трымайце. Патронаў дам пакуль што па тры абоймы. Для пачатку...

— Вы б лепей мне аўтамат далі,— нясмела папрасіў у Табачка Сцёпа.— Вунь той ППШ або хоць нямецкі... «шмайсер».

— Дык яны ж ломаныя,— развёў рукамі начальнк боезабеспячэння.— Ім, браце, капіталка патрабуецца, капітальны рамонт. Во якая пятрушка. Аружэйны майстар усяго адзін на ўвесь атрад, а мо і на брыгаду. І хоць залатыя рукі ў нашага Бярэзіна ды, на жаль, толькі дзве,— у голасе Табачка гучала горкая прыкрасць.

— Я сам зраблю аўтамат,— ступіў наперад Сцёпа. Хвалюючыся, што зараз, як той кажа, атрымае ад варот паварот, падставіў да святла «кацюшы» правую далонь.— Паглядзіце на гэтую руку. У нашым родзе былі цудоўныя кавалі, на ўсю акругу вядомыя... Дайце мне аўтамат... Любы... Толькі я спачатку пагляджу іх... Можна?..

— Глядзі,— зацікаўлена зіркнуў на яго начальнік боезабеспячэння.— Можа, і сябар твой што-небудзь петрае ў гэтай справе?

— Я ў нашай кузні сам ножык зрабіў. Во паглядзіце,— адказаў Віцька і дастаў з кішэні складанік з алюмініевымі тронкамі.— Ну як?

Расклаўшы і зноў склаўшы Віцькаў сцізорык, Табачок аж цмокнуў языком:

— Клас.— І, крыху падумаўшы, пачаў рашуча выпіхваць хлопцаў са свайго сховішча.— Пайшлі да Бярэзіна. Сію мінут. Для Бярэзіна вы, можа, сапраўдны скарб. А дзед Ілья і без вас як-небудзь пракантуецца... Для забеспячэння кухні хопіць і жаночага войска...

Сцёпа зразумеў, што дзед Ілья не хто іншы, як начальнік партызанскіх гаспадарнікаў.

На выхадзе з зямлянкі іх чакаў Антон Іванавіч.

— Што так доўга бавіцеся? І чаму без зброі?

Табачок коратка расказаў, у чым справа.

— Правільна, Сярожа, там хлопцы прынясуць больш карысці, чым на кухні. А зараз давайце снедаць. Аксіння Лук'янаўна ўжо даўно сігнал падавала.

* * *

Майстэрня, дзе рамантавалі партызанскую зброю, спадабалася Сцёпу. Гэта была даволі прасторная і, як ні дзіўна, зусім не змрочная зямлянка, устаўленая рознымі саматужнымі варштатамі і прыстасаваннямі. Такарны і свідравальны станкі з нажным прывадам, тачыла, ціскі розных памераў, кавадла, кавальскі горан у мініяцюры, словам, усё неабходнае для работы. Толькі вось працаваць, карыстацца ўсім гэтым скарбам не было асабліва каму. Ля варштата з ціскамі стаяў адзіны на ўсю зямлянку чалавек сярэдніх гадоў і старанна шоргаў рашпілем. Ён неахвотна адарваўся ад работы насустрач голасу Табачка і глухавата спытаў:

— Што там у цябе яшчэ?

— У мяне нічога,— весела адказаў начальнік боесілкавання.— А для цябе сюрпрыз — прывёў памочніка. Студэнт. Сцвярджае, што даводзілася слясарыць.

Бярэзін кінуў на Сцёпу кароткі ўчэпісты погляд і няпэўна хмыкнуў:

— Калі паспеў, студэнт?

— З дзяцінства,— адказаў Сцёпа.— У мяне радня такая — сяляне з рамесным ухілам.

— Горан распаліць можаш?

Сцёпа моўчкі падышоў да горна, узяў сухую смалістую чурку і, дастаўшы сцізорык, пачаў стругаць тонкія лучынкі...

— Хопіць,— спыніў яго Бярэзін. І ўзяў з варштата жалезную пласціну, крамзануў на ёй крыж-накрыж напілкам і падаў Сцёпу.— У гэтым месцы трэба прасвідраваць адтуліну.

Сцёпа зазірнуў у хітраватыя вочы майстра і не без годнасці спытаў:

— А дзе ўстаноўка на дыяметр, дзе керн?

Бярэзін шырока ўсміхнуўся і паклаў на Сцёпава плячо цяжкаватую руку:

— Бачу, тое-сёе тумкаеш.— Павярнуўся да Табачка.— Ідзі, начальнік. Мы ўжо тут неяк самі ва ўсім разбяромся.

І пачаліся для Сцёпы партызанскія будні. Увесь светлавы

дзень, а калі трэба, то і пры цьмяным асвятленні «кацюш» работа ў майстэрні, а вечарамі — балазе дзядзька пераслаў у атрад яго хромку, своеасаблівыя канцэрты па заяўках партызан. А хлопцаў, з ваеннапалонных, канечне, сабралася ў атрадзе адусюль. Сібірак Гарбачоў прасіў выканаць «Падгорну», малдаванін Чардану «Малдаванеску», грузін Туркія — «Суліко»...

Аднойчы блізка да Сцёпы падсеў высокі танклявы хлопец у паўваеннай форме. У яго былі тонкія рукі і твар патомнага інтэлігента, нейкія няўлоўна ветлівыя манеры паводзін, як бы хацеў сказаць: «А я вам часам не перашкаджаю?..» Сцёпа пазнаў у ім таго самага вартавога, што сустрэў першым, калі з дзядзькам Антонам Іванавічам уязджалі на тэрыторыю лагера. Падсеў гэты хлопец да Сцёпы і працягнуў тонкую далонь:

— Давайце знаёміцца. Мяне завуць Слава.

— Вельмі прыемна,— крыху сухавата, па-казённаму адказаў Сцёпа.— Я ёсць Сцяпан Гурскі.— І тут жа раззлаваўся сам на сябе за ўласную недарэчную фанабэрлівасць вясковага музыкі: ці бачыш ты, фігура! А чым ён, гэты Свава, горшы, каб з ім вось так, з вышэйшай прыступкі размаўляць? Ад такой думкі адразу стала на душы вальней, і Сцёпа павярнуўся да хлопца ўсім корпусам.— Слухай, а чаму на «вы» і што за Свава? Дальбог, упершыню чую такое імя. Чуў — Сава, чуў — Слава, а вось каб Свава...

Хлопец прыкметна паружавеў:

— Ды разумееш, ну як бы табе сказаць: ну, значны час мы жылі ў Варшаве, вучыўся там у гімназіі, а ў варшавян «л» як бы праглынаецца, ператвараецца ў «в». От і я прывык. З малых гадоў. А поўнасцю мяне завуць Радаслаў. Радаслаў Тарашкевіч.

— Тарашкевіч? — Сцёпа сціснуў мяхі гармоніка. Да болю знаёмае прозвішча. Стой, стой! Чакай, зусім жа нядаўна, літаральна месяц-два назад чытаў гэта прозвішча на кніжцы — Тарашкевіч. Браніслаў Тарашкевіч. Ну, так. І значылася яно на тытуле падручніка беларускай мовы. Фу ты, успомніў нарэшце,— аж выцер з ілба нябачны пот Сцёпа.— Не родзіч твой часам?

— Бацька. Родны,— ціха адказаў Слава.

— Жывы?

— Дзякуй Богу жывы.

— Тут, у партызанах?

— О не.

У гэтым кароценькі «не» прагучала столькі гонару за

бацьку, павагі да яго з боку Славы, што Сцёпа адчуў: зараз ён даведаецца пра нешта незвычайнае. І Сцёпа не памыліўся.

— Мой татусь зараз у Маскве. Разумееш,— і тут жа паправіўся: — Разумееш, як толькі ў верасні трыццаць трэцяга абмянялі яго ў Польшчы на свайго, на іхняга палітзняволенага, мы адразу пераехалі ў родныя мясціны, менавіта ў Радашковічы. Магчыма, чуў пра такое мястэчка? Яно не так далёка ад Менска. Вось там і пасяліліся ў сваякоў. Бацьку адразу ж забралі ў Маскву. Ён зараз там. Ну, а што робіць, не ведаю. Ва ўсякім разе як навуковец недзе ў акадэміі ці дзе, толькі не на фронце. Я так думаю. А можа, і камісарам у войску. Ён жа з 25-га ў партыі. Але ў любым выпадку без справы не сядзіць. Не такі ён чалавек, і не такі зараз час...

— Слухай,— умольна паглядзеў Сцяпан на Славу.— Раскажы мне пра свайго бацьку. Гэта ж так цікава, так цікава.— Сцёпа рашуча зашпіліў мяхі гармоніка, паставіў яго на нары і рушыў да выхаду з зямлянкі.— Пайшлі на свежае паветра,— паклікаў ён новага знаёмага.— Тут і пагамонім.

Хлопцы, што былі ў зямлянцы, праводзілі Сцёпу незадаволенымі паглядамі — нечакана зрываўся чарговы «канцэрт»,— але ён таго не заўважыў. Яго ахапіла нясцерпнае жаданне пачуць жывое слова пра «зацятага нацдэма», як ахрысціў у інстытуце Тарашкевіча адзін з выкладчыкаў гісторыі беларускай літаратуры, з вуснаў яго роднага сына. Тым больш што насуперак усяму нацдэм гэты, аказваецца, зусім не нацдэм, калі забралі на работу не куды-небудзь, а ў самую Маскву.

Ноч была ціхая, цёплая і бяззорная. Востра пахла хвояй і грыбніцай. Далёка-далёка, мабыць, аж на ўзлессі, ледзь чутна адрывіста кугукала сава.

Уладкаваліся хлопцы на бярвенцы, што ляжала паводдаль. Некаторы час сядзелі моўчкі, слухалі ноч. Потым Сцёпа дастаў капшук з махоркай, паперу, павярнуўся да Славы:

— Курыш?

— Давай,— адгукнуўся Слава.— Як той казаў, каб дома не журыліся.— І, памаўчаўшы: — А я ведаеш, чаму да цябе падсеў? Хацеў папрасіць, каб ты сыграў «Зязюленьку». Ну вось гэтую:

Ой, не кукуй, зязюленька, рана,
Ой, не кажы, што ночанька мала...

Гэта любімая песня маёй маці...

— Разумею цябе. Гэта песня, бадай, самая любімая і маёй бабулі Мар'і. Была...

Сцёпу раптам успомнілася, як ён тады, у той страшны веснавы дзень, спрабаваў выратаваць яе і дзеда Лук'яна і як... знайшоў на палянцы зрашэчаныя аўтаматам Валіка Петрашкевіча іхнія трупы. Праўда, адпомсціў забойцу. Але ж і не выратаваў блізкіх, родных, не паспеў.

— Чаму была? — запытаўся Слава.

— Што была? — не зразумеў спачатку Сцёпа.

— Ну, песня чаму ў бабулі была любімай, а не ёсць?

— А-а, вось ты пра што. Дык жа няма ўжо бабулі. Забілі яе. Ну ды не будзем зараз пра гэта. Можа, калі другім разам раскажу. А сёння, як і дамовіліся, раскажаш мне пра бацьку.

— А чаму гэта цябе так пільна цікавіць?

— Разумееш, я вучыўся на беларускім аддзяленні. Беларуская літаратура і мова. І ўсё, што датычыць гэтага прадмета, мяне вельмі цікавіла і, павер, цікавіць і зараз, хаця, здавалася б, не да таго... Вайна... Але ж вось побач са мной сядзіць жывы сын жывога беларускага вучонага, літаратура- і мовазнаўцы, калі не памыляюся, то і перакладчыка з грэчаскай і польскай моў, а я пра яго ведаю афіцыйна толькі тое, што пачуў ад інстытуцкага спецыяліста па беларусазнаўству — Браніслаў Адамавіч Тарашкевіч — зацяты нацдэм, значыць, вораг народа, значыць, яго трэба было пасадзіць у турму ці нават расстраляць, як зрабілі з Галавачом, Мрыем, Кляшторным і многімі-многімі іншымі. А выходзіць, што бацька твой ніякі не вораг. Наадварот, ад пачатку і да канца савецкі чалавек. Нават у Маскве, у самой сталіцы, працуе...

— Працаваў,— перапыніў Сцёпу Радаслаў,— да трыццаць восьмага года. Меў вельмі адказную пасаду ў Міжнародным аграрным інстытуце. Часта прыязджаў у Радашковічы, ну, а што лісты, дык мы ледзь не кожны тыдзень атрымлівалі. У апошнім татусь як бы намякнуў, што яго збіраюцца перавесці ў іншае месца, так што калі болей не станем атрымліваць ад яго лісты, каб не хваляваліся і не перажывалі. Усё робіцца па загадзя прадуманаму плану, і не яму тое мяняць...

— Відаць, на нейкую сакрэтную работу перавялі,— выказаў меркаванне Сцёпа,— можа, нават за граніцу...

— Я таксама схільны да такой думкі,— адразу пагадзіўся Радаслаў.— І мамусі ўвесь час цвярдзіў пра такое. Ды яна набрала нешта ў галаву і толькі адмахваецца ад мя-

не: нічога, маўляў, не разумееш... Ты мне гаворыш адно, а сэрца — зусім іншае... І ў снах бачыць татусю кепска: заўсёды ён у белым адзенні і размаўляе з ёю як бы з таго свету...

— Ну, гэта ўжо падобна на містыку,— мякка заўважыў Сцёпа.— Надумаецца абы-чаго жанчына, вось і сніцца тады рознае. Ты ж вось верыш, што з бацькам усё добра?

— А як жа інакш? Калі б не верыў, хіба прыйшоў бы сюды, да партызан?

— І даўно ты ўжо тут?

— А от лічы, хутка тры месяцы будзе. А да гэтага быў сувязным, выконваў партызанскія заданні ў мястэчку. Там жа, у Радашковічах, нямецка-паліцэйскі гарнізон. Нялёгка было, быццам па лязу брытвы ходзіш...

— Ведаю па сабе. Я амаль год у нямецкім гарнізоне пражыў. Прападзі яно пропадам. Тут дык чалавекам сябе адчуваеш, байцом, а было і немцаў бойся і сваіх. На лбе ж у цябе не пазначана, што ты падпольшчык...

Хлапечая гаворка зацягнулася аж за поўнач. Гаслі адны цыгаркі, запальваліся другія, а яны, два юнакі, два равеснікі, усё гаварылі і гаварылі. Адкрыта, шчыра, не таячыся адзін перад адным ні ў чым, нават у самым інтымным.

І Сцёпу ўсё больш падабаўся гэты даўгалыгі бледнатвары Свава, сын самога Тарашкевіча, для яго, Сцёпы, чалавека-легенды. Гэта ж трэба, Браніслаў Адамавіч, не проста славуты літаратуразнавец і перакладчык, але не менш знакаміты як беларускі грамадскі і палітычны дзеяч, публіцыст. За гэту сваю грамадскую і палітычную дзейнасць польскія ўлады двойчы арыштоўвалі яго і судзілі — адзін раз да 12 гадоў турмы, другі — да 7 катаргі. Калі б у трыццаць трэцім Саветы не абмянялі на нейкага польскага палітвязня, то і вайну сустрэў бы катаржанінам...

Мабыць, так, у гаворцы, новыя сябры і прасядзелі б аж да раніцы. Ды трэба было ісці адпачыць перад заўтрашняй аперацыяй. Заўтра іхняя рота ідзе ў засаду на дарогу, па якой (паступілі звесткі ад сувязных) будзе рухацца конна-пешая нямецкая часць.

Для Сцёпы гэта будзе першая баявая аперацыя ў партызанах...

* * *

Месца, дзе камандзір роты, былы армейскі палітрук Фаміных загадаў зрабіць засаду, Сцёпу не спадабалася. Да гравійкі, па якой павінна рухацца конна-пешая нямецкая

калона, не меней за сто метраў адкрытай, страшэнна засмечанай абы-як паваленымі дрэвамі мясцовасці. Пакуль дабяжыш, немец прыцэльным агнём перашлёпае ўсіх, як курапатак. А задача ставілася менавіта такая: разбіць калону і падабраць трафеі. Па-другое, у выпадку адыходу ззаду толькі невялікая, метраў шэсцьдзесят — восемдзесят ушыркі, палоса лесу, а далей — чыстае поле —дужа не схаваешся. І трэцяе — страляць з месца распалажэння роты па дарозе вельмі нязручна, асабліва кулямётчыкам, менавіта яму, Сцёпу, са свайго адрамантаванага «дзегцяра». Ляжаш — дарога не прастрэльваецца, паставіць на паваленае дрэва — ад першай жа чаргі ножкі каўзануцца, і кулі паляцяць у неба. А што б знайсці высокую мясціну, тут жа вунь колькі пагоркаў, ды ўдарыць адтуль?.. Пайсці і сказаць ротнаму? Хаця не, няможна. Субардынацыя. Ды і наогул, хто ён такі, Сцёпа, у роце? Студэнт, навічок, у лепшым выпадку неблагі музыка. І палезе са сваімі, хутчэй за ўсё наіўнымі ваеннымі падказкамі. Тут вунь сабраліся хлопцы, якія ўжо не раз нюхалі порах. Хаця б яго сябра, другі нумар кулямётнага разліку, Слаўка Тарашкевіч: шосты ўжо раз выйшаў на баявую аперацыю. Дарэчы, дзе ён, Слаўка, хоць не аддаліўся куды? У яго ж у процівагазнай сумцы два поўненькія запасныя дыскі. Не, тут. Прыкметна хвалюецца. Шэптам да яго:

— Як месцайка?

— Нешта не тое. Трэба было залегчы вунь там,— і паказаў рукой у бок пагорка.

Мабыць, пра тое самае думалі і іншыя партызаны, бо вакол Фаміных збіралася ўсё болей людзей. Адсюль, дзе занялі пазіцыю Сцёпа са Славам, не чуваць было, пра што там гаварылася, але мяркуючы па жэстыкуляцыі, гаворка была не са спакойных.

І раптам усе рассыпаліся ў розныя бакі, заляглі, укрываючыся за ствaламі ды галінамі паваленага паўз дарогу лесу: з-за павароту паказалася запрэжаная двума біцюгамі доўгая фурманка з устаноўленым пасярэдзіне буйнакаліберным кулямётам. Праз інтэрвал метраў у пяць-шэсць павольна крочыў кулямётны разлік з чатырох чалавек. Яшчэ праз такі ж прамежак — другі, трэці, дзесяты, семнаццаты... Замыкала калону падобная на першую фурманка. Толькі буйнакаліберных кулямётаў на ёй было аж два. Адзін цэліўся на той бок дарогі, другі — на гэты, дзе чакала сігналу партызанская засада.

Сцёпа адчуў, як па спіне прабеглі мурашкі, гулка ўдары-

ла і забілася роўна, размерана сэрца, сцялася, спружынілася ўсё нутро, і ў галаве зрабілася ясна-ясна: ніякіх пабочных думак, толькі старанны пошук праз мушку кулямёта чалавечых постацяў. Халодная прыкідка — куды пасылаць другую чаргу, куды — трэцюю. Больш трох — не паспець. Немцы, вядома ж, залягуць. Ваенная вывучка ў іх дай Бог кожнаму. Не паварочваючы галавы, кінуў у бок Славы:

— Ад мяне ні на крок!

Не сказаў, а нечакана для самога сябе загадаў. Хаця нічога асаблівага — менавіта ён, Сцёпа, камандзір кулямётнага разліку, і ў баі павінен не прасіць, а загадваць.

Далёка злева трэснула аўтаматная чарга — дамоўлены сігнал ротнага. І Сцёпа, не спускаючы вачэй з мушкі, паслаў першую чаргу па перадавой фурманцы. Тут жа перавёў ствол лявей і ўдарыў па ядавіта-зялёных шынялях, ледзьледзь павярнуў яшчэ і... страляць ужо не было па кім: немцы ссыпаліся на той бок гравійкі і заляглі. Адразу над Сцёпавай галавой затрашчала, залускала — немцы ўдарылі ў адказ разрыўнымі кулямі, і яны з трэскам лопаліся, кранаючыся нават тонкай галінкі.

— Камандзір, адыход! — тузануў яго за локаць Слава.

Сагнуўшыся ў тры пагібелі, хлопцы рванулі па пералеску ў бок поля. А ззаду шквальна трашчала, бухала, рвалася. Немцы пусцілі ў ход мінамёты.

За полем, што пачыналася адразу за прыдарожным лесам, цямнеў векавы бор. Туды, рассыпаўшыся рэдкім ланцугом, і скіраваліся партызаны.

Сцёпа ўвесь час скурай спіны чакаў, што ў яе вось-вось увап'ецца варожая куля, і таму, бегучы, раз-пораз азіраўся назад. Але на ўскраі пакінутага ляска зялёныя шынялі не паказваліся. А праз колькі хвілін, калі рота яшчэ была на паўдарозе да запаветнага лесу, страляніна на гравійцы раптоўна сціхла. Нібы абарвалася стужка ваеннага кінабаевіка. І тады Сцёпа, а разам з ім і Слава перайшлі з бегу на звычайны крок. Ды і сіл бегчы, калі казаць па праўдзе, ужо не было — палявая ралля — гэта табе не дарожка стадыёна, ногі вязнуць па самыя костачкі. А тут яшчэ «дзягцяр» чортаў — што ні крок, то цяжэйшы робіцца. Эх, святая справа — трохлінеечка ці аўтамат! Не, аўтамат сабе Сцёпа, што б там ні было, зробіць. Вось толькі вернецца ў лагер і адразу да Бярэзіна. А з «дзегцяром» няхай ходзяць хаця б той самы Мухетдзінаў ці Рыба. Такім станкача ўскінуўшы на плечы, будуць несці прытанцоўваючы. У кожнага сілы на двух такіх Сцяпанаў ці Славікаў.

На ўзлессі Сцёпа заўважыў, як ад камля разлапістай елкі аддзялілася чалавечая постаць і рынулася ў бок гушчару. І тут жа прагрымеў бас Мухетдзінава:

— Стой! Страляць буду!

Чалавек паскорыў бег. Грукнуў стрэл, і ён упаў. Даслаўшы ў канал ствала чарговы патрон, Мухетдзінаў няспешна пайшоў да яго. Сцёпа дагнаў Мухетдзінава:

— Навошта ты?

— А табе што, шкада, студэнт? — у вачах Мухетдзінава свяцілася нявінная ўсмешка.— Вайна ж ідзе. А яна без крыві не бывае.

— Можа быць, гэта свой хто?

— Няхай не бяжыць.

Куля, пасланая Мухетдзінавым, прабіла грудзі незнаёмца навылёт. Калі хлопцы падышлі, сэрца яго ўжо не білася. Стась Жывуцкі, адзін з мясцовых партызан, якіх у роце было болей за ўсіх, перавярнуў нябожчыка на спіну і тут жа стаў на калені: гэта быў яго дваюрадны дзед па мацярынскай лініі Франак, вядомы на ўсю акругу бортнік. Вось і ў гэты, ужо апошні, раз у жыцці ён аглядаў у лесе сваю пчалінную гаспадарку. Стась закрыў павекі нябожчыка, паклаўшы на іх тоўстыя медныя пятакі, нарваў сухога белага моху і падлажыў пад голаў, потым падняўся з каленяў і акінуў доўгім, поўным нянавісці позіркам магутную постаць Мухетдзінава:

— За што ты яго, старога, сямідзесяцігадовага? Ад немцаў вунь як джгаў, а тут на бяззбройнага рынуўся...— і, сціснуўшы кулакі, рушыў на гіганта. Той спалохана заплюскаў вачыма, зрабіў адзін крок назад, другі і, раптоўна крутнуўшыся, ірвануў у лес. Аж сухое голле затрашчала пад цяжкімі ботамі.

Стась звярнуўся да ўзводнага Ныркова:

— Я ў Залужжа пайду. Трэба, каб цела забралі адсюль.

— Ідзі,— коратка сказаў Ныркоў.— Вазьмі з сабой каго з хлопцаў. Усякае можа быць.

Сцёпу зрабілася ніякавата на душы. Невядома яшчэ, колькі знішчылі яны ворагаў на гравійцы і ці знішчылі наогул, а вось свайго адправілі на той свет. Проста так, нізавошта. Як быццам мала страляюць і вешаюць нашых людзей прышэльцы, Эх!.. Сцёпа паглядзеў на Славу. Той адвярнуўся, каб не паказаць слёзы, што трымцелі на вейках.

Ішлі лесам, кіруючыся ў бок лагера, нібы з пахавання. Ды, зрэшты, так яно і было. На ўзлессі застаўся ляжаць труп нявіннага чалавека, а недзе ля гравійкі ляжыць яшчэ

адзін труп — камандзіра другога ўзвода Сталюгіна, які быў забіты ў першыя ж секунды кароткага бою. Яго «шмайсер» целяпаўся зараз на грудзях аддзялённага Кляцкова.

Вось такі, Сцяпанка, твой першы блін, першы партызанскі бой...

* * *

Першы чалавек, якога ўбачыў Сцёпа ў лагеры, быў Віцька Кудла. Ён подбегам сыпаў ад кухні да зямлянкі, дзе мясціліся падрыўнікі. Сцёпа аклікнуў Віцьку.

— Сто гадоў цябе не бачыў,— абрадавана пацiснуў цвёрдую далоньку сябра.— Усё ў дзеда Ілы?

— Ды не. Во, глядзі,— і дастаў з-пад пахі ладны пакунак, абгорнуты кужэльным ручніком.— Сухі паёк на два дні для групы Аксіння Лук'янаўна дала — хлеб, цыбуля, сала. Ідзём на «жалезку».

— Калі гэта ты паспеў падрыўніком зрабіцца?

— А я адразу, у першы ж дзень прыбіўся да групы Рашчэні. Чуў, можа? Герой! Шэсць эшалонаў самастойна спусціў і тры з групай.— Вочы Віцькі ззялі ад шчасця.— З такім на любое дзела не боязна...

— Вось так, адразу Рашчэня і ўхапіўся за цябе.

Кудла адвёў вочы ўбок:

— Ну, не адразу. Але калі даведаўся, што маіх усіх забілі, узяўся сам навучыць падрыўному дзелу: і як міну снараджаць, і як ставіць, і як пры выпадку абясшкодзіць... Ведаеш, мінёр памыляецца толькі раз у жыцці.

— Ведаю, ведаю. Толькі скажы, дзе вы тол узялі? Яго ж, кажуць, днём з агнём зараз не знойдзеш...

Гэта была праўда. Ужо з першых дзён прабывання ў атрадзе Сцёпа толькі і чуў ад падрыўнікоў — дзе ўзяць тол? Без яго або іншай узрыўчаткі асабліва не наваюеш на шашы ці чыгунцы, не паднімеш у неба варожы склад, не выведзеш са строю стратэгічны мост. Толу не было не толькі ў атрадзе «Смерць фашызму», байцамі якога не так даўно сталі Сцёпа з Кудлам. Не было яго і ў іншых атрадах партызанскага злучэння. І раптам за двое сутак, што Сцёпа адсутнічаў, узрыўчатка ў Рашчэні з'явілася. Адкуль?

— Сакрэт фірмы,— хітра прыжмурыўся Віцька.

— Сакрэт? — аж пакрыўдзіўся Сцёпа.— Ад мяне?

— Не, не,— паспешліва закруціў галавой Кудла.— Ад цябе ў мяне сакрэтаў быць не можа. Са снарадаў дабылі.

— А снарады адкуль? Хлопцы ж казалі, што на сто кіламетраў у акрузе ўсё павыбралі...

— Навошта на сто? Ля Слабады ў старым акопе тамашнія дзеці іх аж шэсць скрынак знайшлі. Выпадкова, канешне. Ну і Рашчэню сказалі. Ты ж ведаеш, што ў Георгія ўсюды сувязі...

— Ну што ж, жадаю поспеху, падрыўнік.— Моцна прыгарнуў Кудлу да сябе, потым адпіхнуў.— Ідзі!

У абед таго дня сувязныя данеслі пра вынікі засады. Аказваецца, забіта шэсць немцаў, што ішлі першымі, сярод іх афіцэр у чыне гаўптмана, знішчана двое коней, зноў жа з пярэдняй фурманкі, а з астатняй калоны восем параненых, двое з іх цяжка.

Пачуўшы такое, Сцёпа спачатку ледзь не закрычаў, што гэта яго кулямёт біў прыцэльна па галаве калоны і што шэсць адпраўленых на той свет фашыстаў,— справа яго рук. Стаў шукаць вачыма Славу, каб падзяліцца радасцю ад пачутага. Славы паблізу не было. І радасць павольна, неяк сама сабой пачала перарастаць у пачуццё злосці ці то на сябе, ці то на ўвесь белы свет, што вось трэба ваяваць, забіваць людзей... Што, можа, шкода немцаў? Не, наадварот. Хто іх запрашаў на нашу зямлю, хто даў права здзекавацца з нашага народа? Па-звярынаму!.. Смерць за смерць, кроў за кроў! Лозунг жорсткі, бязлітасны, але абсалютна правільны. І ўсё ж... Навошта людзям забіваць адзін аднаго? У імя чаго? У імя ідэі? Якой? Галоўная ж ідэя чалавечага жыцця — гэта сумленна, вольна прайсці сваю зямную сцежку, пакінуць нейкі след — ці дзіця, ці добры дом, грэблю цераз багну, крынічны калодзеж... Так некалі вучыў Сцёпу дзед Лук'ян. А што пакіне ён, Сцёпа? Не, што ўжо ён пакінуў? Менавіта пазаўчора? Шэсць забітых. Ворагаў? Так, ворагаў. Але ж яны людзі, і кроў у іх людская, чалавечая...

Сцёпа адчуў, што ад розных супярэчлівых думак у яго як бы пачынае распухаць галава, і рвануўся да зямлянкі. Зараз ён возьме сваю хромку, разверне на поўныя мяхі і забудзецца ў музыцы.

Ля самага ўвахода яго затрымаў начальнік гаспадаркі дзед Ілья:

— Жалобны марш іграць умееш?

— Умею. А што? — сумеўся Сцёпа.

— Пойдзеш з гармонікам за трунай. Зараз Сталюгіна хаваць будзем.

— А кулямёт? — недарэчы спытаў Сцёпа.

— Другі номер возьме, Тарашкевіч. Загад камандзіра.

Сталюгін. Мала давялося Сцёпу ўведаць пра гэтага чалавека. Але і па тым нямногім, што чуў ад партызан і што

бачыў у адносінах Сталюгіна з байцамі свайго ўзвода, ды і з усімі астатнімі, мог зрабіць беспамылковую выснову — Сталюгін не толькі аўтарытэтны воін, але і любімец атрада. І вось яго няма. І ўжо ніколі-ніколі не будзе. А ён, Сцёпа, як бы ўпотайку перажывае за смерць тых шасцярых у ядавіта-зялёных шынялях, нібы вінаваты ў іх смерці. А можа, менавіта яны замучылі ўсю сям'ю Віцькі Кудлы!.. Не, на вайне не павінна быць жаласці да ворага, не ты яго, дык ён цябе. І выкідай ты, партызан Гурскі, з галавы сваё інтэлігенцкае філасофстванне.

Хавалі Сталюгіна на вясковых могілках, дзе была спецыяльна адведзена цэлая дзялянка для загінуўшых партызан. Тут ужо няроўным частаколам цягнуліся аж два рады драўляных слупкоў-абеліскаў з бляшанымі зоркамі на вяршушках. Адны слупкі ўжо збуцвелі, пацямнелі ад дажджоў і сонца, другія былі зусім яшчэ новыя, свежыя. На ўсіх значылася, хто пахаваны, даты нараджэння і смерці.

На траурнай паніхідзе з кароткай прамовай выступілі камісар атрада Сядых, стараста «партызанскай сталіцы» дзед Пінькевіч. Было многа вяскоўцаў, асабліва жанчын. Калі развітваліся з нябожчыкам і апускалі труну, ніхто з іх не загаласіў, не заплакаў, толькі выціралі ражкамі хустак запалыя вочы і нягучна ўздыхалі.

Сцёпу такая ціхая паніхіда спачатку здзівіла, нават як бы зняважыла. Але неяк раптоўна, само сабой прыйшло разуменне, у чым прычына такой вось зацятасці: людзі настолькі спакутаваліся, настрашыліся за чорныя гады вайны, што ім ужо не да слёз, не да аплаквання свайго ці чужога гора. Яно, гэта гора, сваё і чужое, з імі кожны дзень і кожную ноч, суправаджае іх на кожным кроку, неадступна, і будзе суправаджаць, аж пакуль не скончыцца вайна альбо пакуль не загінуць яны самі, ці то ад кулі, ці ад агню, ці ад голаду.

* * *

Аднаго разу пад вечар Ныркоў загадаў Сцёпу са Славам і яшчэ дзесяці хлопцам з іхняга ўзвода адправіцца на партызанскі аэрадром для прыёму самалёта з Вялікай зямлі. Дапускаўся варыянт, што самалёт не будзе садзіцца, а толькі скіне на парашутах груз. Старшым групы прызначаўся радыст па імені Арнольд. Гэта ён атрымаў шыфроўку аб маючым адбыцца вылеце транспартніка.

Радысты Арнольд і яго дублёр Косця прызямліліся на партызанскім аэрадроме недзе праз тыдзень пасля таго, як

з'явіліся ў атрадах Сцёпа са сваім сябрам Кудлам. Першае, што зрабілі гэтыя доўгачаканыя пасланцы з Вялікай зямлі,— пабудавалі сабе асобную зямлянку. Абставілі яе, можна сказаць, з шыкам — бярвенчатыя сцены і скляпенне абабілі светлым парашутным матэрыялам, земляную падлогу ўкрылі саламянай цыноўкай, на нары паверх яловага лапніку паклалі спецыяльныя маты. Нават свяцільнікі не паставілі на стол абы-як, накшталт таго, як у іншых зямлянках, а змайстравалі для іх спецыяльныя падстаўкі, нешта падобнае на кандэлябры. А пасля адной аперацыі, калі атраду ўдалося разбіць варожую аўтакалону, Арнольд употайку (радыстам у мэтах бяспекі сурова забаранялася ўдзельнічаць у баявых аперацыях) збегаў на шашу і прывалок у рукзаку, у якім звычайна насіў сілкаванне для радыёстанцыі, аж два акумулятары. Пасля гэтага ў іх з Косцем засвяцілася замест капцілак-«кацюш» сапраўднае электрасвятло. Перад уваходам у зямлянку радысты вялікую плясцоўку заслалі дробна насечаным лапнікам — гэта каб госці не заходзілі ў брудным абутку, а мелі магчымасць старанна яго выцерці, перш чым спусціцца ў зямлянку.

Праўда, наведвальнікамі Арнольда і Косці былі нямногія — у асноўным камандзір, камісар ды начальнік штаба атрада. Яны першыя атрымлівалі радыёграмы-распараджэнні, загады, паведамленні. Яны першыя даведваліся і пра франтавыя навіны. У час жа сеансаў сувязі ў зямлянку да радыстаў не мог зайсці ніхто. Не тое каб яны папярэджвалі аб гэтым. Зусім не. Проста калі адзін садзіўся за ключ станцыі, другі выходзіў за дзверы зямлянкі, садзіўся на цурбанок і пачынаў глянцаваць зброю або падшываць каўнерык. І ўсе ўсё разумелі.

Сцёпа прыйшоўся радыстам даспадобы. Асабліва Арнольду. Арнольд быў заўзяты меламан. Ён валодаў сакоўным барытонам і ўвесь час нешта напяваў сам сабе напаўголаса: то няхітрую песеньку, а то і складаную оперную арыю. Убачыўшы, што Сцёпа падхоплівае і перадае на сваёй хромцы ледзь не любую мелодыю прама, так сказаць, з ходу, часта ў вольную часіну забягаў да яго і, мармычучы сваё тра-ля-ля, прасіў:

— Давай-тка, Сцяпурка, падыграй...

Мінала нейкая мінута, і па даўжэзнай ротнай зямлянцы разлягаўся прыемны голас радыста ў музычным суправаджэнні.

І вось цяпер Арнольд часовы камандзір Сцёпы. Ён вядзе групу на партызанскі аэрадром для прыёму спецыяльнага

авіярэйса. Відаць, не просты будзе груз, калі сустракаць яго павінен сам Арнольд, непасрэдны пасланец Цэнтральнага штаба.

Радыст крочыць побач са Сцёпам. Спагадліва пляскае даланёй па дыску Сцёпавага «дзегцяра»:

— Цяжкавата?

— Пушынка,— без усмешкі адказвае Сцёпа.— На вось паважкай,— і робіць выгляд, што здымае кулямёт з пляча.

— Не, не,— з павышанай ветлівасцю махае рукамі Арнольд.— Пазбавіць пана Гурскага такой асалоды — несці пушынку — хіба я магу дазволіць сабе такое? Буду ўжо валачы свой ППШ.

— Як пан хцэ,— пагаджаецца Сцёпа, і яны абодва весела смяюцца.

З Арнольдам Сцёпу добра, як бывае добра з блізкім сябрам, хаця і па ўзросце і па агульным развіцці яны значна розняцца. Арнольду толькі года не хапіла, каб скончыць маскоўскую кансерваторыю па класу вакалу. Нарадзіўся ён і вырас у Люберцах, адкуль да сталіцы рукой падаць, а значыць, і маскоўскія тэатры, бібліятэкі, музеі яму не ў навіну. Няблага валодае нямецкай і англійскай мовамі, а тут, на мяжы з былой панскай Польшчай, не без поспеху вывучае польскую і беларускую. Са Сцёпам размаўляе падкрэслена толькі па-беларуску або па-польску. Іншы раз яны спрабуюць перакінуцца словам-другім на нямецкай мове, але хлопцы тады пачынаюць нядобра касавурыцца, а хто найбольш гарачы, то можа і матам аблажыць за такое шчыраванне. Тут трэба абавязкова ўлічваць псіхалагічны фактар.

— Я ўсё хачу запытацца, як ты стаў радыстам і чаму менавіта радыстам, а не танкістам або лётчыкам, калі ўжо так хацелася ваяваць,— павярнуў да яго галаў Сцёпа.— Толькі давай па-сур'ёзнаму, а то ў цябе ўсё жартачкі.

— Слухай, Сцяпане, табе як на духу. Я з малых гадоў навучыўся майстраваць дэтэктарныя прыёмнікі, Маскву слухаў, як зараз цябе. Ну, а пасля далей — болей. Высадзілася папанінская чацвёрка на льдзіне ў Ледавітым. Вось я і рашыў змайстраваць кароткахвалевую радыёстанцыю, каб вечарамі перакінуцца словам-другім з самім Крэнкелем, героем паўночнай адысеі. Вось і захапіўся радыёсправай. Усур'ёз.

— Ну і змайстраваў станцыю?

— Не паспеў. Толькі марзянку назубок вывучыў, магу зараз нават з першакласнымі асамі паспаборнічаць...

— А Косця таксама аматар?

— Не. Косця радыст-прафесіянал. Мне іншы раз здаецца, што для яго, апроч радыё, нічога на свеце не існуе. Ён нават можа ад найпрыгажэйшай прыгажуні адвярнуцца, калі з рацыяй што не так. Фанатык, адным словам.

— Але ж ён не Косця, а ты не Арнольд,— задзірыста хітра кінуў Сцёпа.

На твар радыста набегла хмурынка незадаволенасці. Але ад адказу не ўхіліўся:

— Ёсць сферы, у ваенны час, вядома, куды мае доступ толькі пэўны кантынгент людзей. А проста цікаўным там абсалютна няма чаго рабіць. Так што, калі ласка, больш не трэба на гэту тэму.

Сцёпу зрабілася няёмка. І ён паспяшаўся падвесці канчатковую рысу:

— Як у нас кажуць: не сунь носа ў чужое проса.

— Залатыя словы! — са светлай усмешкай пагадзіўся радыст.

Некаторы час ішлі моўчкі. Ужо добра звечарэла, і промні сонца асвятлялі толькі самыя вярхушкі стромкіх соснаў. Ціха ў лесе. Ні птушыных перасвістаў, ні пошуму ветру. Толькі зрэдку прабарабаніць дзесь далекавата жаўна.

— Далёка яшчэ? — запытаўся Сцёпа.

Арнольд зірнуў на гадзіннік:

— Мінут праз дзесяць будзем на месцы.

І вось лес пачаў як бы радзець, расступацца, наперадзе між дрэў паявіліся светлыя прагаліны, і нарэшце адкрылася перад хлопцамі шырачэзная і доўгая, ледзь не да самага гарызонту роўная паляна. Ну чым не аэрадром? Тут нават цяжкі самалёт можа запраста прызямліцца, а не толькі які «кукурузнік». Не раўнуючы, як у Ядліне, куды ён бегаў з дзедавага хутара, калі там пабудавалі ваенны аэрадром. Там таксама была вось такая роўная, як стол, прастора, як вокам акінуць.

Ад успамінаў пра дзедаў хутар балюча заныла сэрца, і, каб адагнаць, развеяць смутак, Сцёпа дзелавіта звярнуўся да Арнольда:

— Пэўна, кастры будзем ладзіць?

— А як жа? Без іх наогул пасадка ці скідванне грузу ноччу немагчымы. На сёння дамоўленасць такая: па тры кастры паралельна абапал паляны.— Арнольд спыніўся на ўзлессі, пачакаў астатніх.— Вось што, хлопцы, задача напачатку такая: нарыхтаваць, пакуль відна, паболей сушняку. Складвайце каля старых вогнішчаў, што засталіся з мінулага разу. Запалім кастры пад поўнач. Мы са Сцёпам першы-

мі, а за намі адразу ж і вы. Найбольш інтэнсіўна паліце, калі пачуеце гул самалёта.

— А як раптам не наш, а фашыст?

— Можна дапусціць і такое. Але ж наш, як заўважыць кастры, павінен выпусціць тры ракеты — дзве зялёныя, адну — чырвоную. Ну, а калі без ракет, то ясненька — адбягайся ад кастра падалей у лес і залягай, пакуль адбамбіцца... Карацей, разбірайцеся па двое на касцёр і за справу.

Калі добра ўцямнела, Арнольд паглядзеў на гадзіннік. Ён у яго швейцарскі, спецзаказ. Стрэлкі і лічбы на цыферблаце свецяцца.

— Развядзі, Сцяпане, невялікае цяпельца. Неяк маркотна сядзець вось так без справы ды яшчэ ўпоцемках. Ды і хлопцам недзе там вусцішна. А агонь, ён душу чалавечую вяселіць, як бы абнадзейвае.

Неўзабаве ціхутка затрашчала пад язычкамі полымя сухаяігліца, ахапіліся агнём зараней наструганыя смалістыя лучынкі, адступіўся густы змрок. Толькі ззаду па-за асветленым кругам згусціўся шчыльней, да чарнаты. І зоркі ў небе, якое так рэдка бывае ўвосень бясхмарным, пабляклі, нібы растварыліся.

— Добрая ночка для палёту,— сам сабе адзначыў радыст.— Зорная карта не дасць збіцца з маршруту.

Слаба засвяціліся і агні астатніх кастроў.

— Не спяць хлопцы. А вось і да нас тупае нехта.

Сцёпа, колькі ні прыслухоўваўся, не мог пачуць чалавечых крокаў, а Арнольд вось чуе. Што ў іх, дыверсантаў-разведчыкаў, асаблівы слых? І зрок? Па гэтых якасцях і падбіраюць? Але ж і ў мяне слых як быццам беззаганны... Не стрымаўся, спытаў:

— З якога боку ідзе чалавек?

— Хіба не чуеш? Ды ад суседняга кастра. Вось жа крокі чуваць. Пачынае спяшацца...

І праўда, з цемнаты вынырнуў крыху запыхканы партызан Макацэўскі:

— Слухай, камандзір, а калі прызямліцца самалёт або выкіне людзей на парашуце, як іх сустракаць? Павінен быць нейкі пароль...

Радыст моцна пляснуў сябе па лбе:

— От балда. Гэта ж трэба!.. Зусім забыўся папярэдзіць. Перадай усім па ланцугу: пароль — граната, водгук — Гродня.

Калі Макацэўскі зноў знік у цемені, Арнольд напаўголаса смачна вылаяўся.

Сцёпа не падазраваў, што інтэлігентны барытон, амаль з закончанай вышэйшай музычнай адукацыяй, валодае гэткім фальклорным скарбам.

Агонь кастра заварожвае. Ён дапамагае чалавеку пазбыцца думак, і благіх і лагодных, прымушае глядзець на яго, глядзець проста так, бяздумна, поўнасцю адключыўшыся ад усяго акружаючага цябе.

Арнольд і Сцёпа, усеўшыся на мяккіх купінах, сядзелі моўчкі, неадрыўна гледзячы на чырвоныя, жоўтыя, белыя язычкі полымя, і міжвольна ўслухоўваліся ў звінячую цішыню ночы. Сядзелі гэтак доўга, можа, з паўгадзіны. Нарэшце Арнольд варухнуўся, не ўстаючы, дацягнуўся рукой да нарыхтаванага сушняку і кінуў дзве палкі ў вогнішча.

— Колькі на вашым спецзаказе? — запытаўся Сцёпа.

— Пара б ужо,— кінуў Арнольд вокам на гадзіннік і адразу падхапіўся на ногі, напружыніўся.— Паўзе, родненькі!.. Малайчына, Сцёпка, ты нібы ў дзесятку ўляпіў...

Сцёпа таксама прыслухаўся. Так і ёсць, з усходу далятае ледзь улоўны гул... Ярчэй шуганула ў неба полымя кастроў, і гул самалёта пачуўся зусім выразна. Ён нарастаў, набліжаўся, пакуль не ператварыўся ў аглушальны рокат, памножаны лясным рэхам. Прасігналілі тры дамоўленыя ракеты, і ў небе цьмяна забялелі парашуты.

Каго прынясуць яны: людзей, груз?

А вось і развітальная ракета. Самалёт робіць шырокі круг і пачынае імкліва аддаляцца туды, адкуль праз колькі часу ўзыдзе халаднаватае восеньскае сонца.

З боку лесу, на дарозе, па якой надвячоркам ішлі кастравыя, пачулася фырканне коней, глухі перастук колаў па карэннях. Ехалі партызаны па груз з Вялікай зямлі. Цікава ўсё-такі, што адтуль прыслалі? На паляне бялеюць аж пяць парашутаў з ёмістымі цюкамі-кантэйнерамі. Чатыры кантэйнеры нічым не памечаны, а на адным літары СГ і шасцізначная лічба.

— Нам. Малайцы, рабяты. Не падвялі! — аж засвяціўся тварам Арнольд.

— Усе ж нам,— не зразумеў Сцёпа.

— Усе-то ўсе, а вось гэты, радзімы, выключна для нас з Косцем. Па нашаму заказу. Чытай СГ — спецгруз.

— Можа, і пшанічнай бутэльку прыслалі, шакалад у плітках? — неўпапад паддзеў Сцёпа.

— А што? — рагатнуў Арнольд.— Не выключана. Хлопцы там што трэба, кемлівыя.

З пярэдняй падводы саскочыў камандзір атрада Багда-

новіч. Наблізіўся да Арнольда, моцна паціснуў яму руку:

— З уловам, радыст. З удачай!

— Яшчэ з якой! — усклікнуў Арнольд.— Вось цэлы кантэйнер, мабыць, усё, што запрасілі з Косцем, прыслалі.

— А што іменна?

— Шмат чаго павінна быць. Запаснае сілкаванне, лямпы новыя, пісталетна-аўтаматныя патроны, біноклі, якіх на ўсю брыгаду, наколькі я ведаю, адзін, мыла, бялізна цёплая, дасць Бог, «Беламор» ці махорачка маршанская... Мы рабятам цэлы спісак адстукалі... Спадзяёмся, не з'ігнаравалі нашу просьбу...

Партызаны пачалі грузіць кантэйнеры на падводу. З аднаго пасыпаліся на зямлю бліскучыя вінтовачныя і аўтаматныя патроны. Відаць, лопнула ўпакоўка ад удару аб зямлю. Партызаны ўзахапкі пачалі збіраць гэтае багацце. Багдановіч адвярнуўся, як бы нічога не заўважае: згаладаліся хлопцы па добрым ўзбраенні, хай запасаюцца, застанецца і іншым.

Калі вярнуліся ў атрад, ускрылі ў прысутнасці брыгаднага начальства астатнія кантэйнеры. Груз аказаўся найкаштоўнейшы: аўтаматы, патроны, тол, насадныя марціркі для бясшумнай стральбы, дзве снайперскія вінтоўкі, супрацьтанкавае ружжо і... важкі пачак газет і часопісаў за апошні месяц.

Разглядалі прысланае моўчкі і доўга, баючыся ўзяць у рукі, паверыць нарэшце, што ўсё гэта цяпер іхняе, партызанскае... А падспудна жыла грэшная шкадлівая думка: каму дастануцца вось гэтыя новенькія ППШ? Добра, калі раздадуць падрыўнікам, разведчыкам. А раптам начальству закарціць падгрэбці пад сябе. А што? Раздзеляць між сабой і... не пікнеш нават. Начальства, яно на тое і начальства, каб камандаваць, як яму захочацца...

Сцёпа стаяў, думаў так і не ведаў, што рабіць зараз: ісці адсыпацца ці чакаць якога новага загаду. Яго крануў за локаць Арнольд і кіўнуў галавой у бок зямлянкі радыстаў:

— Давай да нас, сябер...— І тут жа паправіўся: — Дарагі сябра. Правільна?

— На пяць! — весела адгукнуўся Сцёпа.

Дашчаны стол, які звычайна займала радыёстанцыя з усімі належнымі прыладамі, зараз быў да краёў застаўлены такім смакаццём, што ў хлопца аж балюча засмактала пад лыжачкай. Тут табе і мясныя кансервы, і марынаваныя гуркі, і пячэнне, і натуральны селядзец, і бутэлька з цёмнай вадкасцю, на якой пунсавелі чатыры зорачкі, і цэлы блок папярос.

— Як у чароўнай казцы! — толькі і здолеў прамовіць Сцёпа і ўмольна зазірнуў у вочы Арнольда.— А што, калі... Хаця не... Не трэба... Даруйце за нахабства...

— Што, што? — настойліва зацерабіў яго за руку Арнольд.— Давай дагаворвай.

— А то дзеці картавыя будуць,— усміхнуўся Косця.— Валяй, не саромейся.

— Я хацеў бы... Толькі вы не падумайце,— аж пачырванеў ад нялоўкасці Сцёпа.— Можа, Славіка паклікаць... Тарашкевіча... Ён жа ў мяне другім нумарам.

Арнольд і Косця мімалётна пераглянуліся, і Косця падпіхнуў Сцёпу да выхаду:

— Толькі мігам, а то ўжо ніякага цярпення не стае. І гармонік не забудзь.

Сцёпа расчыніў дзверы і нырнуў у сыра прамозглы шэры ранак. Садзіцца за такі стол без самага блізкага зараз сябра ён не мог. Гэта было б здрадай.

* * *

Трэцяя ваенная зіма выдалася лёгкай, лагоднай. Ні табе мяцеліц са снежнымі заносамі пад самыя стрэхі, ні марозаў-траскуноў. Так, злёгку прысыпала беллю не зусім згрудзелую зямельку, мабыць, каб рунь не загінула, зацягнула тонкім, не дужа надзейным лёдам азёры ды ціхія рэчкі, и на большае не пайшла. Ці то сіл не хапіла, ці проста паленавалася. Бо як, напрыклад, разумець, што такія вяртухі-быстранкі, як Іслач, цераз якую ў разгар зімы давялося Сцёпу перабірацца, нават і не думалі спыняць свой вольны бег. Толькі ледзь-ледзь зашэрхлі паўз берагі.

Лясным салдатам такая зіма была толькі на руку. Надта не перамерзнеш у засадзе, не пакінеш след на чорнай сцяжыне, вяртаючыся на базу...

Зусім не адметнай на снягі ды марозы выдалася трэцяя ваенная зіма. Не стала яна адметнай і на нейкія асаблівыя баявыя падзеі. Ва ўсякім разе ў межах атрада. Усё тыя ж, хаця і не падобныя адна на адну, засады, дыверсіі на дарогах, раптоўныя разведналёты на гарнізоны, канечне ж, на слабейшыя...

І толькі адна аперацыя пакінула выразную зарубку на сэрцы Гурскага — гэта аперацыя па выратаванні дзяцей. Пакінула яна адмеціну сваёй незвычайнасцю і ашаламляльнай выніковасцю.

Недзе на зыходзе студзеня Сцяпана выклікалі ў штаб. Калі пераступіў парог зямлянкі, давялося спыніцца адразу ж — народу было бітком.

З-за маленькага, у адну шырокую дошку, стала падняўся камандзір атрада Багдановіч і акінуў поглядам прысутных:

— Здаецца, цяпер усе. Прашу ўвагі, таварышы. Нам прадстаіць правесці найадказнейшую аперацыю. Сутнасць яе абмалююць наш сувязны Антон Іванавіч і камандзір першай роты Бацян.

Багдановіч адступіў у кут, а на яго месца стаў сівы каржакаваты чалавек у зашмальцаваным кажуху. Сцёпа адразу пазнаў яго — гэта быў той самы Антон Іванавіч, што прывёз іх з Віцькам у атрад.

— Я каратка,— сказаў сувязны.— Вы, вядома ж, у курсе, што фронт ужо недалёка. Дык вось. У Менск штодня прыбывае процьма цяжкапараненых. Каб лячыць іх, патрэбна чалавечая кроў, шмат крыві. Вось і рашылі супастаты даіць нашых дзетак, што засталіся нявывезенымі з дзетдома Сёмкава Гарадка. Іх тамака аж за дзве з палавінай сотні чалавек. Зараз узмоцнена падкармліваюць іх санаторным харчам, каб было што выдойваць, абяскровіць... У мяне ўсё. Хаця не... Ратаваць малых трэба... І неадкладна... Заўтра можа быць позна,— апошнія словы Антон Іванавіч прамовіў глуха, хрыпата, нібы хто здушыў яго за горла.

Наперад выйшаў ротны Бацян:

— Я сам пабываў у Сёмкавым. Дакладваю. Гарнізона пастаяннага там практычна няма. Мяняюцца ахоўнікі вахтавым метадам. Наязджаюць з Менска — балазе побач. Узбраенне — вінтоўкі, аўтаматы, пяць-шэсць ствалоў. Як калі. Размяшчаюцца ў падсобцы ў двары. Сувязь з Менскам — тэлефон. Выхавацелі папярэджаны, праінструктаваны. Чакаюць менавіта гэтай ноччу. Мяркую абысціся без пальбы і феерверку.— Азірнуўся на партызан: — Справімся, арлы?!

— А то ж не? — тут жа падхапіў камандзір атрада.— З гэткім атаманам!..

Зямлянка грымнула дружным рогатам. Бацян не разгубіўся:

— Так трымаць, братва!

— Павяду вас напрасткі,— сказаў Антон Іванавіч.— Гадзінкі гэтак праз дзве і будзем на месцы. Давяраеце?

— Не цягніце рызіну,— сказаў нехта з партызан і рушыў да выхаду. За ім памкнуліся астатнія.

Сцёпа адступіў на паўкроку і пачаў глядзець, каго тут толькі што збіралі. Не так і многа народу: аддзяленне аўта-

матчыкаў Ныркова і кулямётны разлік, яго, Сцяпана. Вось і ўсё войска. А не малавата?..

Аўтаматчыкі на чале з Бацянам і сівым рушылі першымі. За імі расцягнуліся падводчыкі. Сцёпа са Славам плюхнуліся на апошнія развалкі. Загадана было не шумець, не курыць. Так што рухалася група ледзь не ў поўнай цішыні. Адно што коні зрэдку фыркалі. Паддаўшыся спакою ды мяккаму пагойдванню развалак, Сцёпа нават задрамаў. Надоўга ці не, толькі канчаткова ачнуўся, калі сані замерлі на месцы і голас Бацяна нягучна прамовіў:

— Твой разлік, Гурскі, застаецца для аховы транспарту. Займіце зручную пазіцыю і чакайце нас. Сігнал — тры ўспышкі ліхтарыка праз роўныя прамежкі,— і крута павярнуўся даганяць аўтаматчыкаў.

Па-вар'яцку імклівай сталася тая студзеньская ноч. Не паспелі Сцёпа са Славам больш-менш абсталяваць агнявую кропку, як удалечыні, дзе, мабыць, канчалася местачковая вуліца, зміргаў ліхтарык: тры ўспышкі — прамежак — тры ўспышкі. Падводчыкі тут жа падцягнулі церассядзельнікі, развярнуліся на ход. Сцёпа да рэзі ў вачах пачаў узірацца наперад — ні душы. Шэптам да Славы:

— Ты што-небудзь разбіраеш?

— Як быццам белае воблака плыве сюды...

І праўда, калі ліхтарык засігналіў зусім ужо блізка, Сцёпа раптам выразна ўбачыў на фоне цёмных будынкаў мноства чалавечых постацяў — вялікіх, меншых і зусім маленькіх. Яны ўсе былі ў белым і рухаліся бясшумна, нібы і сапраўды плылі над вуліцай, як воблака. Не раўнуючы, нібы тыя здані. Жудкаватае відовішча. Хоць, зрэшты, здагадацца, у чым справа, было няцяжка: выхавальнікі для маскіроўкі прыбралі дзяцей да і сябе ў прасцінавыя накідкі.

Без лішніх слоў і мітусні партызаны пасадзілі самых маленькіх на сані і кранулі коней. За імі ў бок лесу рушылі астатнія. Калона ўтварылася даволі ўнушальная.

Сцёпа са Славам засталіся на месцы. Але ненадоўга. Мінут праз пятнаццаць паказаліся і аўтаматчыкі з Бацянам. Яны ўзбуджана напаўголаса перагаворваліся, энергічна жэстыкулявалі. Параўняўшыся з кулямётчыкамі, ротны паклікаў:

— Пайшлі. Пагоні не будзе.

— Што, так без адзінага стрэлу і абышлося? — з лёгкім недаверам спытаў Сцёпа.

— Не спатрэбіліся кулі. П'яныя былі ахоўнікі. Удрызіну. Выхавальнікі пастараліся.

— А дзяцей цяпер куды?

— Сёння ж адправім з лагера на бягомльскі аэрадром, а адтуль самалётамі на Вялікую зямлю.

Вось так, падумаў Сцёпа, у вайны, аказваецца, бываюць і светлыя бакі. Шкада толькі, што іх нікчэмна мала.

* * *

Віцьку Кудлу хлопцы прынеслі ў лагер на самаробных насілках — дзве тонкія жардзінкі, змацаваныя Рашчэневай плашч-палаткай. У Віцькі была разбіта левая ступня — трапіў на проціпяхотную міну, калі пасля ўзрыву цягніка група адыходзіла ад чыгункі. Такое магло здарыцца неабавязкова з навічком, якім быў Віцька Кудла, а з любым. Бо немцы, як высветлілася пазней цераз сувязных, нашпігавалі мінамі адхоны чыгункі ў залесеных месцах літаральна за дзень перад правядзеннем партызанамі аперацыі. Проста яны, сувязныя, не паспелі аб гэтым паведаміць у атрад.

Цёця Даша, як усе па-свойску звалі начальніка партызанскага шпіталя, уважліва агледзела, абмацала пашкоджаную ступню і ўсміхнулася сама сабе куточкамі вуснаў:

— Шчаслівчык. Можна абысціся без ампутацыі.

І пачала рыхтавацца да аперацыі.

— От падладзім тваю ножку, дзіцятка, збольшага, каб не дужа балела, а далечвацца адправім на Вялікую зямлю. Згода?

— Я хацеў бы тут застацца,— ціхім голасам адказаў Віцька.— Тут хлопцы такія харошыя — Сцёпка Гурскі, Рашчэня Георгій... ды ўсе. А там... не знай не ведай,— змахнуў няпрошаную слязінку.

— Добра. Не расстрайвайся. Табе зараз шкодна хвалявацца. Пажывём — пабачым. Час сам падкажа, як лепей зрабіць.

Сцёпа кінуўся да шпітальнай зямлянкі, як толькі пачуў пра няшчасце з Кудлам. Але доктар адправіла яго з самага парога:

— Не пушчу, і не прасіся. Ну і што, калі зямляк? Пацерпіш. Вось ачомаецца трохі, тады і прыходзь. А зараз я яму ўвяла пасля аперацыі абязбольваючае і снатворнае. Хай спіць. Пытаеш, ці скора пойдзе? Не. Няскора. Раненне даволі цяжкае, і хоць арганізм малады, а справіцца здолее з ім праз паўгода, не раней. Гэта каб на кавёлы стаць. А каб перайсці з кавёлаў на кавеньку, спатрэбіцца не меней за год. Косці ступні моцна пашкоджаны, шмат трэшчын. Так што

адваяваўся твой зямлячок. Пры першай жа магчымасці эвакуіруем.

Сцёпа патаптаўся колькі хвілін каля шпіталя і, панурыўшы галаву, паціху паклыпаў да сваёй зямлянкі.

— Не распускай нюні, партызан,— добразычліва прамовіла ўслед яму начальніца.— Малі во Бога, што жывы застаўся, хоць і кульгавы, ды на сваіх уласных хадзіць будзе...

* * *

Ціша Ядыкін не ўваходзіў у групу разведкі, але час ад часу, папярэдне перагаварыўшы з начальнікам штаба, чапляў на шыю аўтамат і знікаў з лагера на два-тры дні. Месца Цішы на нарах было побач са Сцёпам, і ён неяк спытаў:

— Слухай, Ядыкін, куды гэта ўсё бегаеш? Ці не каханку завёў у якіх-небудзь Манылах або Трусавічах?

Ціша бліснуў на Сцёпу слівінамі цыганскіх вачэй і цяжка ўздыхнуў:

— Каб жа тут, пад бокам... А то, ведаеш, аж у Красным жыве, пад Маладзечнам. Ведаеш, колькі трэба тупаць... Ды і гарнізон там. Чыгунка ж праз сяло праходзіць...

І Ціша расказаў, як яшчэ на пачатку вайны, калі трапіў у палон, яго выкупіла за кавалак сала і два дзесяткі яек, прызнаўшы за роднага брата, маладая жанчына. Яна вылечыла яго ад глыбокага знясілення, потым благаславіла ў партызанскі атрад. І нарадзілася тады ў іх каханне. І пакляліся, калі выйдуць з вайны жывыя, ніколі потым не расставацца ў жыцці.

Толькі ці выжывуць. Абое ходзяць па лязе брытвы: яна — сувязная, ён — партызан. У любую мінуту, нават імгненне могуць... А вайне ж яшчэ вунь колькі грукатаць. Ад Гомельшчыны, якую нядаўна вызвалілі, да Берліна, яшчэ ого-го колькі людзей у зямлю ляжа.

— А не боязна вось так аднаму хадзіць да каханай, даруй, да сувязной? Ты ж, мабыць, так гаворыш у штабе?

— Толькі так,— усміхнуўся Ціша.— А дужа боязна ці не, не ведаю. Вусцішна неяк, адзін усё-такі...

— Вазьмі мяне з сабой,— нечакана для самога сябе папрасіў Сцёпа.— Я ўжо колькі часу ў партызанах, а ні разу не пабываў у нямецкім гарнізоне...

— Колькі табе гадоў? — павярнуўся да яго ўсім целам Ядыкін.— Дзевятнаццаць, кажаш? Як бы і не хлапчук ужо, а памкненні дзіцячыя. Вайна — гэта не гульня, не рамантыка. Адзін неасцярожны крок і... Так што не крыўдуй. У гар-

нізон я цябе не вазьму,— і, рашуча адвярнуўшыся, нацягнуў на галаву саматканую сялянскую пасцілку.

Раніцай, калі вярталіся ад лясной ручаіны, дзе звычайна мыліся, Ціша шкуматнуў Сцёпу за рукаў:

— Слухай сюды. Быў на досвітку ў Радчанкі, ну, у штабіста. Сёння ідзём у Краснае, пасля абеду.

— Што ж, шчаслівай дарогі,— шчыра пажадаў Сцёпа.

— Ты не зразумеў. Я сказаў не «іду», а «ідзём». Гэта значыць удвух, з табой. Фэрштэйн? — заступіў яму дарогу Ціша.— Так што рыхтуйся.

Сцёпа адчуў, як душу яго пачынае запаўняць ці то радасць, ці проста ўсхваляванасць ад такой прапановы, і яму раптам захацелася моцна абняць сябра: малайчына Цішка, мабыць, дайшло нарэшце да цябе, што не магу я вось так, іншы раз цэлымі суткамі адлежвацца на нарах. Я прыйшоў сюды, каб дзейнічаць, кожную мінуту рабіць нешта карыснае... Услых прамовіў:

— Ну, дзякуй, друг. Калі папраўдзе, пасля ўчарашняга не чакаў ад цябе такога. Думаў нават перабрацца на другое месца, каб не спаць побач.

Ціша весела зарагатаў.

Так, нялёгкай была Цішкава дарога да сувязной-каханай. Гэта адчуў Сцёпа, калі яны на сваіх дваіх адмахалі, мяркуючы па часе і тэмпу хады, кіламетраў дваццаць. А гэта ж была толькі палавіна дарогі. Ногі аж гудзелі. Спіна ўзмакрэла так, што гімнасцёрку можна было выкручваць. А наперадзе ж яшчэ столькі...

— Давай прысядзем, аддыхаемся, не на пажар жа,— не то прапанаваў, не то папрасіўся Сцёпа.

Ціша спыніўся, спагадліва паглядзеў на хлопца.

— Ведаеш, братка-беларус, а ў нас у Сібіры адлегласць у сто кіламетраў — гэта не адлегласць. На адзін пераход з прывалам. А тут жа ўсяго нейкіх сорак. Раз плюнуць і...

— Добра. Ты паплюй, а я вось павалюся, і няхай ногі трохі адыдуць. А то сталі нібы чыгунныя...— І Сцёпа з асалодай расцягнуўся на аксамітнай прыдарожнай траве, паклаўшы ногі на купіну. Для адтоку крыві, як некалі вучылі ў інстытуце на занятках па ваеннай падрыхтоўцы.

Ужо добра звечарэла, калі наблізіліся да красненскага гарнізона. На фоне светлага яшчэ неба выразна вырысоўваліся выпуклыя купалы царквы і вярхушкі рэдкіх дрэў — тапаляў і ліп. Дахаў і стрэх будынкаў разабраць ужо было нельга.

З боку, дзе праходзіла чыгунка, ударыў кулямёт карот-

кай чаргой. Метраў за пяць-сем наперадзе падняўся і апаў ланцужок пясчаных фантанчыкаў.

— Пужаюць,— нервова скрывіў губы Ціша і прысеў на кукішкі.— Яны заўсёды, як змяркаецца, пачынаюць метадычна прастрэльваць гэта месца. На ўсякі выпадак. Вунь, бачыш вышку? Адтуль. Не звяртай асабліва ўвагі. Наступную чаргу пашлюць сюды мінут праз восем-дзесяць.

І праўда, хлопцы адолелі ўжо добры кіламетр, калі ззаду зноў пачулася кулямётная чарга.

— А вось як добра сцямнее, пачнуць пускаць ракеты. Пунктуальна. Праз кожныя пяць-шэсць мінут. Тут ужо не марудзь, адразу туліся да матухны-зямелькі. Бо і з боку гарнізона можа лупянуць буйнакаліберны, ды яшчэ разрыўнымі,— павучаў далей Ціша. А Сцёпа адчуваў, як унутры яго ўсё напружваецца, збіраецца як бы ў адзін камяк, як самі сабой абвастраюцца зрок і слых, як ногіператвараюцца ў спружыны, гатовыя ў любое імгненне пусціцца бягом або зрабіць скачок управа ці ўлева. Душэўна-фізічная мабілізацыя ўсіх сіл, як любіў казаць прафесар псіхалогіі. Мабыць, яна.

Колькі ж такіх мабілізацый давялося перажыць яму за два бясконца доўгія гады вайны!

Перад тым як увайсці ў мястэчка, Ціша прысеў на траву, паказаў рукой месца побач для Сцёпы і шэптам даў апошнюю параду-ўказанне:

— Далей — ні слова, ні шолаху. Зразумеў? Справа і злева, метраў за дзвесце адзін ад аднаго дзоты, там — немцы. Уся мясцовасць прастрэльваецца. Давядзецца папластунску. Трымайся за мной. Ну, з Богам.

Ціша Ядыкін яшчаркай шмыгнуў наперад, Сцёпа — услед. Мінуўшы адкрыты невялікі лужок з ужо скошанай травой, яны неўзабаве апынуліся ў агародзе, дзе рос высокі бульбоўнік. Папаўзлі па баразне. З ціхім шыпеннем у неба ўзляцелі дзве асвятляльныя ракеты і прыціснулі хлопцаў да пахнучай кропам зямлі. Сцёпа выразна ўбачыў у баразне чырвоныя галоўкі дажджавых чарвякоў-выпаўзкаў, на якіх некалі так багата лавіў гарбатых акунёў.

Прыўзняў галаву і ўбачыў, што Цішы наперадзе ўжо не відаць. Паспяшаўся наперад. Ядыкін стаяў, прытуліўшыся да бярвенчатай сцяны хлява. Далей ляжаў даволі прасторны двор, зарослы травой — мабыць, у гаспадароў не было аніякай жывёлы,— а за ім вялікі дом-пяцісценка.

— Тут? — крануў Сцёпа сябра за плячо. Адчуў, што мускулы Цішы напяты, нібы струна, якая павінна вось-вось

лопнуць, і міжволі прашаптаў: — Ідзі, я не падвяду. Не бойся.

Ціша зайшоў у дом без папярэдняга стуку — ведаў, канечне, сакрэт усіх хітрых запораў. А Сцёпа наблізіўся да брамы, за якой пралягала шырокая, пэўна, галоўная ў мястэчку, вуліца. Каля весніц стаяла калода. Стаў на яе і выглянуў на вуліцу. Направа, далекавата адсюль, то ўспыхвалі, то гаслі маленечкія чырвоныя кропкі. Колькі іх? Па гарызанталі — адна, дзве, тры. Значыць, трое. Кураць. Патруль. Набліжаецца ў гэты бок.

Цікава, ці заходзяць немцы ў двары? Вось адзін, крайні агеньчык аддзяліўся і паплыў убок. Неўзабаве пачуўся глухі стук.

Так, заходзяць. А вось ці пускаюць іх людзі? Мабыць, не. Стук не паўтараецца, і агеньчык, што быў адарваўся ад двух іншых пасярэдзіне вуліцы, зноў паволі плыве назад.

На ўсякі выпадак Сцёпа, каб яго знячэўку не засталі ля весніц, мякка саступіў з калоды і пракраўся за вугал хаты. Такая прадбачлівасць аказалася вельмі дарэчы. Патруль спыніўся якраз насупраць дома, дзе зараз ладзіў нейкія справы Ціша са сваёй сувязной. Немцы напаўголаса крыху аб нечым пагаварылі, потым адзін з іх падышоў да весніц і колькі разоў грукнуў у іх прыкладам.

Сэрца ў Сцёпы моцна тарганулася і нібы спынілася. Што рабіць, калі раптам немцы будуць настойваць, каб ім адчынілі? Страляць? Але ж гэта немінучая гібель сувязной і яе сям'і, калі яна ў жанчыны ёсць... Ці чуе грукат Ціша? Мо храпе там пасля салодкіх абдымкаў?

«Э, будзь што будзе, сябра ў бядзе пакідаць нямож-на»,— канчаткова рашыў сам сабе Сцёпа. Тым больш што стук у весніцы паўтарыўся, і ўжо больш патрабавальна. Загрукалі і ў вароты — значыць, падышлі і двое другіх. Зараз пачнуць ламаць. Сцёпа наставіў аўтамат на вароты, узвёў затвор.

Маланкава прынятае рашэнне адразу як бы супакоіла, ураўнаважыла нервы, ва ўсякім выпадку сэрца больш не трымцела, а забілася роўна, у спакойным рытме.

І тут з-за спіны ўзнікла і праплыла міма яго да весніц жаночая постаць у белым.

— Хто там? — прагучаў дрыготкі голас.— Што вам ноччу трэба?

— Праверка,— пачулася з-за брамы.— Бандыты ёсць?

— Якія там бандыты? Хіба асмеляцца? — насмешліва адказала жанчына.— Так абгароджана вакол, што мыш не

пралезе. Лепш бы не мяшалі людзям спаць,— і крыху штучна засмяялася.

— Корошо, хозяйка, спать,— адказалі з вуліцы.

Апошнія гэтыя словы Сцёпа пачуў, калі ўжо быў на гародзе. Побач з ім перарывіста, як пасля доўгага бегу, дыхаў Ціша.

— Першы раз такое,— ледзь чутна прашаптаў ён.— Малайчына Зінуля, умомант зарыентавалася. Пайшлі...

Толькі пасля гэтых слоў Сцёпа расслабіў анямелыя рукі і паставіў аўтамат на засцерагальнік. Яны рушылі назад па старой дарозе. Даволі ўдала прашмыгнулі між агнявымі кропкамі гарнізона і неўзабаве апынуліся на параўнальна бяспечным участку шляху. Адно, што магло крыху непакоіць,— гэта магчымая засада. Ды наўрад ці будуць немцы рабіць яе на адкрытай мясцовасці. Вось узлессе — там справа іншая. Але да яго кіламетраў пяць. Сцёпу раптам страшэнна захацелася есці, ну так, што аж у жываце забуркатала. Сказаў пра гэта Ядыкіну. Той самазадаволена паляпаў па бязмерных кішэнях сваёй курткі:

— У нас з Зінуляй завядзёнка такая: перш-наперш аператыўныя звесткі і харч на дарогу, а потым ужо ўсё астатняе. Так што не думай, знянацку немчыкі нас не засталі.— Ён, крыху збочыўшы, сеў і пачаў выкладваць на белую анучыну сала, хлеб, цыбулю. З унутранай кішэні дастаў плоскую бутэльку.

— Самагонка? Давай пакінем да лагера.

— Будзь па-твойму. Далекавата яшчэ дыбаць, а яна, зараза, толькі напачатку бадзёрыць, а потым — наадварот... То садзіся. Перакусім і — ногі ў рукі...

Над гарнізонам раз за разам узляталі і, прачарціўшы ў чорным небе невялікую светлавую дугу, рассыпаліся на дробныя чырвоныя іскры нямецкія ракеты. Вораг не спаў.

* * *

Вярнуўшыся ў лагер, Сцёпа ў першую чаргу наведаў Віцьку. Віцька, бледны, схуднелы, але з вачыма, поўнымі аптымізму, сустрэў яго радасна:

— Во глядзі, я ўжо нават магу спусціць нагу долу, і не надта тузае. А мінула не болей за паўмесяца! — І адразу прадэманстраваў свае магчымасці. Але тут жа войкнуў і хуценька вярнуў параненую нагу на нары. Лоб яго пакрыўся кропелькамі поту.

— Баліць? — спачувальна спытаў, сядаючы на нары, Сцёпа.

— Баліць, халера,— пакутліва ўсміхнуўся Віцька.

— А што цёця Даша кажа?

— А што ёй? — з крыўдай пачаў хлопец.— Парэзала ўсю ступню і думае — ласку зрабіла. Цяпер во ляжы, пакуль швы зарастуць...

— Дык інакш нельга было, Віцька, яна ж ведае, доктар. У цябе косці раструшчаны,— разважыў Сцёпа.

— Ну і што што косці? У мяне за год да вайны конь вялікі палец на назе капытом раструшчыў. Дык мамка абклала яго трыпутнікам, туга абматала анучынай, і дзён праз дзесяць ужо мог хадзіць, хаця і на пяце. А тут во ляжы...

— А тут не вялікі палец, а ўся ступня, розніца, як бачыш, вялікая. Так што ляжы і не рыпайся.— Сцёпа палез у кішэню і дастаў загорнутыя ў старую газету кавалак вяндліны і хлеб.— Во, гасцінец табе ад цёткі Зіны.

— Якой Зіны? — Віцька ўпіўся зубамі ў вяндліну.

— Ёсць такая. Сувязная наша. Мы з Ядыкіным хадзілі да яе.

— Далёка?

— Адсюль не відаць.

— Дык ты ўжо ў разведцы?

— Не, проста напрасіўся ў Цішы.

— Слухай, а ты папрасі Рашчэню, каб узяў цябе ў сваю групу. Во хлопец! — падняў вялікі палец Віцька.— З ім не прападзеш.

— Але ж во ты ледзь не прапаў,— усміхнуўся Сцёпа.

— То ж выпадкова. Можна сказаць — сам вінаваты. Трэба было больш уважліва глядзець пад ногі. Фрыцы ў спешцы кепска замаскіравалі свае лавушкі. Вопытны чалавек адразу б заўважыў...

— У мяне таксама падобнага вопыту не стае. Але тваю прапанову схадзіць з Рашчэнем на «жалезку» прымаю. Сёння ж, калі ён не на заданні, перагавару.

— І правільна зробіш. З такім надзейна. Ён мяне на ўласным гарбу, мабыць, кіламетры са два пёр. Ды яшчэ подбегам.

— Ну, папраўляйся,— падняўся з нараў Сцёпа.— Давай лапу. Пайду трохі пакімару, а то не спаў ноч...

Адразу легчы спаць Сцёпу не ўдалося. На паўдарозе да зямлянкі нос у нос сутыкнуўся з Рашчэнем, кумірам Віцькі Кудлы. Падрыўнік кудысьці яўна спяшаўся.

— Здароў, Жора, куды чэшаш? — паспрабаваў заступіць яму дарогу Сцёпа.

Той не спыніўся. На хаду кінуў:

— Там,— паказаў рукой у глыб лесу,— рабяты тол дабываюць. Трэба памагчы.

— І я з табой,— гукнуў услед Сцёпа.

Рашчэня, не азіраючыся, прызыўна махнуў рукой: пайшлі.

На невялікай паляне гарэла вогнішча. Над ім на трох камянях стаяла жалезная бочка з-пад бензіну. Над ёй падымалася ледзь прыкметная пара. Барадаты хлопец разпораз апускаў у бочку доўгую, падобную на качаргу, палку і нешта з натугай паварочваў. Другі сядзеў непадалёку і дыміў самакруткай.

— Што ён там варочае? — пацікавіўся Сцёпа.

— Снарады.

— А калі?..

— Разумею. Колькі хлопцаў загінула, выплаўляючы тол на вогнішчы. Але тут такое не здарыцца: у бочцы вада, яе кіпенне сто градусаў, тэмпература, пры якой тол можа плавіцца, ды не ўзрывацца. Ну і, само сабой, перш чым апусціць снарад у бочку з кіпенем, вывінчваецца дэтанатар. А гэта ўжо страхоўка, нават — гарантыя, што выбуху не будзе.— Рашчэня парукаўся з сябрамі, спытаў, колькі «здабылі» ўзрыўчаткі, і прысеў ля партызана, які курыў.

— Такая справа, Змітрок: паведамілі, што заўтра з Маладзечна ў бок Мінска пойдзе нямецкі эшалон. З жывой сілай і тэхнікай. Крутых адхонаў няма на гэтым участку, таму спатрэбіцца кілаграмаў дзесяць толу...

— Да вечара набяром,— упэўнена адказаў падрыўнік і паказаў на горку снарадаў,— вунь колькі іх яшчэ абрабіць трэба.

— Памочнікі трэба? — спытаў Рашчэня.

— Не пашкодзіла б,— адказаў Змітрок і жыва зірнуў на Сцёпу.— Хочаш з намі?

— Хачу. Узамен Віцькі,— ахвотна адклікнуўся Сцёпа.

Змітрок паглядзеў на барадача.

— Вась, новая кадра прыбывае. Возьмем?

Барадач азірнуўся, усміхнуўся маладой белазубай усмешкай:

— Калі Жора за, то і я не супраць. Прытым бачыў, як яго і Віцьку Данской пад канвоем гнаў па лагеры. А яны хоць бы хны. Значыць, не баязліўцы.

Рашчэня пружыніста падхапіўся на ногі.

— Дамовіліся. Я зараз пайду ў штаб, пасядзім з Рабчанкам над двухвёрсткай. Трэба месца зручнае выбраць. А вы тут...

— Што мы? — адышоўся ад вогнішча барадач.— Мы сваю справу ведаем. Толькі вось жывот да хрыбетніка падвяло, а начальнік і вухам не вядзе...

Рашчэня як бы трошкі зніякавеў ад такога выказвання, але адказаў бадзёра:

— Зараз Гурскі прынясе вам цэлую шабэту яды. Толькі не канюч тут. Пайшлі, Сцяпан.

* * *

На «жалезку» пайшлі надвячоркам, калі яшчэ і сонца не схавалася. Для правядзення дыверсіі Рашчэня разам з начальнікам штаба Рабчанкам выбралі даволі зручную мясціну — дзе чыгунка робіць не вельмі значны, але ўсё ж паварот, тут зыход цягніка з рэек пры выбуху непазбежны. Пазнаёміўшыся з картай-двухвёрсткай, Змітрок аж падскочыў з цурбана:

— Дык я ж радзіўся там непадалёк. І паварот гэты ведаю. На правы бок — адхон дай ты Божа, метры на два, а то і болей будзе...

— Хвілінку,— спыніў яго камандзір.— Давай без эмоцый. Найкарацейшую дарогу туды ведаеш?

— А то як жа? Пойдзем цераз Трусавічы, а там... Карацей, я паперадзе, а вы за мной.

— Абапал дарогі агнявыя кропкі немцаў,— нагадаў Георгій.— Ведаеш іх размяшчэнне?

— Прыйдзем на месца — усё самі ўбачым,— не разгубіўся Змітрок.— Немцы ж праз кожныя дзесяць — пятнаццаць мінут пасылаюць у неба альбо кулямётныя чэргі альбо ракеты. Ноччу, канешне.

Сцёпа ўспомніў, як яны з Цішкам Ядыкіным хадзілі ў Краснае і там сапраўды немцы праз пэўныя прамежкі часу асвятлялі мясцовасць. Мабыць, такое вялося з першых дзён з'яўлення ў гэтай мясцовасці партызан паўсюдна.

Ішлі па лесе без гаворкі. Неўзабаве добра-такі сцямнела. Але вочы прывыклі, і відаць былі не толькі дрэвы, а нават тоўстыя вузлы каранёў на дарозе. І ўспомніўся Сцёпу адзін вечар, калі ён, дзевяцікласнік, і яго сябры ладзілі ў школе вечарынку. Тады, пасля вечарынкі, ён пайшоў праводзіць дзяўчыну. Яны ішлі па вось такой, як гэта, соннай дарозе ў Ганакі, дзе дзяўчына працавала настаўніцай пачатковых класаў. Звалі яе Надзя. Гаварылі пра ўсё. Ён пра тое, што захапляецца гармонікам, бо толькі праз музыку можна выказаць настрой душы, а яна — пра тое, як пасля шасцімесячных курсаў трапіла з далёкага адсюль раёна ў Ганакі і як

ёй нялёгка тут жыць. Недзе на паўдарозе да Ганакоў спыніліся, пацалаваліся і ледзь было не... Ды ў апошняе імгненне нешта спыніла Сцёпу...

— Ну і дурань! — услых сказаў Сцёпа.

— Разговорчики! — кінуў Рашчэня, і Сцёпа адразу вярнуўся да рэальнасці.

Лес быў пахмурны, і дарога... Не, не такая гладкая, як ад Бушавіч да Ганакоў. Тут на любым метры можаш расцягнуцца пластом. Так што глядзі пільней пад ногі, партызан, і не забывайся, летуценнік, дзе знаходзішся. Можа, за тым вось паваротам цябе чакае куля.

Выйшлі на чыгунку ўдала: толькі-толькі пагасла асвятляльная ракета і адгрукатаў крупнакаліберны кулямёт.

Заляглі.

— Сцяпан,— прашаптаў Рашчэня,— ты зараз ідзеш з Васілём на «жалезку». Са мной застаецца Змітрок. Міну будзеце ставіць са шнуром. Разумееце? Выбух адбудзецца толькі тады, калі мы са Змітраком ірванём за шнур. Ну, хлопчыкі, з Богам.

Адхон, не, не сам адхон, а трава на ім — сухая. Значыць, днём будзе дождж. А гэта толькі на руку падрыўнікам. Дождж, ён змывае ўсе сляды.

Сцёпа адразу нагледзеў зручную для закладкі міны ўпадзінку: не трэба глыбока капаць ды і рэйка — побач: грымне выбух, і яна разляціцца на кавалкі. Але... Вунь цьмяна абазначыліся тры чалавечыя постаці. Скочвайся, хлопец, уніз і злівайся з зямлёй. Ох, як павольна яны шкрэбаюць ботамі, чаго добрага, яшчэ прыпыняцца на перакур... Не, дзякуй Богу, пашкрэбалі далей, цяпер аж да чарговай кулямётнай вышкі.

Можна зноў на дарогу. Васіль спрытна працуе сапёркай, высыпаючы зямлю на хустку, Сцёпа асцярожна ўстаўляе ў важкую толавую пліту дэтанатар, наглуха замацоўвае яго і чапляе за адцяжку кручок шнура, другі канец якога трымаюць там, у лагчыне, хлопцы.

Вось ужо міна засыпана і старанна замаскіравана, шнур прапушчаны пад рэйку і таксама прысыпаны жвірам. Здаецца, усё добра. Можна зноў каціцца пад адхон.

І тут справа, з боку Маладзечна, пачуўся гул. Сцёпа паклаў на рэйку руку. Рэйка ледзь улоўна трымцела. На цёмнай сцяне лесу ўзнік слабы чырванаваты водсвет. Вось ужо чуваць і пыхканне паравоза, лёгкае, не натужнае. Значыць, і скорасць прыстойная, мабыць, на ўсю катушку. Тым лепш, большы эфект будзе ад выбуху.

Сцёпа з Васілём мігам скаціліся з насыпу і, падняўшыся на ўвесь рост, кінуліся да падлеску, дзе ляжалі Жора і Змітрок. Не дабеглі да іх метраў пяцьдзесят, як пачуўся крык Рашчэні:

— Кладзіся!..

Хлопцы чмякнуліся вобземлю, затулілі галовы рукамі.

І адразу ж вухнула. Ды так, што аж зямля здрыганулася. Мабыць, на дзесяткі кіламетраў быў чуваць той выбух...

Вярталіся ў лагер як нежывыя. Кепска слухаліся ногі, вялыя былі рукі. Словам, нядобра было.

Калі зайшлі ў сваю зямлянку, Змітрок сказаў:

— Справу сваю мы зрабілі няблага. А што крыху кантузіла, тут ніхто не вінаваты. Так склалася. І вось што, хлопцы, Сцяпан малайчына. Хай, калі хоча, будзе ў нашай групе заўсёды.

* * *

Раніца пачалася з таго, што камісар атрада Сядых выклікаў Рашчэню і спытаў, ці добра ён ведае хлопцаў сваёй групы. Жора, мабыць, па тым часе прыроджаны падрыўнік, адказаў адразу:

— За хлопцаў сваіх я ручаюся.

— Добра. А Сцёпа? Ён жа быў ва ўласаўскай арміі.

— Я гаварыў са Сцяпанам пра гэта. Ён быў не ў арміі Уласава, а з уласаўцамі, і то ўсяго два дні. Яго ж адпраўлялі на рабства ў Германію. Я яму веру, як і Віцьку Кудлу, які ледзь не загінуў на заданні.

— Добра. Але ж яны прыйшлі з Мінска, Гурскі і Кудла. Там жа, сам ведаеш, фашысты...

— Там больш падпольшчыкаў, чым фашыстаў, таварыш камісар. Той самы наш рэзідэнт Пікус робіць больш, чым уся атрадная разведка. А можа, і брыгадная...

— Добра,— нарэшце згадзіўся камісар.— Ідзіце адпачываць. А мы тут падумаем.

Жора Рашчэня быў чалавек цікаўны, не прамінуў спытацца:

— І пра што вы мяркуеце падумаць? Калі не ваенная тайна, канечне...

У камісара атрада Сядых твар быў заўсёды адносна спакойны, як бы непранікальны, а тут, пры апошнім пытанні Жоры, быццам расцвіў:

— Ды зразумей ты: дакладныя даныя маем пасля вашага паходу на чыгунку: знішчана 16 танкаў, 34 гарматы

і 68 чалавек абслугі. Камбрыг прадставіў вас усіх да ўрадавых узнагарод. Цябе — на ордэн Чырвонага Сцяга.

— Што ж,— распаволена адказаў Рашчэня,— дай Бог чутае бачыць.

* * *

Да ўзнагарод было далёка-далёка. Не па часе, а па тых маючых адбыцца падзеях, што адгукнуліся ў лагеры ад вясковых сувязных: немцы рыхтуюцца да блакады. А гэта значыць, што самалёт з Вялікай зямлі не зможа прызямліцца і забраць узнагародныя дакументы, а таксама параненых, такіх, як Віцька Кудла. Блакада, мяркуючы па ўсім, будзе працяглай.

Пачыналася яна са сцягвання з франтоў многіх дывізій, перад якімі ставілася задача расчысціць дарогу для адступаючай, але яшчэ не пераможанай нямецкай арміі. Партызанскі заслон быў магутны — увесь народ. І таму немцы не шкадавалі ні танкаў, ні самалётаў, ні артылерыі.

Пачалі яны, акупанты, з таго, што сталі бамбіць вёскі. Проста так, не думаючы, што там жывуць не адны толькі бандыты, як звалі яны партызан, але і дзеці, і старыя, і калекі. Акупанты, асабліва лётчыкі, любілі забаўляцца: пальне з кулямёта вёску і тады глядзіць у бок лесу, куды ўцякаюць людзі. Разварочваецца і, высоўваючы галаву з кабіны, рагоча, маўляў, рус капут. Потым націскае на гашэтку кулямёта. Забівае.

За што? Навошта?

Паспрабуй растлумачыць. Ён, мабыць, перакананы, упэўнены, што робіць правільна.

Думаючы пра гэта, Сцёпа міжволі сказаў уголас:

— А што, калі іх крыху прыструніць? Лятаюць жа нізка, на брыючым...

— Што ты там мармычаш? — зірнуў на яго Рашчэня.

— Жора, ты бачыў, як нахабна, уразвалачку ды нізка лятаюць нямецкія самалёты над вёскамі? Гэта «месеры», «юнкерсы». А разведчыкі дык наогул ледзь не завісаюць у паветры. І абсалютная беспакаранасць. Аж крыўдна робіцца.

— Ну, ну,— хмыкнуў Рашчэня,— з вінтовачкі пужанём? Так, ці што?

— Менавіта так. І не трэба пасміхацца. Я, напрыклад, упэўнены, што не прамажу. Усё-ткі быў чэмпіёнам інстытута па стральбе. Ды ці мала снайпераў у нас у атрадзе, у брыгадзе...

— Ідэя, зрэшты, неблагая,— пагадзіўся Рашчэня.— Толькі збіць самалёт — справа выпадку. А нам патрэбен вярняк. Асабліва зараз, перад блакадай. Ахнуць бы яшчэ адзін эшалончык...

— А хто не дае?

— Толу бракуе,— азваўся са свайго кутка Змітрок.— Усяго з паўпуда набярэцца, не болей, надта не разгонішся...

— Не так і мала, калі мець на ўвазе шашу,— зазначыў Васіль.— Раздзяліць тол на дзве-тры порцыі і...

— А што, шашу мы і праўда даўнавата не турбавалі,— жыва павярнуўся да яго Рашчэня.— Усё чыгункай захапляемся. Давайце згарбузуем пару націскных ды і ўстановім на магістралі, што вядзе сюды ад цэнтра. Нашы там пакуль не ездзяць. А фрыцаўскі танк ці грузавік абавязкова сканае. Га? Як мысліш, студэнт? — запытаў Сцяпана.

— Бліскучая ідэя! — не без іроніі заўважыў той.— Вось толькі не забыцца ўказальную стрэлку намаляваць, куды колам ці гусеніцай ехаць...

— Кінь пакепліваць,— сур'ёзна адказаў Рашчэня.— Магістраль не такая ўжо шырокая. Калі з галавой паставіць, упэўнены, што ўжо першая ж машына напарацца.

— Асабіста я не супраць. Толькі скажы, што значыць ставіць «з галавой»? Не, я дапраўды не ведаю.

— Вось дзівак. Ды гэта ж вельмі проста. Не трэба ставіць міну пасярод дарогі альбо каля самай узбочыны. Тады гарантыя наезду ўсе дзевяноста працэнтаў. Рыхтуйце, хлопцы, пакеты. Пасля абеду і рушым. Трэба паспець да аўтамагістралі яшчэ за́відна. Думаю, махнём пад Заслаўль...

— Не, лепей пад Менск. Там рух гусцейшы,— прапанаваў Змітрок.

— А што? Бадай, твая праўда,— крыху падумаўшы, пагадзіўся Рашчэня.— Там большы вярняк, хаця і рызыка большая.

— Рызыка ў апошнія дні ўсюды аднолькавая,— сказаў Васіль.— Усё наваколле набічкавана танкамі, артылерыяй. Ды і самалёты гудуць ад золаку да змяркання... Так што выбіраць няма з чаго. Дзе бліжэй, туды і трэба ісці.

— Значыць, пад Менск,— паставіў кропку камандзір.

Як і дамаўляліся, выйшлі з лагера адразу пасля абеду. Быў канец мая, і сонца грэла ва ўсю сваю моц. Надвор'е стаяла ціхае, і ў лесе было душнавата. Пахла сасновай смалой і верасам. Сцёпа адчуў, што ў яго пачынае макрэць спіна, і расшпіліў паддзёўку. Сваю любімую шапку-кубанку збіў набакір, выцер насоўкай лоб.

— Упарыўся, студэнт? — кінуў на яго быстры позірк Рашчэня.

— Можна падумаць, што табе не душна,— усміхнуўся Сцёпа.— Зараз бы, Жора, на свежы ветрык...

— Скора,— азірнуўся Васіль, які быў за праваднікa.— Шчэ кіламетраў з пяць, і лес кончыцца. Вальней стане дыхаць.

«Вальней,— паўтарыў у думках Сцёпа.— Гэта як яшчэ сказаць. А раптам там, на ўзлессі, засада. Можа такое быць? Яшчэ як! Немцы ж любяць узлессі. А самалёты? Равуць без спыну ў небе. Умомант заўважаць. Нават без спецыяльных аптычных прыбораў. Так што лепш ужо лясны духмень, чым палявы ветрык-свяжун...»

Падумаў гэтак, але ўголас не сказаў нічога — хлопцы могуць западозрыць, што баіцца студэнт...

— Васіль! — нягучна аклікнуў Рашчэня вядучага.— Колькі ўжо адмахалі?

— Нямнога. Кіламетраў з дзесяць набярэцца.— Васіль спыніўся.— Яшчэ столькі і паўстолькі, і будзем на месцы.

— Не станем гнаць вараных,— апусціўся камандзір на замшэлы пень.— Зробім прывал.

Сцёпа палез у кішэнь па запаветны капшук.

Над лесам, ледзь не чапляючы коламі за вярхушкі стромкіх соснаў, няспешна праляцеў разведчык-«страказа». Сцёпа міжволі быў пацягнуўся да Васілёвай трохлінейкі, але тут жа апусціў рукі.

— Эх, каб не лес!..

— Няўжо папаў бы? — з недаверам паглядзеў на яго Васіль.

— У гэтага? Як раз плюнуць,— аж успыхнуў Сцёпа.— У нас, у інстытуце, быў рухомы стралковы стэнд, называўся «Бягучы дзік». Дык ніводнай кулі не паслаў міма. Усе ў дзесятку ды дзевятку... А тут гэткая махіна!.. Слухай! — падсеў да Васіля блізка-блізка.— Давай махнём. Я табе аўтамат, а ты мне свой вінтарэз. Бранябойна-запальныя ёсць? То і цудоўна. Паспрабую папаляваць на гітлераўскіх «люфтаў».— Павярнуўся да камандзіра.— Можна, Жора?

— Давай, калі ўжо гэтак прыспічыла. А зараз пайшлі далей.

Гадзіны праз дзве лес пачаў як бы радзець, і неўзабаве засвяцілася між дрэваў узлессе. Пастаялі, раздзяліліся па аднаму, каб не стаць у выпадку засады калектыўнай мішэнню, і ланцужком паціху рушылі наперад. Адразу за лесам пачынаўся луг, месцамі парослы лазовым хмызам: за тры

ваенныя гады тут, канечне ж, ні разу не прайшоўся кустарэз ці руплівы гаспадар з сякеркай. Што ж, хлопцам гэта толькі на руку. Ёсць дзе затуліцца ад вока паветраных разведчыкаў. Вунь, на тым баку рачулкі, што змейкай пераразае луг, якраз кружыць «рама». Кажуць, што ў яе вельмі моцная оптыка — з вышыні тысячы метраў усё як на далоні відаць. А вунь яшчэ адзін самалёт падняўся. «Страказа»? Яна. Аднакрылая. Скорасць, як у планера...

«Няхай бы сюды скіравала! — захваляваўся Сцёпа і пачаў падсвядома заклікаць: — Ну, сюды, сюды, міленькая...» Не. Павярнула налева, нізенька прайшлася над узлессем, потым вярнулася назад, дзе, відаць, была шаша.

Няцяжка было здагадацца, што самалёт-разведчык «вынюхвае», ці не пагражае магістралі якая небяспека.

«Пагражае,— ледзь не ўсклікнуў Сцёпа.— Вось адсюль, з лугавога хмызняку»,— і яму чамусьці стала весела. Першапачатковае хваляванне прайшло. З'явілася выразнае прадчуванне, нават упэўненасць, што дзень сённяшні менавіта для яго, Сцёпы, будзе незвычайны, асабліва ўдачлівы. Ён загнаў у магазін вінтоўкі абойму бранябойназапальных патронаў, прыціснуў прыклад да пляча: так, рука цвёрдая, мушка не ўздрыгвае, нават не варухнецца.

А «страказа», зрабіўшы невялікі круг, ужо разварочвалася сюды, на астравок хмызняку, дзе прытуліліся падрыўнікі.

«Ну, ну!.. Давай... Давай жа»,— нецярпліва шаптаў хлопец. Але самалёт паволі пачаў адварочваць управа. «Метраў за сто, сто пяцьдзесят, гадзюка, праляціць! Можа, паспрабаваць?» — і, падняўшы вінтоўку, ударыў з апераджэннем. Раз, другі. Праз рокат матора стрэлаў амаль не было чуваць.

І... самалёт гайдануўся, клюнуў носам і адвесна каўзануўся ўніз. Грымнуў выбух. Над месцам падзення ўзняўся слуп агню і дыму.

Рашчэня асіплым голасам падаў каманду бегчы назад, да лесу, і першым, прыгнуўшыся, пабег. А ззаду пачаў імкліва нарастаць гул нямецкай «рамы». Паласнула працяглая кулямётная чарга, за ёй другая, і самалёт пайшоў на другі заход. Хлопцы зноў падхапіліся і рванулі да свайго зялёнага збавіцеля. Другая «порцыя» куль з «рамы» прыйшлася па сасновых ствалах.

Калі адбегліся на бяспечную адлегласць, Рашчэня раптам рухнуў на спіну і аж зайшоўся ад рогату:

— Як ты яго, Сцяпанка, га?!. Гэта ж трэба, ледзь не з першага стрэлу...

Весела смяяліся і Васіль са Змітраком, не без зайздрасці

паглядаючы на Сцёпу. А яму чамусьці было зусім нярадасна. На душы, недзе на самым яе донцы, утварылася нейкая шчымлівая пустата, ад якой і сонца нібы пацямнела, і лясныя фарбы сталі шэрымі. Такое ж пачуццё душэўнага апусташэння перажыў ён першы раз, калі на пачатку вайны забіў бушавіцкага галаварэза-паліцая.

— Давайце зматвацца, пакуль нас тут не занерацілі,— глуха прамовіў Сцёпа.

Жвава падхапіўся на ногі Рашчэня.

— Так, пайшлі,— і махнуў рукой у бок горада.— Туды. Там шукаць, бадай, не стануць.

* * *

Кляшчы блакады сціскаліся ўсё мацней. Падрыўным ды і іншым дыверсійным групам ужо практычна немагчыма было падабрацца да важных камунікацый акупантаў, асабліва да чыгункі. Заслон усюды стаяў настолькі шчыльны, што не прашмыгнуць. І гэтак аж з трох бакоў ад таго месца, дзе дыслацыравалася брыгада — з поўдня, усходу, захаду. Не закрытай пакуль заставалася дарога на поўнач, да вытокаў славутай Бярозы-ракі—на возера Палік з яго непраходнымі балотамі ў наваколлі. Ці не спецыяльна немцы не перакрылі выхад туды? Ці не расставілі недзе там, за Палікам, таксама жалезныя шлагбаумы, каб потым замкнуць кальцо блакады і бомбамі, снарадамі, голадам знішчыць партызан?

Мабыць, такой і была задумка гітлераўцаў. І тым не менш усе брыгады партызанскай зоны рушылі на поўнач, на Палік. Любы іншы накірунак выхаду з блакады мог закончыцца сакрушальным разгромам: супраць танкаў, самалётаў, артылерыі вінтоўкай ды аўтаматам многа не наваюеш. А балота? Жылі ж і жывуць там людзі, не гінуць жа. Дык чаму не зможа яно, хоць па чутках і непраходнае, прытуліць, захаваць на нейкі час партызан? Тым больш што час гэты не такі і працяглы. Калі прыкласці вуха да зямлі, можна выразна пачуць гул кананады на ўсходзе. Ды і самалёты, нашы, чырваназорыя, з'яўляюцца тут, над распалажэннем нямецкіх войск, лічы, штодня і бамбяць, паласуюць кулямётамі варожыя сілы. Немцы чамусьці ў паветраны бой з нашымі не ўступаюць. Ці то эканомяць, берагуць авіяцыю для будучых баёў на сваёй роднай зямлі, ці проста баяцца, бо нашы «ЯКі», «ІЛы», «лавачкіны» куды больш шустрыя, чым іхнія хвалёныя «месеры» ды «юнкерсы».

Прыкладна пра гэта перагаворваліся між сабой Сцёпа, Слава Тарашкевіч з радыстамі Арнольдам і Косцем, калі атрымалі загад збірацца на выхад з блакады. Вырашылі ісці разам. Сцёпа зноў узяў ручны кулямёт, Слава падрадзіўся да яго другім нумарам. Паважкалі зброю, рэчавыя мяшкі — цяжкавата выходзіла, ды не кінеш. У Арнольда з Косцем дэсантныя рукзакі — таксама як панесці. А тут яшчэ дзед Севасцянаў кліча НЗ атрымліваць. Пайшоў Слава і неўзабаве вярнуўся з палатнянымі торбачкамі, поўнымі аржаных сухароў і сушанай каўбасы.

— Малайчына дзед Ілья! — пахваліў старога гаспадарніка Арнольд. Адламаў кавалачак каўбасы і паклаў на язык, зажмурыўся.— Не паверыце, сама растае ў роце...

— Гурман,— злёгку піхнуў яго Косця.— Злопаеш без пары, а тады кукаваць будзеш...

— Не ў маіх правілах,— адмахнуўся Арнольд.— І нагул, што ты сам гадзінкі праз дзве запяеш? Ад заціркі ж адмовіўся раніцай...

З боку штабной зямлянкі пачуўся зычны голас старшыны Дубава:

— Усе на пастраенне-е-е!..

Строіліся на прасторнай паляне паўзводна. Радысты ў акружэнні групы Рашчэні ўладкаваліся ў хвасце першай роты. Так, для бяспекі, параіў зрабіць камандзір атрада: надзейная сувязь з іншымі атрадамі на маршы, бадай, не меней важная ў маючых адбыцца дзеяннях, чым зброя.

Пакінулі лагер, калі яшчэ не зусім развеяўся ранішні туман. Ішлі ціха, амаль бясшумна, калі не лічыць рэдкага палясквання на лясной дарозе падвод з гаспадарчым скарбам.

Сцёпа адчуў, што ў яго шчымліва заныла сэрца, быццам ён развітваўся не з часовым партызанскім жытлом, а з родным домам. Мабыць, тое ж адчуваў і Слава, бо калі Сцёпа спытаў яго пра настрой, ён толькі махнуў рукой:

— Лепей не пытайся... Мутарна нешта на душы...

Лясная дарога была звілістая, бясконца доўгая і, дзякуй Богу, няспешная. Частыя, мінут праз сорак, прывалы; прыпынкі ў чаканні данясенняў разведкі, іншы раз па паўгадзіны, а то і болей... Пры такім руху не надта адчувалася і вага кулямёта на плячы. Не тое што на баявым маршы. Там усё бягом ды бягом. На першым жа кіламетры спіна робіцца мокрай. А тут прагулка, не марш. Вось і яшчэ адзін няпланавы прыпынак: наперадзе засвіцілася ўзлессе, і разведчыкам неабходна ўсё агледзець, каб не трапіў атрад у якую

хітрую пастку. Воддаль ад узлесся цягнецца праз поле паласа густога бярэзніку — ці не замаскіраваліся там нямецкія кулямётчыкі? А вунь, наперадзе, куды трымае курс атрад, пагорак — найвыгаднейшая пазіцыя для засады...

Сцёпа прысеў на мохавую падушку, прыхіліўся спінай да цёплага сасновага ствала і пачаў скручваць цыгарку. Арнольд хуценька працягнуў яму пачак «Беламору»:

— Частуйся. З нашага НЗ.

— Дзякуй. А што заўтра закурыш?

— На падножны корм пяройдзем.

Слава Тарашкевіч ад папяросы адмовіўся:

— І так горка...

— Не падабаецца мне, Славік, што ты вось такі нейкі... сёння...

— Звычайны,— не падымаючы вачэй, адказаў той і шмаргануў завязку рэчавага мяшка.— Вы курыце на здароўе, а я тым часам падмацуюся.— Ён дастаў цэлае колца сухой каўбасы і ўпіўся ў яе белымі зубамі.— Каб не прападала дарма...

Ад гэтых яго слоў Сцёпу аж падкінула на месцы.

— Што ты глупства чаўпеш?! — ледзь не крыкнуў.— Можа, паміраць сабраўся?..

— Сцяпанка, любы мой дружа. Не хвалюйся ты без дай прычыны. Жыць я буду аж да самай смерці. І нічога кепскага не думай. Паглядзі лепш навокал, палюбуйся, прыгажосць якая...— Слава нарэшце падняў вочы, і Сцёпа, зазірнуўшы ў іх, падумаў, што той, мабыць, не бачыць ні яго, ні Арнольда з Косцем, а толькі вось гэты сапраўды невыказна прыгожы перадвячэрні ціхі лес. А можа, і лесу не бачыць Слава, бо вочы яго глядзяць як бы ўнутр, у самога сябе.

Сам сабой перад мысленным поглядам Сцёпы паўстаў вобраз Паўла Пяскова, атраднага падрыўніка з ваеннапалонных. Гэта быў ціхі, сціплы чалавек гадоў сарака, радавы, нічым не адметны працаўнік партызанскай сям'і: збіраў старыя снарады, выплаўляў з іх тол, майстраваў міны, хадзіў на «жалезку». І вось аднойчы ні з таго ні з сяго вечарам перад сном выйшаў на сярэдзіну зямлянкі і ці то проста сказаў, ці то папрасіўся:

— Давайце я вам пасняваю. Па-нашаму, па-курскаму...

З далёкага кута пачулася:

— Курскай салавей, што лі ча?

Павел нават не павярнуў у той бок галавы. Папрасіў Сцёпу:

— Падыграй, друг. Пра Волгу...

Сцёпа расцягнуў мяхі і, зірнуўшы на Паўла, падміргнуў: давай, маўляў, утры нос гаўкалу. Але Павел зусім не глядзеў на Сцёпу. Яго погляд быў скіраваны кудысьці ў прастору, а можа, і ўнутр самога сябе. Сцёпа так і не разабраўся тады, хаця ўражанне ад Паўлавых вачэй засталося нядобрае, трывожнае.

Як спяваў падрыўнік у той вечар! У яго аказаўся цудоўны, чысцейшага гучання тэнар. І чулі яго партызаны тады першы і апошні раз. Назаўтра ў лагеры, майструючы чарговую міну, Павел падарваўся.

А зараз вось такія ці амаль такія адсутныя вочы ў Славы... І прырода для яго раптам аказалася райскай. Раней жа нібы і не заўважаў яе. І словы нейкія дзіўныя: жыць буду да самай смерці...

Няўжо прадчуванне ў хлопца?..

Неўзабаве вярнуліся разведчыкі, і атрад рушыў далей. Цяпер ужо дарога не вілася па лесе, а выпрамілася на ўзлессі ў амаль прамую стралу аж да самага краявіду.

А што там, за асмужанай лініяй, якая аддзяляе зямлю ад неба? Пра гэта і запытаўся Сцёпа ў Арнольда. Ведаў, што ў таго ёсць цэлы камплект карт-двухвёрстак.

Арнольд падняў да вачэй планшэт:

— Наперадзе аўтамабільная дарога, хутчэй за ўсё гравійка. А адразу за ёю — што б ты думаў?

— Мабыць, зноў лес, гэта ж Лагойшчына...

— Амаль угадаў. Толькі лес не такі, як гэты, а рэдзенькі і нізенькі. Карацей, дрыгвяністае балота з карлікавай расліннасцю. Так што далей дарогі няма. Хутчэй за ўсё на гравійцы звернем налева і... аж да самага Паліка...

— Добра было б,— адзначыў Сцёпа.— Нават уначы рухацца можна...

— Добра-то яно добра. Але не апярэдзілі б нас фрыцы,— сказаў Косця.— Мне сувязныя перадалі, што яшчэ ўчора ўначы ў бок Паліка прайшло некалькі ўзброеных да зубоў падраздзяленняў. Так што...

— Так што можна чакаць сюрпрызаў,— умяшаўся ў гаворку Слава.— А нам начхаць. Праўда ж?

— Нешта ты дужа храбры сёння,— незадаволена буркнуў Сцёпа.

Слава адказаў светлай усмешкай:

— Слухай, Сцяпане, а чаго нам надта ўжо ляскаць зубамі? Ну, дапраўды. Мы ж на сваёй роднай зямельцы ваюем. За волю нашу. А яны? Што ім тут трэба? Дык хай

жа яны трасуцца, забойцы паганыя. Перад маім народам, перада мной. Наше дело правое...

— Ух ты,— паблажліва ўсміхнуўся Арнольд.— Табе б, Славік, не кулямётныя дыскі цягаць, а камісарскі маўзер. Не партызан, а трыбун усенародны...

— Пакепліваеш? Справа твая. Аднак тое, што я кажу, не проста прыгожыя словы, а голас душы.

— Мой Божа,— нечакана пачырванеў Арнольд.— Ды я і сам гэтак жа думаю. Толькі не трэба... Ну як бы лепей сказаць... афішыраваць...

Далёка наперадзе пратрашчала аўтаматная чарга, і Арнольд не закончыў сваю думку. Расцягнутая ледзь не на кіламетр партызанская калона хітнулася ўлева і знікла, нібы растала ў лесе. Арнольд тут жа зняў свой дэсантны рукзак з батарэямі для сілкавання рацыі, папрасіў хлопцаў у выпадку чаго не кідаць яго, а сам накіраваўся ў галаву калоны, да начальства.

Аўтаматныя чэргі ля гравійкі пратрашчалі яшчэ два разы, і ўсё сціхла. Сцёпа вызначыў: стралялі з ППШ. А хто? Нашы? Паліцаі? Толькі не немцы. Тыя прызнавалі толькі ўласныя «шмайсеры».

Арнольд вярнуўся хутка, мінут, мабыць, праз дзесяць. Тое, што ён паведаміў, не прынесла хлопцам радасці: Шведзік, камандзір атраднай разведкі, нос у нос сутыкнуўся ля гравійкі з нямецкім лазутчыкам, апранутым у цывільнае рыззё, і падстрэліў яго — прадзіравіў абедзве нагі, але без пашкоджання костак, і той яшчэ мог рухацца, нават спрабаваў бегчы. Давялося крыху дадаць. Тады той і запрасіў літасці: за жыццё — ваенную тайну.

А тайна гэта, калі верыць лазутчыку, такая: усю гравійку, аж да самых Песканіч, немцы заблакіравалі.

— Так што, браткі-беларусы, хош ня хош, а трэба вяртацца на кругі своя,— змрочна ўсміхнуўся Арнольд.— Слава нашай празорлівай разведцы, і няхай жывуць лясныя дарогі.— Узваліў на плечы важкі рукзак.— Амін!..

— Што, так вось ланцугом, а не калонай і пойдзем? — запытаўся Сцёпа.

— Часова. Такі загад. Пазней, увечары, перастроімся. І рушылі, хлопчыкі, жвавей. Няма часу рассусольваць...

Сцёпа зірнуў направа, налева. Суседзяў не відаць. Дзе ж яны? Праваліліся скрозь зямлю? Ага. Вунь, наперадзе. Далекавата, халера на яго...

— Пайшлі,— шкуматнуў Славу.

— Дык я ж цябе чакаю. Усё ніяк ігліцу не абтрасеш,—

і спачувальна ўсміхнуўся.— Шчэ не такое начапляем на сябе, пакуль выскачым з гэтай пятлі...

Недзе далёка ззаду глуха вухнула, і тут жа пачулася нарастаючае шалясценне. Міна!..

— Кладзіся! — крыкнуў Сцёпа і першы расцягнуўся на зямлі. Метры за два ад яго плюхнуўся Слава. Арнольд з Косцем укрыліся за старой разлапістай елкай.

«Зараз разарвецца,— ловячы вухам, як слабее палёт міны, са страхам пачаў утульваць Сцёпа галаву ў плечы.— Вось толькі ўдарыцца аб зямлю ці дрэва...»

Выбух міны прагучаў неяк прыглушана, нібы дзесь за сцяной. І асколкі не прасвісталі ў паветры. Сцёпа ўзняў галаву і зірнуў у бок, дзе ляжаў Слава Тарашкевіч. Там слаўся над мохам сівы дымок. А дзе ж ён сам? Сцёпа падхапіўся на ногі.

Над яго вухам пачуўся голас Арнольда:

— Не шукай!.. Прамое пападанне...— Павярнуўся да Косці.— Давай сваю плашч-накідку. Збяром, што засталося. Пахаваць трэба...

Дол выкапалі неглыбокі — з адной сапёрнай рыдлёвачкай, што засталася ад Слаўкі, надта не разгонішся. Ды і часу бракавала. Атрад аддаліўся, мабыць, ужо не на адзін кіламетр. Месца захавання пазначылі спецыяльнымі зарубкамі на дрэвах: скончыцца блакада, і калі хто з трох застанецца жывы, вернецца сюды і абавязкова перанясе астанкі сябра на бліжэйшыя могілкі. І пахаваюць тады Слаўку па ўсіх правілах — з музыкай і ваенным салютам...

А зараз... Трэба бегчы, даганяць атрад...

* * *

Ужо ладна змерклася, калі дагналі марудлівы абоз дзеда Ільі. Севасцьянава «войска» — кухаркі, шаўцы, гаспадарнікі — вельмі ўзрадавалася, убачыўшы Сцёпу і Арнольда з Косцем.

— Сам камандзір непакоіўся, дзе вы падзяваліся,— першай паведаміла кухарка Аксіння Лук'янаўна.

— А тут яшчэ гэты выбух,— падышоў дзед Ілья.— Што там было?

— Міна...— адвёў вочы Сцёпа.

— Шальная?

— А хто ведае. Слаўку Тарашкевіча... на кавалкі...— з цяжкасцю вымавіў Арнольд.

— Вось табе і лёс чалавечы,— не то сам сабе, не то

хлопцам сказаў Севасцьянаў.— А збіраўся ж пасля вайны ў Маскву да бацькі. Эх-хе-хе!..

— Пярэднія, мабыць, ужо Плесканіч дасяглі,— выказаў меркаванне Косця.

— Наўрад,— запярэчыў дзед Ілья.— Нядаўна тут Шведзік быў. На кані. То казаў, што вакол мястэчка немцы паспелі наладзіць абарону. Давядзецца браць лявей. А куды, пакуль не ведаем. Чакаем во сувязнога. Трымайцеся ля нас. Скора вернецца.

Вестку сувязны прынёс маласуцяшальную — паварочваць на дзевяноста градусаў улева і рухацца, пакуль не скончыцца лес. На ўзлессі чакаць новых распараджэнняў.

Што ж, для гаспадарнікаў гэта, бадай, было больш-менш прымальна. Але што датычыць Сцёпы, ды і Арнольда з Косцем, то роля абознікаў была ім зусім не па душы. Тым болей што ні дэсантная рацыя, ні лішні кулямёт атраду зусім не перашкодзяць, а наадварот.

І хлопцы пажадалі «войску» Севасцьянава шчаслівай дарогі, а самі, трымаючыся азімуту, рушылі далей.

* * *

Не такія ўжо і цёмныя яны, майскія ночы ў лесе, асабліва калі неба не зацягнута тоўстай коўдрай хмарнасці. Даволі выразна відаць ствалы дрэваў, старыя пні, буралом, нават ямкі адаптаваны зрок заўважае. Першым ішоў Арнольд, за ім Косця, а замыкаючым — Сцёпа. Кулямёт з пляча ён перавесіў на шыю, каб у выпадку чаго адразу весці агонь з рук, Арнольд праз кожныя метраў пяцьдзесят на хвіліну прыпыняўся, звяраўся з компасам і картай і зноў крочыў далей.

Сцёпа адчуў, што ў яго зусім зашэрхла ў роце, высахла так, што языком цяжка паварушыць, не раўнуючы, як жарствы хто насыпаў. Пацягнуўся рукой да пояса і раптам успомніў, што біклагу сваю ў самым пачатку паходу перадаў на захаванне Славу. А той... Эх, Славік, Славік...

Апошняе Сцёпа, мабыць, міжволі вымавіў услых, бо Косця, не спыняючыся, павярнуў галаў:

— Што ты сказаў?

— Ды нічога,— крыху сумеўся Сцёпа.— Піць захацелася, а біклажка тае...

— На, спаласні рот,— хуценька працягнуў яму сваю біклагу Косця.— Толькі пастарайся не піць. Адзін глыток і... кропка.

Так, вада — гэта вада. Без яе, як у той песні: і ні туды і ні сюды... Здавалася б, адзін-адзіны (праўда, на поўную губу!) глыток, і адразу лягчэюць ногі, рукі, святлей робіцца наваколле...

Хаця — стоп. І сапраўды нешта адразу зрабілася занадта светла, хоць іголкі збірай. Арнольд спыніўся, замёр, узрушана пахітаў галавой:

— Братцы, гэта ж ракеты ўзляцелі. Цэлая заслона з асвятляльных ракет!.. Зараз, зараз пачнецца!..

І яно пачалося. Такога густога ружэйна-кулямётна-аўтаматнага агню, такіх частых кананадна-суцэльных разрываў мін, снарадаў, гранат Сцёпу яшчэ не даводзілася чуць ні разу. Тым больш у такой блізкасці, ну, літаральна метраў за сто ад сябе. Няўжо нашы натыкнуліся знячэўку на засаду? Няўжо вось так неаглядна трапілі ў варожую пастку? А дзе ж была разведка, куды глядзела яе ўсёвідушчае пільнае вока?..

І што цяпер рабіць яму, Сцёпу, са сваім «дзегцяром»? Што рабіць радыстам?

На апошнія пытанні адказаў Арнольд:

— Нам увязвацца ў бой няма сэнсу,— зірнуў ён на сяброў.— Ды і неразумна. Будзем ратаваць рацыю і прабівацца на Палік самастойна. Ты з намі, Сцёпа. Калі хочаш, гэта загад савецкага афіцэра.

— Ёсць,— толькі і знайшоўся што адказаць Сцёпа.

Што ж, зрэшты, гэта, мабыць, і было тое самае адзіна правільнае рашэнне, якое можна было прыняць, апынуўшыся ў іх становішчы. Эх, як жаль, што не стала Славы Тарашкевіча з яго (тысяча раз даруй, дарагі Славік!) поўнымі дыскамі...

Пасля кароткай нарады баявая тройца, як нядаўна і «войска» дзеда Ільі, крута, на ўсе дзевяноста градусаў павярнула ўлева і пайшла на зблiжэнне з абозам. Калі не дай Бог і там, дзе-небудзь наперадзе, засада, то з большай колькасцю стваloў больш шанцаў адбіцца, вырвацца...

Партызаны ішлі, а справа і ззаду ў іх не змаўкаў суцэльны трэск шалёнага бою.

* * *

Уражанне было такое, што нехта нябачны, размахнуўшыся, выцяў палкай па галёнцы. Люты боль, аддаўшыся ад нагі, апаліў усё Сцёпава цела, аж кальнула ў мазгі. Правая нага зрабілася ватная, і хлопец міжвольна ўкленчыў. Потым

сеў, зняў з грудзей кулямёт. Памацаў халяву бота. Пальцы наткнуліся на нешта цёплае, ліпучае. Падсвядома зразумеў: кроў. Значыць, паранены. А дзе Арнольд, Косця? Кінулі?

Не. Вунь паўзуць. Хутчэй бы. Бо той, хто страляў, можа пульнуць яшчэ, дабіць ужо сядзячага... Толькі б не самлець... Адкінуць з твару ружовую сетку... А яна ўсё насоўваецца, цямнее, чарнее... Як запаволена і цяжка пачало тахкаць сэрца... Хоць бы не спынілася зусім...

* * *

Арнольд падпоўз да Сцёпы першы і адразу ж дастаў з рукзака нашатырны спірт. Змачыў насоўку, накінуў хлопцу на твар, і той паволі расплюшчыў затуманеныя вочы, пачаў тужыцца, каб устаць.

— Ляжы,— сказаў разведчык.— Зараз падрамантуем цябе трохі.— Упэўненым рухам разрэзаў халяву правага бота, раскруціў анучу і пачаў бінтаваць параненую галёнку.— Баліць?

Як ні дзіўна, але болю ў назе Сцёпа больш не адчуваў. Адно што зрабілася яна, нага, нейкая цяжкая і як бы не свая, чужая, далёкая ад цела.

— Моцна там мяне? — слабым голасам запытаўся ў радыста.

— Костку крыху пашчапала, але, дзякуй Богу, не перабіла. Так што хадзіць на сваіх дваіх будзеш, студэнт.

Побач з галавой Сцёпа адчуў шумны ўздых і павярнуўся: над ім стаяў конь. Яго трымаў за вуздэчку Косця. Конь быў засядланы.

— Лічыце, што ўсім нам пашанцавала,— сказаў Косця.— Не давядзецца цягнуць на сабе рукзакі ды кулямёт. А галоўнае, цябе, Сцяпанка. Паедзеш, нібы той сярэдневяковы рыцар Айвенга...

— А куды? — азірнуўся на яго Арнольд.— Дзе зараз нашы, дзе хоць бліжэйшая вёска?

— Слухайце,— нарэшце сеў, абапіраючыся на рукі, Сцёпа.— Наколькі я разумею, конь тутэйшы, у балота не завязе, а на дарогу. Гэта бясспрэчна. А яшчэ... можна прыкінуць па карце...

— Спрабаваў ужо,— пахмурна паведаміў Арнольд.— Ды пасля купання ў балоце на ёй гэты ўчастак якраз раскіснуў...

— Тады даверымся каню, як нашы продкі рабілі,— паўтарыў Сцёпа.

— Будзь па-твойму. Толькі я ўсё ж буду трымацца паперадзе... Ці мала што. Раптам твая, Сцёпачка, куля была зусім не шальная...

* * *

Сцёпа не нацягваў павады вуздэчкі, і конь сам выбіраў дарогу між дрэў. Тупаў упэўнена, абыходзячы купіны ды яміны, пакуль не ступіў на цвёрды бальшак. Нейкае імгненне пастаяў, нібы ў роздуме, і рашуча звярнуў налева.

— Зірні-тка на карту,— папрасіў Арнольда Косця.

— Дарога вядзе ў вёску Падстрэжжа,— неўзабаве паведаміў Арнольд.— Раён Домжарыцкага балота.

— Хлопцы,— прапанаваў Сцёпа,— можа, не варта зараз туды... Раптам немцы...

— Я таксама пра гэта падумаў,— згадзіўся Арнольд.— Да вечара адпачнём тут у гушчары, а вечарам разведаем, што нас чакае наперадзе,— і збочыў з дарогі.— Давайце ў лагчынку, там і для каня будзе добрая днёўка — і вада і яда...

Лужок сярод лесу, на якім спыніліся, нечым нагадаў Сцяпану дзедаў хутар: гэткая ж вузенькая пакручастая рэчачка з чыстым светлым дном; шарэнгі крушыны ўперамешку з вольхай на нізкіх берагах; аксамітны дыван маладой травы, акроплены залацістымі зоркамі лотаці. Сюды б яшчэ здвоеную старую елку з буслянкай на вярхушцы, і, лічы, дакладная копія аднаго з хутарскіх куточкаў. Падумаў гэтак Сцяпан, і яму зрабілася неяк па-дамашняму цёпла, утульна. Нават ныццё параненай нагі паменела.

— Давай перавяжу,— падсеў да яго Арнольд.

— Дык нядаўна ж ты перавязваў,— запярэчыў Сцяпан.

— То была часовая перавязка, а зараз зробім грунтоўна, па ўсіх правілах, з рыванольчыкам і стрэптацыдам, каб ніякая мікробіна не пранікла...

Сцёпа на момант уявіў, як будзе балюча, калі радыст пачне аддзіраць набрынялыя бінты, і аж скрыгатнуў зубамі.

— Ды не бойся ты,— злёгку пляснуў яго па спіне Арнольд.— Выканаю аперацыю па ўсіх правілах — не пачуеш нават.

— Ладна, здзекуйся, варвар,— хваравіта ўсміхнуўся Сцёпа.— Сіла на тваім баку...

Косця тым часам рассядлаў каня і, стрыножыўшы, пусціў пасвіцца. Потым, выразаўшы рагульку — дзяржак для кацялка, пачаў ладзіць касцёрык.

— Зараз працаўнікоў ваеннага тылу чайком частаваць

буду. Рыхтуйце шклянкі ды страўнікі,— весела прыгаворваў ён.

— А заварваць чым будзеш, халявай? — спытаў Сцяпан.

— Сам ты... тундра,— нязлосна кінуў Косця.— Удыхні глыбей паветра. Цэлы букет — і чабор, і хвоя, і мята. Чым не заварка?

Пасля чаявання Арнольд пасядзеў колькі хвілін над сваёй двухвёрсткай, робячы алоўкам паметкі, пахмыкаў сам сабе пад нос і рашуча ўстаў:

— Вось што, другі мае, пад сядзячы камень, як казалі старажытныя грэкі, і вада не цячэ. Пайду на разведку. А вы тут як-небудзь без мяне. Да вечара вярнуся. А можа, і зусім хутка. Словам, будзе відаць.

Гаварыў гэта Арнольд як бы напаўжартам, і ўсё ж Сцёпа ўлавіў у яго голасе ноткі трывогі, хвалявання — ніхто не ведае, што чакае яго, Арнольда, там, наперадзе, а іх, Сцяпана ды Косцю, тут, на лясным лужку. Іншая справа, калі б Сцяпан не быў цяжка паранены: рушылі б разам, утрох. А так...

* * *

Сцяпан прачнуўся ад мужчынскай гаворкі і адразу інстынктыўна сунуў руку пад папружку, за якой тырчэла рукаятка пісталета. Гаварылі двое, напаўголаса.

Зірнуў на патухлае вогнішча, ля якога перад тым, як Сцяпан задрамаў, сядзеў Косця. Радыста не было, але рукзак яго ляжаў. І адразу напружанасць знікла. Зразумеў, што адзін з размаўляючых за кустом не хто іншы, як Косця. Так, менавіта яго голас. А другі? Можа, Арнольд вярнуўся? Нешта ж вельмі хутка. Цікава, колькі часу зараз? Ого! Аказваецца, ён, Сцёпа, праспаў больш за чатыры гадзіны.

Куст расхінуўся, і паказаўся твар Арнольда.

— Добрай раніцы!

— Што вы там бубніце? Не маглі разбудзіць...

— Калі ж ты так салодка спаў. Ну, як дзіця малое. Шкада было кратаць,— заўсміхаўся Арнольд.

— Што там, наперадзе, нас чакае? — пацікавіўся Сцяпан.— Святло? Цемра?

— Цемнавата,— спахмурнела адказаў радыст.— Вёска разбомблена, спалена. Адны коміны тырчаць. Ні душы. Адно што жывое сустрэў — напаўздзічэлы кот. А яшчэ натрапіў на фурманку і збрую. Дабяромся туды вечарам і запражом свайго рысака. Зручней будзе, чым у сядле.

— Не дай Бог нікому такога панства,— адвярнуўся Сцяпан.

Дабраліся да Падстрэжжа яшчэ за́відна. Вёска і сапраўды была зруйнавана ўшчэнт, хоць бы якая будынінка для разводу засталася. Адны чорныя каміны ды галавешкі. І... непраўдападобна цэлая, нават не абкураная дымам фурманка пасярод вуліцы, а на ёй поўны камплект збруі. Нехта некуды збіраўся ехаць, ды не паспеў... Ад вёскі пачыналася шырачэзнае, акаймаванае па баках векавым лесам поле. Да вайны тут падстрэжцы аралі ды сеялі, а апошнім часам, аж да пачатку блакады, тут садзіліся невялікія самалёты (балазе фронт наблізіўся) і забіралі параненых партызан, дзяцей-сірот, што туліліся каля лясных зямлянак.

— Няхай бы зараз які «кукурузнік» прызямліўся,— летуценна прамовіў Сцяпан.

— Чаго захацеў!..— папракнуў яго Арнольд.— Хіба такое магчыма...

— А што? Паляцеў бы на Вялікую зямлю і не быў бы для вас абузай...

— Кінь плявузгаць абы-што,— раззлаваўся Косця.— Абуза... А калі б са мной ці з ім,— кінуў вачыма на Арнольда,— падобнае здарылася, што, кінуў бы нас?..

— Ды вы што, хлопцы,— аж увесь перасмыкнуўся Сцёпа,— хіба так можна?

— Тады во сядай, пане Гурскі, у карэту і пакацім туды, дзе чакае нас збавенне.— Арнольд якраз закончыў запрагаць каня і ўкладваў на калёсы рукзакі.

Хаця Арнольд стараўся жартаваць, Сцяпану ад гэтага лягчэй не рабілася. Ён адчуваў сябе вельмі прыгнечана, і чым далей, тым болей. Радыстам не час зараз вазіцца з ім, цяжка параненым, але ж і кінуць яго яны не могуць. Хочаш не хочаш, а сядзі ў хлопцаў на карку... Во каб была ў вёсцы хоць адна жывая душа, застаўся б тут і ён, Сцёпа. Рукі ў яго здаровыя, не зусім бездапаможны, каб неадступна трымаць пры сабе няньку. А то знайсці б сярод руін які склеп, запасціся вадой, тым-сім з яды ды залегчы, пакуль блакада не кончыцца... А што? Гэта ж, можна сказаць, зусім здзяйсняльная ідэя! Сказаць хлопцам?

Уважліва выслухаўшы Сцяпана, Арнольд толькі махнуў рукой:

— А хто цябе стане шукаць пасля блакады ў тым склепе? Хто можа гарантаваць, што мы з Косцем уцалеем? Сядзі во, хлопец, на сваіх драбінах і не рыпайся.— Крануў лейцы.— Но-о, саколік, паехалі... Толькі хвілінку. У які

бок? — Арнольд расшпіліў планшэт, разгарнуў карту.— Давайце разам памаракуем. Адна галава, як той казаў, добра, а паўтары — намнога лепш. Зараз мы вось дзе стаім,— зрабіў алоўкам кружок,— на поўдні ад нас, дзе не змаўкае кананада, возера Палік, вось яно, кіламетраў дванаццаць — пятнаццаць адсюль; на паўночны захад, дзе партызанскі бягомльскі аэрадром, зараз ціха-ціха. Куды рушым? На Паліку наўрад ці адыграе пэўную роль наша агнявая магутнасць. Што ж датычыць бягомльскага кірунку — то ёсць хоць шанец выратаваць Сцяпана. Я — за Бягомль.

— Я — таксама,— адхінуўся ад карты Косця.— Ды тут не так і далёка, на нейкі адзін пераход. Тым больш што зараз у нас надзейны транспарт.

— А я, я за склеп,— пачаў праворна злазіць з падводы Сцяпан.— Чуеце? — падняў галаву ўгору.— «Фоке-вульф» шпацыруе на нас.

«Рама» імкліва вынырнула з-за лесу і, нахіліўшы крыло, паласнула з кулямёта па мёртвай вёсцы. А можа, фрыц людзей заўважыў?

Конь ірвануў з месца ў кар'ер, і Сцяпан толькі ў апошняе імгненне паспеў аберуч учапіцца за білы. Метраў праз дваццаць — трыццаць шалёнай язды азірнуўся. Ні на вуліцы, ні ля прысад радыстаў не было відаць. Міжволі лёгка ўздыхнуў: значыць, жывыя. На ўзлессі конь без аніякага загаду з боку чалавека перайшоў на роўную рысь, а неўзабаве і зусім спыніўся, цяжка паводзячы крутымі бакамі. Сцяпан адразу ж агледзеў паклажу. Усё было на месцы: Косцева рацыя, камплект батарэй, яго, Сцяпана, «дзягцяр», нават аўтамат Арнольда. «Як яны там?» — падумаў пра таварышаў Сцяпан, і тут жа, нібы ў адказ, зноў затрашчаў «фокевульф». Палохае, ні фіга ж, фактычна, не бачыць. Зараз і па лесе часане. Ну во, давай, давай, хоць па вярхушках прайдзіся... Вось так! Усё на душы лягчэй будзе...

Радысты аб'явіліся ля падводы мінут праз пятнаццаць — дваццаць. Косця трохі накульгваў. На нямое запытанне Сцёпы ўсміхнуўся:

— Нічога страшнага. Проста нікудышняя ямка трапілася, калі драпалі. Нязначнае расцяжэнне...

Куды зараз рухацца, на поўдзень або паўночны захад, больш не абмяркоўвалі — стопрацэнтным ваякам заставаўся адзін з трох. Значыць — дарога адна, бліжэй да аэрадрома. Канечне, калі раптам не затрашчыць, не завухкае і ў тым баку, як зараз на Паліку...

* * *

Прысутнасць чужога яны адчулі амаль адначасова. Сцёпу здалося, што яго патыліцу свідруе халодны бураўчык, і ён рэзка азірнуўся. Арнольд адным скачком вырваўся з асветленага вогнішчам круга і звонка ляснуў затворам аўтамата:

— Хто там?! — Тон трывожна-загадны.

— Не страляй, чалавеча,— пачулася ў адказ.— Баба я тутэйшая і без ружжа.— І да вогнішча выйшла рослая, далёка не старая жанчына. У руках яна трымала важкую сукаватую палку.

— А кажаце — без ружжа,— не стрымаўся ад смеху Арнольд.

— То гэта ж ад нядобрых людзей,— засвяцілася адкрытай усмешкай жанчына.— А вы, здаецца, не памыляюся, парцізаны?

— Добра, кабетка, як вас там?..— пачаў Арнольд.

— Наста,— пявуча прамовіла жанчына.— Анастасся...

— Прыгожае імя, як у маёй сястры,— зазначыў радыст.— Не будзем, Наста, зараз высняць, хто мы ды што. Ні к чаму. Лепш во скажыце, куды падзяваліся людзі. Ну хаця б з Падстрэжжа?

— Ой, я ж сама падстрэжская! — усклікнула, нібы абрадавалася, Наста.— Гэта ж хлопцы з «жалязняка» перад саменькай блакадай забеглі і сказалі, каб усе ўцякалі ў лес. Ну дык мы лахі пад пахі і гайда на запасную базу. Яшчэ летась на ўсякі выпадак пабудавалі зямлянкі на сухой выспе. Ну і, само сабой, тое-сёе з харчоў там захавалі...

— Далёка дзе?

— Калі напрасткі, ведаючы кладкі, то вярсты тры, не болей. А так, бадай, і не знойдзеш...

— Сядайце, Наста,— запрасіў нечаканую госцю Арнольд.— Ды бліжэй, бліжэй да агню. Зараз чайком вас пачастуем. З сахарком...

— З цукрам? — адразу насцярожылася жанчына і ступіла назад.— Нешта ж багата жывяце...

Сцяпан адразу зразумеў жаночую трывогу: ці не на здраднікаў натрапіла?!. І пастараўся развеяць яе дрэнныя думкі. Загаварыў да яе па-беларуску:

— І саўсім мы не з уласаўцаў, як вы толькі што западозрылі, Настасся. Я сам з Бярэзаньшчыны, ваяваў у лунінскай брыгадзе, ды вось падкавалі крыху за Мсціжом,— паказаў забінтаваную нагу.— І сябры мае — таксама ляс-

ныя салдаты. А што цукар маем, то Вялікай зямлі — дзякуй — падкінулі перад блакадай.

— Дай жа, Божа, каб так яно і было,— з палёгкай уздыхнула жанчына.— А як сюды трапілі? Б'юцца ж вашы дзесь на Паліку, аж тут чуваць. А вы...

— А мы,— умяшаўся ў размову Косця,— дэзерціры, баязліўцы,— са злосцю падсунуў да агню нагу, якая, нягледзячы на тугую павязку, паспела ўсё ж моцна распухнуць.— Шкуры свае паганыя ратуем,— і смачна плюнуў убок.

— Ну во, пакрыўдзіўся,— вінавата прамовіла Наста.— Ці ж я сляпая, не бачу, у якім вы стане?.. Але і верыць цяпер... Самі разумееце...

— Ладна, брацця кролікі,— ямчэй усеўся Арнольд.— Давайце чай піць, а ўжо тады, на поўны страўнік, і выяснім адносіны. Даставай, Косця, запасы...

Чаявалі, ні на мінуту не спыняючы гаворкі. Наста расказала пра сябе. Была замужам. Зараз жыве з бацькамі. Мужа забралі на трэці дзень вайны. Дзе цяпер, жывы ці не — не ведае. На выратавальным востраве хаваюцца старыя, дзеці ды маладзіцы. А пайшла яна, Наста, сюды па гаспадарчай патрэбе — у перасяленцаў няма чым секчы дровы — апошнюю, прытым адзіную на ўвесь лагер, сякеру нямоглы дзед Панас умудрыўся ўтапіць у багне. Вось яна, Наста, і пайшла ў вёску. У іхнім склепе такі струмант ёсць...

Арнольд ледзь не ўшчыльную наблізіў свой твар да Настассінага:

— А калі папраўдзе?

— Што — папраўдзе? — быццам не разумеючы, акруглiла вочы жанчына.

— Што? А тое, што твая спавядка пра сякеру — няўдалая выдумка. Дроў зараз у лесе і без яе дапамогі колькі душы заўгодна. Значыць, пайшла ты, маладзічка, сюды па іншай прычыне.

— Па якой, калі ўжо такі празорлівы? — з выклікам запытала Наста.

— Рандэву, спатканне ў цябе сёння з некім. Прыкладна ў гэты час і ў гэтым месцы. Ці не так? — Арнольд зноў наблізіўся да Насты.

Нечакана яна ўсхліпнула, закрыла твар рукамі. Здушаным голасам прамовіла:

— Кончыліся мае спатканні. Таму і да вас, на агеньчык пацягнула. Баялася, што не перажыву ў адзіноце... Рукі на сябе накладу...

— Што здарылася?

Наста доўга маўчала, утаропіўшыся невідучымі вачыма ў вогнішча, потым, крыху супакоіўшыся, рашуча выцерла рогам хусткі слёзы і пачала спавядаць хлопцам сваю невясёлую жаноцкую гісторыю.

Улетку сорак першага яна, як і іншыя вяскоўцы, шнарыла неяк па кустах, што раслі паўз гасцінец. Тады там можна было шмат якога дабра назбіраць — і ваеннага і неваеннага. І вось у адной купцы хмызняку натрапіла на параненага лейтэнанта з чырвонай зоркай на рукаве: палітрук. І адразу ўспомніла нямецкую лістоўку, якая заклікала: «Бей жида, политрука, Морда просит кирпича»... Першае, што зрабіла, гэта спарола з рукава лейтэнанта зорку і месца, дзе яна была нашыта, старанна замазала тарфяністай глебай. Потым напаіла чалавека, агледзела рану. Рана была несмяртэльная — куля прабіла левую нагу, на выхадзе вырвала ладнаваты кавалак мяса, але костку не зачапіла. У лейтэнанта хапіла сіл самастойна зрабіць перавязку, тым самым спыніць кроў, потым страціў прытомнасць. Абудзіў яго начны халадок, а жаданне выжыць прымусіла адпаўзці падалей ад гасцінца. Усё б нічога, толькі вось нясцерпна хацелася піць: раніцай аблізваў ад расы ўсе суседнія кусты. І гэтак аж двое сутак. А на трэція ён ужо ляжаў на духмяным сене ў Настассінай пуньцы. Тут, у пуньцы, яны неўзабаве пакляліся адно аднаму ў вечным каханні. Вось толькі вайна скончыцца, і яны адразу пажэняцца. А пакуль... Як толькі здолее хадзіць, адправіцца да фронту. Балазе дакументы не згубіў — павінны паверыць, прыняць. Далёка фронт? Што ж, часова можна і ў лес, да мясцовых партызан. Кажуць жа, пачалі ўжо варушыцца ў наваколлі, няўжо ім кадравы камандзір не патрэбен?

Свайго Пецечку, так звалі лейтэнанта, Наста праводзіла ў партызаны ранняй вясной сорак другога. А роўна праз тыдзень зноў знайшла параненага, толькі цяпер ужо не ля гасцінца, а непадалёк ад роднай хаты: у Пецечкі былі прастрэлены абедзве рукі. Скрыгочучы зубамі, коратка сказаў:

— Атрадны асабіст двое сутак катаваў, прымушаючы прызнацца, што я шпіён нямецкі. Дакументы мае знішчыў. А тады, зразумеўшы, што нічога з мяне не выб'е, павёў на расстрэл. Ну от я і плітануў...

Слухаючы Насту, Сцяпан міжволі ўспомніў зямлянку Данскога, яго халодныя зрэнкі прафесійнага ката, і яму зрабілася страшна...

— А далей што? — нецярпліва павярнуўся да жанчыны.

— Вядома, што... Хаваўся ўвесь час. Зямлянку сабе зрабіў у лесе, там і жыў. Бо той самы асабіст яшчэ колькі разоў налятаў на нашу хату, усё хацеў захапіць Пецечку знянацку... І мне пагражаў...

— Ну а Пецяваш — што?

Адразу пасля таго неяк непазнавальна перамяніўся ўвесь. Куды толькі падзеліся яго весялосць, упэўненасць, што ўсё ўрэшце будзе добра. Пачаў баяцца ўсяго, набраў у галаву, што калі не паверылі яму партызаны, то вайсковыя контрразведчыкі тым больш не павераць, бо застаўся ж фактычна без адзінага дакумента. Значыць... тупік... А тут яшчэ фронт не сёння-заўтра дакоціцца сюды...

— І не знайшоў мой любы Пецечка нічога лепшага, як пусціць кулю ў сэрца,— усхліпнула, захіталася ў немым плачы жанчына.

Калі спакваля трохі супакоілася, Сцяпан асцярожна крануў яе за руку:

— Пахаваць трэба...

— Пахавала,— глуха адгукнулася Наста.— У яго там рыдлёўка была... Тут недалёка... Там яшчэ дзве магілкі свежыя насыпаны. Вашых...

— Каго — нашых? — жыва павярнуўся Арнольд.

— Парцізанаў. І надпісы ёсць...

— Паказаць можаце?

— Пайшлі,— адразу паднялася, абтрэсла падол жанчына.

* * *

Вярнуўся Арнольд няскора і адзін. Ён быў вельмі ўзбуджаны.

— Што я знайшоў, дру́гі? — яшчэ не прысеўшы, пачаў.— Там не толькі магілы. Там, зусім недалёка ад іх, што б вы думалі? Ніколі не здагадаецеся... Пад агромністым лаўжом — спецыяльна абсталяванае сховішча. А ў ім нашы, з нашага атрада хлопцы. Драздзюк, Макацэўскі і Лёшка-лейтэнант. Усе цяжка параненыя, карацей, як ты, Сцёпа, у ногі...

Ад такой навіны Сцёпа аж прыўзняўся на калені:

— То гэта ж цудоўна! І я застануся з імі...

— Чакай! — перапыніў яго Косця.— У нас конь, і можам спакойна рухацца да бягомльскага аэрадрома. Так што надта не спяшайся.— І звярнуўся да Арнольда: — Як яны трапілі сюды? Гэта ж ці блізкі свет...

— Як? З абозам дзеда Ільі. А сам Севасцьянаў загінуў,

тут і пахаваны. Побач — магіла Бацяна, помніце? Высокі такі прыгажун быў... Ад ран памёр... па дарозе...

— Гэта пра іх свежыя магілы і казала Наста? — запытаўся Сцёпа.

— Вось іменна.

— А дзе яна сама?

— Сказала, пойдзе ў Падстрэжжа, возьме з тайніка тое-сёе з яды ды зноў хавацца, пакуль не аціхне наўкола.

— А пра партызанскую схованку ведае? — насцярожыўся Сцёпа.

— Ды не. Там такая маскіроўка, што ніводзін следапыт не здагадаецца,— адказаў Арнольд.

— А от ты ж знайшоў.

— Мяне знайшлі. Драздзюк там самы здаровы. Ну дык вось пачуў нашы з Настай галасы і выкарабкаўся наверх. Мяне, сказаў, пазнаў адразу. Ну, а калі вяртаўся я ад магілак Севасцьянава і Бацяна, паклікаў...

— Усё ясна,— нецярпліва папоўз да падводы Сцяпан.— Адтарабаньце мяне, хлопцы, туды. Жадаю быць у кампаніі роўных.

— Што ж, воля твая,— спружыніста ўстаў на ногі радыст і пайшоў лавіць каня.

Займаўся ранак. Святлела неба. Свежы вятрыска ледзь чутна пашумліваў у лясных вярхушках.

А на ружовым усходзе ўсё вухкала і вухкала. Сцяпану здавалася, што гэта вось тут, адразу за лесам...

# НА СВОЙ ХЛЕБ

## Аповесць

Раніцай Сцяпан не пайшоў, як звычайна, да бляшанага рукамыйніка на кухні, а перш-наперш выцягнуў з-пад ложка фанерны, яшчэ дзедаўскага вырабу чамадан. У ім было складзена ўсё, што прынёс у заплечніку з вайны: абшытая сукном нямецкая біклага з ёмістай накрыўкай-кубкам, кацялок, зноў жа нямецкі, лыжка-відэлец, трафейны браўнінг з двума патронамі ў абойме і самая каштоўная рэч — брытва «золінген». Праўда, была яна без тронак, але з шырокім, зусім не сточаным лязом і вострая, што агонь. От пацягнеш яе туды-сюды цераз абушок па салдацкім рэмені, пакладзеш на лязо волас, лёгенька дзьмухнеш, і ён — папалам. А тронкі Сцяпан зараз прыладзіць ад старой айчымавай, балазе маці захавала.

— Мам, нагрэй трошкі вады, маладзіцца буду,— павярнуўся да печы, дзе маці ўжо нешта гатавала на снеданне.

— Даўно пара, а то аброс, нібы той дзед. Ніхто і не падумае, што чалавеку ўсяго дваццаць,— адказала маці.

— Ну-у, ты скажаш,— гулліва запярэчыў Сцяпан.— Каб не кавенька праклятая, то хоць на выстаўку...

— А ты, сынок, у люстэрка паглядзіся. На бараду сваю, на гэтыя самыя...

— Бакенбарды? — падхапіў Сцяпан.

— Во-во, на барды свае паглядзі. Толькі пільненька прыгледзься.

Сцяпан зняў з прасценка люстэрка, паставіў насупраць акна і пацерабіў пальцамі адрослыя за апошнія тыдні бакі. І сапраўды яны былі амаль на чвэрць сівыя. Праўда, на фоне каштанавых валасоў сіўчыкі не надта выдзяляліся, і ўсё ж маці іх запрыкмеціла. А між тым ён сам зусім не падазраваў, нават думкі такой ніколі не меў, што з дваццаці гадоў вось так без дай прычыны пачне сівець. Хаця... Чаму без прычыны? Хіба мала яму дасталося? Лічы, з першага дня вайны і да шпіталя не ведаў спакою. А колькі было сапраў-

ды крытычных, здавалася б, зусім безвыходных сітуацый... Узяць хаця б сакавік сорак другога, калі паліцай Валік, забіўшы яго, Сцяпанавых, дзеда з бабкай, пагнаўся за ім, Сцяпанам, каб таксама пазбавіць жыцця. Хіба адно ўжо гэта не магло пакінуць якую адмеціну? Або дзейнасць у падполлі. Нібы па лязе брытвы цэлых два гады хадзіў. Ды і апошнія васемнаццаць дзён у блакаднай яме, калі збіраўся падарвацца на ўласнай гранаце?..

Не, мабыць, бясследна такое не праходзіць. І дзякуй Богу, калі ўсе перажытыя жахі абыдуцца толькі сівізной. Такой бяды. Ці мала зараз сівых юнакоў? Горш, калі перажытае ды перацярпелае за ваенныя гады адгукнецца з часам якой страшнай хваробай. Ну... ну, як напрыклад сухотамі, ад якіх у пярэдадзень вайны памёр дарагі для Сцяпана чалавек — айчым. Яго, настаўніка пачатковай школы, з трыццаць шостага года і аж да апошніх дзён жыцця ўсё цягалі у НКУС па падазрэнні ў нацыяналізме і шпіянажы на карысць Польшчы. Не пасадзілі толькі таму, што не было кім замяніць у школе, усё адкладвалі... А ўрэшце ад пастаянных стрэсаў — скарацечны туберкулёз і...

Эт, што тут гадаць-варажыць наперад? Чаму быць, што табе наканавана лёсам, таго, як той казаў, не абысці і не аб'ехаць. Пра сённяшняе думай, хлопча, падбадзёрыў сам сябе Сцяпан. Жыццё практычна толькі пачынаецца.

Маці паставіла на стол конаўку з гарачай вадой, прынесла мыльніцу, памазок.

— Дык куды гэта намерыўся сёння?

— Трэба ў райком камсамола. А то тыдзень скора як дома, а на ўлік не стаў.

— Дык ты ж казаў, што білет свой там недзе на балоце згубіў...

— Ну і што? Вунь Петрашковіч, з рэдакцыі раёнкі, таксама білет згубіў, не камсамольскі, а партыйны. І што? Пайшоў, напісаў тлумачалку, і адразу новы выдалі. Паверылі. Думаеш, мне не паверацъ? Тым больш што мяне і ў партызанах аднавілі ў камсамоле, хаця два гады ўзносы не плаціў.

— Так-то яно так, сын мой, ды зараз да нас, хто быў тут, пад немцам, ставяцца, ну як бы гэта лепей сказаць, з недаверам, ці што. Да ўсіх. Хоць ты сто разоў падпольшчык, сувязны ці партызан. Толькі эвакуянтам вольная дарога. І Петрашковіч твой, ён жа не з вайны вярнуўся, а з Ташкента, ці што. Можа, нават немца жывога ў вочы не бачыў. От і чысты. Ды і Таран, сакратар райкома, яму сваяк блізкі.

— Значыць, не раіш аднаўляцца ў камсамоле?

— Не, чаму? Паспрабуй. Раптам пашанцуе. Усё ж жыццё наперадзе. А без білета, па айчыму твайму, Пецечкунябожчыку, ведаю, ой як цяжка ў нас. Ніякага ходу не дадуць.

Замаркочаны, пакідаў Сцяпан хату. Непакоіла, труціла нутро нечаканае папярэджанне маці пра магчымую адмову ў аднаўленні. Што ж, яе зразумець можна: не хоча, каб тая адмова прыбавіла сіўчыкаў у сынавых і без таго заўчасна пабялелых скронях... Часам накіпала злосць: ну хіба ён, Сцяпан, хоць кропельку вінаваты, што прапаў яго білет? Яго ж, той білет, вайна забрала. Магла і жыццё ягонае забраць. А тут нейкі кавалачак кардону з пячаткай... Нават смешна. І, урэшце, хіба такія, як ён, вінаваты, што правіцелі пусцілі (так, так, менавіта пусцілі) гітлераўцаў аж да Масквы і (страх падумаць!) да самай Волгі? Хіба не добраахвотна пайшоў ён на верную смерць, каб абараніць родную зямлю? Няхай толькі якая райкомаўская шмакадзяўка слова супраць яго скажа — галаву кавялой разаб'е!..

Узвінчаны ўласнымі думкамі, Сцяпан і не заўважыў, як адолеў ледзь не кіламетровую дарогу да райкома. Вось ён, знаёмы квадратны дамок з шэрых бярвенняў. Тут у трыццаць восьмым яму, жаўтароціку, уручылі камсамольскі білет, той самы, што праглынула блакадным чэрвенем сорак чацвёртага ненажэрнае балота; тут ён пакляўся быць верным Радзіме і як мог трымаў сваё слова да апошняга. А зараз што, выступаць у ролі прасіцеля, вінаватага? З якой такой радасці?

За сакратарскім сталом сядзеў круглатвары мужчына сярэдніх гадоў у цёмна-жоўтым, здаецца, славацкага пакрою фрэнчы з партызанскім медалём на грудзях. «Свой»,— падумалася Сцяпану, і ён адчуў, як адразу растала, улятучылася ўся яго нядаўняя злосць, нервовая напружанасць. Мужчына ўстаў насустрач Сцяпану, працягнуў руку:

— Рады вітаць воіна. Мяне завуць Чыж, прозвішча такое птушынае,— ветліва ўсміхнуўся.— Сядай. З фронту?

Сцяпан апусціўся на рыпучую табурэтку.

— Гурскі я, родам з Бушавіцкага сельсавета. Толькі не з фронту. Як і вы, партызаніў.

— А чаму я цябе нешта не ведаю?

— Ды не так даўно прыехаў. Са шпіталя. У Халопенічах рамантаваўся. У нагу цюкнула. Потым, пасля шпіталя, заехаў у Лошыцу пад Мінскам у штаб партызанскі і — дадому.

— Без узнагароды? — сакратар кінуў позірк на лацкан Сцяпанавага пінжака.— Усім жа давалі.

— Акрамя нябожчыкаў,— удакладніў Сцяпан.

— Не разумею жарту,— крыху разгубіўся сакратар.

— Якія там жарты,— спахмурнеў хлопец.— Я таксама пабываў у нябожчыках. Якім чынам, пытаеш? Вельмі проста. Прыехаў я, значыць, з Халопеніч, мне ў Цэнтральным штабе прыгажуня гэтакая і кідае: «Грамадзянін Гурскі, у спісках названага вамі атрада вы не значыцеся». «Дык жа во,— паказваю,— даведка са шпіталя, а вунь за акном хлопцы ходзяць. Разам ваявалі. Можа, паклікаць як сведкаў?» Тут сусед яе па сталу, у гадах такі мужчына, падказвае: «А ты, Зінуля, у спіскі забітых зірні». Узяла яна другую папачку, прабегла вачыма і аж скаланулася: «То вы ж, таварыш Гурскі, і сапраўды забіты. Так, так. Не прапалі без вестак, і забіты і пахаваны. Нават месца магілы пазначана. Як жа цяпер быць?» — разгублена паглядзела на пажылога. «А так. Выкрэслівай хлопца з чорнага спіска і дапісвай у белы. Ну і ўсё астатняе...» — «Дык жа і на медаль афармляць трэба. А гэта абавязана атраднае начальства зрабіць. Дзе іх зараз знойдзеш? Даўно і след прастыў».— «З медалём паспееца, не гарыць,— разважыў Зінін сусед.— Галоўнае зараз чалавеку займець дакументы, дзе быў ды што рабіў. А яшчэ талоны на харч».

— Значыць, даведка ёсць? — спытаў сакратар.

— Канешне, вось яна,— падаў Сцяпан дакумент.— Унутры яшчэ даведка аб цяжкім раненні.

— Не трэба, і так усё відаць,— адхіліў яго руку сакратар і крыкнуў у дзверы: — Марыя! — Калі зайшла чарнявая дзяўчына, загадаў: — Вазьмі ў таварыша Гурскага білет і завядзі на яго ўліковую картачку.

— Уся бяда ў тым,— Сцяпан падаўся грудзьмі на сакратарскі стол,— што білета ў мяне няма.

— Няма? — акругліў вочы Чыж.— А чаму не ўзяў? Ведаў жа, куды ідзеш...

— Ведаў. Але білет мой Домжарыцкае балота праглынула. Перад самым вызваленнем. Такая вось аказія.

У кабінеце ўсталявалася працяглая паўза.

— Сапраўды аказія,— падняў нарэшце разгубленыя вочы сакратар.— Ну і што ты прапануеш?

— А нічога надзвычайнага,— стараючыся быць бестурботным, амаль весела адказаў Сцяпан.— Выдайце мне новы білет, і справа з канцом. Я нават дзень уступлення помню. Не тое што месяц ці год. У гэтым якраз кабінеце ўсё было.

— Магчыма, ты і...— пачаў Чыж.

Але яго тут жа рашуча перапыніла чарнявая:

— Нічога не магчыма, Пётр Аксёнавіч. Ёсць пэўнае ўказанне: такіх разглядаць як нанава ўступаючых, без ранейшага стажу. Самі знаеце. Бо ці мала ў каго мог апынуцца яго білет...

— Ды я, я...— міжвольна прыўзняўся з месца Сцяпан,— нават месца магу паказаць, дзе ён разам з партманэ затануў, як хлопцы з багны памагалі выбрацца... З дакладнасцю да сантыметра...

— Паложым, гэта нерэальна ехаць зараз туды і шукаць,— раздумліва забарабаніў пальцамі сакратар. Потым цвёрда пляснуў даланёй.— Зробім так...

— Я ж кажу, як нанава паступаючы,— абрадавана ўмяшалася Марыя.

— Ідзі, Марыя, працуй,— ціха папрасіў Чыж. І калі тая выйшла, стомленым голасам загаварыў: — Тут, братка, такая пятрушка. Органы, сам ведаеш якія, прасейваюць зараз праз сваё сіта кожную душу, што пабывала ў акупацыі. Нам таксама даслалі адпаведны цыркуляр. Паказаць не магу — сакрэтны. Значыць, будзем дзейнічаць так адносна цябе: напішам запыт ў архіў Цэнтральнага штаба... Дарэчы, ты ў партызанах як камсамолец аднаўляўся? От і ладненька. Значыць, пішам запыт і праз месяц-два атрымліваем патрэбны адказ. Гадзіцца? Цудоўна! Лічы, што са стажам у цябе ўсё ў ажуры. А пакуль прыйдзецца пачакаць. Ну ды час, ён ляціць неўпрыкмет. Не паспееш агледзецца, як... Планы якія ў цябе?

— Эт, якія могуць быць цяпер планы? — безнадзейна махнуў рукой Сцяпан.— Ішоў да вас — думаў адно, а зараз... Як у той прымаўцы: человек предполагает, а Господь Бог располагает... Бывайце,— і, рыпнуўшы табурэткай, падаўся да выхаду.

— Да сустрэчы,— прагучала ўслед.

«Хоць бы для блізіру запісаў мой хатні адрас, ініцыялы, дык не, толькі «Да сустрэчы»,— з горыччу падумаў Сцяпан.— Нібы я блазан які, нічога не бачу, не разумею...»

Так, пасля гэтага непрацяглага візіту ў райком камсамола хлопец канчаткова пераканаўся, што маці сто разоў мела рацыю, калі папярэджвала аб магчымай асечцы з аднаўленнем. Такія, як ён, што не па сваёй волі пабывалі пад акупацыяй, з'яўляюцца для ўлад людзьмі, памечанымі варожым кляймом. І што наперадзе яму нічога асабліва раднага не свеціць. Бліжэйшая будучыня насуперак ня-

даўнім вясёлкавым спадзяванням аказалася зацягнутай суцэльнай імглой. І прабівацца праз яе будзе ой як няпроста і нялёгка.

З'еў карчагінец? Дык твайго куміра Паўку Карчагіна з любімага табой рамана «Як гартавалася сталь» хоць ордэнам узнагародзілі за самаахвярную адданасць ідэі. А табе што далі за трохгадовую рызыку ды калецтва? Нават медаля пашкадавалі. Не, хутчэй не пашкадавалі, а паляніліся паперыну запоўніць. Тое ж і з білетам камсамольскім, які больш, чым галаву, бярог праз усю вайну...

Хто ты для іх? Непрыкметная казяўка, якіх безліч. Ёсць ты, няма цябе, каму які клопат? Сам, кажаш, пайшоў ваяваць за савецкую маці-Радзіму? Пляваць яна хацела на цябе, гэтая маці. Во маліся Богу, што жывы астаўся, ды маракуй, ёлупень, як зараз памагчы сваёй мацеры, той, што з апошніх сіл выбіваецца, каб неяк пракарміць не толькі брацікa твайго малога, а і цябе, бугая дарослага. Думай лепш не пра білет, а дзе знайсці хоць якую работу.

Няспешна кульгаючы па цэнтральнай вуліцы, Сцяпан не пераставаў напружана думаць, куды лепей звярнуцца наконт працаўладкавання. У сабесе ён пабываў на другі дзень, як вярнуўся ў Бярэзань. Там нават яму групу інваліднасці не афармілі — няма, маўляў, ніякіх указанняў. Райком камсамола, дакладней, дапамога з яго боку, таксама адпадае. Зайсці ў рэдакцыю раёнкі, ці што? Дзе як не тут збіраюцца ўсе мясцовыя навіны. Можа, дзе патрабуюцца якія пісары ці рахунковыя работнікі невысокага рангу? Канешне, лепш за ўсё ўладкавацца ў самой рэдакцыі. Хаця б карэктарам. А што? З гэтага ён і пачне.

Рэдактар Петрашковіч быў на месцы. Сцяпан завёў гамонку пра ўладкаванне, бо сякі-такі журналісцкі вопыт у яго ёсць. Але Петрашковіч не стаў слухаць. Заспяшаўся, спасылаючыся на тэрміновы выклік у райком партыі, і хуценька вышмыгнуў за дзверы. Тады хлопец зайшоў у друкарню, дзе працавалі яго даўнія сябры Язэп Чэх, наборшчык, і друкар Васіль Паповіч. Хлопцы па сакрэту паведамілі, што там (ківок угору) усё падрабязна ведаюць пра выхад раёнкі ў час акупацыі. І хаця прычапіцца няма да чаго — двухпалоска выходзіла нейтральная, амаль антыфашысцкая, за што рэдактар Глінскі і трапіў на шыбеніцу,— усё ж і іх, наборшчыка і друкара, доўга мурыжылі ў раённым МДБ, пакуль даверылі. Ведаюць там (зноў ківок угору), што і ён, Сцяпан, частавата наведваўся да Глінскага і нават друкаваўся, хаця і пад чужым імем. Таму зараз

лепей за ўсё яму, Сцяпану, уладкавацца куды-небудзь на вытворчасць. У МТС з кавялою, канешне, не возьмуць. Спіртзавод невядома яшчэ калі адновяць. Застаецца— райпрамкамбінат: літаральна на днях давалі аб'яву аб наборы рахунковых работнікаў у кантору. Чатыры арыфметычныя дзеянні ён ведае. Чаму б і не рызыкнуць?

— А што, мужыкі, можа, у гэтым і ёсць сярмяжная праўда? — не задумваючыся пагадзіўся Сцяпан.— Падамся ў рахункаводы, а там, глядзіш, і да галоўбуха дарасту ды з часам, чаго добрага, у загадчыкі райфа траплю, га? Во будзе шораху!..

Пасмяяліся, і хлопец пакульгаў па ўказаным адрасе.

Дырэктар камбіната Валасень, нядаўні партызан, убачыўшы Сцяпанаву кавялу, не стаў цягнуць валынку. Адразу падаў ліст паперы, ручку і сказаў пісаць заяву.

* * *

Кантора камбіната часова размяшчалася ў звычайным местачковым доме на дзве палавіны з сенцамі пасярэдзіне. У правай палавіне, ад двара, жыла гаспадыня дома з дзецьмі, яна ж вартаўнік і канторская прыбіральшчыца. Левую палавіну займаў Валасень са сваёй нешматлікай камандай. Чырвоны кут, як і мае быць, займаў са сваім двухтумбавым пісьмовым сталом галоўны бухгалтар Вінкоўскі. У бухгалтара Ліды-вялікай, рахункавода Сцяпана і касіркі Ліды-малой былі звычайныя кухонныя столікі, праўда, з шуфлядамі. У дырэктара ўласнага стала наогул не было. Ды ён і не прэтэндаваў на такую раскошу. З'явіцца раніцой, падпіша колькі паперак і, кінуўшы: «Я па справах», знікае аж да заўтра. Куды — ніхто не ведае і не пытае.

Саліднасць канторы надаваў тэлефонны апарат. Груваcткі, пафарбаваны чамусьці ў ядавіта-зялёны колер, ён займаў увесь прасценак. Крутнеш чорную ручку тры разы, і ў трубцы адразу вуркатлівы галасок: «Другая слухае. Вам каго?» Назавеш абанент, а перамовішся і зноў круці ручку — гэта значыць: кончыў, адключай. Карыстаўся тэлефонам практычна адзін Вінкоўскі. Яму то банк патрэбен быў, то фінаддзел, то яшчэ якая ўстанова. Ды і сюды званілі толькі яму, бо ўсе дзелавыя пытанні мог талкова вырашыць адзін ён, кадравы афіцэр з немалой інтэнданцкай практыкай.

Во каго б паставіць дырэктарам, не раз падумваў Сцяпан, калі бліжэй пазнаў гэтага чалавека. Але ведаў, не

паставяць: па-першае, беспартыйны, а па-другое, з ваеннапалонных, хаця і нічым не заплямлены. А Валасень, па спецыяльнасці лакамабільны качагар з адукацыяй чатыры класы, усё ж партыец, і стаж партызанскі каля двух гадоў — апошнія паўгода ротай камандаваў. Самая анкета для начальніка невялікага раённага прадпрыемства.

З Вінкоўскім Сцяпан сышоўся адразу, лічы, з першых дзён, хаця розніца ў гадах была значная — цэлых восем. Неяк раз выйшлі пасля работы на вуліцу, галоўны крытычна зірнуў на Сцяпанаву самаробную кавялу і прапанаваў:

— Давай да мяне заглянем. У мяне ж шыкоўнейшая кавенька ёсць. Забярэш. А то з гэтай ламачынай... Я тут недалёка жыву. Табе якраз па дарозе. Ты ж на Папоўшчыне кантуешся?

— Ну. Маці палавіну яўрэйскага дома займае, пакуль не вярнуліся.

— А тады?

— Не ведаю. Як натрапіцца. У Бушавічах ад нашага дома адны сцены ды дах уцалелі. Астатняе — вокны з вушакамі, столь, падлогу, дзверы — усё дашчэнту расцягнулі, нягоднікі. І свае ж, здавалася, людзі... Цяпер паспрабуй аднавіць усё: ні сродкаў, ні здароўя...

— Слухай, а чаго маці з Бушавіч з'ехала? Усё кінуларынула...

— Партызанаў збаялася.

— Як?! — у здзіўленні Вінкоўскі аж спыніўся.— Ты ж сам партызан. І як падпольшчыка цябе многія там ведаюць, напэўна. Абсурд нейкі...

— Абсурд і ёсць. Там увосень сорак трэцяга пачалі шныпарыць нейкія ціхаміраўцы. То ім і шапнулі, што я ўступіў у армію Уласава і з ёю паехаў ваяваць. Значыць, мая маці — маці здрадніка. Яе і пачалі тузаць. Куды было падзецца? Вядома ж, да брата ў гарнізон.— І памаўчаўшы: — Бібліятэкі шкода. У мяне ж назбіралася паўнюткая шафа кніг. І якіх! Першыя выданні Дуніна-Марцінкевіча, Багушэвіча, Багдановіча, Ядвігіна Ш., Купалы, Коласа. З расейскіх Гогаль, Леў Талстой, Дастаеўскі, Чэхаў, усе дваццаць пяць акадэмічных томікаў Пушкіна, сіненькіх такіх... Можа, чытаў?

— Не, не чытаў і нават не бачыў. Для мяне Пушкін толькі той, што ў школьным падручніку,— шчыра прызнаўся Вінкоўскі.— Я, братка, кадравы ваенны. Каб не пракляты палон, ужо капітанам быў бы, а то і маёрам. Так што кніжку бяру ў рэдкія часіны адпачынку. І то больш паважаю ваенную літаратуру...

— Для мяне друкаванае слова — гэта ўсё, як той казаў — альфа і амега. Але ж кожнаму сваё. Ты б, мабыць, зараз на фронт птушкай паляцеў, каб...

— Менавіта каб... Ды от не прызываюць і, мяркуючы па ўсім, не збіраюцца. Няма да такіх, як я, даверу. Ведаеш жа сталінскую ўстаноўку — савецкія ў палон не здаюцца... Зрэшты, не так ужо ўсё і кепска. Вайна неўзабаве кончыцца — мо паўгода, год засталося крыві ліцца. А там пачнецца абавязковае скарачэнне афіцэрскага саставу. Пакінуць толькі самых-самых. Ваенную эліту. Так што буду шураваць па цывільнай лініі...

— Дзелавітасці табе не пазычаць.

— Не кажы. Хапае і ў мяне нетудыходаў. Адно, што я ніколі не губляюся пры крытычных збегах абставін і ўмею выкруціцца. Гэтым і праўда Бог не абдзяліў...

— Не тое што Валасень,— сказаў і адразу пашкадаваў Сцяпан: твар Вінкоўскага аж пацямнеў ад абурэння. Але адказаў галоўбух Сцяпану стрымана:

— Не трэба гэтак беспадстаўна пра людзей. Наш дырэктар проста няшчасны чалавек. Ён цудоўна разумее, што не на сваім месцы, але ці то па слабасці характару, ці па партыйнаму абавязку не можа прыняць патрэбнага рашэння.

— Адмовіцца ад кіруючай пасады?

— Менавіта. У райкоме ж засмяюць: баявой ротай камандаваў, а тут нейкая піларама ды тры задрыпаныя млыны.

— Чатыры,— паправіў Сцяпан.— У раёне чатыры ж?

— Адзін з іх, капланецкі, пакуль што не на нашым балансе. Толькі пачалі афармляць. Тады, дарэчы, загадчыка туды будзем шукаць.— І нечакана: — Пойдзеш?

— Жартуеш? — засмяяўся Сцяпан.— Студэнт-філолаг ды ў млынары...

— Не багі гаршкі лепяць. А месца, браце мой, па гэтым часе, дальбог жа, ніштаватае. Варта падумаць. Сур'ёзна раю.

Ля шырокіх блакітных весніц, над якімі нізка навісала крона старога каштана, Вінкоўскі спыніўся:

— От і дадыбалі. Міласці просім,— шырока расчыніў варотцы.

Дом Вінкоўскага, як і мог меркаваць Сцяпан, быў прасторны і дагледжаны. Веранда зашклёна каляровымі шыбамі, на вокнах надзейныя аканіцы, дах з ацынкаванай бляхі, сцены абшаляваны вагонкай. От гэта гаспадар!

Падымаючыся на жоўты ганак, хлопец міжволі зірнуў на свае брудныя галёшы і спыніўся перад самымі дзвярыма:

— Нясі кавеньку сюды. Далей не пайду. Напаскуджу тут вам сваімі шкрэбаламі, месяц потым не адмыецеся...

— Ты што? — моцна падхапіў яго пад руку Вінкоўскі.— Быць у Рыме і папу не бачыць? А ну-тка пайшлі ў хату.

— Бачыш, якая ў мяне абутка,— упёрся Сцяпан.

— Не бяды. Тапкі ёсць. І не адна пара. Знімай, як ты сказаў?

— Шкрэбалы.

— Вось-вось. А я нясу тапкі.

У доме Вінкоўскіх наслядзіць і сапраўды было грэх. Падлога аж блішчыць, дарожкі — быццам па іх і не ходзяць, шпалеры нібы ўчора паклееныя. Пасля змрочнай запушчанай чужой кватэры, дзе Сцяпан часова пражываў, незвычайныя чысціня і добраўпарадкаванасць аж неяк аглушалі. Заўважыўшы лёгкую збянтэжанасць хлопца, Вінкоўскі [redacted] парога зычна крыкнуў:

— Прымай гасцей, жонка!

З-за шырмы выйшла светлавалосая мілавідная жанчына, прывіталася, запрасіла да стала.

— Што вы лепш любіце? Ёсць дранікі і смажаны шчупак, Ваня ўчора дабыў. З халодных закусак — рыжыкі салёныя, гуркі. Выбірайце.

Сцяпан уявіў на хвілінку гэтае нечуванае для яго багацце на стале і адчуў, як нейкая ці то сутарга, ці то спазма раптоўна звяла яму чэлюсці. Перачакаў, пакуль адпусціць, і бязладна замахаў рукамі:

— Ды я на хвілінку. Толькі кавеньку ўзяць... Іван Карнеевіч вось дакляраваў. А вы — частаваць... Не галодны, дзякуй Богу... Дома павячэраю.

Гаспадыня адно пасміхнулася.

— Дамоў паспееце. А ў нас завядзёнка такая: госць на парог, закуска — на стол. Як у прымаўцы.

— Вечна ты, жоначка, перайначваеш прымаўкі,— роблена зморшчыўся Вінкоўскі.— Трэба: заяц — на парог, цешча — за яйцы.

— Без салёнага не можаш,— адказала гаспадыня і зноў да Сцяпана: — Завіце мяне Алёна. Ну, а ваша імя ведаю, Ваня расказваў ужо пра вас. Сцяпан. Так?

На першым часе Сцяпан дзейнічаў відэльцам спакваля, далікатна, як гэта і мае быць у гасцях. Але працяглае недаяданне, гэта праклятае пастаяннае смактанне пад лыжачкай ды яшчэ добрая чарка настойкі зрабілі сваю чорную справу:

хлопец нават не заўважыў, як са спаважнага дзеяння за сталом перайшоў на інтэнсіўнае і ўраз, амаль без дапамогі гаспадароў, умалаціў цэлую патэльню шчупака ды талерку салёных рыжыкаў, упрыгожаных колцамі цыбулі.

Калі спахапіўся і ўцяміў, што нарабіў, аж заліўся чырванню: дарваўся цюцька да жаданай косткі!.. Усё — пад мятлу! Цяпер, мабыць, ніколі ў хату не пусцяць.

З-за стала перaселі на канапу. Алёна, як і большасць жанчын на свеце, аказалася вельмі цікаўнай. Дужа ж хацелася ёй ведаць пра новага мужавага таварыша ўсё да драбніц. І таму без перадыху сыпала пытаннямі: і пра Сцяпанаву жыццёвую дарогу, пра блізкіх і родных, пра яго планы на будучае. Хлопец адказваў на ўсе пытанні, як і належыць выхаванаму чалавеку,— падрабязна, у дэталях. Алёна слухала і ў залежнасці ад зместу Сцяпанавага расповяду то здзіўлялася, то спачувальна ківала галавой, то сумна ўсміхалася. І ўсё гэта шчыра, зацікаўлена, без робленай свецкай ветлівасці. Карацей, чыста па-жаноцку. Сцяпан глядзеў на яе і міжволі параўноўваў са сваёй Анютай. І тая ж гэткая вось шчырая, непасрэдная... Дзе-то яна зараз? Што робіць? Ці жывая наогул?.. Калі ён вярнуўся з партызан у Бярэзань, першым чынам наведаўся да былой сваёй гаспадыні, адкуль яго ў сорак трэцім немцы забралі, каб адправіць у рабства. Хрысціна Пятроўна расказала, што Анюту схапілі жандары непадалёк ад яе, Хрысцінінага, дома, калі тая прыйшла з Матылянкі, відаць, даведацца, дзе ён, Сцяпан. Здарылася гэта літаральна праз два тыдні пасля яго ад'езду. Тады якраз ішоў чарговы хапун. А потым з ваеннай калонай на Мінск адправілі два паўнюткія грузавікі запалоненай моладзі.

Там была і Анюта...

Успамін пра каханую балюча адгукнуўся ў грудзях хлопца. Алёна адразу заўважыла перамену ў настроі госця.

— Што вы раптам зажурыліся?

Сцяпан не стаў таіцца:

— От гляджу на вас, слухаю, а перад вачыма неадступна стаіць мая Анютка. Яна ў мяне такая ж светлая, адкрытая і, даруйце... дужа ж цікаўная: калі ўсё да кропелькі не выпытае ў чалавека, жывым не выпусціць,— і горка ўсміхнуўся.

А Іван зарагатаў:

— Як ён цябе, жоначка, га? А праўда ж... Ну, маладзец, Сцёпа, адразу бабу раскусіў...

— Ёсць такі грэх,— пагадзілася Алёна.— Ды што зро-

біш, калі прырода наша такая.— І зноў, без пярэдыху, узялася за роспыты. Цяпер ужо пра Анюту.

На гэту тэму Сцяпану гаварыць зусім не хацелася, і ён адказаў коратка:

— Забралі ў Нямеччыну.

Калі настала пара развітвацца, Алёна вынесла з каморы напакаваную нечым торбачку і паставіла на стол:

— Гэта для Яніка, браціка вашага.

— Ды што вы? — сумеўся Сцяпан.— Я тут еў, піў пад самую завязку ды яшчэ з сабой панясу? Нічога не вазьму, не выдумляйце.

Алёна толькі ясна ўсміхнулася. А Вінкоўскі падышоў, ляпнуў Сцяпана па плячы і прамовіў:

— Не праціўся, хлопча. Не той гэта чалавек, каб саступіць. Ты не возьмеш, сама панясе. Так што...— І, паглядзеўшы, як той пасля тапак улазіць у свой незвычайны абутак — левы бацінак, правая — галёша,— шкуматнуў за рукаво.— Пачакай хвілінку. Алёна, куды ты дзела бацінкі, тыя, трафейныя, што я тады з нямецкай казармы прынёс?

Гаспадыня трохі падумала, потым імкліва вярнулася назад у камору. Праз імгненне з'явілася адтуль, ззяючы, як макаў цвет: у руках яе былі грубыя, але зусім яшчэ новыя салдацкія бацінкі.

— Які ты ў мяне малайчына, Іванка, а я ж саўсім пра іх забылася.— Горача пацалавала мужа ў шчаку.— Сцёпу яны ў самы раз будуць. Ну-тка, прымерце...

Сцяпан як стаяў, так і плюхнуўся, не азіраючыся, на стул:

— Браточкі родныя. Што гэта сёння робіцца?!.

— Прымерай, Сцёпа. Праўда ж, табе падыдуць,— мабыць, неўпрыкмет для самой сябе перайшла на «ты» гаспадыня.— Ці, можа, не хочаш, што не нашы, чужацкія?..

— А кіцель на ім чый, не нямецкі? — умяшаўся Вінкоўскі.— Абувайся во, не жаманнічай, як дзевачка. Зіма на носе, а ты, лічы, босы...

— Мо думаеш, Іванка без абутку застанецца? Дык у яго адных толькі ботаў аж тры пары. А чаравікі, валёнкі...

— То вот што я вам скажу,— устаў са стула Сцяпан.— Як на духу: пра больш-менш здатны абутак я з першага пасляшпітальнага дня думаю. Ды ўсё ўпустую... А тут нібы з неба звалілася. Толькі от аддзячыць пакуль няма чым.

— Канчай глупства,— незадаволена спыніў яго Вінкоўскі.— Сказана — трафейныя. Абувайся во, а гэта тваё г... я зараз жа на сметнік выкіну.

* * *

За зіму Сцяпан з горам папалам усвоіў, як састаўляць месячныя і квартальныя справаздачы, разабраўся, што такое каштарыс і што — баланс, а па вясне райвыканкам нарэшце паставіў на гэты самы камбінацкі баланс капланецкі млын. Вось тут ужо ўсур'ёз зайшла гаворка аб прызначэнні на гэта прадпрыемства загадчыка. Не доўга думаючы, увішны Вінкоўскі адстукаў на сваім «ундэрвудзе» загад прызначыць загадчыкам Гурскага Сцяпана Іванавіча і зацвердзіць штат у складзе трох чалавек: апроч загадчыка, млынар і вартаўнік, з пэўнымі акладамі. Валасень прачытаў паперыну і з задавальненнем падпісаў:

— Верна рашыў, Карнеевіч. Сцёпа — гэты справіцца. Вучоны. Інстытут — гэта табе не чатыры групы, як... у некаторых.

— Я ж толькі першы курс скончыў,— пачырванеў Сцяпан.— І то па другой лініі, філалогія... Далей вучыцца трэба...

— Ты кінь са сваёй фігалогіяй. Пакуль ідзе вайна, працаваць трэба. Дзеля перамогі. А з вучобай паспееш. Чакаць ужо нядоўга засталося.

— Што ж, паспрабую. Можа, і спраўлюся. Ва ўсякім разе буду старацца,— паабяцаў Сцяпан.— З тэхнікай я люблю кантактаваць. З маленства.

— От так бы адразу,— задаволена ўсміхнуўся дырэктар.— А то развёў тут фігалогію...— І да Вінкоўскага: — Слыш, Карнеевіч, можа, яму і каня аддадзім: шкода ж жывёліну, каб капыты тут не адкінуў на выпадковых харчах. Усё адно ж нічыйны і на балансе не значыцца.

Вінкоўскі аж падхапіўся з месца:

— Гэта ж цудоўная думка, Пятро Гаўрылавіч. Што значыць мець гаспадарскую жылку! А я, пляшывы інтэлігенцік, пра Гнядка нават не ўспомніў. Канешне, трэба аддаць. І калёсы і збрую. Зараз жа і афармім.

* * *

На новую работу Сцяпан ехаў як запраўскі фурман, зараней усё па-гаспадарску адладзіўшы: густа змазаў колы, замацаваў калкамі кожную лёстку, каб не дрынчэлі на бруку, падрамантаваў хамут, сядзёлку. А каб не горбіцца пры яздзе на голых дошках драбінак, прыладзіў на білы папярочную скамейку, папярэдне абматаўшы мешкавінай.

Так што па частцы інвентару ўсё было як належыць. От

толькі конік Сцяпанаў быў не надта прыглядны. Касматы, брудны, з запалымі бакамі — кожная рабрына навідавоку. І ногі перастаўляе з натугай, сунецца, панурыўшы голаў. Нават вясенняе сонейка яму не ў радасць. Ды, зрэшты, адкуль ёй быць, той жывасці, калі кармілі ад выпадку да выпадку, прытым далёка не кожны дзень. Адны памыі, што пасылалі жаласлівыя жонкі піларамшчыкаў, калі тыя ішлі на працу. Ды і якія там памыі? Людзям самім не дужа што было есці. Ну ды, дзякуй Богу, перазімаваў Гнядок, выжыў. Цяпер жа стане яму намнога лепш, вальготней — вунь ужо і маладая травіца зелянее, можна будзе на лужок пускаць, а там, на млыне, зерня можна будзе ўзяць... Акрыяе, выправіцца канячына.

— Не гаруй, Гнядок, не прападзём. Вось толькі да месца дабяромся,— бадзёра трасянуў лейцамі Сцяпан.

Яны ўжо пераехалі драўляны мост цераз Бярозу, узведзены яшчэ немцамі, і цяпер трэсліся па разбітай стужцы брукаванай шашы, якая палога забірала ўгору. Гнядок зрабіў колькі крокаў і спыніўся, яшчэ ніжэй панурыўшы галаву.

Сцяпан злез з калёс, узяў каня за аброць і асцярожна пацягнуў наперад. Гнядок паслухмяна зрабіў крок, другі і пачаў старанна перабіраць на пад'ём, хаця ногі моцна дрыжалі. На горцы і конь і гаспадар, абодва ўзмакрэлыя, колькі часу адпачылі, а тады Сцяпан зноў сеў на сваё месца і скіраваў управа, на лясную дарогу. Гэты прасёлак — ён ведаў — вядзе аж да самых Капланцаў. Ні значных пад'ёмаў, ні спускаў на шляху не прадбачыцца. Так што вышэй голаў, Гнядок!

Капланцы паказаліся адразу, як толькі мінулі лес. Шарэнгі высокіх вулічных прысад, яшчэ не пакрытых зялёным убраннем, а пад імі чорныя, чырвоныя, салатавыя, а найбольш — шэрыя дахі дамоў і прысядзібных пабудоў. Пад адным з іх колькі часу давядзецца жыць і яму, Сцяпану. «Трэба будзе знайсці такога гаспадара, каб і яго карміў і Гнядка глядзеў. За плату, канешне»,— падумаў хлопец.

Млын узвышаўся над плацінай, што перагароджвала ціхаплынную рэчку Кляву, двухпавярховым драўляным кубам. Зрублены ён быў са смалістага адборнага бруса на нямецкі вугал яшчэ да рэвалюцыі і да вайны славіўся на ўсю акругу. Тут можна было, ведаў Сцяпан, не толькі на любы густ змалоць зерне, але і абадраць крупы, счасаць воўну. Сюды наязджалі завознікі нават з суседніх раёнаў. У маленькай, нягеглай з выгляду Клявы хапала сілы круціць

адначасова аж два памольных паставы або вальцы і крупарушку. Так што работа заўсёды спорылася. Але гэта ў мінулым. А як там цяпер?

Калі Сцяпан ад'язджаў сюды, галоўны механік камбіната Галуза, які дасканала ведаў усю сваю гаспадарку, капланецкі млын ахарактарызаваў так:

— Зараз, брацiку, там адны зебры ад тэхнікі асталіся — два жорнавыя камяні ды паўразбітая крупарушка. Усё астатняе — вальцы, ваўначоску — што паламалі, што расцяглі за вайну. Ды, можа, зараз гэтыя агрэгаты і ні к чаму: абыдзі ўвесь раён — авечку не ўбачыш, а скажы каму пра вальцоўку — засмяюць. Было б з чаго праснак спекчы. Не да раскошы.

— Дык што, так усё безнадзейна? — з трывогай паглядзеў тады на механіка новаспечаны загадчык млына.

— Чаму безнадзейна? Навошта адразу ж вось гэтак панікаваць? Я ж табе ку: памольны пастаў ды крупарушка шчэ даўгенька праліпяць. Магу нат гарантыю даць. Ажно на паўгода. А там — на капіталку паставім.

— Хоць за гэта дзякуй. Бо я ўжо быў падумаў адмовіцца ад загадвання...

На прыступках млыновага ганка стаялі двое старых: адзін невысокі каранасты з круглай белай барадой, другі даўжэзны, сухапары і з чыста паголеным тварам. Сцяпан спыніў каня і, не злазячы з калёс, запытаўся:

— Не скажаце, дзе знайсці млынара ці вартаўніка?

— З даваенных? — азваўся барадаты.

— А якіх яшчэ? Новых жа ніхто не прызначаў.

— Тады мы і ёсць яны самыя.— Барадаты ступіў крок наперад.— Я, знацца, мельнік. Звацъ Таран Аляксей, Хведараў сын, а ён,— тыцнуў рукой у бок суседа,— прыглядчык тутэйшы. Жукоўскі Пархвен Сідаравіч. А вы, трэба думаць, новы загадчык будзеце?

— Не памыляецеся,— злез з воза Сцяпан.— Гурскі маё прозвішча. Сцяпан Гурскі.— Наблізіўся, каб павітацца з людзьмі, з якімі ад гэтага дня давядзецца колькі часу працаваць у адной запрэжцы. Рука млынара адказала моцным энергічным поціскам, у вартаўніка аказалася вялая, абыякавая.

— Працавалі сёння, што стаіце тут? — пацікавіўся Сцяпан.

— Якое працавалі?! — незадаволена прабурчаў Таран.— Толькі наважыліся застаўку падняць, каб турбіну апрабаваць к вашаму прыезду — нам жа перадалі, што

прыедзеце,— а тут гэны шалёны як наляціць, як хопіцца за наган... Ну і не даў...

— Які яшчэ шалёны, які наган? — не зразумеў Сцяпан.

— Ды Карасік. З раёна. Начальнік нейкі. Кажа, вада для лесасплаву трэба, ну а лес для фронту...

Сцяпан уважліва акінуў позіркам шырокае люстэрка запруды перад плацінай і не ўбачыў на ёй ніводнага плыта, нават асобнага бярвенца. А вада, між іншым, падбіралася ўжо пад самы грэбень плаціны. Таго і глядзі цераз верх хлыне прама па мосце. Можа і бяды нарабіць.

— Дзе ж ён, той лес для сплаву? — павярнуўся да млынара.

— А хрэн яго ведае? Можа, дзе вышэй, пад Любушанамі? — няпэўна паказаў Таран рукою ўдаль.— Ды вунь ён сам ідзе з сельсавета, начальнік вады, у яго і пытайцеся...

З крутога ганка сельсавецкага будынка імкліва спусціўся кругленькі шустрык і подбегам накіраваўся да млына. На ім была кароткая скуранка, на шырокім афіцэрскім рэмені матлялася туды-сюды брызентавая кабура. Не павітаўшыся нават, ён з ходу затарабаніў:

— Не надумайце, не смейце спускаць ваду! Пад суд аддам! Вада, лес фронту трэба. Для перамогі. Многа і безадкладна!

— А навошта, скажыце, мілейшы, фронту ваша вада трэба? — з ціхім выклікам запытаўся Сцяпан.— Там, за Віслаю польскай, што, яе зусім няма? — Начальнік сплаву яму адразу не спадабаўся.

— Малады яшчэ мяне вучыць!..— аж узвіўся Карасік.— Я самім ваенкаматам сюды прызначан... Паспрабуй хоць пальцам застаўку крануць, то...

— То што? — Сцяпан паспрабаваў заглянуць у вяртлявыя Карасікавы вочы.

— А во! — грозна паляпаў той рукою па кабуры.

— Нават так? — нядобра ўсміхнуўся Сцяпан.

— І не іначай. Па законах ваеннага часу!..

— Тады от што,— павярнуўся хлопец да вартаўніка,— адамкніце, Пархвен Рыгоравіч, млын, а вы, Аляксей Фёдаравіч, паклічце каго з сельсавета, зробім вопіс маёмасці, а заадно правядзём апрабаванне ўсіх сістэм. Застаўку, бадай, адкрыйце зараз жа. Хай турбіна набярэ рабочы рытм — падыржавела, магчыма...

— Не дазволю адкрываць застаўку!..— ірвануўся да Сцяпана Карасік, зноў хапаючыся за кабуру.

— Спакойна, начальнік, не закатвай істэрыку і не пагра-

жай пустой кабурой.— Сцяпан ушчыльную нахіліўся да густа патыхаючага часнаком твару крыкуна.— Камандаваць мной ты не будзеш. Давай лепш дамовімся па-добраму. Людзям жыць трэба? Трэба. А каб жыць, што трэба? Хлеб. От яго мы і пачнём малоць. Сёння ж. І ваду пусцім сёння, зараз. Праўда, усяго на адну млыновую застаўку, каб жорны круціла. А то бачыш? Вунь ужо праз плаціну пачынае ліцца. А калі, не прывядзі Гасподзь, сарве, разрушыць усё? Цябе ж за такое галаваццяпства як міленькага пад трыбунал упякуць... А то і без суда і следства да сценкі паставяць. Па законах ваеннага часу...

Карасік слухаў, нервова дрыгаўся пад напорам даволі лагічных, хаця і крыху авантурных довадаў новага загадчыка і не мог прыдумаць, што б такое хлёсткае рубануць, каб не аказацца канчаткова пераможаным у слоўнай дуэлі. Але, так і не прыдумаўшы нічога, крутнуўся на адной назе і патрусіў да сельсавета:

— Я... Я так гэтага не прапушчу... Не дарую... Я зараз жа званю першаму!..

— Хоць дзесятаму,— сказаў наўздагон Сцяпан. Потым да сваіх: — Пайшлі працаваць. Вунь ужо, калі не памыляюся, першыя завознікі едуць,— паказаў на падводу з мяшкамі, што спускалася да плаціны.

— Наша вясковае радзіва спраўна робя,— хітра пасміхнуўся ў пракураныя вусы Аляксей Таран.— А вы яго добратакі адшылі, шкарадзь рыжую. Мы тут неяк раз самаволам хацелі змалоць, людзі ж просяць-моляць. Дык не, прыляціць і адразу на крык, за наган хапаецца...

— Які наган!..— зарагатаў Сцяпан.— Хіба не прыкмецілі, што кабура ў яго пустая? Каб вас, працякоў, прыпужаць, начапіў...

— Разбярэшся тут,— збянтэжана адвярнуўся млынар.

— Дзядзька Аляксей,— даверліва ўзяў яго за плячо Сцяпан,— можна я вас заўсёды гэтак зваць буду? У мяне наконт каня просьба...

— За каня не думай,— адразу ажывіўся стары.— Мой меншы, Пецька, край любіць коней. Дагледзіць як след. І жыць, калі не пагрэбуеш, у мяне будзеш. Хата, што тая стадола — на дзве палавіны. Зімой каб нагрэць, процьма дроў ідзе. І саўсім недалёка...

Хлопец з палёгкай уздыхнуў. Здаецца, пачатак яго новай дзейнасці складваецца не так ужо і кепска. От толькі як яно далей будзе з гэтым сабакам на сене, сплаўным начальнічкам: усё адно ж не перастане назаляцца, хаця і атрымаў

па пысах. Тым больш што малады яшчэ — недзе гадоў за трыццаць. Самы прызыўнік. Вось каб не загудзець на фронт, і будзе ладзіць паказуху вялікай занятасці. Ну ды, як той казаў, пажывём — пабачым.

* * *

А прыемна ўсё ж, ліха матары, адчуваць, што ты карысны людзям. Сцяпан стаяў ля каша і прафесійна спрабаваў пальцамі на мяккасць муку, што штуршкамі ссыпалася па латку ўніз. Мука на хлеб павінна быць не вельмі буйнога, але і не дробнага памолу. Тут трэба наладзіць жорнавыя камяні на тую самую залатую сярэдзінку, тады і хлеб будзе выпякацца ў самы раз. А як гэтага дабівацца, навучыў дзядзька Аляксей, патомны майстар млiва. Сам ён ля каша стаіць толькі з раніцы. Усё наладзіць, адрэгулюе як след, потым збегае ўніз, паслухае спрактыкаваным вухам, ці роўна гудзе турбіна, і заспакоены вяртаецца назад.

— Ну, здэцца, усё на мазі,— не то сам сабе, не то да Сцяпана кажа Таран.— Можна і перакусіць троху.

Ён дастае з кужэльнай торбачкі дабрэнную лусту хлеба, цыбуліну і сядае на які мяшок. Адкусвае спаважна, не спяшаючыся і тым часам неадрыўна з-пад апушчаных броваў глядзіць на Сцяпана. Чакае, калі той адыдзе ад вагаў афармляць заказ чарговаму завозніку. Тады дзядзька з небывалым спрытам выхоплівае з унутранай кішэні падзёўкі пляшку і адным духам, прама з горла, апаражняе. І, мабыць, даўно гэтак во, бо ўжо дайшоў да той стадыі, калі яму ўсё роўна — ці якой паўшклянкі выпіць, ці ўсю бутэльку. Вынік аднолькавы — поўнае «акасенне». Хапае сілы, толькі каб даплысці да тапчана ў бакавушцы.

І так ледзь не кожны дзень. Напачатку Сцяпан моцна злаваўся на старога, спрабаваў ушчуваць, пагражаў нават накласці спагнанне. Ды неўзабаве, добра паразважаўшы, не тое што махнуў рукой, але зразумеў: усё адно стары млынар піць не перастане. А сям'я — меншы сын Пецька, цудоўны даверлівы хлапчына, і параўнальна маладая жонка з бежанак вайны — застанецца без кавалка хлеба. Прывык да іх Сцяпан, можна сказаць, палюбіў. Зрэшты, і сам дзядзька Аляксей практычна ніякай шкоды не прыносіць. Наадварот, увесь тэхнічны бок млыноваага працэсу на ім. Спецыяліст, якога пашукаць.

Вось і апошнім часам. Зламалася нейкая важная дэталь у крупарушцы. Сцяпан ужо быў наважыўся завезці на рамонт у раённую эмтээсаўскую майстэрню. Таран катэгарычна стаў супраць:

— Там з цябе, Іванавіч, сем шкур здзяруць і зробяць халтуру, праз дзень зноў рамантуй. Я во пайду лепей да Паўла, каваля, занясу. Мы з ім так адладзім, што як новая будзе...

І праўда. Адладзілі адменна. Але ж і «абмылі» не горай. Пецьку давялося запрагаць Гнядка, каб развезці майстроў па хатах.

Ну ды такой бяды. Праспаліся. Затое справа не стаяла. І людзі надта не марнаваліся ў чарзе.

А яна, чарга на памол ды абдзіранне круп, у іншы дзень выстройвалася да дзесятка падвод. «Адкуль толькі ў людзей гэтулькі збожжа? — думаў Сцяпан.— Здаецца ж, ні коней — гэтага цягла, ні моцных мужыкоў-сейбітаў на вёсцы, а, глядзі ты, людзі сеялі і расцілі і ўбіралі хлеб».

Неяк у адзін з вечароў, калі стары Аляксей быў зусім цвярозы і ў добрым гуморы, Сцяпан выказаў яму гэтую сваю думку. Млынар адказаў надзіва проста:

— Кажаш, вайна і шмат хлеба? Дык то ж ад Бога. Мёртвым — царства нябеснае, жывым — доўжыць род чалавечы. От людзі і стараюцца. А зямля-матухна, яна ў любое ліхалецце не падвядзе, толькі не лянуйся ды не крыўдзі яе.

* * *

Млын працаваў амаль без выхадных. Заўсёды было завозна, бо везлі хлеб з самых аддаленых куточкаў: на ручных жорнах дужа не намелеш, а голад — не цётка.

Усе без выключэння везлі з сабой самагонку. На першым часе Сцяпан катэгарычна адмаўляўся ад такога прэзенту, але пераканаўшыся, што п'янае зелле нікуды не дзенецца, а, як правіла, трапляе ў бяздонныя кішэні Тарановай паддзёўкі, адвёў для гасцінцаў спецыяльны засек у бакоўцы, які замыкаў вечарам. Але, нягледзячы на такую перасцярогу, нямала перападала і старому. Адзін вартаўнік Жукоўскі стойка трымаўся перад самагонным націскам завознікаў. Калі хто з іх употайку соваў яму ў кішэню пляшку, каб змалоць «па блату», ён, не кажучы ні слова, браў гэтую пасудзіну і зашвырваў падалей у запруду.

— Што ж вы так, дзядзька Пархвен? Чалавечая праца ўсё-такі,— падначыў яго неяк Сцяпан.— Не шкада?

— Шкада? — Вартаўнік аж пацямнеў з твару.— Каб мая воля, я б на ўсёй зямлі не пакінуў нават кроплі гэтага сатанінскага зелля,— павярнуўся і пайшоў у сваю хаткувартоўню.

— Бапцісты ён, Жукоўскі наш,— паясніў пазней млынар.— У іх не п'юць, не кураць, не бяруць чужога, не блядуюць. Закон такі.

— А што? Цудоўны закон! Каб усе яго трымаліся, як бы светла жылося на зямлі! — з захапленнем усклікнуў Сцяпан.

— Не па мне,— шчыра прызнаўся дзядзька Аляксей.— У нашым раду і дзяды пілі-курылі, і бацькі. Ды і бабу крамяную пры выпадку не адпіхвалі. Адно што злодзеяў не было. То і мне такое наканавана. Так што, Сцяпане, ты ўжо на мяне не дужа... Я гэткі, які ёсць, не лепшы і не горшы. Адно помні — пад манастыр цябе не падвяду.

— Дарэмна крыўдзіцеся,— крыху збянтэжыўся хлопец.— Я зусім вас не меў на ўвазе, а наогул...

— Калі наогул, то праўда, канешне, твая. Тут ужо нічога не скажаш...

Словам, працоўнае жыццё на млыне працякала ў цэлым няблага. Адно, што іншы раз уносіла непажаданы збой рабочага рытму,— гэта з'яўленне на тэрыторыі млына начальніка па лесасплаву Карасіка. Не, ён унутр ніколі не заходзіў (баяўся?), а толькі падымаўся на ганак і моцна грукатаў кулакамі ў дубовыя дзверы, выклікаючы таварыша загадчыка.

Калі той выходзіў, Карасік, адвёўшы вочы ўбок, ультыматыўна заяўляў:

— Заўтра сплаўляю лес. Зранку.

— Плыты, моль? — спраўляўся Сцяпан.

— Моль.

— Хрэновы ты гаспадар, Карасік,— нейтральным тонам адзначаў хлопец.— Такіх у старажытным Рыме пазбаўлялі маёмасці і ўсіх правоў. Гэта ж нават жах падумаць, колькі каштоўнейшай драўніны прападае пры молевым сплаве. Трэць тоне на дно, трэць прыбіваецца да берагоў, а адтуль у сялянскія печы, і толькі адна-адзіная трэць трапляе па прызначэнню. От плыт — гэта надзейна.

— Ты мяне не вучы. Малады яшчэ,— аж кіпеў Карасік.

— А што такіх вучыць?.. Калі ўжо сама прырода не навучыла, то...

— Я ўсё сказаў!..— надрыўна выкрыкваў сплаўначальнік і кубарам скочваўся з ганка і кіраваўся да сельсавета. Сцяпан ведаў, што не званіць у райком, як тады пасля іх першага знаёмства, а проста так. Бо тады пасля званка Карасіка ў райком партыі Сцяпан пазваніў свайму дырэктару. Валасень адказаў у двух словах:

— Рабі, што трэба, і не перажывай з-за гаўна. Першы сакратар — мой друг, разам ваявалі,— і павесіў трубку.

Няцяжка здагадацца, што пачуў Карасік ад сакратара ў адказ на сваю скаргу, бо ніколі болей не тое, што не пагражаў, а нават перастаў насіць кабуру. Вось толькі са сваёй амбіцыёзнасцю, мабыць, не мог саўладаць. Што ж, ёсць на свеце такая катэгорыя людзей.

Як толькі пасля візіту Карасіка дзядзька Аляксей з Жукоўскім апусцілі турбінную застаўку і млын змоўк, на парозе тут жа з'явілася Каця. І адкуль даведалася, што праца спыняецца?

З твару дзяўчыне можна было даць гадоў семнаццаць-васемнаццаць. А вось ва ўсім астатнім, што табе грудзі, што — бёдры, дальбог жа, не меней трыццаці пяці, сарака. Бывае ж такое... Цікава, ці ведае пра гэта сама Каця? — падумаў Сцяпан, як убачыў яе ўпершыню.

А было гэта на другі дзень пасля яго прыезду ў Капланцы. Усе мясцовыя прыгажуні прадэфіліравалі тады перад маладым загадчыкам млына з адным і тым жа пытаннем: калі можна змалоць? Небагатая, канечне, фантазія. А з другога боку — навошта дужа арыгінальнічаць у пошуках повада для наведання млына, калі галоўнае — паглядзець на новага хлопца ў вёсцы, ну і, само сабой, сябе паказаць.

Каця на тым дзявочым парадзе была замыкаючай. Таму затрымалася даўжэй за ўсіх. Адказу на «Калі можна змалоць?» ёй было яўна недастаткова. І яна ўсё дапытвалася, ці будуць на млыне рабіць крупы, да прыкладу, грэцкія, аўсяныя, ці можна і жыта прапусціць праз крупарушку, а затым змалоць мякенька-мякенька, каб атрымаўся сітны хлеб; які зараз дзейнічае гарцавы збор. Сцяпан адказваў на кожнае пытанне грунтоўна, падрабязна, пакуль не надакучыла. Таму сам задаў пытанне:

— Вы часам не з газеты?

— Не,— сумелася дзяўчына.— А што?

— А тое, што вас цікавяць такія дэталі, пра якія не пытае ніводзін завознік. Прывёз, змалоў і — дадому. Як вас, дарэчы, завуць, цікаўніца?

— Каця,— заружавелася дзяўчына і задзірыста стрэльнула вочкамі.— От і вас тое-сёе зацікавіла? Тады скажыце і як вас завуць?

— Сцяпан. А па прозвішчу Гурскі.

— Значыць, Сцяпан, Сцёпа. Прыгожае імя, мяккае нейкае. І ласкавае.— Дзяўчына зрабіла асцярожную спробу фліртануць.

— Звычайнае,— сухавата прамовіў Сцяпан, не жадаючы ўступаць у нейкія там шуры-муры. Ён быў такі: калі дзяўчына не прываблівае з першага погляду, то і не звязвайся — усё адно шчырай блізкасці не атрымаецца. А выступаць выключна ў ролі самца было не ў яго характары. Такім ужо радзіўся на свет.

Можа, толькі адзін раз, яшчэ ў раннім юнацтве, паступіўся гэтым сваім прынцыпам: прытварыўся, што ўзаемна кахае. Але там былі зусім іншыя абставіны — калі б адвярнуўся ад той закамплексаванай, яна, без усякага сумнення, рукі на сябе налажыла б. Гэта па-першае. А па-другое, бацька яе быў начальнік паліцыі ў Бушавічах і пра гэта яму, Сцяпану, падпольшчыку, нельга было забываць. Карыстацца даверам паліцая — гэта ж тое самае, што самому насіць павязку: ніякіх сакрэтаў ад цябе...

У гэты прыход Каця не ўдакладняла больш дэталі памольнага працэсу, а ўжо з парога паведаміла:

— У нас сяння вечарынка. У клубе. Прыходзьце, пажаласта, калі, канешна, не пагрэбуеце.

— А музыка будзе? — жыва павярнуўся Сцяпан.

— Ну-у, скажаце,— з лёгкай крыўдай у голасе прамовіла дзяўчына.— Не пад язык жа скакаць. Дзеда Лявона ўгаварылі. Ён цымбаліст адмысловы — усе танцы грае. Нашы, канешна, не гарадскія.

— Што цымбалы... От каб гармонік!..— сказаў Сцяпан, каб неяк далікатна адмовіцца ад запрашэння, ды...

— Ёсцека і гармонік,— жыва адгукнулася Каця.— У Равуцкіх. Ды гарманіста ў вёсцы ніводнага. Ваююць...

— А дадуць? — ужо зацікаўлена папытаўся Сцяпан.— Гармонік дадуць? Мне. Асабіста. Даверაць?

— Вам? А то пашкадуюць, думаеце? Дык вы і гарманісты?

— Чаму і?

— Ну-у, як вам сказаць? Вы і парцізан, і мельнік, і студэнт, а шчэ і на гармоніку граеце?

— Адкуль пра студэнта ведаеце?

— Мы пра вас усё ведаем,— проста адказала Каця.— На сяле ўсе пра ўсіх усё ведаюць. А вы ж зараз як бы наш, селавы. То браць гармонік?

— Абавязкова. Калі дадуць, канечне. І нясіце прама ў клуб. На захадзе сонца і прычыкільгаю. Абавязкова. Толькі папярэдне падчапуруся трохі.

А і праўда, разважаў Сцяпан пасля адыходу Каці, што тут сядзець суткамі на млыне ды ў хаце? Жыццё ж ідзе,

праходзіць. Мо самыя лепшыя дні ў яго зараз, а ён марынуецца, сядзіць седнем у свае дваццаць з хвосцікам. На людзі трэба выходзіць часцей.

* * *

Зала ў капланецкім клубе была даволі вялікая, мабыць, не меншая, чым у раённым Доме культуры. Калі Сцяпан увайшоў, тут ужо сабралася даволі багата народу. З аднаго боку стракатай шарэнгай стаялі дзяўчаты, з другога — мітусіліся, беспрычынна тоўхаючы адзін аднаго, хлапчукі. Уздоўж сцен на доўгіх лавах сядзелі пажылыя цёткі і бабулі. Чакалі відовішча, магчыма, першага за ўсе ваенныя гады.

Кацю хлопец убачыў адразу. Яна сядзела каля самай сцэны, трымаючы на каленях гармонік. На хаду вызначыў: хромка, тое, што трэба. Яго інструмент.

Сеў побач з дзяўчынай, звычным рухам ускінуў на плячо рэмень, прабегся пальцамі па гузіках.

Звонкі, разыграны гармонік!

— Што вам для пачатку? — павярнуўся да Каці.

— Полечку,— выдыхнула тая.

І зачасціла, зааxкала срэбнымі галасамі весялуха-хромка, сарвала з месцаў маладых, няўрымслівых, закружыла ў віхурным танцы. А якімі прыгожымі робяцца людзі, калі танцуюць ад душы. Узяць хаця б тую Кацю. З выгляду — лішняга кроку не зробіць. А тут пырхае, што той матылёк. А вясковыя працаўніцы — цёткі! Як прасвятлелі іх вечна заклапочаныя твары, як праясніліся вочы, калі, успомніўшы не такую ўжо далёкую маладосць, і яны пусціліся ў скокі.

Толькі хлапчукі, адступіўшы ўшчыльную да сценкі, усё працягвалі тоўхаць адзін аднаго і для форсу бязбожна дымілі самасадам.

Сцяпану стала неяк шкада іх.

Не спыняючыся іграць, крыкнуў:

— Дзяўчаты, запрашайце ў круг кавалераў!..

І вось ужо дзявочыя пары рассыпаліся. Дзяўчаты ледзь не аддзіраюць ад сценкі падлеткаў і цягнуць на залу, а тыя ўпіраюцца, вырываюцца і аж да поту чырванеюць.

— Смялей, хлопцы! — зноў гукае Сцяпан.— Вы ж мужыкі, без пяці мінут байцы! Ці забыліся?

Глядзіш, і ўжо адзін, за ім другі, трэці скарыліся з няўмольным лёсам і няўклюдна топчуцца ў танцы.

Затым, пасля невялікай паўзы, пакуль расчырванелыя скакухі абмахваліся хустачкамі, ударыў па струнах цымбалаў дзед Лявон. Ён зайграў нейкі старадаўні вальс, мелодыю

якога Сцяпан чуў упершыню. Цымбалы ў дзеда, трэба сказаць, гучалі адменна, хаця выглядалі не надта прываб-на — учарнелыя ад часу, там-сям спярэшчаныя трэшчынамі. Але звон! Які звон! Пад ударамі паслухмяных у дзедавых руках палачак гукі вальса ліліся на залу нібы срэбразвонны ручай. Ад гэтае чароўнай дзедавай музыкі хацелася заплюшчыць вочы і слухаць, слухаць бясконца.

Калі стары Лявон скончыў іграць, яму наладзілі такую авацыю, што ў таго аж бліснулі слёзы на вейках...

— А няхай вас,— замахаў рукамі.— Досыць ужо.— Павярнуўся да Сцяпана.— Рэзні, сынок, «барыню».— І беражліва паставіўшы на лаву сваю музыку, стаў перад гарманістам. Той зайграў. Дзед Лявон тупнуў раз, другі і, падладжваючыся пад тэмп, даволі прыемным барытонам заспяваў:

Наша барыня-ўдава
Паехала па драва,
Зачапілася за пень,
Прастаяла цэлы дзень...

Прайшоўся па кругу і зноў:

Каб не тыя панічы,
Прастаяла б да начы.
Каб не тыя паповічы,
Прастаяла б да поўначы...

Аднавяскоўцы ведалі, што розных жартаў, прымавак, асабліва прыпевак у старога Лявона цэлы мех, і чакалі, што ён выдасць яшчэ на-гара. І дзед выдаў:

Сталін едзе на кані,
Гітлер — на сабаку.
Сталін Гітлеру крычыць:
Пацалуй мне ў с...у!..

У зале грымнуў такі дружны рогат, што аж шыбы у вокнах задрынчэлі. Сталі прасіць дзеда спець яшчэ што. Але ён адмовіўся наадрэз:

— Хопіць. Лішняга і свінні не ядуць.

Позна весялілася ў той вечар моладзь. Разышліся, калі ўжо стрэлкі гадзінніка перайшлі за поўнач. Дзяўчаты ішлі па соннай вуліцы і ціха, зладжана спявалі «У чыстым полі, полі пад ракітай...». Сцяпан падыгрываў.

Калі пераходзілі мост, зірнуў на запруду. Вада была спушчана — Карасік закончыў пропуск молевага лесу. Каб сабраць новы запас вады, неабходны для нармальнай работы млына, патрэбна не меней сутак. Значыць, заўтра можна з'ездзіць у Бярэзань. Тое-сёе з харчоў — мукі, круп —

завезці. А заадно збегаць на пошту: што там яму адкажуць з універсітэта, які вярнуўся з эвакуацыі ў Мінск. Дакументы Сцяпан паслаў туды яшчэ месяц назад, як толькі прачытаў у газеце аб'яву аб наборы студэнтаў.

* * *

Пасля капланецкага «курорту» Гнядка было не пазнаць. Здаецца, толькі-толькі ледзьве ногі валок, а зараз, глядзі ты, і рэбры схаваліся, і поўсць аж ільсніцца, і вочы — жывыя, бліскучыя, не тое што нядаўна — мутныя, абыякавыя. От гэтак і ўсё жывое на зямлі. Ёсць добрыя ўмовы для жыцця — квітнее, радуецца, а няма — мізарнее, чахне.

Бадзёрай рыссю каціў гружаныя драбінкі па прасёлкавай дарозе Гнядок, у добрым гуморы ехаў у Бярэзань Сцяпан. Настрой гэты можна было назваць настроем чакання прыемнага сюрпрызу. Сёння пад самую раніцу яму прыблюзніўся цікавы сон: прыгожая жанчына ў белым адзенні прама ў рукі яму падала дарагую шкатулку і, загадаўшы не адкрываць да поўдня, бясшумна выплыла з пакоя. Тут жа Сцяпан прачнуўся. Прачнуўся з незвычайнай лёгкасцю ва ўсім целе і надзіва яснай галавой, хаця спаць давялося ўсяго якіх тры гадзіны. А гэта значыць і ўвесь дзень меўся быць лёгкі і ясны.

У сны Сцяпан верыў, што б там ні талкавалі змагары з забабонамі. Паверыў яшчэ ў раннім маленстве, калі яму ў сне было прадказана, што яго пакусае сабака. І гэта сапраўды здарылася з ім на суседнім, Карповічавым, хутары. А потым, ужо ў вайну, вясной сорак другога, у адну з паганых ночак чорны арол ці мо крумкач на яго вачах зрабіў пустым тое месца на двары, дзе толькі што стаяў яго родны дзед Лук'ян. Балюча ўдарыў тады крылом у грудзі Сцяпану. А ўдзень паліцэйскі Валік забіў дзеда Лук'яна і бабулю Мар'ю. Спрабаваў злавіць і яго, Сцяпана, аднак не здолеў.

Цяжкі ўспамін на нейкі час засланіў ад хлопца прыгажосць вясновага дня, аддаліў, прыглушыў переразвон жаўрукоў у небе. Падумалася: дзе цяпер той чорны груган Валік? Сустрэцца б з ім твар у твар!..

Але спакваля ласкавае сонца, аксамітная зелень наўкруг, жаўруковы звон ды мяккі ветрык-гарэза адмялі, развеялі змрочныя думкі, і зноў у хлапечай душы пасялілася ціхая радасць чакання нечага прыемнага.

У Бярэзані ў першую чаргу заглянуў на пошту. Па-

штарка Ліда, якая абслугоўвала Жорнаўскую вуліцу, дзе кантора камбіната, адразу ж інфармавала:

— Табе ўчора занесла пісьмо. Заказное.

— А зваротны адрас?

— Мінск і... і тры літары. Ага, успомніла — БДУ.

— Лідка! — Сцяпан сціснуў дзяўчыну так, што яна аж войкнула.— Зараза! Дай я цябе пацалую!

— Што гэта з табой? — засмяялася дзяўчына.— Ці не блёкату аб'еўся? Ты ж яшчэ не ведаеш, што ў тым пісьме.

— Ведаю. Душой чую. А яна мяне шчэ ні разу не падманвала. Дзякуй, кветачка, вялізнае-вялізнае!..

Ад пошты да камбіната Сцяпан гнаў Гнядка ледзь не галопам, аж прахожыя азіраліся. І вось ён, запаветны канверт, у руках. Так, сон аказаўся прарочы: у канверце ляжаў афіцыйны выклік на вучобу ва універсітэт: «Вы залічаны на другі курс аддзялення журналістыкі філалагічнага факультэта. Заняткі пачынаюцца з 1 кастрычніка». Цудоўна! Здзейснілася! От толькі да пачатку заняткаў даўгавата чакаць. Не з першага верасня, як звычайна... Але ж... На гэта, мабыць, ёсць важныя прычыны.

Успомніў зруйнаваны Мінск і адразу ўсё зразумеў: для навучання патрэбны аўдыторыі, кабінеты, а для пражывання студэнтаў хоць якія баракі. Ці многа гэтага дабра ў горадзе, калі ўсё прасвечваецца ад цэнтра да саменькіх ускраін — суцэльныя руіны. Замест колішніх шматпавярховых гмахаў — абгарэлыя рэбры...

Няпроста будзе, нялёгка і жыць і вучыцца. Ды хоць не страшна. Не тое што на вайне, у акупацыі — кожны дзень толькі і чакай што смерці.

Цяпер пра гэта, дзякаваць Богу, не трэба ўжо думаць. Наперадзе зноў лекцыі, семінары, кнігі. Назапашвайся ведамі, пакуль малады.

А жыць як? На якія шышы існаваць?

Эт, неяк будзе. Што міру, то і бабінаму сыну. От толькі чакаць даўгавата.

Хаця, зрэшты, і гэта не так ужо кепска. Можна такі-сякі запас зрабіць на будучае. Конь жа ёсць. Уласны, сам Валасень падарыў. Афіцыйна. От ужо грошы. Прытым немалыя. Конь зараз, калі ні трактароў, ні аўтамашын, на сяле ого-го якая каштоўнасць. Ад млына што-кольвечы перападзе — можна «лішкі» мукі ды круп прадаць. Падумаў мелькам пра адзенне: у яго ж практычна нічога прыстойнага няма — ні верхняга, ні споднягa. Падумаў і тут жа махнуў рукой. Не да шыку. Прытым не такі ўжо ён і голы. Не горай

за іншых апрануты. А да восені вунь колькі яшчэ часу. Паспее за таго ж Гнядка прыдбаць нешта людскае. Купец ужо ёсць, лічы што з першага дня, як Сцяпан на сваім тады яшчэ зачуханым коніку з'явіўся ў Капланцах. Гэта Тараноў сусед Аркадзь Паўлавіч. Ён, сівы, хітравокі гаварун, без лішніх цырымоній тады прапанаваў за Гнядка абуць і адзець Сцяпана, а ў дадатак даць добрую капейчыну. Як бы заслупіў будучую здзелку. Адно папрасіў адпаведным чынам аформіць дакумент куплі-продажы. Калі Сцяпан спытаў, навошта таму абавязкова патрэбен юрыдычны дакумент, стары паглядзеў на яго нібы на блазна:

— Дык жа сельсавет, як ты з'едзеш, адразу лапу на каня накладзе.

Што ж, правільна мяркуе Аркадзь Паўлавіч. Страхоўка наперад, яна ніколі і нікому не шкодзіла. Трэба і яму, Сцяпану, вучыцца жыць у такіх вось людзей. А то ён усё, як той казаў, з плеч ды ў печ.

* * *

Такой радаснай, як зараз, Сцяпан бачыў маці да гэтага толькі раз — калі вярнуўся з партызан. Тады было ўсё зразумела — сын, першынец яе, выжыў, хоць і пакалечаны. Як жа не радавацца, калі ў іншых мацярок — адны горкія слёзы?..

А зараз?.. Хаця... Прычына для вялікай радасці не такая ўжо і нікчэмная: першы раз у жыцці сын праявіў сябе здабытчыкам, кармільцам. Прывёз у хату харчовых прыпасаў аж цэлы воз — тут табе і адменна змолатая мука, і крупы розныя, і нават ладны мяшэчак вотрубяў. Можа, удасца парасё якое купіць, будзе чым карміць. А не — дык і хлеб спячы можна, з вотрубяў, ён, кажуць, нават больш карысны, чым з абдзіранага зерня.

— Гэта ж нам, дзеткі, болей як на год хопіць, з голаду ўжо не памром,— раз-пораз змахвала няпрошаныя слязінкі маці.— А я ўжо тут і градкі ўскапала. І Янік памагаў.— Усміхнулася.— Кажа: і я хадзяін, давай і мне лупатку. Памочнік расце. Дык, можа, і з гародніны што якое вырасце, калі... Пісьмо нядаўна прыйшло з Ташкента ад Грынберга, гаспадароў хаты. Паведамляюць, што ўлетку вернуцца. Тады, мабыць, і градкі забяруць. Ну ды нічога. Цяпер не страшна. Мука, крупы свае. Колькі тут нам трэба.

— А можа, назад, у Бушавічы, ці ў Рачыборак вярнуцца? — нясмела прапанаваў Сцяпан.— Усё ж свой кут.

Толькі што радасны твар маці імгненна зрабіўся попельна-шэрым.

— Туды, да тых грабіцеляў ды забойцаў? Нізавошта. Ты ж не бачыў, што яны ў Бушавічах нарабілі — усё, што толькі можна было, расцяглі, як шчэ сцены не разабралі. У Рачыборку, праўда, бацькава адонне цэлае, нехта нават жыве ў нашай хаце. Але ж там дух смерці лунае, і не змагу я там жыць, сынок, хоць што хочаш. Дух тога самага Валіка недзе ж там хаваецца. Прыйдзе ўночы ды задушыць. Была я там і пераначаваць дайжа меркавала, а от не здолела. Закалаціла мяне ўсю, як стала вечарэць, і бы нехта на вуха шэпча: ідзі адсюль, маладзіца, інакш быць бядзе. Я малога за руку ды ў Віляцін. Там і перабылі да раніцы.

— Як знаеш, мама. Рабі як лепей,— выслухаўшы змрочны матчын аповед, адказаў Сцяпан.— З мяне ж памочнік кепскі. Сама бачыш, нага якая. Ну, а па-другое, вучыцца еду...

— Ведаю, сынку, паштарка Ліда казала. Едзь з Богам. Хіба я супраць? У цябе свая дарога. Дый не прывядзі Гасподзь аставацца тут, хаця б і на мельніцы. Ніякага прасвету. Усе табой камандуюць, круцяць-муцяць, а ты анічхні... Глянь вуньдзека на раённае начальства — чуць не ўсе старыя паварочаліся — хто з лясных хованак, бо вялікімі камандзірамі былі, шанаваліся; хто з таго ж Ташкента, дзе Грынбергі, на нейкай броні там былі. І пайшло зноў, як да вайны было: калі ты шышка, то і разумны і багаты і праўда заўсёды на тваім баку. А як просты чалавек, дык марней у калгасе за голы працадзень ці душыся пылам ды гарам, як вунь у эмтээсе альбо на вашым камбінаце. За кіло асцюкаватага хлеба.

— Пераможам немца, мамуська, зажывём як людзі! — бадзёра запярэчыў Сцяпан.— От пабачыш!

— Не пабачу, сынок. Так, як жылі да рэвалюцыі, мне ўжо не жыць. Можа, вам з Янікам што добрае і свяціць наперадзе... Дай вам Бог не бачыць ні гора, ні страхоцця. А я... Я ўжо неяк перавалэндаюся. Каб толькі вайны больш не было.

Нечакана ў хату ўляцеў — так, так, літаральна ўляцеў, а не ўвайшоў — Вінкоўскі. Твар яго, асабліва вочы, ззяў нясцерпна радасным бляскам. Сцяпан, падняўшыся насустрач, аж адступіў на крок:

— Залатую жылу знайшоў?

— Болей! Перамога! Канец вайне! — гаркнуў, як блазан, на ўсю хату галоўбух, звычайна спакойны, ураўнаважаны

мужчына.— Віншую, ваяка! — і абхапіў хлопца дужымі рукамі.

Пляснула ў далоні і тройчы перахрысцілася маці, заскакаў ад радасці Янік — бач, і ён, малеча, чакаў — не мог дачакацца гэтае светлае мінуты.

— Ну вот,— апусціўся на зэдлік Сцяпан.— Надышло... А як доўга чакалі... Аж цэлых чатыры гады. А хваліліся...

— Што будзем біць ворага на яго ж тэрыторыі,— падхапіў Вінкоўскі.— Ні пядзі чужой не хочам, ні вяршка сваёй не аддамо...

— Сколькі кровачкі пралілося, сколькі людцаў загінула, нявінных, маладзенькіх,— запрычытала маці.

Пасля хвіліннага шоку ад аглушальна-радаснай весткі Сцяпан першы вярнуўся да рэалій паўсядзённасці:

— Мам, у цябе гурок які ёсць?

— Не, дзеткі, гурка няма,— пачала выціраць слёзы маці.— Качаны квашаныя ё ды грыбы у дзежачцы салёныя. А што?

— Перамогу адзначым, мамуська. Збірай, што ёсць, на стол. А ты, Іван Карнеевіч, ідзі да калёс, там пад сенам у перадку рэчавы мяшок. Валачы сюды. Толькі асколкаў не нарабі!..

— Вас понял! — шчоўкнуў абцасамі галоўбух.— Бу здзелана! — і рвануў за парог. Праз хвіліну вярнуўся, паставіў на лаву салдацкі заплечнік і натужна выдыхнуў: — Ну і нагрузіў! Ад душы.

— Прадчуванне,— гарэзліва ўсміхнуўся Сцяпан.— Дарэчы, ты чаго забег? Не дзеля адной толькі радаснай весткі. Нешта і другое, больш празаічнае, меў на мэце?

— Ды ўсё тая ж перамога,— заўсміхаўся Вінкоўскі.— Яна прывяла да цябе. Як толькі пачулі, што Гітлеру капут, давай званіць у Капланцы. А там кажуць, адбыў у Бярэзань. Тады я давай круціць ручку на другую кропку, у Гуту. Дазваніўся. Пятровіч, ты ведаеш, тамашні млынар, адразу абрадаваў — сказаў, мае аж цэлы бачонак ачышчанай хлебнай і нават дзялянку скароміны. Толькі даставіць няма на чым. От я да цябе і шмаргануў.

— Гнядок мой зараз ого-го! — пахваліўся Сцяпан.— Не пазнаць стала. Да Гуты ўмомант дамчыць... А пакуль... давай да стала.

— З гэткае нагоды ды не ўзяць чарку? — пацёр рукі галоўбух.— Грэх жа будзе. Недаравальны.

* * *

Адшумела горкімі галашэннямі ды няўтрымна радаснымі песнямі шматпакутнае свята Перамогі.

Чаго цяпер чакаць? — задумаўся неяк раз Сцяпан і, перабраўшы ў думках колькі варыянтаў недалёкай будучыні, зрабіў для сябе пэўную выснову. Калі зыходзіць з элементарнай логікі, то краіна-пераможца павінна хутка падняцца на ногі і расквітнець, хаця страты за доўгую вайну панесла , незлічоныя. Пойдуць розныя там рэпарацыі, дапамога саюзнікаў, прытым важкая. Бо яны ж, саюзнікі, калі параўноўваць з Савецкім Саюзам, пацярпелі мінімальна як матэрыяльна, так і адносна людскіх рэсурсаў. І зажыве нарэшце савецкі народ-герой, як ніхто на свеце.

А мо, усяк жа бывае, ліха яго ведае, зноў зоймуць наседжаныя месцы старыя кадры, як гэта ўжо здзеялася ў Бярэзані, і зноў стануць правіць, як да вайны: цягнуць з працоўнага люду апошнія жылы і карміць рознымі абяцанкамі-цацанкамі накшталт светлай будучыні. Тады зноў такім, як Гурскі ці Жукоўскі, давядзецца не жыць, а існаваць, перабіваючыся з хлеба на квас і яшчэ, як да вайны, не маючы права нідзе нічога нікому сказаць пра сваё жабрацкае існаванне...

Запалонены такімі невясёлымі думкамі, вяртаўся Сцяпан на свой млын. Там, мабыць, ужо сабралася даволі вады і, канечне ж, завознікаў, і трэба будзе зноў упрагацца ў работу. Практычна аднаму. Бо надзея на актыўнасць дзядзькі Аляксея ўлятучылася канчаткова. Зялёны змій аказаўся мацнейшым за ўсе гераічныя намаганні старога млынара пазбавіцца шкоднай звычкі і літаральна праз кожны дзень звальваў яго з ног.

Праца на млыне вельмі стамляла Сцяпана і фізічна і маральна сваёй аднастайнасцю. Спачатку неабходна было прыняць завознікаў, зважыць прывезенае, узяць і засыпаць гарцавы збор, аформіць квітанцыі, прыходна-расходную дакументацыю. А потым — станавіся да памольнага пастава. На цалюткі дзень.

К вечару ногі аж гудзелі ад стомы, а правая, параненая, яшчэ і ацякала, ды так, што даводзілася расшнуроўваць бацінак.

Праўда, гэты, фізічны, бок яго млынарскай дзейнасці не так ужо і прыгнятаў — Сцяпан з маленства быў прывучаны рабіць любую работу без хныкання. Колам у горле стаяў адміністратыўны, так сказаць, бок яго дзейнасці: афармленне справаздач і, самае паскуднае, штодэкадныя наезды

рэвізора Долбіка, які так шчыраваў над кожнай лічбай справаздач, так старанна пераважваў гарцавы збор, што хлопца аж пачынала нудзіць. Заўсёды аж падмывала прама ў вочы кінуць: лысы ёлупень, трасцу ты мяне зловіш. Колькі мне трэба, вазьму, і нават камар носа не падточыць. Спецыфіка такая. Так што дарэмна стараешся...

Але ж не скажаш такога. Не намякнеш нават. Бо гэты прывярэдзіна тады з ранку да вечара будзе аціраецца тут, сачыць-высочваць.

Як бы адвадзіць гэтага Долбіка ад млына? — часта задумваўся Сцяпан. І не мог нічога талковага прыдумаць. Мудры дзядзька Аляксей, бачачы гэтыя пакуты хлопца, неяк раз параіў:

— А ты яму заткні глотку.

— Як так? — сумеўся Сцяпан.— Душануць? Вы што?!

— Барані цябе Бог, хлопча, думаць такое. Проста напаі да ўс..чкі ды хабар дай. Мукі там, круп. От і адчэпіцца. Папомніш мае слова.

— Дык жа душа не ляжыць ублажаць паскуду. Не магу.

— А ты змагі. Табе ж лепей будзе. Ды і нам. А то жыцця ўжо ад яго няма.

Як ні агідна было, а ў чарговы прыезд Долбіка Сцяпан так і зрабіў: напаіў заўзятага рэвізора да пасінення пазногцяў, ускінуў на яго шыкоўны вазок мех мукі і адправіў. Пасля таго мінуў месяц, а ён не паяўляўся. Вось табе і законнік.

А яшчэ як загадчыка Сцяпана даймалі бясконцыя чэргі завознікаў. З вазамі збожжа ля млына табарыліся і старыя і малыя і ўдовы і калекі. І ўсе амаль так ці інакш стараліся даказаць сваё права калі не на першачарговасць, то хаця б на нейкую льготу, ну, скажам, змалоць праз пяць чалавек, а не апошнім, хаця прыехаў толькі-толькі. І тут жа паказваліся адпаведныя паперы. Як такому адмовіш? Але ж вунь і ў той маладзіцы не менш пераканаўчыя дакументы на першачарговасць, і ў сагнуценькай бабулі, у якой вайна забрала аж чатырох сыноў, і, мабыць, у гэтых во дзетак, што ціхенька сядзяць на двух плоскіх мяшэчках зерня ды палахліва пазіркваюць на загадчыка млына, безумоўна, недасягальна высокага для іх начальніка.

Спыніўся каля іх, прыгледзеўся. Канечне, брат і сястра — абое круглатварыя, кірпатыя, з ільнянымі валасамі. Можа, нават блізняты. Гадкоў ім па дзесяць, не болей.

— Чаму вы, а не старэйшыя прыехалі малоць?

— Бабуля не можа. Не ходзіць...

— Паляруш у яе,— хліпнула носам дзяўчынка.

Сцяпан акінуў вокам завозніцкі табар. Падазваў дзвюх найбольш дзябёлых жанчын:

— Памажыце, калі ласка, дзецям мяшкі да каша занесці.

Жанчыны ахвотна кінуліся выконваць просьбу. Лёгка падхапілі мяшкі, занеслі ў памяшканне і паклалі на вагі.

— Я ж сказаў — да каша,— злёгку папракнуў іх Сцяпан.

— А гарцавы збор? Зважыць жа трэба.

— Потым. Мукой адлічу паложанае,— адпарыраваў Сцяпан. А дзецям наказаў прыязджаць заўтра зранку, бо на сёння памол канчаецца — вада на зыходзе.

Хлопчык даверліва схапіў яго за руку, зазірнуў у вочы:

— Я вам, дзядзечка, заўтра нештачка прывязу.

— Дзякуй, хлопчык. Толькі запомні: мне нічога твайго не трэба. Зразумеў? Цяпер жа едзь хутчэй да бабулі. Мабыць, зачакалася. Дарэчы, апроч яе, бабулі, у вас нікога болей з родных няма?

— Не-а... Татка з мамкай у стадоле згарэлі, як карнікі прыязджалі партызанаў лавіць. Мы тады з бабуляй грыбы збіралі...

Наблізілася дзяўчынка, нецярпліва паклікала:

— Паехалі, Максім, скарэй. Там жа бабуля...

— Што, яна зусім не падымаецца?

— Ногі не ходзяць, паляруш,— пачала тлумачыць дзяўчынка.— А так і гаворыць і рукамі валодае. Во ён,— паказала на брата,— каляску ёй змайстраваў на колцах. Дык яна дайжа па хаце ездзіць. А так мы ўсё самі робім. Умеем. Не маленькія.

Сцяпан адчуў, як горла яму пачынаюць душыць няпрошаныя слёзы, і паспяшаўся развітацца з сіротамі. З ганка Максімка гукнуў:

— Заўтра мы нацямочку прыедзем...

Сцяпан прыветна кіўнуў яму галавой.

* * *

Хлопчык аказаўся цвёрдым на слова. Назаўтра, як і сказаў, прыехаў да млына перад самым адкрыццём. Але ужо не з сястрой, а з маладым лейтэнантам з эмблемай вайсковага медыка на пагонах. Убачыўшы Сцяпана, Максімка падбег да яго, праворна сунуў у кішэню пінжака штосьці важкае і намерыўся джгаць назад да воза. Сцяпан узяў яго за плячо:

— Што паклаў?

— Пасля паглядзіце. Тут не трэба,— па-змоўніцку кінуў хлопчык.

— Ладна, канспіратар. А хто гэта з табой? Мо старэйшы брат вярнуўся?

— Не, сусед. Таксама хоча змалоць.

— Адпусцілі на пабыўку? — пацікавіўся ў лейтэнанта Сцяпан.

— Так што на дзесяць дзён,— ледзь не ў манеры рапарта адчаканіў лейтэнант.— Пасля паспяховага заканчэння гадзічных курсаў.

— Мабыць, і да вайны вучыўся?

— А то як жа,— пераходзячы на цывільную мову, адказаў прыезджы.— Першы курс медінстытута паспеў скончыць. Ну от як нашы прыйшлі ўлетку сорак чацвёртага, то паслалі не на фронт, а на гэтыя самыя курсы.— Усміхнуўся.— Зараз я ўжо не які-небудзь недавучаны шкаляр, а малодшы санітарны ўрач.

— Я таксама з недавучаных,— чамусьці захацелася прызнацца Сцяпану.— Праўда, з гуманітарыяў. Філолаг. Ды от дзеўбанула троху,— паказаў кавенькай на прастрэленую нагу.— Для арміі непрыгодны. Так і апынуўся тут, на млыне. Да восені. А там зноў на вучобу. У БДУ. Выклік атрымаў.

— Шчаслівучык,— з незахаванай зайздрасцю выдыхнуў лейтэнант.— А мне невядома яшчэ колькі цягнуць армейскую лямку...

— Думаю, нядоўга,— з упэўненасцю адказаў Сцяпан.— Вайна ж скончылася, і з дня на дзень павінна пачацца дэмабілізацыя.

— О каб твае словы ды Богу ў вушы. Толькі ж на Далёкім Усходзе шчэ не ўсё скончана.

— Ты пра Японію? Дык там амерыканцы і без нас справяцца.

— Не так усё проста. А пакты, пагадненні з саюзнікамі?

— Ведаеш, пра гэта я неяк не падумаў,— крыху збянтэжыўся Сцяпан.

— А ў мяне гэта з галавы не выходзіць. І такое прадчуванне, што менавіта нас, свежакоў, скора турнуць да Ціхаакіянскіх берагоў...

— Хто ж яго ведае,— толькі развёў рукамі Сцяпан і, каб перамяніць гаворку, якая была для маладога афіцэра яўна не па нутру, дзелавіта спытаў: — Шмат прывёз на памол?

— Ды не. Мяшок жыта ды паўмяшка грэчкі на крупы.

— Цягні сюды. Будзеш адразу за Максімкам.

Гэтым малады хлопец у пагонах вайсковага медыка міжвольна ўскалыхнуў у Сцяпанавай душы ўспамін пра бацьку. Той жа таксама ваенны ўрач. Як выглядае, уяўляў па фотакартцы, якая захавалася ў маці. А жывога не бачыў ні разу, бо кінуў бацька сям'ю, калі Сцяпану не было і трох гадоў. Незадоўга да вайны хлопцу ўдалося дабыць у дзеда Пархвена бацькаў адрас. І ўжо з Магілёва, калі вучыўся там, паслаў на гэты адрас ліст з намёкам на матэрыяльную помач. Бо яшчэ ўвосень саракавога айчым памёр ад скарацечных сухотаў, і маці з Янікам ледзьве зводзілі канцы з канцамі. А на стыпендыю першакурсніка было пражыць проста немагчыма. От Сцяпан і адважыўся звярнуцца да роднага бацькі. Звярнуўся і пачаў чакаць адказу. Месяц, два, тры, чатыры... Хоць бы адно слова!.. І махнуў хлопец рукой на свой нязграбны захад, рашыў жыць як набяжыць.

І ўсё ж недзе ў самы пярэдадзень вайны на «паштовым» століку інтэрната сярод груды чужых канвертаў знайшоў адрасаваны менавіта Гурскаму С. І. ад Гурскага І. П. Абрадаваўся бязмерна, куляй узляцеў на свой чацвёрты паверх, каб без лішніх вачэй прачытаць першы ў жыцці ліст ад бацькі. Калі разрываў канверт, рукі ад узбуджэння ўздрыгвалі. Такога за сабой яшчэ ні разу не заўважаў. Упіўся вачыма ў роўныя фіялетавыя радкі. Бацька паведамляў, што жыве зараз з сям'ёй непадалёк ад Бабруйска і з'яўляецца начальнікам шпіталя. І хаця пасада гэта адымае практычна ўвесь час, знайшоў нарэшце «фортачку», каб адказаць на ліст. Дочкі, Таня і Лена, гэта значыць зводныя сёстры Сцяпана, перадаюць яму палкае прывітанне, жонка — таксама. Усе хочуць бачыць свайго дарагога сваяка. Таму прыязджай у госці, як толькі здасі сесію.

Сцяпан акуратна склаў ліст, закінуў у фанерны чамадан пад ложкам і пачаў наноў перабіраць у памяці, аналізаваць напісанае. Усё, што паведамляў бацька, скіроўвала да адной высновы — прычына такога доўгага маўчання зусім не ў занятасці. Ніякая службовая занятасць не можа стацца недальнай перашкодай, каб адказаць колькі слоў сыну, што аб'явіўся праз семнаццаць гадоў. Вольную хвіліну заўсёды можна выкраіць, хай хоць камяні з неба падаюць. Тут нешта іншае. А што іменна? Неяк самі сабой паўсталі перад вачыма радкі, дзе перадаецца палкае прывітанне ад сясцёр і новай бацькавай жонкі. Мусіць, як жаніўся, утаіў ад яе, што ўжо быў жанаты і нават мае дзіця. А зараз, калі мінула

столькі часу, баяўся ўжо і перад дочкамі прызнацца ў колішнім падмане. І ўсё ж сумленне загаварыла — канечне, гэта яго, Сцяпанаў, ліст прымусіў бацьку прызнацца ў колішніх грахах. І насуперак чакаемаму скандалу ўсё абышлося калектыўным запрашэннем сына ў госці. Хутчэй за ўсё дзяўчаткі пастараліся. Самі ж недзе яшчэ смаркатыя школьніцы. А тут раптам брат! Ды вунь які — студэнт, дарослы чалавек. Як жа не пабачыць яго?!.

Ехаць ці не ў Бабруйск Сцяпан асабліва не задумваўся. Грошы на білет у яго будуць — у канцы месяца стыпендыя. А адтуль на дарогу дадому бацька дасць. Не можа не даць: вунь колькі гадоў хаваўся. Галоўнае ж зараз было паспяхова здаць сесію, каб і на будучы год мець стыпенцыю. І раптам у самым канцы сесіі чорная талерка рэпрадуктара на інтэрнацкай сцяне аб'явіла: вайна!.. От і з'ездзіў у госці...

Сцяпан наблізіўся да лейтэнанта, калі той, засыпаўшы зерне ў кош, старанна абтрасаў кіцель.

— Як завуць цябе, служывы? Абрыдла ўсё лейтэнантам называць...

— Іванам абазвалі, як радзіўся,— усміхнуўся лейтэнант.— Так і хаджу з гэтым імем. Іван Іванавіч Кунцэвіч.

— То і я ж Іванавіч. Ледзь не радня. Дарэчы, мой бацька таксама медык. Ваенны. Толькі званнем вышэй. Да вайны шпалу ў пятліцы насіў. Капітан. Начальнік шпіталя быў. А зараз... Можа...

— Усё быць можа,— сур'ёзна падхапіў Іван.— Вайна, браце.— Пацікавіўся: — Вы што, згубілі адзін аднаго?

— Лічы, што так. Але... дасць Бог, часова. Як той казаў, толькі гара з гарой не сходзіцца.

Развіталіся млынар і санурач ледзь не закадычнымі сябрамі. Нават па чарцы ў Сцяпанавай бакоўцы выпілі, абяцалі перапісвацца.

Маладосць, яна хутка збліжае людзей. Асабліва ў экстрэмальных умовах. Праўда, бывае і зусім наадварот: раскідвае ў розныя бакі старых сяброў, каб больш ніколі не сустрэцца.

Пасля абеду зазірнула на млын Каця. Нейкая ўнутрана стоеная, напружаная. Паздароўкаўшыся, доўга мялася, потым нясмела запытала:

— Гэта праўда, што вы скора ад нас уязджаеце?

— Адкуль такія звесткі? — гарэзліва зазірнуў Сцяпан дзяўчыне ў вочы.

— Сарока на хвасце прынесла,— паспрабавала пажартаваць Каця, але адчуўшы, што жарт у яе не атрымліваецца,

сур'ёзна дадала: — Ліда, што на пошце робя, сказала. Яна мне радня.

— Глядзі, як хутка пагудкі распаўсюджваюцца,— усміхнуўся хлопец і пацвердзіў: — Праўда, Кацюша. Да першага кастрычніка павінен быць ужо ў Мінску.— Гулліва прыцягнуў дзяўчыну да сябе, абняў за плечы.— Шкада, што заліхвацкі гарманіст пакідае вёску?

— Ат, ні чарта ты не панімаеш,— раптам рэзка адхіснулася Каця.— Гарманісты будуць. А вот чалавека такога мне болей не стрэць — не бачыць,— і, закрыўшы рукамі твар, ступіла да выхаду.

Сцяпан застаўся стаяць як апараны. З донца душы пачало падымацца, запаланяць істоту незадавальненне сабой: «Бервяно няшчаснае! Яна ж закаханая ў цябе па самыя вушы, а ты ўсё жартачкі-кепікі строіш...»

Памкнуўся быў дагнаць Кацю, растлумачыць, што ён ужо амаль жанаты, чакае каханую, калі тая вернецца з няволі, што не можа, не мае права здрадзіць сваёй Анюце. Словам, хоць крыху супакоіць дзяўчыну, памагчы ёй адагнаць, развеяць нездзяйсняльныя мары-надзеі. Памкнуўся і тут жа спыніў сябе: «А чаму, уласна, ты павінен апраўдвацца перад ёй? Ты што, дамагаўся яе блізкасці ці абяцаў што? Нічога ж між вамі не было. Літаральна нічога. Толькі сённяшні сяброўскі абдымак. Дык падобных, а то і напраўдашніх абдымкаў Каця мела ўжо, можа, не адзін дзесятак. А ты...» І ён адчуў, як ад гэтых цвярозых разважанняў злосць, незадаволенасць сабой пачынаюць знікаць, улятучвацца. Каб вярнуцца да роўнага гумору, пакульгаў у бакоўку, дзе на століку стаяла пачатая з Іванам пляшка.

* * *

Пад канец жніўня на млыне здарылася сур'ёзная паломка — выйшла са строю, а дакладней, не вытрымала доўгачасовай эксплуатацыі ступіца галоўнага вала. А без яе ні памольны пастаў, ні крупарушка не маглі працаваць. Патрабавала падцяжкі перакошаная часам і падгнілымі ад сырасці мацаваннямі турбіна; сама прасілася хоць на бягучы рамонт уся трансмісія. Работы навальвалася неўправарот, і дзядзьку Аляксею нават з дапамогаю Жукоўскага і, вядома ж, яго, Сцяпана, было з ёю не справіцца ні да верасня, калі хлыне новы хлеб, ні да кастрычніка, калі хлопцу ўжо трэба было пакідаць сваю пасаду. Яшчэ нядаўна меркаваў пайсці з загадчыкаў з пачуццём годнасці — маўляў,

пакідаю прадпрыемства ў поўным парадку. Станавіся любы і працягвай працаваць. І от не выйшла. Усё пайшло цераз пень-калоду. Суцяшала адно — не ён у гэтым вінаваты, а няўмольны бег разбуральніка-часу. Тым не менш было вельмі і вельмі непрыемна.

Калі падзяліўся сваімі перажываннямі з Вінкоўскім, той аж рукамі замахаў:

— Кінь пра гэта думаць, хлопча!.. Не пры табе, дык пры кім другім такое здарылася б. Не магло не здарыцца. Ён жа, млын гэты, шчэ з часоў пуску, а было тое задоўга да рэвалюцыі, ні разу па-сапраўднаму не рамантаваўся. Я ў Галузы, галоўнага механіка, удакладняў. Так што не перажывай. Думай лепш, як падрыхтавацца да вучобы. Не да цешчы на бліны паедзеш. Можа, што ад мяне трэба?

— Памажы Гнядка на продаж аформіць. Ёсць добры пакупнік, гаспадарлівы, жывёлу любіць,— першае, што прыйшло ў голаў, папрасіў Сцяпан.

— Гэта не складана,— адразу згадзіўся Іван Карнеевіч.— Мішку Саковіча ведаеш? Ну дык ён зараз натарыяльнымі справамі верхаводзіць. Я перагавару. Зробіць як след. Канешне, заплоціш пэўны збор. Ну і там пляшку зелля не пашкадуй. Не грэбуе, лайдак...

— То, можа, не станем цягнуць, ■ зараз?

— Думаеш звальняцца?

— А што лынды біць? І на рабоце і, фактычна, без яе. А так хоць пачытаю да апупення. Паверыш, як пайшоў працаваць, ніводнай старонкі не перагарнуў.

— Разумею. Для цябе гэта, як выкрэслены з жыцця час. От што, пайшлі да Саковіча прама зараз. Дадому,— прапанаваў Вінкоўскі.— У яго якраз абед. Прыхапі, што трэба. Ёсць, спадзяюся?

— Чаго-чаго, а гэтага дабра хапае,— паказаў на падводу.— Там і для цябе прэзент.

— Ладна ўжо за мяне. Давай тваю справу спачатку зробім. Толькі во на «ундэрвудзе» акт куплі-продажы адстукаю, каб усё чын чынам было. Распрагай каня тут. На возе ніхто нічога не кране. Гаспадыня пасцеражэ.

* * *

З Бярэзаня ў Капланцы Сцяпан вяртаўся ўжо юрыдычна на чужым кані: у кішэні ляжала папера, па якой Гнядок з усёй амуніцыяй пераходзіў у поўнае ўладанне новага гаспадара — Аркадзя Паўлавіча. Конь у яго будзе не толькі

добра дагледжаны, але стане нарэшце выконваць сваё спрадвечнае прызначэнне — працаваць. Не тое што ў Сцяпана — запрагаўся раз на тыдзень. Аркадзь Паўлавіч выкарыстае яго да апошняй магчымасці — ці табе соткі ўзараць, ці бульбу пасадзіць — убраць, ці дроў, сена прывезці, ці хаця б, на крайні выпадак, хворага ў бальніцу даставіць. Зараз жа на вёсцы ні трактароў, ні аўтамабіляў. Усё вайна праглынула. І калі шчэ ўсё тое паявіцца?

Аркадзь Паўлавіч як убачыў дакумент з гербавай пячаткай, заззяў ад радасці, нібы маладзён.

— Ну, Іванавіч, век цябе буду помніць, дабрыню тваю і павагу да мяне.— Патупаў да старэнькай шафы, расчыніў на ўсю шырыню дзверцы.— Бяры. Гэта ўсё для цябе падрыхтавана. Адзенешся з галавы да ног: касцюм, дзве сарочкі, штаны новыя, паўпаліто, бацінкі няношаныя. А да таго і грошай дам. Нясі, старая.

Грошай было шмат, можа, тысяч пяць ці болей. Сцяпан аж не адважыўся адразу ўзяць гэты ёмісты пакунак асігнацый.

— Бяры, студэнт,— падбадзёрыў яго гаспадар.— Спатрэбяцца. Грошы — вада. Не паспееш азірнуцца, як сплывуць. Асабліва калі кішэні ў чалавека дзіравыя. Але ж ты, здаецца, не з такіх. Мусіць, з беражлівых. На млыне парадак меў і п'яны не валяўся...

— Добра, добра, Аркадзь Паўлавіч, загітавалі,— засмяяўся Сцяпан.— Спадзяюся, падкінеце на вашым транспарце беднага калеку дадому?

— Як не сорам сумнявацца!.. З поўным камфортам!

— Тады давайце пачнём з млына. Трэба там штосьці забраць.

— Усё зробім. Але спачатку здзелку абмыем, каб не плеснела.— І да жонкі: — Пячы, Аўдуля, яешню. А мы з Іванавічам тым часам усё як след спакуем.

* * *

Вярнуліся з Ташкента Грынбергі, і маці з Янікам вымушана была шукаць новага прытулку. Пасля «падворнага абыходу» ледзь не ўсяго пасёлка знайшлі нарэшце пакойчык у адзінокай жанчыны па мянушцы Тэпка, што жыла на ўскраіне. Хаціна ў яе была маленькая, зладжаная з колішняй стопкі, але ўсё ж жытло пад дахам. Хапіла месца для ложка і нават камода. Шафу і кушэтку, прывезеныя некаліс з Бушавіч, паставілі да лепшых часоў у дашчаным

хлеўчуку — адзіным гаспадарчым збудаванні на падворышчы. Сцяпан, вярнуўшыся з Капланцаў, рашыў там, у хлеўчуку, і пасяліцца часова, да ад'езду ў Мінск. Балазе надвор'е трымалася цёплае, і спаць можна было нават на вуліцы, калі не імжыла.

На першым часе, абклаўшыся разнамаснай літаратурай — у асноўным з асабістай бібліятэкі знаёмага Вінкоўскаму настаўніка,— чытаў. Не адрываўся ад кнігі, пакуль не пачынала рэзаць у вачах. Прытым усё запар — вершы, прозу, філасофскія трактаты, гістарычныя даследаванні... Тыдні праз два гэты лайдацкі занятак пачаў надакучаць. І Сцяпан усё часцей стаў падумваць, як бы больш рацыянальна распарадзіцца астаткам вольных дзянёчкаў, каб спалучыць прыемнае з карысным. Вярней за ўсё было б заняцца зборам грыбоў — лес жа побач — адразу за Тэпчыным участкам. І ўраджай на апенькі ды зялёнкі сёлета надзіва: людзі вяртаюцца дамоў не тое што з поўнымі кошыкамі, мяхамі валакуць грыбы. Але ж з хворай нагой многа не паходзіш. Не для яго, Сцяпана, пакуль што гэты захапляючы занятак.

А што, калі ўспомніць не такое ўжо далёкае маленства ды паспрабаваць рыбачыць? Да Бярозы рукой падаць. А вуды паможа наладзіць той жа Вінкоўскі, можа, і мясціны якія добрыя пакажа. Зрэшты, Сцяпан і сам няблага валодаў рыбацкімі сакрэтамі, амаль беспамылкова ўгадваў, дзе трэба закінуць вуду, а дзе не варта спыняцца. Яму, малому — цьфу, цьфу! — чамусьці заўжды, на зайздрасць равеснікам, шчасціла — бадай, і не ўспомніш цяпер выпадку, каб вярнуўся дадому з пустым куканам. Няўжо зараз яму здрадзіць рыбацкая ўдачлівасць? Няўжо бог шанцу за вайну адвярнуўся ад яго? Здаецца ж, не дужа грашыў у гады ліхалецця...

На прадзім'і аблічча Бярозы-ракі даволі прыкметна мяняецца. Як бы цішэе на самай быстрыне разгулістая ўлетку плынь, цямнейшай робіцца вада, ападаюць на прыдонне водарасці, рудзеюць, агаляюцца прыбярэжныя хмызнякі. Рыба ў такі час адыходзіць з плёсаў ды перакатаў на глыбіню, збіраецца па ямах, вірах.

Адну такую яміну Сцяпан нагледзеў у затоцы за грэбелькай. Плынь тут ціхая-ціхая, амаль непрыкметная — не трэба штохвілінна папраўляць паплавок — і глыбіня прыстойная — метры за два. Прытым бераг даволі прыдатны — не крута абрывісты, а палогі — зручна падсакам дзейнічаць.

Хлопец разматаў адну вуду, закінуў і пачаў разматваць

другую. Пакуль нажыўляў чарвяка, паплавок першай знік. Схапіў вудзільна, падсёк і адразу адчуў — ёсць! І нешта не смаркаценькае, вунь як упіраецца. Няйначай акунь-фунтавік. Трапянулася ў грудзях, азартна затахкала сэрца. Закарцела хутчэй пабачыць, патрымаць у руках першую за апошнія чатыры, не, ужо пяць гадоў, здабычу, хаця па ўсіх акадэмічных правілах буйную рыбу спярша неабходна павадзіць, змарыць, а тады ўжо, аслабелую, падхапіць падсакам і — на бераг. Ды дзе ты ўцерпіш. Пацягнуў, аж вудзільна ў дугу, шваркнуў на сябе, і — вось ён, паласаты прыгажун. Б'ецца, трапечацца ў пажухлай траве. Схапіў дрыготкай рукой пад жабры — моцна, зараза, вырываецца. Кінуў у вядзерца, азірнуўся назад, на затоку. А там ужо і другі паплавок, набіраючы скорасць, імчыць убок. Так звычайна бярэ добрая плотка.

Яе ўжо хлопец вывудзіў больш спакойна, хаця і не без хвалявання. За ёй — яшчэ адну. Потым зноў дабрэннага акуня. Жор стаяў незвычайны, спраўляйся толькі нажыўляць чарвякоў ды закідваць. Такога ў Сцяпанавай практыцы шчэ не здаралася.

Хаця... Нічога дзіўнага, рыба да зімоўкі рыхтуецца, тлушч нагульвае. А тут такія апетытныя чарвякі з Тэпчынага агарода, тоўстыя, што твае выпаўзкі.

Неўзабаве Сцяпан шкадаваў, што ўзяў на рэчку толькі вядзерца. Трэба было і свой заплечнік прыхапіць. Бо вядзерца тое ўжо было перапоўнена, а рыба ўсё не пераставала брацца. Давялося здымаць гімнасцёрку ды прыстасоўваць пад мяшок.

Рыба перастала лавіцца, як толькі пачало змяркацца. Сцяпан зматаў вуды, паважкаў улоў: нішто сабе, кіло на дзесяць пацягне. Усміхнуўся сам сабе: пакуль дадому дабярэцца — пудам здасца...

Як таго і чакаў, ні маці, ні гаспадыня не паверылі напачатку, што гэта менавіта ён сваімі вудамі нацягаў столькі за адвячорак.

— Мабыць, хаўрус займеў з арцеллю, што для начальства рыбу ловіць,— выказала меркаванне Тэпка.— Гэныя арцельшчыкі за грошы, асабліва за гарэлку, колькі хочаш дадуць... Бо і маторка ў іх, і сеткі розныя...

— Лепей бы, сынок, пабярог грошы надалей. Скора ж ехаць... — у тон гаспадыні выказалася маці.

— Лепей бы, мамулька, пашукала дзе солі, чым дарэмна падазраваць,— весела адказаў Сцяпан.— Вас, гаспадынька, гэта таксама тычыцца. Тут рыбы не на адзін дзень. Каб не сапсавалася.

— І мне дасце? — не паверыла Тэпка.

— А як жа. Усім, думаю, хопіць,— паглядзеў на маці Сцяпан.

— Вядома. Разам жа жывём,— кіўнула галавой маці.

— Тады от што я вам скажу.— Гаспадыня для нечага абцягнула кафтан.— Пры табе, Сцяпанка, скажу, пакуль не паехаў. Каб ведаў. Праз гэтую ласку за кварціру я з тваіх ніякай платы браць не буду. Аж да новага года. Ці ж я хапужына якая?..

— Дзякуй вялікае вам, цётачка,— ад душы прамовіў хлопец.

* * *

Апошнюю перад ад'ездам на вучобу ноч Сцяпан, можна сказаць, не спаў зусім. Круціўся-вярцеўся на сваёй кушэтцы і ўсё думаў, думаў. Спачатку не выходзіла з галавы Анюта. Ні пісьма ад яе, ні якой вестачкі, хаця не раз наводзіў праўкі цераз знаёмых у яе роднай Матылянцы. Нібы ў вір галавой. Ці хоць жывая дзе? Затым уявіўся, паўстаў перад вачыма дашчэнту разбураны Мінск. Які прытулак дасць гэты няшчасны горад яму, студэнту? Дзе надарыцца жыць, чым харчавацца, ці далёка будзе хадзіць з хворай нагой на заняткі? Мільганула падспудная думка: мо ўзяць з сабою лыжку, кацялок? Але адразу адмахнуўся ад яе: не трэба людзей смяшыць. Свярбелася прыхапіць падараны на млыне Максімкам-сіратой «вальтэр» — маленькі такі, зручны. Доўга вагаўся і нарэшце дайшоў да адзіна дапушчальнага рашэння — пакінуць пісталет дома. Толькі строга-настрага наказаць маці, каб берагла зброю ад вачэй Яніка: у хлопчыка зараз той самы ўзрост, калі магнітам цягне да розных страляючых штук.

Што з сабой павязе? Усё самае лепшае на сабе — падзёўка, касцюм, чаравікі. Астатняе — бялізна, запасная сарочка, шкарпэткі — запраста змесціцца ў заплечніку. Туды б яшчэ добры кавалак сала зафугаваць. Ды... Абыдзешся, студэнт, і вяленай рыбкай. На першы выпадак — будзе. А там Бог бацька.

Провады былі сціплыя. Янік яшчэ напрыцемку пабег у школу. Сцяпан нават не паспеў на развітанне абняць браціка. Тэпка таксама кудысьці пайшла па сваіх справах. Адна маці з замаркочаным тварам завіхалася ля печы.

— Зноў на чужую старану, сынок?

— Не абрастаць жа тут мохам...

— Не-е, я саўсім не проці. Вучыся, дзеткі. Бо тут табе, я так мяркую, ніякага прасвету...

— Правільна мяркуеш, мама.— Сцяпан падышоў, абняў старую за худыя плечы.— Вывучуся, дасць Бог, табе памагаць стану, Яніку... Трэба ж нечага надзейнага дамагацца, каб на ўсё жыццё. Сама ведаеш — пад ляжачы камень вада не цячэ.

Наскора паснедалі, і хлопец ускінуў на плячо рэчавы мяшок, узяў у рукі кавеньку. Папрасіў:

— Калі ласка, не праводзь. Кажуць, кепская прыкмета. І ўсяго добрага. Да зімовых вакацый. Мацуйцеся тут...

Ступіў за парог, у той бок, дзе ляжала шаша на Мінск — дарога ў яго невядомую будучыню.

# СУТЫЧКА

Апавяданне

Снегу выпала многа. Ён быў мяккі, пушысты і такі асляпляльна белы, якім бывае ў горадзе толькі свежы снег. А галоўнае — снег добра ляпіўся. У гэтым Валька ўпэўніўся, калі прасунуў руку ў фортачку і набраў яго з птушынай кармушкі цэлую жменю.

Валька апрануў старую шубку, з якой даўно ўжо вырас, насунуў на ногі валёнкі і выйшаў на двор. Паглядзеў туды-сюды, нікога з дзяцей на двары не было.

Сумнавата, канечне, гуляць аднаму. Цяпер бы самы раз паклікаць каго-небудзь. Ды як пазавеш, калі на гэтым двары Валька нікога яшчэ не ведаў. Справа ў тым, што пераехалі яны — Валька, яго старэйшы брат Пеця і бацькі — у гэты раён толькі пазаўчора. Пераехалі часова, пакуль у іхнім доме зробяць капітальны рамонт — гэта значыць, новую падлогу пасцелюць, новыя аконныя рамы ўставяць, занава ўсё пабеляць, пафарбуюць.

Бацькі былі трохі не задаволены сваім часовым прытулкам — цесна, маўляў, няма ніякіх выгод,— але Валька на гэта не зважаў. Яму тут падабалася нават больш, чым на старой кватэры. Хіба там двор? Не двор, а нейкі мяшок каменны з дзіркамі-пад'ездамі. А тут вунь які прастор! Нават на лыжах катацца можна, не выязджаючы за горад. І відаць адсюль далёка-далёка навокал, не тое што нейкі там кавалачак неба над галавой.

Валька ўздыхнуў на поўныя грудзі, надзеў рукавіцы і пачаў ляпіць снежную бабу. Па праўдзе кажучы, работа гэтая не для аднаго. Але што парадзіш, калі нікога больш няма. Не стаяць жа склаўшы рукі.

Скачаў Валька першы ком і добра-такі запыхкаўся. А яшчэ ж трэба скачаць другі, трэці, ды падняць іх, ды паставіць адзін на адзін. Ці справіцца ён, Валька, з такой задачай, калі ніхто не падыдзе? Можа, лепш махнуць на гэту задуму рукой ды стаць на лыжы? Але ж шкада.

Заўтра, а мо і сёння к вечару такога ліпучага снегу ўжо не будзе. Ціскане мароз, хоць і невялікі, і ўсё...

Падумаў так Валька і ўзяўся качаць другі ком. Падкаціў да будучай бабы і разагнуўся адсопваючыся. І тут над самым яго вухам пачуўся тоненькі галасок:

— Можа, памагчы?

Валька азірнуўся і ўбачыў перад сабой дзяўчынку. Яна была ўся чырвоная. Чырвоная шапачка, чырвонае паліто, чырвоныя шаравары. Нават кірпаты нос і круглыя шчокі і тыя былі чырвоныя.

— Давай памажы,— памяркоўна згадзіўся Валька.

Яны ўдваіх, хаця і з вялікай натугай, усё ж ускацілі другі ком на першы. Чырвоная дзяўчынка абтрэсла паліто і запыталася:

— Як цябе завуць?

— Валька. А цябе? — у сваю чаргу запытаўся Валька.

— Лена.

— Ты таксама тут часовая? — пацікавіўся хлопчык.

Лена не зразумела яго:

— Як гэта часовая?

Валька растлумачыў.

— Не,— засмяялася Лена,— мы тут заўсёды-заўсёды жывём.

— І ты ўсіх тут ведаеш?

— Ну.

— Тады кліч сюды сваіх сяброў,— узрадаваўся Валька.— Весялей будзе.

Але нікога клікаць не трэба было. Дзеці самі высыпалі з дамоў.

Неўзабаве вакол Валькі і Лены стаяў ужо вясёлы смех і гоман. Проста на вачах пачалі расці яшчэ дзве снежныя бабы.

— Хто хутчэй!

— Давай націскай!

— Гэ-гэй, з дарогі, падтапчу!..

— Моркаўку нясі, моркаўку хутчэй!

— Санька, бяжы за дом, там старая мятла валяецца...

Гэтыя воклічы, перагаворы зліваліся ў суцэльны тлум.

Усе тры снежныя бабы атрымаліся амаль аднаго росту, і цяпер дзеці стараліся зрабіць іх як мага прыгажэйшымі. Выдумлялі, хто што мог. На галаву адной бабе надзелі старое вядро, другой завязалі хустку, а Валька прынёс для сваёй бацькаў рыбацкі капялюш з саломы і надзеў яго набакір. Атрымалася здорава. Дзеці аж заскакалі, запляскалі ў далоні.

І раптам па капелюшы ўдарыла снежка. Капялюш зляцеў.

— Жорка! — здушана крыкнула Лена і кінулася да свайго дома.

Як вераб'і, рассыпаліся хто куды і астатнія дзеці.

Валька застаўся адзін. Неяк няўтульна зрабілася яму, нават снег здаўся не такім свежым і чыстым, як хвіліну назад, быццам адразу пацямнеў. Хлопчык стаяў і, нічога не разумеючы, азіраўся.

З-за дома выйшаў і не спяшаючыся пачаў набліжацца да Валькі хлапчук. Ён быў бадай што на цэлую галаву вышэйшы за Вальку. З-пад шапкі звісаў на самыя вочы рыжы чуб, у куточку рота дымілася цыгарка. Незнаёмец падышоў да Валькавай снежнай бабы і капнуў яе нагой.

— Не чапай,— ступіў наперад Валька,— не ты ляпіў.

— Я вось табе зараз як заляплю! — падняў руку хлапчук.

Валька схапіў яго за руку, рэзка крутнуўся, і незнаёмец тарчма паляцеў у снег. На ганку нясмела захіхікалі. Рыжы падхапіўся, сарваў з галавы шапку і, шпурнуўшы яе ўбок, рынуўся на Вальку. Але не паспеў дакрануцца да яго, як зноў расцягнуўся на снезе. Цяпер на ганку ўжо зарагаталі на ўвесь голас.

— Так яго! — крыкнулі адтуль.

— Ага, нарваўся на свайго, Жорачка!..

Рыжы Жорка палыпаў вачыма, падняўся і спрытна скочыў за снежную бабу. Ён вырваў у яе з-пад пахі старую мятлу, пераламаў аб калена і пайшоў на Вальку. Валька стаяў. Рыжы наблізіўся да яго і замахнуўся палкай. Яшчэ імгненне, і палка апусцілася на Валькаву галаву. І тут, у гэта самае імгненне, Валька, нібы распушчаная спружына, адарваўся ад зямлі і ўдарыў рыжага галавой пад грудзі. Жорка ўпаў, некаторы час паляжаў нерухома, потым схапіўся рукамі за жывот і пачаў качацца па снезе.

— Ы-ы-ы,— глуха енчыў ён.

З дзвярэй дома гурбой высыпалі дзеці. Яны ўсе з захапленнем глядзелі на Вальку.

— Маладзец, Валька! — вішчала ад радасці Лена.— Так яму і трэба, хулігану гэтаму. Ён заўсёды нас біў. Жыцця ад яго не было. Трэба было яшчэ нападдаць!..

— З яго і гэтага хопіць,— спакойна адказаў Валька.— Хай не лезе. Я ж яго не чапаў. Сам палез.

Жорка сеў і пачаў размазваць па твары слёзы. Валька падняў яго шапку, надзеў на рыжую галаву і ўзяў за руку:

— Падымайся.

— Не буду-у-у,— яшчэ мацней заплакаў рыжы Жорка.— Няхай усе пойдуць.

Калі ўсе адышліся, Жорка ўстаў, старанна абтрос снег і, не гледзячы Вальку ў вочы, сказаў:

— Пойдзем адсюль, пагаварыць трэба.

І яны пайшлі па двары, адзін маленькі, прысадзісты, другі на галаву вышэйшы. Пайшлі, ажыўлена размаўляючы.

Хто яго ведае, пра што яны гаварылі. Можа, пра тое, што старэйшы Валькаў брат Пеця, майстар спорту па вольнай барацьбе, навучыў Вальку многім прыёмам гэтай барацьбы; можа, пра тое, што сам Валька кожны дзень робіць зарадку, абліваецца халоднай вадой, займаецца гімнастыкай, бегае на каньках і лыжах, а летам ездзіць на веласіпедзе; можа, пра тое, што Валька ахвотна навучыць усяму, што ўмее, рыжага Жорку і яны будуць заўсёды дружыць. Можа, пра гэта яны гаварылі, а можа, пра штонебудзь зусім іншае. Ды гэта ўрэшце не так ужо важна, пра што была гаворка ў Валькі з Жоркам.

Важна другое. З таго дня на двары дома, у які часова пераехаў Валька, рыжы Жорка больш ніколі не крыўдзіў меншых.

# Змест

Курто Я.
К 93 А жыццё — адно: Аповесці, апавяданне.— Мн.: Маст. літ., 1994.— 271 с.
ISBN 5-340-01290-5.

У цэнтры аповесці «А жыццё — адно» — чалавек, які нарадзіўся на пачатку 20-х гадоў і, натуральна, стаў прадуктам для ваеннай мясарубкі. Сустрэўшы вайну наіўным лётуценнікам (школа Паўкі Карчагіна), ён выходзіць з яе ўжо без шораў бяздумнага ўра-патрыёта. Аповесць вызначаецца своеасаблівым бачаннем мінулай вайны. У творы праўдзіва паказаны трагічны лёс чалавека і яго характару ў экстрэмальных сітуацыях. Аповесць «На свой хлеб» з'яўляецца лагічным працягам тэмы, распачатай у папярэднім творы.

К $\frac{8820600000-116}{М\ 302(03)-94}$ 9—94 ББК84 (4Беи)6

Літаратурна-мастацкая выданне

Курто Яўген Іванавіч

А ЖЫЦЦЕ — АДНО

Аповесці, апавяданне

---

Рэдактар І. І. Кананові́ч. Мастак Э. Э. Жакевіч. Мастацкі рэдактар А. І. Дрозд. Тэхнічны рэдактар Г. Г. Федарук. Карэктар Л. М. Маслоўская.

Здадзена ў набор 04.06.93. Падп. да друку 30.08.94. Фармат 84×108 1/32. Папера друк. № 1. Гарнітура тып Таймс. Афсетны друк. Ум. друк. арк. 14,28. Ум. фарб.-адб. 14,28. Ул.-выд. арк. 16,40. Тыраж 6000 экз. Зак 374.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь. Ліцэнзія ЛВ № 3. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.